# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР



*КНІГА*
*АДЗІНАЦЦАТАЯ-ДВАНАЦЦАТАЯ*



МІНСК—1939

# УКАЗ

## ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## АБ ПРЫСВАЕННІ таварышу ІОСІФУ ВІСАРЫЁНАВІЧУ СТАЛІНУ ЗВАННЯ ГЕРОЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ

За выключныя заслугі ў справе арганізацыі бальшэвіцкай партыі, стварэння совецкай дзяржавы, пабудовы соцыялістычнага грамадства ў СССР і ўмацавання дружбы паміж народамі Совецкага Саюза— прысвоіць таварышу Іосіфу Вісарыёнавічу СТАЛІНУ, у дзень яго шасцідзесяцігоддзя,—званне героя соцыялістычнай працы з уручэннем вышэйшай узнагароды СССР—ордэна Леніна.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР* **М. КАЛІНІН.**

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР* **А. ГОРКІН.**

Масква, Крэмль.
20 снежня 1939 г.

# ВЯЛІКАМУ ПРАДАЎЖАЛЬНІКУ СПРАВЫ ЛЕНІНА—
# таварышу СТАЛІНУ

*Дарагі друг і баявы таварыш!*

Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі горача вітае цябе, друга Леніна і вялікага прадаўжальніка яго справы, правадыра партыі і савецкага народа—у дзень твайго шасцідзесяцігоддзя.

Больш сарака год ты служыш справе пралетарскай рэволюцыі, справе рабочага класа і ўсяго працоўнага народа. Ты быў вярнейшым саратнікам Леніна ў яго барацьбе за партыю, за дыктатуру пролетарыята. Разам з Леніным многія годы ты будаваў і выкоўваў магутную большэвіцкую партыю. Разам з Леніным ты вёў партыю і рабочы клас на ўзброенае паўстанне ў кастрычніку 1917 года. Як бліжэйшы памочнік Леніна, ты непасрэдна кіраваў усёй справай падрыхтоўкі Кастрычніцкага паўстання і паспяховым заваяваннем улады рабочым класам.

У годы айчыннай грамадзянскай вайны супроць замежных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны ты, таварыш Сталін, пад кіраўніцтвам Леніна быў непасрэдным натхніцелем і арганізатарам перамог Чырвонай Арміі на ўсіх франтах, дзе вырашаўся лёс рэволюцыі.

Пасля смерці Леніна партыя большэвікоў пад тваім мудрым кіраўніцтвам, пераадалеўшы велізарныя цяжкасці на сваім шляху, прывяла нашу краіну да перамогі соцыялізма.

Прэзрэнныя ворагі народа трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы хацелі адняць у рабочага класа, у савецкага народа веру ў магчымасць перамогі соцыялізма ў нашай краіне, неаднаразова прабавалі падарваць партыю знутры, разбіць адзінства большэвіцкай партыі, пагубіць савецкую ўладу і соцыялістычную рэволюцыю. Ва ўпорнай прынцыповай барацьбе з ворагамі соцыялізма, ворагамі партыі, пад тваім кіраўніцтвам у барацьбе за ленінізм згуртаваўся Цэнтральны Камітэт і ўся наша партыя. Ты адстаяў ленінскую тэорыю магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, развіў гэтую вялікую тэорыю далей, узброіў ёю партыю і мільённыя масы працоўных Савецкага Саюза—гэта забяспечыла выкрыццё і разгром ворагаў рэволюцыі.

Пад тваім кіраўніцтвам партыя большэвікоў ажыццявіла соцыялістычную індустрыялізацыю краіны, стварыла новыя індустрыяльныя ачагі і раёны, першакласныя заводы цяжкай і лёгкай індустрыі, магутныя заводы машынабудаўніцтва, што забяспечыла тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі і ўзбраенне навейшымі

сродкамі абароны СССР. Пад тваім кіраўніцтвам партыя зрабіла такі найглыбейшы рэвалюцыйны пераварот у вёсцы, як суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва як класа, забяспечыўшы на аснове перамогі калгаснага ладу культурнае і заможнае жыццё многамільённага сялянства. Наша краіна стала магутнай індустрыяльнай дзяржавай, краінай буйнага калектыўнага земляробства, краінай перамогшага соцыялізма.

На аснове гэтых поспехаў ідзе быстры ўздым культуры народаў Совецкага Саюза. Створана совецкая інтэлігенцыя, адданая совецкай уладзе, справе соцыялізма.

Партыя і совецкая ўлада пад тваім кіраўніцтвам стварылі ўзброеную першакласнай тэхнікай магутную і непераможную Чырвоную Армію, якая з'яўляецца надзейнай абаронай нашай радзімы ад усіх знешніх ворагаў.

Рабочы клас у саюзе з сялянствам, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, знішчыў назаўсёды эксплуатацыю чалавека чалавекам і ўцвердзіў новы, соцыялістычны лад у СССР, які не ведае ні крызісаў, ні беспрацоўя, які забяспечвае няўхільны ўздым матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню працоўных. Гэты галоўны вынік нашай барацьбы мае сусветна-гістарычнае значэнне, ён умацоўвае ў працоўных усяго свету веру ў таржаство соцыялізма.

Наша партыя пад тваім выключна актыўным і непасрэдным кіраўніцтвам стварыла магутную, многанацыянальную совецкую дзяржаву, умацавала вялікую і непарушную дружбу народаў СССР, залог іх працвітання і непераможнасці. Новая Канстытуцыя СССР, Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і разгорнутай соцыялістычнай дэмакратыі, па справядлівасці названа народам Сталінскай Канстытуцыяй.

Таксама, як і Ленін, ты, таварыш Сталін, заўсёды надаваў і надаеш найвялікшае значэнне развіццю і прапагандзе рэволюцыйнай тэорыі. Твае класічныя тэарэтычныя работы, стаўшыя здабыткам мільёнаў людзей у нашай краіне і ва ўсім свеце, з'яўляюцца далейшым развіццём марксізма-ленінізма ў новых умовах эпохі імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі, эпохі перамогі соцыялізма на адной шостай частцы зямлі. Ты развіў марксісцка-ленінскую тэорыю дзяржавы, распрацаваўшы вучэнне аб соцыялістычнай дзяржаве ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Узбройваючы партыю марксізмам-ленінізмам, ты нястомна згуртоўваў яе арганізацыйна. На гэтай аснове ажыццёўлена сталінскае адзінства нашай партыі.

Адным з выдатных поспехаў большэвіцкай партыі, дасягнутых дзякуючы тваім клопатам і кіраўніцтву, з'яўляецца быстры рост кадраў, вылучэнне многіх тысяч новых работнікаў соцыялістычнага будаўніцтва і абароны краіны соцыялізма.

Аддаючы ўсе свае сілы вялікаму служэнню народу,—ты таварыш Сталін, таксама як і Ленін, любіш свой народ і неаддзялім ад народа. Таксама як і Ленін, ты акружан гарачай любоўю працоўных Совецкага Саюза і ўсяго свету.

Сёння наша партыя і народы Совецкага Саюза, вітаючы цябе ў дзень шасцідзесяцігоддзя, згуртаваны як ніколі вакол свайго

Цэнтральнага Камітэта пад сцягам Леніна—Сталіна і гатовы да далейшай барацьбы за поўную перамогу комунізма.

Няхай жыве непераможная партыя большэвікоў, партыя Леніна—Сталіна!

Жыві доўгія годы, наш родны Сталін, на радасць партыі, рабочага класа, народаў совецкай зямлі і ўсяго свету!

*ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ)*

20 снежня 1939 года.

*МАСКВА, КРЭМЛЬ.*

# Таварышу СТАЛІНУ І. В.

*Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!*

У дзень Вашага слаўнага 60-годдзя ЦК КП(б) Беларусі, ад імені компартыі бальшэвікоў Беларусі, Вам, вялікаму правадыру і настаўніку, шле палкае бальшэвіцкае прывітанне.

Вялікі саратнік і прадаўжальнік справы Леніна, Вы прысвяцілі сваё выдатнае жыццё справе народа, вялікай барацьбе за вызваленне працоўнага чалавецтва.

З'еднаныя народы Беларусі глыбока захоўваюць у сваім сэрцы Ваш вобраз—вобраз геніяльнага стваральніка Беларускай дзяржавы, вызваліцеля народаў Заходняй Беларусі ад іга польскіх паноў і капіталістаў.

Ваша імя жыве і будзе жыць вечна ў сэрцах працоўных і прыгнечаных мас усяго свету, як імя мудрага тварца і будаўніка нашай бальшэвіцкай партыі, тэарэтыка і арганізатара перамог соцыялізма, найвялікшага пролетарскага рэволюцыянера, чалавека гіганцкай сілы мыслі і волі, непрымірымага барацьбіта з усімі і ўсякімі ворагамі партыі і народа.

Пад Вашым, таварыш *Сталін*, кіраўніцтвам народы Совецкага Саюза дабіліся нябачаных гіганцкіх поспехаў на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва. На тэрыторыі неасяжнага Совецкага Саюза—ад Паўночнага Полюса да Чорнага мора, ад Беластока да Уладзівастока—пабедна развяваецца неперамажны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Пад Вашым кіраўніцтвам многанацыянальны совецкі народ пабеданосна ідзе да поўнага таржаства комунізма.

Жадаем Вам, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, яшчэ многа і многа год здароўя і жыцця на карысць працоўных усяго свету.

Няхай жыве родны і любімы таварыш *Сталін!*

*П. К. ПАНАМАРЭНКА*
*К. В. КІСЯЛЁЎ*
*Н. Я. НАТАЛЕВІЧ*
*М. П. КАВАЛЁЎ*
*М. В. КУЛАГІН*
*Н. Г. ГРЭКАВА*
*Л. Ф. ЦАНАВА*
*А. П. МАТВЕЕЎ*
*В. Н. МАЛІН*
*Г. М. БАЙКАЧОЎ*

*В. Молатаў*

# СТАЛІН ЯК ПРАДАЎЖАЛЬНІК СПРАВЫ ЛЕНІНА

Тав. Сталін—прызнаны і дастойны прадаўжальнік справы вялікага Леніна. Такім тав. Сталін з'яўляецца ў вачах не толькі нашай комуністычнай партыі і народаў СССР, але і ў вачах барацьбітоў усяго міжнароднага комуністычнага руху і працоўных усяго свету. Гэтым сказана галоўнае аб тав. Сталіне, як аб правадыру ВКП(б) і Савецкага Саюза.

Цяпер, праз шаснаццаць год пасля смерці Леніна, не цяжка зразумець, чаму так ганебна абанкроціліся вядомыя прэтэндэнты на ролю правадыроў у нашай партыі і як былі небяспечны для працоўных нашай краіны іх прэтэнзіі. Але ў свой час, яны—усе гэтыя троцкія, зіноўевы, бухарыны, рэкламіраваўшыя сябе ў якасці «саратнікаў» Леніна, хаця ў рашаючыя моманты заўсёды выступаўшыя супроць Леніна і ленінскай палітыкі—даводзілі справу, як вядома, да вялікіх затрудненняў у партыі і ў краіне, пагражалі расколам большэвіцкай партыі, патрасеннямі ў совецкай дзяржаве, паходам капіталістычных дзяржаў супроць СССР. Даць належны адпор, выкрыць варожы партыі і інтарэсам працоўных характар іх палітыкі, разбіць да канца ўсе гэтыя групкі і фракцыі замаскіраваных ворагаў соцыялізма, а разам з імі разграміць і створаныя імі ўрэшце шпіёнска-шкодніцкія арганізацыі, выконваўшыя антысовецкія заданні замежных разведак,—усё гэта наша партыя здолела зрабіць з поўным поспехам пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, арганізатара і ідэйнага правадыра большэвіцкай партыі. У гэтай барацьбе з тымі, хто праявіў нямалую зваротлівасць у прыкрыванні сваёй злачыннай антысовецкай дзейнасці фальшывым флагам ілжэленінізма, наша партыя не толькі не расстроіла сваіх радоў, але яшчэ больш умацавала іх, вырасла колькасна і згуртавала свае сілы, павялічыла сваю большэвіцкую боездольнасць, размах работы і аўтарытэт у масах працоўных. Дзякуючы гэтаму, большэвіцкая партыя, якая ажыццяўляе кіраўніцтва ўсім соцыялістычным будаўніцтвам у нашай дзяржаве, забяспечыла велізарныя поспехі ў пабудове соцыялістычнага грамадства ў Совецкім Саюзе і высока падняла аўтарытэт СССР у міжнародных справах нашага часу.

Ва ўсім гэтым галоўная і рашаючая заслуга належыць тав. Сталіну, прадаўжальніку справы Леніна, правадыру ВКП(б) і Совецкага Саюза.

## 1. Сталін, як правадыр партыі большэвікоў

З самага ўзнікнення большэвізма тав. Сталін—саратнік Леніна ў будаўніцтве партыі, а пазней і галоўны саратнік у кіраўніцтве партыяй.

Да рэволюцыі тав. Сталін быў вядомы больш, як большэвік—*практык*, як большэвіцкі *арганізатар*. Гэта не значыць, што тады ён не займаўся пытаннямі марксісцкай тэорыі. Наадварот, і ў сваіх ранніх публіцыстычных работах у Закаўказзі ён паказваў грунтоўнае веданне марксізма і глыбокае разуменне новых тады ідэй Леніна аб арганізацыі марксісцкай партыі новага, баявога тыпу і аб барацьбе з апартунізмам-меншавізмам, а таксама аб рэволюцыйнай тактыцы рускіх марксістаў і аб характары рускай рэволюцыі ў святле гэтых ленінскіх ідэй. Паследуючае паказала, якім буйнейшым *тэарэтыкам* марксізма-ленінізма з'яўляецца тав. Сталін,—тым не менш, важнейшае значэнне мае якраз той факт, што тав. Сталін заўсёды стаяў у цэнтры кіпучай практычнай рэволюцыйнай работы. І да Кастрычніка і пасля—тав. Сталін спалучаў у сабе «тэарэтычную магутнасць з практычна-арганізацыйным вопытам пролетарскага руху», як ён сам выразіўся, калі характарызаваў Леніна, як правадыра пролетарскай рэволюцыі і пролетарскай партыі, як арганізатара і правадыра Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі.

Спалучэннем велізарнага рэволюцыйнага вопыту з глыбокім разуменнем марксізма трэба аб'ясніць, што тав. Сталін, як ніхто іншы, глыбока зразумеў праніклёныя ленінскія ідэі аб марксісцкай партыі новага тыпу, якой, як паказалі падзеі, суджана было з падпольнай арганізацыі прафесіянальных рэволюцыянераў ператварыцца ў большэвіцкую партыю, пабеданосна ажыццявіўшую соцыялістычную рэволюцыю ў нашай краіне. Гэта ўжо відаць па артыкулу тав. Сталіна «Вскользь о партийных разногласиях», надрукаваным у 1905 годзе.

У славутай кнізе «Аб асновах ленінізма» тав. Сталін разгарнуў гэтае пытанне ў поўнай меры. Тут ён даў забойча меткую характарыстыку «соцыялістычным» партыям II Інтэрнацыянала, паказаўшы, што «партыі II Інтэрнацыянала непрыгодны для рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята, што яны з'яўляюцца не баявымі партыямі пролетарыята, якія вядуць рабочых да ўлады, а выбарчым апаратам, прыстасаваным да парламенцкіх выбараў і парламенцкай барацьбы». Гэтыя партыі з'яўляюцца на справе «прыдаткам і абслугоўваючым элементам» парламенцкіх фракцый. Такія партыі склаліся «ў перыяд больш або менш мірнага развіцця» і пад іх кіраўніцтвам «не магло быць і гутаркі аб падрыхтоўцы пролетарыята да рэволюцыі».

Калі наступіў новы перыяд, а іменна сучасны перыяд—«перыяд адкрытых сутычак класаў, перыяд рэволюцыйных выступленняў пролетарыята, перыяд пролетарскай рэволюцыі, перыяд прамой падрыхтоўкі сіл да звяржэння імперыялізма, да захвату ўлады пролетарыятам»,—тады пытанне аб партыі рабочага класа паўстала па-іншаму. Тады з непазбежнасцю павінна было ўстаць перад рабочым класам пытанне аб «новай партыі, партыі баявой, партыі рэволюцыйнай, дастаткова смелай для таго, каб павесці пролетарыяў на барацьбу

за ўладу, дастаткова вопытнай для таго, каб разабрацца ў складаных ўмовах рэвалюцыйнай абстаноўкі, і дастаткова гібкай для таго, каб абыйсці ўсе і ўсякія падводныя камені на шляху да мэты. Без такой партыі няма чаго і думаць аб звяржэнні імперыялізма, аб заваяванні дыктатуры пролетарыята. Гэтая новая партыя ёсць партыя ленінізма».

Гэтыя погляды на сучасную партыю рабочага класа, як партыю новага, баявога тыпу, узорам якой і стала партыя большэвікоў, раскрываюць сутнасць справы, паколькі маецца на ўвазе арганізацыя падрыхтоўкі і ажыццяўленне соцыялістычнай рэволюцыі. Ленін стварыў і выпеставаў такую партыю. Разам з Леніным дзесяткі год будаваў гэтую партыю тав. Сталін, які не толькі глыбока разумеў значэнне такой арганізуючай сілы для перамогі над капіталізмам і для будаўніцтва комунізма пасля соцыялістычнай рэволюцыі, але які заўсёды, можна сказаць, укладваў душу ў справу будаўніцтва і ўмацавання большэвіцкай партыі, у справу яе ачышчэння ад усякай скверны апартунізма, у справу баявой загартоўкі партыі ў рэволюцыйных баях з усімі і ўсякімі ворагамі большэвізма.

У «Гісторыі ВКП(б)» дан, як вядома, увесь шлях развіцця большэвіцкай партыі, на вывучэнні якога павінны выхоўвацца не толькі комуністы ўсіх краін, але і ўсе працоўныя, якія імкнуцца да вызвалення ад гнёту капіталізма, да перамогі комунізма. Для гэтага зусім неабходна зразумець значэнне вялікай арганізуючай сілы— партыі ленінізма, чаму вучыць нас тав. Сталін, чаму ён аддае столькі сіл і сваіх выключных арганізатарскіх здольнасцей або, вярней сказаць, арганізатарскага майстэрства.

Прыпомнім указанне Леніна, што з пункту гледжання комунізма *арганізатарская* роля пролетарыята—«гэта яго *галоўная* роля», маючы на ўвазе, што рабочы клас, як кіруючая сіла ў пабудове соцыялістычнага грамадства, павінен мець не толькі моцна спаянае дысцыплінай, маналітна выкаванае рэволюцыйнае ядро—партыю, але і мець мацнейшыя, жывыя і ўсебаковыя сувязі з усёй масай працоўных, каб выканаць рашаючую задачу—перарабіць, перавыхаваць усю масу працоўных, у тым ліку і велізарную непролетарскую масу, «вельмі працяглай, павольнай, асцярожнай арганізатарскай работай».

На прыкладзе ажыццяўлення калектывізацыі многамільённай масы сялянскіх гаспадарак наша партыя поўнасцю паказала не проста разуменне гэтых ленінскіх палажэнняў, але таксама і ўменне практычна ператварыць іх у жыццё. Усе ведаюць найвялікшыя заслугі тав. Сталіна ў гэтай справе. Усе ведаюць тав. Сталіна, як лепшага арганізатара партыі і савецкай дзяржавы, уключаючы і справу арганізацыі Чырвонай Арміі, як прадаўжальніка справы Леніна ва ўсім нашым растучым партыйным і дзяржаўным будаўніцтве, як правадыра-будаўніка, які абапіраецца на свой велізарны і разнастайны практычны вопыт, з'яўляецца знатаком нашых кадраў і жыццёвых умоў народаў СССР.

Заўсёды блізкі да практыкі—у цяжкія годы большэвіцкага падполля, у баявыя дні арганізацыі Кастрычніцкага паўстання, на галоўных франтах грамадзянскай вайны, у шматлікіх схватках з

апартуністамі і капітулянтамі ў партыі, у справах будаўніцтва совецкай дзяржавы ва ўсіх яго рашаючых галінах, уключаючы ўсе пытанні абароны краіны,—тав. Сталін заўсёды чуткі да мас, да настрояў рабочых, сялян і інтэлігенцыі і заўсёды актыўны, паслядоўны і смелы ў буйнейшых рашэннях, кіруючыся адным компасам—компасам марксізма-ленінізма. Тав. Сталіну належаць словы: «Практыка становіцца сляпой, калі яна не асвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй». І, сапраўды, ва ўсёй велізарнай і разнастайнай практычнай рабоце тав. Сталін выступае, як паслядоўны марксіст, як непрымірымы ленінец.

Тав. Сталін не раз гаварыў аб тым, што ёсць марксізм і «марксізм». Ёсць сапраўдны марксізм—марксізм творчы, большэвіцка-рэволюцыйны, якім у наш час з'яўляецца ленінізм. І ёсць марксізм другога тыпу—«марксізм» у двукоссях, марксізм дагматычны, меншавіцка-антырэволюцыйны, толькі па знешняй форме аднасімы да марксізма, а па сутнасці справы чужды рэволюцыйна-комуністычнаму вучэнню Маркса—Леніна.

Тав. Сталін—буйнейшы прадстаўнік творчага марксізма. Больш таго, тав. Сталін з'яўляецца бліскучым прадаўжальнікам Леніна ў справе далейшага развіцця ідэй марксізма, імя якому ў наш час—у эпоху імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі—ленінізм.

Як у свой час буржуазія і яе ідэйныя падгалоскі з усякіх апартуністычных і антырэволюцыйных груп у рабочым класе імкнуліся, ды яшчэ і ў нашы дні робяць намаганні, прыстасаваць марксізм на свой лад, вышалушыўшы з яго навукаабразнымі прыёмамі рэволюцыйна-комуністычнае ядро, і тым зрабіўшы яго безапасным для капіталізма,—так у наш час трацкістамі, бухарынцамі і ўсякімі іншымі фальсіфікатарамі рабіліся і робяцца спробы выпатрашыць з сучаснага марксізма сутнасць яго ўсёперамагаючых рэволюцыйна-творчых ідэй—ідэй ленінізма. Увесь перыяд пасля смерці Леніна запоўнен у нашай партыі барацьбой супроць апартуністычных і капітулянцкіх скажэнняў ленінізма. Партыя, пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, пабеданосна адстаяла ленінізм ад гэтых замахаў.

Сама гэтая барацьба за ідэі ленінізма была адлюстраваннем устаўшых перад нашай рэволюцыяй, а, значыць, і перад нашай партыяй, новых пытанняў, новых задач. Нельга было даць належнага ідэйнага адпору ўсім гэтым—«левым» і правым, у канчатковым рахунку аднолькава антыбольшэвіцкім і антырэволюцыйным, хістанням, не даўшы яснага марксісцка-ленінскага адказу на пастаўленыя ўздымам соцыялістычнай рэволюцыі ў СССР новыя пытанні.

У артыкулах і выступленнях тав. Сталіна партыя дала гэтыя адказы.

Справаздачы тав. Сталіна азначалі ідэйны разгром ворагаў ленінізма. У іх, разам з тым, ідэі ленінізма атрымалі сваё далейшае развіццё.

Абмяжуюся тут толькі некалькімі заўвагамі аб самым важным.

Карэнным пытаннем у наш час, натуральна, стала пытанне аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, у акружэнні капіталістычных краін. Ленін даў асновы станоўчага адказу на гэтае пытанне, навукова абгрунтаваўшы свой славуты тэзіс аб магчы-

масці перамогі соцыялізма ў адной краіне, перш за ўсё, нярoўнамернасцю развіцця капіталістычных краін у эпоху імперыялізма,— гэта значыць ва ўмовах дасягнутай ужо вышэйшай стадыі развіцця капіталізма.

З прычыны шматлікіх апартуністычна-капітулянцкіх спроб сказіць гэты ленінскі тэзіс, тав. Сталін разгарнуў у поўнай меры ленінскае вучэнне аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной асобна ўзятай краіне і, разам з тым, аб магчымасці пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства ў СССР. Пры гэтым тав. Сталін паказаў, якім буйнейшым крокам наперад у развіцці марксізма, прымяняльна да сучаснага перыяда капіталізма, з'яўляецца гэтае ленінскае вучэнне і ўзброіў нашу партыю яснай перспектывай у барацьбе за комунізм, без чаго няма і не можа быць пабеданоснай барацьбы за пабудову соцыялістычнага грамадства ў СССР. Тав. Сталіну належыць гістарычная заслуга ўсебаковага абгрунтавання і развіцця гэтых вялікіх ідэй ленінізма, асвятліўшых нямеркнучым маяком увесь гістарычны шлях барацьбы комунізма за поўную перамогу над капіталізмам.

Не буду спыняцца на іншых пытаннях тэарэтычнага развіцця ленінізма ў работах тав. Сталіна. Упамяну толькі, што сюды адносяцца такія буйнейшыя з іх: індустрыялізацыя СССР, як аснова перамогі соцыялізма; калектывізацыя многамільённай масы сялянскіх гаспадарак, прычым, на першай стадыі, на аснове арцелі; уздым культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы, як прадпасылка знішчэння пры комунізме процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай; усямернае ўмацаванне соцыялістычнай дзяржавы, якая знаходзіцца ў акружэнні капіталістычных краін, для забеспячэння канчатковай перамогі комунізма над капіталізмам; забеспячэнне кіраўніцтва комуністычнай партыі ў совецкай дзяржаве з устанаўленнем адпаведных форм у іх узаемаадносінах. Не прыходзіцца паўтараць ужо, што тав. Сталін не толькі лепш за ўсіх іншых зразумеў, але і развіў ленінскія ідэі аб тым, што наш час патрабуе для паспяховай барацьбы рабочага класа за комунізм стварэння рэволюцыйнай партыі новага тыпу—тыпу большэвіцкай партыі.

Створаная пад кіраўніцтвам тав. Сталіна ўсім вядомая «Гісторыя ВКП(б)» з'яўляецца не проста гісторыяй буйных падзей і слаўных спраў нашай партыі,—яна з'яўляецца тэарэтычным абагульненнем важнейшага гістарычнага перыяда і каштоўнейшым укладам у навуку марксізма-ленінізма, без авалодання якім нельга па-сапраўднаму ідэйна ўзброіцца для далейшай барацьбы за справу комунізма ў СССР, за справу комунізма ў цэлым.

Гісторыя большэвіцкай партыі, разам з тым, паказвае, што толькі такая партыя магла нарадзіць і выкаваць такіх вялікіх правадыроў, як В. І. Ленін, як І. В. Сталін.

## 2. Сталін, як правадыр СССР

Як правадыр ВКП(б), тав. Сталін, разам з тым, і правадыр Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Гэта зусім натуральна, бо нашай партыі належыць кіруючая роля ў совецкай дзяржаве,

ажыццяўляючай дыктатуру рабочага класа на аснове саюза з працоўным сялянствам.

Тым не менш, роля тав. Сталіна, як правадыра СССР, заслугоўвае спецыяльнай увагі. Асабліва таму, што ў адрозненне ад партыі, якая з'яўляецца добраахвотнай арганізацыяй авангарда працоўных і таму па выражэнню Леніна—«партыя ёсць вышэйшая форма класавага аб'яднання пролетарыята», дзяржава дыктатуры рабочага класа—арганізацыя, ахватваючая ўсю масу насельніцтва з яго існуючымі яшчэ класавымі адрозненнямі і прытым у парадку абавязковага падпарадкавання ўсіх грамадзян краіны волі дзяржаўнай улады, прадстаўляючай, у асобе стаячага ва ўладзе рабочага класа, інтарэсы і волю большасці народа. З гэтага відаць, па-першае, наколькі важнае і прама рашаючае значэнне мае кіраўніцтва партыі дзяржаўнай арганізацыяй і, па-другое, неабходнасць асобых форм гэтага кіраўніцтва, у адпаведнасці з перыядам і з самім характарам асобных галін дзяржаўнай работы. Даючы сакрушальны тэарэтычны адпор трацкісцка-зіноўеўска-бухарынскай фальсіфікацыі ленінізма, па якой дыктатура рабочага класа упрашчэнцка атоесамлялася з «дыктатурай партыі», тав. Сталін даў класічна-марксісцкую распрацоўку пытання аб партыі і рабочым класе ў сістэме дыктатуры пролетарыята. У асаблівасці, тут трэба сказаць аб славутым артыкуле «Да пытанняў ленінізма».

Аднак, нават усё напісанае тав. Сталіным толькі невялікая частка таго, што зроблена ім для партыі і працоўных у гутарках, сустрэчах і нарадах для ідэйнага асвятлення карэннага пытання рэволюцыі, пытання аб задачах соцыялістычнай дзяржавы. Да гэтага трэба дадаць, што яго, са знешняга боку не заўсёды прыкметны, а на справе актыўнейшы ўдзел ва ўсіх дзяржаўных справах сказваецца ва ўсім на кожным кроку.

Вядома выключная роля тав. Сталіна ў самім утварэнні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Больш за ўсіх тав. Сталін папрацаваў над стварэннем з недастаткова аб'яднаных совецкіх рэспублік моцнага сваім палітычным адзінствам Совецкага Саюза і над складаннем яго першай Канстытуцыі. Гэтым быў закладзен фундамент магутнай совецкай дзяржавы, аснованай на вялікай дружбе совецкіх народаў.

Цяперашняя Канстытуцыя СССР атрымала ў народзе імя «Сталінскай Канстытуцыі». Гэтым адзначана не толькі імя творца яе праекта, але і падкрэслена, пад якім сцягам Совецкі Саюз прышоў да тых вялікіх перамог, якія запісаны ў нашай Канстытуцыі. Гэтая Канстытуцыя замацавала шырокія дэмакратычныя правы нацыянальнасцей, уваходзячых у многанацыянальны Совецкі Саюз і, разам з тым, умацавала СССР, як адзіную соцыялістычную дзяржаву, якая з'яўляецца правобразам брацкага супрацоўніцтва народаў усяго свету.

Не выпадкова і тое, што пасля перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі тав. Сталін стаў Народным Камісарам па Нацыянальных Справах. Наладзіць супрацоўніцтва, а, значыць, і давер'е паміж народамі, сярод якіх рускія былі на працягу вякоў пануючай нацыяй, а ўсе іншыя нацыянальнасці знаходзіліся ў прыгнечанні,

а то і прама на становішчы калоній,—было нялёгкай справай. Тав. Сталін бліскуча справіўся з сваёй задачай,—справіўся непахіснай барацьбой з перажыткамі вялікадзяржаўнага шавінізма і настойлівай работай у асяроддзі прадстаўнікоў прыгнятаўшыхся ў старай Расіі нацыянальнасцей над стварэннем давер'я і дружаскіх адносін паміж усімі народамі СССР.

Гэта стала магчымым таму, што тав. Сталін і ў гэтай справе, і ў вырашэнні нацыянальнага пытання, ішоў па ленінскаму шляху. Яшчэ задоўга да рэволюцыі ім, побач з Леніным, былі тэарэтычна распрацаваны прынцыповыя асновы нацыянальнага пытання з пункту гледжання марксізма. Яго брашура «Марксізм і нацыянальнае пытанне» (1913 год) па праву адносіцца да ліку асноўных работ па марксісцкай тэорыі. Па гэтай рабоце відаць, што ўжо тады яе аўтар склаўся, як буйнейшы тэарэтык марксізма. Зразумела таму, што наша палітыка па нацыянальнаму пытанню ўжо даўно вядома, як «ленінска-сталінская нацыянальная палітыка».

Пасля гэтага зразумела, што не толькі партыя, але і народы ўсёй нашай краіны бачаць у тав. Сталіне свайго правадыра—правадыра СССР.

Пад кіраўніцтвам Леніна тав. Сталін быў галоўным арганізатарам Кастрычніцкага паўстання, якое палажыла пачатак уладзе Советаў. Пасля перамогі Кастрычніка тав. Сталін быў асноўным будаўніком Чырвонай Арміі, адстаяўшай на асноўных франтах грамадзянскай вайны пад яго непасрэдным кіраўніцтвам існаванне совецкай дзяржавы ад інтэрвенцыі з боку імперыялістычных дзяржаў. За ўсе прайшоўшыя годы ён быў натхніцелем усёй работы па ўмацаванню магутнасці Чырвонай Арміі, як рашаючай гарантыі дзяржаўнай незалежнасці СССР. Дзякуючы ўсяму гэтаму наша дзяржава канчаткова ўмацавалася і ёй не страшны ніякія замахі са зне.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна партыя ў асноўным пабудавала ўжо соцыялістычнае грамадства, чаго яшчэ не змог ажыццявіць Ленін—асновапаложнік СССР. Створана магутная, няўхільна растучая індустрыя, аснашчоная багатай і перадавой тэхнікай, і выраслі кадры людзей, авалодаўшых тэхнікай, якіх раней было так мала і якія, у асобе стаханаўцаў і прадаўжальнікаў стаханаўскай справы, складаюць цяпер велізарную сілу і паказваюць усё новыя цуды соцыялістычна-свядомай працы. Перабудавана вёска з яе ранейшым акіянам дробных гаспадарак на новых пачатках—створана калгасная гаспадарка з яе велізарнымі магчымасцямі і дан шлях да магутнага ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі. Карэнным чынам палепшаны матэрыяльныя і культурныя ўмовы жыцця рабочых, сялян і шырокіх слаёў інтэлігенцыі. Культура народаў, навука, літаратура, мастацтва, вызваленыя ад матэрыяльных путаў і агіднага прыслужніцтва багатым, упершыню ў сусветнай гісторыі атрымалі магчымасць сваёй творчасцю служыць у поўнай меры народу, служыць росквіту яго свабоднага, шчаслівага жыцця.

Хто не ведае, якую натхняючую і арганізуючую ролю ва ўсім гэтым адыгралі «сталінскія пяцігодкі» і асабіста ініцыятыва тав. Сталіна, як у буйнейшых справах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, так і ў «бягучых» штодзённых справах і клопатах аб

палепшанні работы нашых арганізацый, аж да самых малых. З ініцыятывай і актыўнейшым удзелам тав. Сталіна звязана ўсё колькі-небудзь істотнае, што за гэтыя годы партыя і ўрад пабудавалі і будуюць у СССР, у першай краіне соцыялізма.

Тав. Сталін зрабіў выключна многа ў справе стварэння і росту СССР, як многанацыянальнай дзяржавы з яе росквітам нацыянальных культур,—моцнага брацкім супрацоўніцтвам і дружбай народаў. Адзін факт існавання такой дзяржавы, як няўхільна растучы гаспадарча, культурна і палітычна Савецкі Саюз,—адзін гэты факт прадрашае нядоўгавечны лёс капіталістычнага свету з яго палітыкай распальвання нацыянальнай варожасці і невыносным каланіяльным гнётам для многіх народаў, з яго злачыннымі імперыялістычнымі войнамі, мучаючымі народы дзеля карыслівых інтарэсаў правячых кругоў буржуазіі.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна мы пабеданосна грамілі ворагаў народа, чысцілі і будзем чысціць дзяржаўны апарат ад варожых, шпіёнскіх і шкодніцкіх элементаў. Вядома, што гэтага роду меры ва многім паляпшаюць работу нашых органаў, расчышчаюць шлях да вылучэння свежых чэсных і свядомых кадраў работнікаў, умацоўваюць нашу дзяржаву. Большэвіцкую пільнасць у адносінах ворагаў, праваздзімую не на словах, а на справе, мы лічым лепшым паказальнікам боездольнасці і зрэласці нашых сіл, нашай партыі і дзяржавы.

З ініцыятывай і кіруючым удзелам тав. Сталіна звязаны і ўсе нашы рашэнні ў галіне ўнутранай і знешняй палітыкі, забяспечыўшыя народам Савецкага Саюза спакой, працяглы мір і міжнародны аўтарытэт СССР.

У Савецкім Саюзе ўстанавілася выдатная блізасць паміж комуністамі і «беспартыйнымі большэвікамі», лік якіх быстра расце, як сярод рабочых і сялян, так і сярод інтэлігенцыі. Такі адзін з найвялікшых поспехаў нашай партыі за апошнія годы.

Адбылося вялікае збліжэнне таксама і паміж народамі СССР. Не гледзячы на ўсю розніцу ў іх гістарычным развіцці і ў іх быту, перамога соцыялізма і стварэнне ў СССР асноў соцыялістычнага грамадства, якое вызвалена ад векавечнай эксплаатацыі чалавека чалавекам і дае правільнае спалучэнне інтарэсаў народаў у справе іх агульнага эканамічнага і культурнага ўздыму, забяспечваюць растучае ва ўсіх на вачах брацкае збліжэнне паміж савецкімі народамі і неабмежаваныя магчымасці для далейшых поспехаў СССР.

Маральна-палітычнае адзінства нашага грамадства, у якім кожны народ свабодны ва ўстройстве свайго жыцця і ўсе народы разам дапамагаюць адзін аднаму ў няўхільным руху ўперад, да шчаслівага жыцця народаў СССР,—такі слаўны вынік росту і пераўтварэння нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Правадыром і сцягам гэтага адзінства народаў, правадыром народаў СССР, як гэта ведаюць працоўныя ўсяго свету, з'яўляецца вялікі прадаўжальнік справы Леніна—наш Сталін, вакол якога згуртавана наша партыя, савецкія народы, усё лепшае ў сусветным вызваленчым руху.

1446

* *
*

У правадыру большэвізма, у правадыру народаў СССР рабочыя ўсіх краін бачаць, натуральна і правадыра сусветнага комунізма. І ў гэтым тав. Сталін—дастойны прадаўжальнік Леніна.

Совецкі Саюз увасобіў у жыццё вучэнне аб комунізме. СССР самым фактам свайго існавання, поспехамі сваёй барацьбы за поўную перамогу новага грамадства зрабіў бясконца многа для справы комунізма. Гэта лепш за ўсіх разумее тав. Сталін, які не ведае стомленасці там, дзе справа ідзе аб забеспячэнні новых і новых поспехаў СССР.

Комуністам прыходзіцца нярэдка пераадольваць вялікія труднасці, каб знайсці разгадку і аб'ясніць масам той ці іншы новы паварот у адбываючыхся падзеях, бо капіталістычнае грамадства паставіла сабе на службу ўсё і ўсіх, каб утоіць або па крайняй меры сказіць сэнс «непрыемных» для яго і ўсё нарастаючых падзей. З вялікай цяжкасцю, наперакор незлічоным труднасцям, пракладвае сабе шлях уперад, шлях да поўнай перамогі, вучэнне комунізма.

Так было да таго часу, пакуль наш народ не прабіў сабе выхад да новага жыцця і пакуль ён, як перадавы атрад сярод сучасных народаў, не зрабіў Кастрычніцкай рэволюцыі і не пабудаваў соцыялістычнага грамадства на славу і на радасць працоўным і прыгнечаным усяго свету. З гэтага часу становішча ў корані змянілася. З гэтага часу быстра расце надзейная база ўсёй справы комунізма і, галоўнае, у рабочым класе і сярод усёй масы працоўных і прыгнечаных капіталам няўхільна зрэе вера ў сваю блізкую перамогу.

Совецкі Саюз паказвае ўсім сваім развіццём, ростам сіл і сваімі неабмежаванымі магчымасцямі ва ўстройстве светлага жыцця для працоўных, у чым сіла комунізма, у чым шлях працоўных да поўнай перамогі. Совецкі Саюз наглядна паказвае ўсё вялікае значэнне арганізуючай соцыялістычнае грамадства сілы—большэвіцкай партыі і значэнне творчай работы яе вялікіх правадыроў—В. І. Леніна і І. В. Сталіна.

Ленін быў правадыром большэвіцкай партыі, соцыялістычнай рэволюцыі, Совецкага Саюза. Тав. Сталін—дастойны прадаўжальнік вялікіх спраў В. І. Леніна. Вось чаму тав. Сталін акружаны такім давер'ем і любоўю працоўных.

*В. Кірпоцін*

# СТАЛІН І НАРОД

Капіталістычны свет гарыць у агні імперыялістычнай вайны. Больш паловы насельніцтва зямнога шара ў той ці іншай форме ўцягнута ў крывавую бойню. Аднак у асяроддзі працоўных усіх краін не гасне надзея на светлае жыццё, мацнее ўпартасць і воля да барацьбы, расце гатоўнасць паследваць прыкладу народаў Совецкага Саюза. Надзеі і мары працоўных усяго свету, іх вера ў лепшае будучае, вера ў шчасце, свабоду і соцыялізм звязаны з імем вялікага Сталіна.

Шматлікія народы Совецкага Саюза жывуць дружнай і мірнай сям'ей, свабоднай ад эксплаатацыі і прыгнёту. Іх вядзе геніяльны правадыр, друг і бацька Сталін.

Сталін і народ з'еднаны непарыўнай арганічнай сувяззю. Усё жыццё Сталіна, гэтак-жа як і жыццё Леніна, цалкам, поўнасцю, без астатку прысвечана служэнню народу. Геній народа знайшоў сваё лепшае ўвасабленне ў Леніне і яго прадаўжальніку—Сталіне.

Сталін бязлітасна выкрываў тых, хто супроцьстаўляе інтарэсы асобы інтарэсам масы. «Марксізм і анархізм,—пісаў Сталін, палемізіруючы з анархістамі ў 1906 годзе,—пабудаваны на зусім розных прынцыпах, нягледзячы на тое, што абодвы пад соцыялістычным сцягам выходзяць на арэну барацьбы. Краевугольны камень анархізма—*асоба*, вызваленне якой, па яго думцы з'яўляецца галоўнай умовай вызвалення масы, г. зн. па думцы анархізма вызваленне масы немагчыма да таго часу, пакуль не вызваліцца асоба, з прычыны чаго яго лозунг: «Усё для асобы», тады як краевугольны камень марксізма—*маса*, вызваленне якой, па яго думцы, з'яўляецца галоўнай умовай вызвалення асобы, г. зн., па думцы марксізма вызваленне асобы немагчыма да таго часу, пакуль не вызваліцца маса, з прычыны чаго яго лозунг: «Усё для масы» («Анархізм ці соцыялізм». Газета «Ахалі дроеба» № 5 ад 11 снежня 1906 года. Гл. Л. Берыя «Да пытання аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі», стар. 114. 4-е выд.).

Вось два розных, два дыяметральна супроцьлеглых светаадчуванні. Вядома, што ўсе фракцыі памешчыкаў і буржуазіі, усе ідэолагі пануючых класаў у той ці іншай форме прапаведуюць пагарду да народных мас, лезуць з скуры вон, каб абаснаваць «права» нікчэмнай меншасці на эксплаатацыю большасці. Вядома, што ў сучасным імперыялістычным свеце пагарджанне інтарэсамі, свабодай, працай і самым жыццём мас дасягнула нечуваных памераў.

Адным з важнейшых сродкаў падаўлення і заняволення народа панующымі класамі з'яўляецца ашукванне мас. Вернымі памочнікамі сучаснай буржуазіі ў агіднай справе адурманівання народнай свядомасці з'яўляюцца рознастайныя ілжэпрыяцелі народа, здраднікі тыпа правадыроў ІІ Інтэрнацыянала. І ў сучаснай імперыялістычнай вайне лейбарысцкія лідэры ў Англіі, Блюмы і Жуо ва Францыі з усіх сіл глушаць рэволюцыйную актыўнасць мас.

У сучасным капіталістычным грамадстве кучка эксплаататараў жыве за кошт пераважнай масы народа. Гаспадарам капіталістычнага света выгодна утойваць сапраўднае становішча рэчаў. Ілжэнавука, царква і школа, прадажны друк, радыё і кіно—усё пастаўлена на ногі ў капіталістычным свеце, каб надаць палітыцы імперыялістаў выгляд «нацыянальнага», «агульнанароднага» служэння.

Таварыш Сталін, гэтак-жа як і Ленін, умее з выключным майстэрствам ускрываць хлусню і падман ідэолагаў буржуазіі, хлусню і падман слуг капітала, якія называюць сябе ў мэтах ашукання мас «соцыялістамі».

Кожны, які не верыць у масы, кожны, які імкнецца прама ці ўскосна заглушыць гістарычную ініцыятыву народа, заўсёды аказваецца рана ці позна ў радах ворагаў народа. Адрыў ад мас з'яўляецца першай і рашаючай ступенню ў буржуазным перараджэнні «дзеячоў», якія называюць сябе «соцыялістамі» і «прыяцелямі» рабочага класа.

Ілжывыя «прыяцелі народа» заўсёды вызначаліся і вызначаюцца няверʼем у масы, страхам перад самастойнай гістарычнай дзейнасцю народа.

Таварыш Сталін з пагардай назваў падобнага рода адносіны да мас, да народа «непрыстойнай хваробай». «Тэарэтыкі і правадыры партый—пісаў ён,—якія ведаюць гісторыю народаў, праштудыравалі гісторыю рэволюцый ад пачатку да канца, бываюць часам апанаваны адной непрыстойнай хваробай. Хвароба гэта называецца боязню мас, няверʼем у творчыя здольнасці мас. На гэтай глебе ўзнікае часам нейкі арыстакратызм правадыроў у адносінах да мас, не дасведчаных у гісторыі рэволюцый, але закліканых ламаць старое і будаваць новае. Боязнь, што стыхія можа разбушавацца, што масы могуць «паламаць шмат лішняга», жаданне разыграць ролю мамкі, якая стараецца вучыць масы па кніжках, але не хоча вучыцца ў мас,— такая аснова гэтага рода арыстакратызма» (*І. Сталін* «Аб Леніне, стар. 24—25. «Молодая гвардия». 1939).

Усім падобным «прыяцелям народа» Сталін з усёй рашучасцю супроцьстаўляе Леніна як сапраўднага прыяцеля і правадыра мас. «Ленін яўляў поўную супроцьлегласць такім правадырам,—гаворыць далей таварыш Сталін.—Я не ведаю другога рэволюцыянера, які так глыбока верыў-бы ў творчыя сілы пролетарыята і ў рэволюцыйную мэтазгоднасць яго класавага інстынкта, як Ленін. Я не ведаю другога рэволюцыянера, які ўмеў-бы так бязлітасна бічаваць самаздаволеных крытыкаў «хаоса рэволюцый» і «вакханаліі самачынных дзеянняў мас», як Ленін...

Адсюль пагардлівыя адносіны Леніна да ўсіх тых, якія стараліся

звысака глядзець на масы і вучыць іх па кніжках. Адсюль нястомная пропаведзь Леніна: вучыцца ў мас, асэнсаваць іх дзеянні, дасканала вывучаць практычны вопыт барацьбы мас» (там-жа, стар. 25).

Па выдатнаму выразу Барбюса, «Сталін—гэта Ленін сёння». Усё, што Сталін напісаў аб Леніне, цалкам адносіцца і да яго самога. Сталін, як і Ленін, заўсёды і ўсюды адносіцца з найвялікшым давер'ем да рабочага класа, да мас, да народа, да яго творчых магчымасцей.

Сталін чула прыслухоўваецца да таго, што робіцца ў глыбіні народнага жыцця. Ён быстра заўважае зноў узнікаючыя народныя патрэбнасці. У масах народа ён знаходзіць невычарпальную крыніцу людзей, здольных рухаць справу соцыялістычнай рэволюцыі ад аднаго поспеха да другога. Кожная прамова, кожнае мерапрыемства Сталіна звернута да народных мас і маюць на мэце стварыць найлепшыя ўмовы для праяўлення творчых здольнасцей народа. Сталін абагульніў і надаў усенародны размах узнікшаму ў масах вопыту соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху. З незгасальнай гарачай веры Сталіна ў народ вынікае нястомная пропаведзь арыентыроўкі на масы, на народ, вучобы ў мас, служэння масам. Як класік марксізма-ленінізма, як правадыр народаў СССР, Сталін заўсёды паказвае, што гісторыя рушыцца наперад не сваявольствам асобных людзей, а ініцыятыўнымі дзеяннямі мас.

«Мінулі тыя часы,—гаворыць таварыш Сталін,—калі правадыры лічыліся адзінымі тварцамі гісторыі, а рабочыя і сяляне не браліся ў разлік. Лёс народаў і дзяржаў рашаюцца цяпер не толькі правадырамі, але перш за ўсё і галоўным чынам мільённымі масамі працоўных. Рабочыя і сяляне, якія без шуму і трэску будуюць заводы і фабрыкі, шахты і чыгункі, калгасы і соўгасы, ствараюць усе выгоды жыцця, харчуюць і адзяюць увесь свет,—вось хто сапраўдныя героі і тварцы новага жыцця» (*І. Сталін* «Пытанні ленінізма», стар. 422, 11-е выд.).

Уся дзейнасць Сталіна прысвечана таму, каб адкрыць дарогу народным талентам, каб зрабіць гаспадарамі дзяржавы і ўсяго жыцця мільённыя масы працоўных.

Сталін як геніяльны стратэг рэволюцыі заўсёды выходзіць з прадпасылкі, што грунтоўнасць, глыбіня і трываласць гістарычных змен залежаць ад ступені народнага удзелу ў іх.

На ўсіх паваротах класавай барацьбы, у штодзённай практычнай дзейнасці, у імклівым тэмпе соцыялістычнага наступлення, у барацьбе з шматлікімі ворагамі, у якім-бы абліччы яны ні выступалі, Сталін вучыць нас дзейнічаць злітна з масамі, з народам, дамагаючыся, каб лозунгі партыі былі ўсведамлены і засвоены народам як свае ўласныя. «... Для перамогі рэволюцыі,—вучыць таварыш Сталін,—калі гэта рэволюцыя з'яўляецца сапраўды народнай, ахопліваючай мільённыя масы,—недастаткова адной толькі правільнасці партыйных лозунгаў. Для перамогі рэволюцыі патрабуецца яшчэ адна неабходная ўмова, а іменна: каб самі масы пераканаліся на ўласным вопыце ў правільнасці гэтых лозунгаў. Толькі тады лозунгі партыі становяцца лозунгамі саміх мас. Толькі тады становіцца

рэвалюцыя сапраўды народнай рэвалюцыяй». (*І. Сталін* «Пытанні ленінізма», стар. 98, 11-е выд.).

Ніхто не ўмее лепш Леніна і Сталіна растлумачыць масам сапраўднае становішча рэчаў, лозунгі і формы руху, якія ўспрымаюцца масамі як свае ўласныя. Сама мова Леніна і Сталіна геніяльна простая, ясная, дакладная, эканомная. Яна выпрацавалася ў працэсе служэння народу, яна прасякнута павагай да народа.

Ленін і Сталін умеюць самыя складаныя пытанні тэорыі і практыкі пераказаць зразумела для рабочых і сялян. Словы Леніна і Сталіна прама, без усякіх акалічнасцей, вядзе да справы.

Ёсць мнімыя народалюбцы, якія сваю масабоязнь прыкрываюць заўсёднымі дэкламацыямі аб народзе, народзе «наогул», ігнарыруючы рэальна існуючыя класавыя рознасці і супярэчнасці.

Такімі былі, напрыклад, народнікі. І ў наш час яшчэ знаходзяцца людзі, якія пры ацэнцы выдатных дзеячоў мінулага ўжываюць паняцце народнасці ў сэнсе бяскласавасці ці па-закласавасці. Такое ўжыванне паняцця народнасці не мае нічога агульнага з марксізмам-ленінізмам.

Ленін і Сталін змагаюцца супроць апартуністычнага злоўжывання словам «народ» ва ўмовах буржуазнага грамадства. Ленін патрабаваў, «каб гэтым словам не прыкрывалася неразуменне класавых антаганізмаў унутры народа». Рэвалюцыйная соцыял-дэмакратыя, пісаў ён, «настойвае безумоўна на неабходнасці поўнай класавай самастойнасці партыі пролетарыята. Але яна раскладае «народ» на «класы» не для таго, каб перадавы клас замыкаўся ў сабе, абмяжоўваў сябе вузенькай меркай, кастрыраваў сваю дзейнасць меркаваннямі, як-бы не адхіснуліся эканамічныя ўладыкі свету, а для таго, каб перадавы клас, не пакутуючы ад палавінчатасці, няўстойлівасці, нерашучасці прамежных класаў, тым з большай энергіяй, тым з большым энтузіязмам змагаўся за справу ўсяго народа, на чале ўсяго народа». (*Ленін.* Зб. тв. т. VIII, стар. 103).

Рабочы клас—самы рэвалюцыйны, самы паслядоўны, самы рашучы клас, які калі-небудзь існаваў у гісторыі. Вызваляючы сябе, ён разам з тым вызваляе ўсіх працоўных, усіх прыгнечаных. Сталін вучыць рабочы клас выкарыстаць гэтыя свае якасці для таго, каб аб'яднаць увесь абяздолены і працоўны народ, арганізаваць яго і павесці яго на барацьбу за ўсеагульнае вызваленне. У «Гутарцы з першай амерыканскай рабочай дэлегацыяй» таварыш Сталін указваў, што ў тых рэвалюцыях, у якіх рабочы клас змагаўся ізаліравана, усе яго афяры прыводзілі толькі да таго, што ўлада трапляла ў рукі буржуазіі.

Так было ў XIX стагоддзі і раней у Англіі, Францыі і Германіі. У Расіі ў XX стагоддзі рэвалюцыйная барацьба набыла іншы характар. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна расійскі пролетарыят стаў «гегемонам, палітычным кіраўніком усіх эксплаатыруемых мас горада і вёскі, згуртоўваючы іх вакол сябе, адрываючы іх ад буржуазіі, ізаліруючы палітычна буржуазію» (*І. Сталін* «Пытанні ленінізма», стар. 172, 10-е выд.).

Гэта важнейшая асаблівасць стратэгіі і тактыкі рабочага класа, выпрацаваная Леніным і Сталіным, знайшла сваё самае яркае

ўвасабленне ў геніяльным і велічным вучэнні аб саюзе пролетарыята і сялянства, забяспечваючым перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

Таварыш Сталін, абапіраючыся на кіруючае становішча рабочага класа, падрыхтаваў і ўзначаліў наступленне народа па ўсяму фронту на капіталістычныя элементы.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна ў СССР у асноўным пабудован соцыялізм, ажыццёўлена кроўная, усенародная справа ўсіх працоўных.

Сталін—правадыр рабочага класа, і іменна таму ён правадыр усяго народа.

Сталін—тварэц усенароднага шчасця, ён народны правадыр, імя якога на ўсе часы непарыўна звязана з свабодай, магутнасцю і шчасцем усіх нацыянальнасцей СССР.

Народнасць сталінскай палітыкі ярка выяўляецца ва ўсеагульнай любві да Сталіна. Сэрцы ўсіх чэсных грамадзян СССР, незалежна ад узросту, роду і нацыянальнасці, поўны гарачай любві да свайго настаўніка.

Рэзультаты вялікіх сталінскіх спраў запісаны ў Канстытуцыі Саюза ССР. Народ сустрэў сваю новую Канстытуцыю, якая адразу атрымала назву Сталінскай, з лікаваннем, з захапленнем, як лепшае, залатое слова, сказанае ім самім.

25 лістапада 1936 года таварыш Сталін на Надзвычайным VIII усесаюзным з'ездзе советаў зрабіў даклад «Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР». Паяўленне таварыша Сталіна на трыбуне, як заўсёды, было сустрэта працяглай бурнай авацыяй. Уся зала ўстала. З усіх бакоў несліся воклічы: «Ура таварышу Сталіну!», «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Няхай жыве вялікі Сталін!», «Вялікаму генію таварышу Сталіну ура!», «Віват!», «Рот фронт!», «Таварышу Сталіну слава!».

Захапленне з'езда адлюстравала захапленне ўсёй краіны. Ніколі яшчэ ў гісторыі чалавецтва не было канстытуцыі больш дэмакратычнай, больш свабоднай, больш рэальнай, чым Сталінская Канстытуцыя. Народ убачыў ажыццёўленымі свае векавыя мары аб лепшым жыцці.

Народ праўдзівы, і слова Сталіна праўдзіва. Народны характар сталінскага закона асабліва ярка выяўляецца ў тым, што кожнае слова яго пацверджана ў жывым жыцці, на справе, матэрыяльна. Слова Леніна і Сталіна ніколі не разыходзіцца з справай.

У многіх і многіх буржуазных так-званых дэмакратычных канстытуцыях запісаны гучныя словы аб народзе, аб яго дабрабыце, аб яго правах, аб яго суверэнітэце. Аднак усе гэтыя канстытуцыі служаць толькі сродкам падману і прыгнечання народа. Усё напісанае ў іх фальшывае і ілжывае, бо ні адно з праў, абвешчаных у гэтых буржуазных хартыях, не пацверджана матэрыяльна, не гарантыравана рэальнымі фактамі. Прамую супроцьлегласць уяўляе сабою Сталінская Канстытуцыя, якая цалкам і поўнасцю адпавядае марам і інтарэсам народа. Правадыр народа таварыш Сталін клапоціцца аб тым, каб абвешчаныя для народа правы былі рэалізаваны ў поўнай меры.

Ці трэба пасля гэтага тлумачыць, чаму народ сустрэў Сталін-

скую Канстытуцыю такім аднадушным энтузіязмам? Горкі незадоўга да сваёй смерці ад рук подлых забойцаў, прачытаўшы праект Сталінскай Канстытуцыі, усклікнуў: «Цяпер нават камні спяваюць ад радасці!»

Гісторыя яшчэ не бачыла іншага прыклада такога поўнага еднання правадыра з народам.

Правадыры буржуазных рэвалюцый заўсёды абяцалі народу больш, чым яны маглі выканаць. Робесп'ер, Сен-Жуст і іх паплечнікі змагаліся з старым парадкам ва імя свабоды, равенства і братэрства, ва імя справядлівасці, дабрадзейнасці і праў чалавецтва. На справе-ж яны былі зброяй толькі буржуазнага пераўтварэння. Іх пераўвялічаная палітычная рыторыка выходзіла за рамкі таго, што магла і хацела даць буржуазія.

Яны і загінулі таму, што, з аднаго боку, аказаліся без падтрымання тых колаў, чыёй зброяй яны былі, а з другога боку, ад іх адхіснуліся масы, чые надзеі ў рэвалюцыі не былі ажыццёўлены. У адрозненне ад буржуазнай рэвалюцыі наша соцыялістычная рэвалюцыя не задавольваецца кароткачасовымі поспехамі. Яе ўздым няспынны, яе энтузіязм пастаянны. Адбываецца гэта ад таго, што кожны крок рэвалюцыі наперад павялічвае рэальны дабрабыт, магутнасць і шчасце народных мас. Сталін—правадыр, які сваёй мудрай палітыкай, сваёй нястомнай дзейнасцю ў найбольшай ступені павялічвае дабрабыт, магутнасць і шчасце народа. Геніяльнае кіраўніцтва Сталіна забяспечвае няспынны пераможны рух соцыялістычнай рэвалюцыі, шчасце і дабрабыт народа. У Сталіне ўвасобілася мудрасць рабочага класа і мудрасць усяго народа. Сталін і народ адзіны.

* * *

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна соцыялізм перамог у СССР. Народы Савецкага Саюза па сталінскаму шляху ідуць наперад, к комунізму.

Поспехі савецкага народа не былі дасягнуты самацёкам. Самыя ўдзячныя гістарычныя ўмовы не прыводзяць народы да станоўчых рэзультатаў, калі яны не кіруюцца правільнай палітыкай.

Таварыш Сталін разам з Леніным і пасля Леніна забяспечыў і забяспечвае рэальнасць, гібкасць, размах і яснасць рэвалюцыйнай перспектывы палітыкі комуністычнай партыі і савецкай улады. На ўсіх паваротах гістарычнага шляху, пры ўсіх цяжкасцях, знешніх і ўнутраных, пры любым чарговым наскоку ворагаў таварыш Сталін з геніяльнай яснасцю і вернасцю вызначаў і вызначае лінію паводзін партыі і савецкага ўрада. Тым самым ён стварыў непахісныя асновы для жалезнага адзінства партыі, для згуртавання рабочых, сялян і савецкай інтэлігенцыі вакол партыі бальшэвікоў.

Сталін пісаў аб Леніне: «Геніяльная празорлівасць, здольнасць быстра ўлаўліваць і разгадваць унутраны сэнс надыходзячых падзей—гэта тая самая ўласцівасць Леніна, якая дапамагала яму вызначаць правільную стратэгію і ясную лінію паводзін на паваротах рэвалюцыйнага руху» (*І. Сталін* «Аб Леніне», стар. 27. «Молодая гвардия». 1939).

Словы гэтыя цалкам і поўнасцю павінны быць аднесены і да таварыша Сталіна.

«... Выдатныя людзі,—сказана ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)»,—могуць стаць сапраўды выдатнымі асобамі, калі іх ідэі і пажаданні правільна выражаюць патрэбнасці эканамічнага развіцця грамадства, патрэбнасці перадавога класа.

На сцверджанні народнікаў аб тым, што маса ёсць натоўп, што толькі героі робяць гісторыю і ператвараюць натоўп у народ, марксісты адказвалі: не героі робяць гісторыю, а гісторыя робіць герояў, значыць,—не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рушыць наперад гісторыю» (стар. 16).

Марксізм, такім чынам, лічыць выдатнымі, вялікімі людзьмі толькі тых дзеячоў, якія прадбачаць будучае, правільна выражаюць патрэбнасці перадавога класа, створаны і вылучаны народам, выражаюць неадольны гістарычны рух народных мас.

У сучасным чалавецтве няма дзеяча, які быў-бы падобны геніяльнаму Сталіну ва ўменні ўлаўліваць патрэбнасці грамадскага развіцця, ва ўменні вызначыць на падставе рэальных тэндэнцый развіцця практычныя праграмы і з жалезнай паслядоўнасцю ажыццяўляць іх, сакрушаючы ворагаў і здраднікаў, ламаючы ўсе і ўсялякія перашкоды.

7 лістапада 1924 года ў Краснай кнізе рабочых завода «Динамо» таварыш Сталін зрабіў наступны запіс: «*Жадаю рабочым* «Динамо», як і рабочым усёй Расіі таго, каб прамысловасць пайшла ў гару, каб колькасць пролетарыяў у Расіі ўзнялася ў бліжэйшы перыяд да 20—30 мільёнаў, каб калектыўная гаспадарка ў вёсцы расквітнела і падпарадкавала свайму ўплыву прыватную гаспадарку, каб высокая індустрыя і калектыўная гаспадарка ў вёсцы спаялі канчаткова пролетарыяў фабрык і тружанікаў зямлі ў адну соцыялістычную армію».

У 1924 годзе сялянская гаспадарка вялася яшчэ ў падаўляючай масе на індывідуальнай аснове. Прамысловасць яшчэ адставала ад даваеннага ўзроўню. Пазіцыі прыватнага капітала і кулацтва былі адносна моцныя. Зменавехаўцы з радасным дрыжаннем у голасе енчылі, што Расія эвалюцыянізіруе к капіталізму. Контррэволюцыйная, трацкісцка-бухарынская банда па-клікушаску адмаўляла соцыялістычны характар совецкай дзяржавы і яе камандных вышынь, яна спрабавала паставіць партыю на калені перад кулаком і капіталістычнымі генеральнымі штабамі. А таварыш Сталін, пераконаны ў праваце і беспамылковасці ленінскага вучэння, арліным позіркам пранікаючы ў будучае, пісаў словы, якія многім тады маглі паказацца казкай, марай. Сталінская мара была рэальнай марай, марай у тым сэнсе, як аб ёй пісаў Ленін. Сталінская мара рысавала тое, што павінна было адбыцца на аснове законаў гістарычнага развіцця, якое накіроўваецца рабочым класам і большэвікамі. Зараз прароцкія словы Сталіна поўнасцю ажыццёўлены па праграме, ім начэртанай і рэалізаванай пад яго геніяльным кіраўніцтвам. СССР—краіна самай перадавой індустрыі, СССР—краіна абагуленай, самай буйнай у свеце сельскай гаспадаркі. Гісторыя цалкам і поўнасцю пацвердзіла правату шляху, указанага Сталіным.

Сталін ажыццявіў векавыя мары народа. Сталін прынёс народу шчасце. У сталінскай праграме праявілася ўласная воля народа да лепшага жыцця. Кожная мысль, кожны крок Сталіна гэтак-жа як у яго друга і настаўніка Леніна, аддаены рабочаму класу, працоўным, народу, комунізму.

«Калі-б,—гаварыў таварыш Сталін у гутарцы з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам,—кожны крок у маёй рабоце па ўзвышэнню рабочага класа і ўмацаванню соцыялістычнай дзяржавы гэтага класа не быў накіраван на тое, каб умацоўваць і паляпшаць становішча рабочага класа, дык я лічыў-бы сваё жыццё бязмэтным».

Наш народ бачыць у Леніне і Сталіне сваё ўласнае ўвасабленне.

Мысль і воля Сталіна, геніяльнага прадаўжальніка Леніна, жывуць ва ўсіх праявах народнага жыцця. Народ любіць Сталіна як каваля свайго шчасця, як свайго мудрага і клапатлівага бацьку. Народ верыць Сталіну, як самому сабе.

У прамове перад сваімі выбаршчыкамі таварыш Сталін сказаў:

«... Я хацеў бы запэўніць вас, таварышы, што вы можаце смела палажыцца на таварыша Сталіна *(бурная, доўга незмаўкаючая авацыя. Вокліч з залы: «А мы ўсе за таварышам Сталіным!»)* Можаце разлічваць на тое, што таварыш Сталін здолее выканаць свой абавязак перад народам *(апладысменты)*, перад рабочым класам *(апладысменты)*, перад сялянствам *(апладысменты)*, перад інтэлігенцыяй *(апладысменты)*».

З выключнай скромнасцю і стрыманасцю, без лішніх слоў, дакладна і ясна Сталін гаворыць аб сваім абавязку перад народам, аб тым, што народ можа смела палажыцца на таварыша Сталіна. Зала грыміць радаснай авацыяй, з залы нясуцца воклічы радасці, любві і адданасці, зала адказвае воклічамі, у якіх гучыць упэўненасць, што народ адчувае сябе пад кіраўніцтвам Сталіна як за каменнай сцяной.

У 1929 годзе, 21 снежня, таварышу Сталіну споўнілася пяцьдзесят год. Уся краіна, усе народы Совецкага Саюза, працоўныя ўсяго свету віталі свайго правадыра з пачуццём найвялікшай радасці, сімпатыі і любві. Таварыш Сталін адказаў кароткім пісьмом:

*УСІМ АРГАНІЗАЦЫЯМ І ТАВАРЫШАМ, ПРЫСЛАЎШЫМ ПРЫВІТАННІ.*

Вашы віншаванні і прывітанні адношу на кошт вялікай партыі рабочага класа, якая нарадзіла і выхавала мяне па вобразу свайму і падабенству. І іменна таму, што адношу іх на кошт нашай слаўнай ленінскай партыі, бяру на сябе смеласць адказаць вам бальшэвіцкай удзячнасцю.

Можаце не сумнявацца, таварышы, што я гатовы і ў далейшым аддаць справе рабочага класа, справе пролетарскай рэволюцыі і сусветнага комунізма ўсе свае сілы, усе свае здольнасці і, калі спатрэбіцца, усю сваю кроў, кроплю за кропляй.

З глыбокай павагай

*І. Сталін.*

21-XII-1929 г.

Народ, які мае такога правадыра, можа быць спакойным за свой лёс, таварыш Сталін своечасова ўбачыць небяспеку; таварыш Сталін пракладвае верны шлях к комунізму.

Што-ж дзіўнага, што людзі, якія смяротна ненавідзяць народ і яго будучае, людзі, якія па загаду імперыялістаў хацелі-б зноў надзець на савецкіх людзей памешчыча-буржуазнае ярмо, накіроўваюць сваю звярына-бандыцкую нянавісць супроць любімага народамі правадыра таварыша Сталіна. Аднак агідныя найміты капітала, трацкісцка-бухарынскія бандыты праліčыліся. Народ стаіць несакрушальнай сцяной вакол свайго любімага і роднага Сталіна. Народ сцёр з твару зямлі паганых забойцаў, народ пад кіраўніцтвам свайго бацькі, настаўніка і друга прадаўжае ісці па ім намечанаму шляху. Наўпракі прошукам шпіёнаў і здраднікаў, Сталін захаваў мір для СССР, вызваліў прыгнечаныя народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі і далучыў іх да савецкіх братоў, забяспечыў безапаснасць нашай вялікай радзімы.

Сталін як геніяльны і вялікі чалавек палягчае і паскарае, у поўнай згодзе з законамі гістарычнага матэрыялізма, шлях к комунізму.

* * *

Таварыш Сталін, кіруючы барацьбой рабочага класа, кіруе барацьбой усіх працоўных, усяго народа. Непахісная і непрымірымая, паслядоўная класавая сталінская лінія прывяла праз найстрэйшыя формы класавай барацьбы да стварэння маральна-палітычнага адзінства народа.

Перамога соцыялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі СССР з'яўляецца адбыўшымся фактам, які мае сусветна-гістарычнае значэнне. У нашай радзіме на векі-вечныя ажыццёўлена праграма знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Разам з гэтым карэнным чынам змянілася класавая структура СССР. Усе эксплаататарскія класы ў нашай краіне ліквідзіраваны. Рабочы клас, клас сялян і інтэлігенцыя перацярпелі рад істотных змен у сваёй соцыяльнай прыродзе. У нашай краіне склаліся новы рабочы клас, новае сялянства, новая народная савецкая інтэлігенцыя.

Гэта значыць, што ў нашай савецкай соцыялістычнай краіне самае слова «народ» набыло новае значэнне. Наш народ адзіны і маналітны.

Савецкае грамадства складаецца з дружаственых друг другу класаў, аб'еднаных агульнымі інтарэсамі, згуртаваных вакол партыі і Сталіна і натхнёных аднымі і тымі-ж велічнымі ідэямі комунізма. Грані паміж рабочым класам, сялянствам і інтэлігенцыяй сціраюцца, адлегласць паміж імі ўсё больш і больш скарачаецца. У стаханаўскім руху ўжо закладзены першыя зачаткі знішчэння супроцьлеглласці паміж працай разумовай і працай фізічнай. Працэс гэты працякае на базе гіганцкага культурнага ўздыму ўсяго насельніцтва нашай краіны.

Вялікі настаўнік рабочага класа і ўсіх працоўных, правадыр народаў СССР стварыў нябачанае ва ўсёй мінулай гісторыі чалавецтва маральна-палітычнае адзінства ўсяго савецкага народа. У выніку ні

адна дзяржава на земным шары не валодае такой унутранай устойлівасцю, такой трываласцю ўлады, як СССР. Правадыр гэтага небывала згуртаванага, маральна і палітычна адзінага народа—Сталін. Аўтар Канстытуцыі, які запісаў асновы гэтага непахіснага адзінства як Асноўны Закон краіны,—Сталін. Сталін—сцяг згуртавання ўсіх працоўных СССР у велічную і грозную сілу, якую ніхто ў свеце не мае магчымасці расшчапіць.

Тав. Молатаў на першай сесіі Вярхоўнага Совета СССР сказаў, што ў нашай краіне зблізіліся і спалучыліся ў адно цэлае дзве вялікія сілы: комунізм і народ. Сталін—сімвал гэтага вялікага вызваленчага саюза. Сталін сказаў словы, якія сталі сцягам для ўсіх сапраўдных дэмакратаў земнага шара: «Толькі народ няўміручы. Усё астатняе—праходзячае». Сталін—правадыр, чыё геніяльнае кіраўніцтва забяспечвае непарыўную сувязь партыі з масамі. «Я думаю,—гаварыў таварыш Сталін у сваім дакладзе «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў»,—што большэвікі нагадваюць нам героя грэчаскай міфалогіі, Антэя. Яны, гэтак-жа як і Антэй, моцныя тым, што трымаюць сувязь з сваёй маці, з масамі, якія парадзілі, выгадавалі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь з сваёй маці, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб застацца непераможнымі.

У гэтым ключ непераможнасці большэвіцкага кіраўніцтва».

Арганічнае адзінства комуністычнай партыі з совецкім народам знайшло найярчэйшае выражэнне ў сталінскім блоку комуністаў з беспартыйнымі. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік—самыя свабодныя, самыя дэмакратычныя выбары ў свеце, дэманстрыравалі аднадушную волю народа, радасную і несакрушальную згуртаванасць мас вакол партыі, вакол Сталіна. Выбары ў мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных з'явіліся чарговым трыумфам сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных дэманстрырує перад усім светам багацце і шчасце народа, які набыў сваё адзінства, стаў поўнаўладным гаспадаром сваёй квітнеючай і магутнай радзімы.

Сталінская дружба народаў аб'едноўвае ўсе нацыі Совецкага Саюза ў адзіную дружную сям'ю.

Распаўшаяся панская Польшча дае прыклад таго, што ўяўляе сабою шматнацыянальная дзяржава пры капіталізме. Польскія паны, памешчыкі і капіталісты, не маючы магчымасці забяспечыць існаванне польскіх працоўных мас, у той-жа час бязмерна прыгняталі, рабавалі заходніх украінцаў і заходніх беларусоў. Чырвоная Армія па загаду свайго ўрада, па закліку Сталіна працягнула руку дапамогі сваім братам, якія стагналі пад панскім ярмом. Народы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі сустрэлі нашы войскі з лікаваннем, з слязамі радасці на вачах, бо яны ведалі, што ўступаюць у сям'ю шчаслівых і роўнапраўных народаў. Цяпер злучэнне украінскага і беларускага народаў стала адбыўшымся фактам.

Стваральнік брацтва народаў СССР, якое мае такую прыцягальную сілу для ўсіх прыгнечаных нацыянальнасцей,—Сталін.

У выніку нястомнай гіганцкай дзейнасці нашай партыі, таварыша Сталіна ў СССР поўнасцю вырашана нацыянальнае пытанне, аб якое разбівалі сабе голаву многія і многія буржуазныя дзяржавы, на якім пацярпела ганебны крах панская Польшча.

Сталінскае маральна-палітычнае адзінства савецкага народа, сталінская дружба народаў СССР выкавалі асновы гарачага патрыятызма савецкіх людзей, аб якім у такіх цудоўных словах гаварыў тав. Молатаў у дакладзе, прысвечаным XXII гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі: «У нас закладзены надзейныя асновы савецкага патрыятызма, якім славіцца наша Чырвоная Армія і пачуццямі якога так шырока ахоплены народы Савецкага Саюза. Гэты савецкі патрыятызм узяў сваё ля берагоў Хасана і на мангола-манчжурскай граніцы. Духам высокага савецкага патрыятызма прасякнуты быў паход нашай Чырвонай Арміі ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь, калі наша Чырвоная пяхота рабіла пераходы па 60—70 кіламетраў у суткі. Мы ведаем высокія якасці савецкага патрыятызма, мы ведаем, што, калі нашы байцы самаафярна, як героі, кідаліся ў бой на ворага з воклічамі: «за радзіму!», «за Сталіна!», дык усе мы, выхаваныя партыяй Леніна—Сталіна, і народы ўсяго Савецкага Саюза бачылі ў гэтым, што для савецкіх патрыётаў радзіма і комунізм з'яднаны ў адно непадзельнае цэлае».

Пачуццё нацыянальнай гордасці вырасла, умацавалася і развілася ў гарачы савецкі патрыятызм пад кіруючым уздзейнічаннем Леніна і Сталіна. У гэтых імёнах паняцці: народ, радзіма і комунізм, свабода, шчасце і дабрабыт мас—зліліся ў адно, натхняючы працоўных і перадавых людзей усяго свету. Вось чаму імёны Леніна і Сталіна сталі баявым клічам чалавецтва, якое змагаецца за свет і праўду, за ўрачыстасць соцыялізма на ўсім земным шары. Вось чаму імя Сталіна гарыць як маяк, асвятляючы шлях да шчасця народаў.

Век за векам народныя масы жылі ў галадзе і жабрацтве, цемнаце і брудзе. Век за векам праца, пот і кроў большасці стваралі бестурботнае жыццё паноў-паразітаў. Але не было ніколі ў гісторыі таго, каб пануючыя класы змаглі выбіць з народа волю да барацьбы, пачуццё ўласнай вартасці, веру ў жыццё вольнае і светлае.

Паўставалі рабы, уздымаліся прыгонныя, ішлі абяздоленыя гарадоў і вёсак, рабочы клас з першых-жа момантаў свайго стварэння гарэў гневам і непакорлівасцю, уздымаўся на бой ва імя сваіх правоў. Сялянскія войны патрасалі і старую Расію; быў Сцяпан Разін, быў Емельян Пугачоў; Чэрнышэўскі разгарнуў шырокую праграму дэмакратычнага пераўтварэння; марозаўская стачка апавясціла ўсяму свету пачатак пролетарскага рэволюцыйнага руху ў царскай імперыі. Век за векам паўставалі працоўныя ў пошуках справядлівасці і шчасця, век за векам тапілі пануючыя класы абурэнне мас у патоках народнай крыві. Так было да паяўлення ў працэсе гістарычнага развіцця сучаснага рабочага класа. З кожнага паражэння рабочы клас уздымаўся з новымі ўзросшымі сіламі. Кожны наступны націск яго быў мацней за папярэдні. Вопыт барацьбы яго не прападаў дарэмна. Рабочы клас выпрацаваў сваю ўласную тэорыю, рабочы клас стварыў сваю ўласную палітычную партыю. Рабочы клас вылучыў сваіх вялікіх настаўнікаў і правады-

роў—Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. Ленін стаў бацькам савецкай улады ў велізарнай дзяржаве, якая займае адну шостую частку земнай тэрыторыі. Сталін упершыню ў гісторыі чалавецтва прывёў да перамогі народ, які зацвердзіў соцыялістычныя формы жыцця, знішчыў эксплаатацыю чалавека чалавекам.

Сталін правёў савецкі народ праз усе цяжкасці і вывеў яго на перадавое месца ў свеце. Сталін—сцяг, які кліча да барацьбы, дае веру і бадзёрасць народам, забяспечвае перамогу комунізма!

У дзень шасцідзесяцігоддзя друга, настаўніка і правадыра народаў сэрцы 183 мільёнаў грамадзян шчаслівай Савецкай краіны, сэрцы працоўных і ўсіх перадавых людзей свету зліваюцца ў аднадушным парыванні любві і адданасці, у аднадушным воклічы: «Няхай жыве доўгія годы наш Сталін на шчасце ўсяго чалавецтва!»

---

*А. Трыпольскі*

# ЗБРОЯ МАСТАЦКАГА ВОБРАЗА

Не раз зброяй мастацкага вобраза, узятага з твораў вялікіх пісьменнікаў, Ленін і Сталін трапна разілі ворага, не раз мастацкі вобраз, дарэчы выкарыстаны, дапамагаў ярчэй, рэльефней ахарактарызаваць пэўную з'яву, больш усебакова і глыбей раскрыць пэўную падзею грамадскага жыцця.

З розных твораў класікаў сусветнай літаратуры выкарыстоўваюць Ленін і Сталін мастацкія вобразы, паасобныя выразы, удалыя параўнанні, каб узмацніць імі ўдар, накіраваны на ворагаў, каб, выклікаўшы ў памяці чытача карціннае ўяўленне, паўней перадаць мысль. Ленін і Сталін карыстаюцца мастацкім вобразам іменна тады, калі ўзнікае неабходнасць у вобразным падкрэсліванні мыслі, у навочным раскрыцці яе.

Некаторыя даследчыкі гавораць, што Ленін поўнасцю змяняе сэнс мастацкага вобраза, створанага пісьменнікам, што ў Леніна ён выступае ў зусім новым значэнні, што Ленін прыўносіць у вобраз абсалютна новыя рысы, што з вобразам, створаным пісьменнікам, у ленінскім тэксце адбываецца поўная метамарфоза.

Прааналізаваўшы выкарыстанне літаратурных цытат, мастацкіх вобразаў у творах Леніна і Сталіна, мы ўбачым, што і Ленін і Сталін не змяняюць сэнса мастацкага вобраза, а скарыстоўваюць яго ў розных умовах па-рознаму, даючы пры гэтым выключна глыбокую і вычарпальна тонкую характарыстыку створанага пісьменнікам вобраза. Вобраз не змяняецца, а толькі правільна трактуецца. Ды няма і патрэбы змяняць яго, бо ўся сіла скарыстання Леніным і Сталіным мастацкага вобраза ў тым і заключаецца, што ён выклікае ў памяці чытача карціннае, канкрэтнае адчуванне, асоцыятыўнае супастаўленне, якое ўзмацняе вастрату ленінскіх і сталінскіх выказванняў у кожным паасобным выпадку. Змяняецца ў залежнасці ад абстаноўкі выкарыстанне вобраза, ён паварочваецца нейкім новым бокам, ярчэй адцяняецца пэўны бок мастацкага вобраза, акцэнтыруецца пэўная рыса яго, неабходная ў даным выпадку.

Ленін і Сталін часта паварачваюць мастацкі вобраз да чытача тым бокам, які чытач толькі заўважыў ці слаба адчуў пры чытанні мастацкага твору, а ў працах Леніна і Сталіна ён асвятляецца яркім святлом і зноў ажывае.

Іменна ў гэтым другое важнае значэнне вывучэння скарыстання мастацкіх вобразаў класікамі марксізма, якое мае мастацказнаўчае значэнне. Такім чынам, вывучэнне скарыстання Леніным і Сталіным

мастацкіх вобразаў мае не толькі выключна важнае значэнне вучобы па-майстэрску карыстацца зброяй мастацкага вобраза. Ленін і Сталін даюць бліскучы аналіз мастацкіх вобразаў, іх глыбокае філасофскае раскрыццё і разуменне.

Выступаючы супроць Петрункевіча, які выражаючы імкненні ліберальна-манархічнай буржуазіі, пачаў пропаведзь шкоднасці рэвалюцыйнага паўстання супроць царызма, Ленін параўноўвае яго з вядомым гогалеўскім персанажам з «Мёртвых душ»—Манілавым. Удалае параўнанне адразу зрывае маску манілаўскага дабрадушша, якую надзеў на сябе Петрункевіч, каб, красамоўна гаворачы аб аркадскай ідыліі, усыпіць і адвесці масы ад паўстання, даўшы гэтым самым магчымасць буржуазіі «мірна» узяць уладу ў свае рукі. «Цяжка ўявіць сабе што-небудзь больш агіднае, як гэтага ідэолага труслівай буржуазіі,—піша з гэтай прычыны Ленін у артыкуле 1905 года «Байкот Булыгінскай думы і паўстанне»,—які запэўняў, што пропаведзь паўстання «дэмаралізіруе» і армію і народ! Гэта гаворыцца ў такі час, калі сляпыя бачаць, што толькі паўстаннем можа рускі абывацель і салдат выратаваць сябе ад канчатковай дэмаралізацыі і давесці свае права быць грамадзянінам! Буржуазны Манілаў рысуе сабе аркадскую ідылію, як пад націскам адной толькі «грамадскай думкі» «урад будзе прымушан рабіць усё новыя і новыя ўступкі, пакуль, нарэшце, яму некуды будзе ісці далей...»

Далей Ленін прадаўжае: «Засланяць лозунг паўстання, адгаварвацца ад яго і адгаварваць іншых, раіць у выглядзе «пралога» неадкладную арганізацыю самаўпраўлення (зручную толькі Трубецкім, Петрункевічам, Фёдаравым і К°),—гэта іменна тое, што патрэбна для буржуазнага здрадніцтва рэволюцыі, для здзелкі з царом (манархія і верхняя палата) супроць «чэрні». Ліберальная манілаўшчына выражае таму самыя патаемныя мыслі грашовага мяшка і яго найглыбейшыя інтарэсы» [1]).

Ленін геніяльна ўскрывае класавыя карэнні манілаўшчыны Петрункевіча і К°. Яны спрабавалі чырвоненькімі слоўцамі-пустышкамі «адгаварыць іншых» ад паўстання, ліпучым патокам слоў «засланіць лозунг паўстання». Гэтая пустапарожняя манілаўская балбатня Петрункевічаў, шкодная для народа і карысная для Петрункевічаў і К°, бо, прыкрываючыся ёю, яны праводзяць свае інтарэсы; гаворачы аб самаўпраўленні, маюць на ўвазе самаўпраўленне,—як іранічна ў двукоссі падкрэслівае Ленін,—памешчыкаў і буржуазіі, недаступнае для народа ва ўмовах самадзяржаўна-буржуазнага ладу, за які ваююць буржуазныя Манілавы.

З усёй сілай непрымірымасці абрушваецца Ленін у кастрычніку 1905 года (месяц усеагульнай стачкі) на соцыял-дэмакратычнага Манілава. У артыкуле «Апошняе слова «Іскроўскай тактыкі» Ленін піша: «Паўстанне—вельмі вялікае слова... З вялікімі словамі трэба абыходзіцца асцярожна. Цяжкасці ператварэння іх у вялікія справы агромністыя. Але іменна таму недаравальна было-б адгаварвацца ад гэтых цяжкасцей фразай, адмахвацца ад сур'ёзных задач манілаў-

---

1) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. VIII, стар. 148—149.

скімі выдумкамі, надзяваць на вочы шоры салодзенькіх вымыслаў аб нібыта «натуральных пераходах» да гэтых цяжкіх задач» [1]).

Смехатворную балбатню меншавікоў аб усенародных выбарах пры панаванні эксплаатататараў, Ленін сустракае агнявым словам сваёй працы «Апошняе слова «Іскроўскай тактыкі», па-майстэрску выкарыстоўваючы вобраз Манілава: «Гаварыць аб усенародных выбарах,—піша Ленін,—пры панаванні Трэпавых, г. зн. да перамогі паўстання, да фактычнага звяржэння царскай улады, ёсць найвялікшая манілаўшчына, здольная толькі ўнесці непраўдападобную палітычную распусту ў галовы рабочых. Толькі людзі, прывучаныя новай «Іскрай» да панавання фразы, могуць прымаць такія лозунгі, якія рассыпаюцца ўшчэнт пры першым дотыку цвярозай крытыкі» [2]).

Пры дапамозе вобраза, створанага Гогалем, Ленін поўнасцю развенчвае дзеянні ворага. Апрача таго, Ленін дапамагае правільна ўспрымаць мастацкі вобраз, дае верную трактоўку яго. Уладзімір Ільіч Ленін усюды, як бачым, падкрэслівае, што асноўнай рысай Манілава з'яўляецца лёгкая і пустая прыкра-саладжавая фраза, якая ў розныя гістарычныя перыяды і ў розных прадстаўнікоў варожых працоўных класаў і груп па-рознаму выкарыстоўваецца; другой рысай Манілава з'яўляецца пражэкторства, пустапарожнае фантазіраванне, далёкае ад рэальнасці, якое таксама на розных этапах па-рознаму выкарыстоўваецца ворагамі. Але асноўная накіраванасць манілаўшчыны, найбольш часта выкарыстоўваемая ворагамі, гэта «надзяваць на вочы шоры салодзенькіх вымыслаў», каб такім чынам асляпіць народ і тады рабіць свае брудныя ўчынкі. Як бачым з прыкладаў, іменна асноўнае ў вобразе Манілава, створанага Гогалем, і выкарыстоўвае Ленін, выкрываючы ворага, і выкарыстоўвае для таго, каб пры дапамозе параўнання больш выразна паказаць твар ворага. Ленін не змяняе гогалеўскага вобраза а, наадварот, пры дапамозе яго змагаецца з ворагамі рэволюцыі.

Ленін паказвае, што салодзенькія ружовыя мары, якія не маюць пад сабою рэальнай глебы, непарыўны паток ліпучых і цягучых, як патака, слоўцаў у гогалеўскага Манілава, які сядзіць у сваёй сядзібе, нікому нічога дрэннага не прыносіць. Праўда, гэта была своеасаблівая форма прыкрыцця жахаў прыгонніцтва, але сам Манілаў не разумеў гэтага. А калі ўвесь гэты комплекс натуры Манілава пераносіцца на арэну палітычнай барацьбы, на шырокае поле грамадскага жыцця, ды яшчэ свядома выкарыстоўваецца, то ўсё гэта робіцца максімальна шкодным, бо пад маскай добрадушнага Манілава схаваны твар драпежніка. Але ці-ж гэта змяненне гогалеўскага вобраза? Ці-ж гэта новы вобраз з новымі якасцямі, якія адрозніваюцца ад якасцей гогалеўскага Манілава? Не. Гэта раскрыццё новай з'явы праз старое агульнавядомае паняцце, якое даўно ўстаялася, гэта зрыванне авечай скуры з ваўка пры дапамозе мастацкага вобраза, выкліканага з мінулага, як назоўнае імя вядомай з'явы, назва якой—манілаўшчына.

Вобраз самазабвеннага манюкі Хлестакова знаходзіць свае

[1]) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. VIII, стар. 305.
[2]) Там-жа, стар. 303.

скарыстанне ў ленінскіх працах, накіраваных сваім лязом супроць новай «Искры». Часта новая «Искра», спрабуючы паказаць, што рабочыя падтрымліваюць меньшавікоў, выдавала за існуючыя такія рабочыя саюзы, якія былі толькі ў яе запаленым уяўленні. І Ленін вельмі едка заўважае, што гэтыя меншавіцкія рабочыя саюзы «існуюць часта толькі на старонках хлестакоўскай «Искры» [1]. Такая заўвага, як-бы выпадкова кінутая Леніным, наносіць сакрушальны ўдар не толькі выхвальнай меншавіцкай новай «Іскры», але і самазабвеннай мане меншавіцкіх Хлестаковых. Літаратурнае параўнанне тым моцнае, што выклікае ў чытача вобразнае ўяўленне, у даным выпадку смешнае становішча бездапаможнага манюкі, які даілгаўся да немагчымага. Падобнае параўнанне абяззбройвае ворага, забівае яго сілай смеха.

У артыкуле «О «левом» ребячестве и мелкобуржуазности» Ленін, выкарыстоўваючы гогалеўскі вобраз, наносіць сакрушальны ўдар лавіраванню і жанглёрствам «левых» комуністаў, якія, з'яўляючыся «зброяй імперыялісцкай правакацыі» (Ленін), пускаюць у ход усе сродкі жульніцтва, каб прыкрыць свой «зман мас» *(Ленін)*, накіраваны на зрыў Брэсцкага міру: «Хочаце ваяваць зараз,—піша Ленін па гэтай прычыне,—дык гаварыце гэта прама. Не хочаце *адступаць* зараз, дык гаварыце прама. Інакш—вы зброя імперыялісцкай правакацыі, па вашай аб'ектыўнай ролі. А суб'ектыўная ваша «псіхалогія ёсць псіхалогія ашалеўшага дробнага буржуа, які харахорыцца і пахваляецца, але добра адчувае, што пролетарый *мае рацыю*, адступаючы і стараючыся адступіць арганізавана; пролетарый мае рацыю, разлічваючы, што пакуль сіл яшчэ няма, трэба адступаць...

«Сваёй» палітыкі ў «левых» няма; абвясціць адступленне зараз непатрэбным яны не адважваюцца. Яны круцяцца і віляюць, гуляючы словамі, падстаўляюць пытанне аб «непарыўным» пазбяганні бою на месяцы пытання аб пазбяганні бою *ў даны момант*. Яны пускаюць мыльныя пухіры: міжнародная рэволюцыйная прапаганда справай»!!! Што гэта азначае?

Гэта можа азначаць толькі адно з двух: ці гэта наздроўшчына, ці гэта наступальная вайна ў мэтах звяржэння міжнароднага імперыялізма. Сказаць адкрыта такую бязглуздзіцу нельга, а таму і даводзіцца «левым» комуністам ратавацца ад асмейвання іх усякім свядомым пролетарыем у засені гучных і пусцейшых фраз: можа, моў, неўважлівы чытач не прымеціць, што гэта ўласна такое азначае: «міжнародная рэволюцыйная прапаганда справай» [2].

Каб ярчэй асвятліць палітычнае жульніцтва «левых» комуністаў, Ленін выклікае ў памяці чытача вобраз гогалеўскага Наздрова— і перад намі вырысоўваецца жывая карціна шулерскіх дзеянняў нахабнага Наздрова, здольнага на ўсякую подласць, але які прыкрываецца «гучнымі» пустымі і агульнымі фразамі аб дружбе, аб адданасці і г. д. Гэтым завярэнням Наздрова ніхто не верыць, але незнаёмыя з ім часта спачатку трапляюць у расстаўленыя ім сеці.

---

[1]) *Ленін*, *творы*, выд. III, т. VIII, стар. 126.
[2]) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. XXII, стар. 509.

Як бачым, параўнанне, прыведзенае Леніным, выключна ўдалае і гранічна дзейснае.

Больш сотні разоў выкарыстоўвае Ленін у сваіх працах вобразы, створаныя Гогалем. Яшчэ больш знаходзім мы ў Леніна салтыкова-шчэдрынскіх цытат, вобразаў, параўнанняў. Больш за трыста разоў сустракаюцца яны ў творах Леніна.

Неадназова звяртаецца Ленін да вобраза Іудушкі Галаўлёва, гэтага найбольш моцнага вобраза ў сатырычнай галярэі Салтыкова-Шчэдрына. Іудушка паказан Шчэдрыным, як гранічнае выражэнне крывадушнасці, ён здолен рабіць самыя злачынныя, самыя брудныя ўчынкі. Свае злачынныя дзеянні Іудушка прыкрывае моташнымі елейнымі разважаннямі, набожнасцю. Салтыкоў-Шчэдрын паказаў, як з-пад маскі «святасці» выглядаюць клыкі страшыдла, пароджанага эксплаататарскім грамадствам.

Ленін ускрыў усю глыбіню гэтага вобраза, скарыстоўваючы яго, як спосаб развенчвання ворага, як вострую зброю, якая знішчае працаўніка. Ленін паказвае Іудушку ў новай гістарычнай абстаноўцы. Іудушка—ліберальны журналіст, Іудушка—земскі дзеяч, Іудушка—меншавік, Іудушка—відны «тэарэтык» здрадніцкага II інтэрнацыянала. У розных умовах, у рознай вопратцы, у розны час—гэта ўсё адзін і той-жа елейны здраднік, які поўзае перад капіталізмам, гэта—двурушнік з «узвышанымі» мёдацечнымі словамі на вуснах, дробны драпежнік па сваёй прыродзе, заўсёды гатовы на самыя брудныя ўчынкі.

Ленін назаўсёды закляйміў пагардлівай мянушкай Іудушкі обер-бандыта, злейшага ворага народа Троцкага, назаўсёды прыгваздзіў яго пры дапамозе шчэдрынскага сатырычнага вобраза да ганебнага слупа.

Вось як характарызуе Ленін Іудушку. У артыкуле «Что такое друзья народа», паказваючы сапраўдны твар «айчыннай бюракратыі», «якая бачыць высокую задачу ў спалучэнні інтарэсаў памешчыка і буржуа», Ленін піша: «Гэта—Іудушка, які карыстаецца сваімі прыгонніцкімі сімпатыямі і сувязямі для ашуканства рабочых і сялян, праводзячы пад выглядам «аховы эканамічна слабога» і «апекі» над ім, у абарону ад кулака і ліхвяра такія мерапрыемствы, якія нізводзяць працоўных на становішча «подлай чэрні», аддаючы іх галавой прыгонніку памешчыку і тым робячы больш безабаронными супроць буржуазіі. Гэта—небяспечнейшы двурушнік, які спрактыкаваны вопытам заходня-еўрапейскіх майстроў рэакцыі і спрытна хавае свае аракчэеўскія прагненні пад фігавыя лісткі народалюбівых фраз» [1]).

Іудушка—гэта смяротны вораг працоўных, і тым больш небяспечны і агідны, што схаваў свой сапраўдны твар «пад фігавыя лісткі народалюбівых фраз», Іудушка—гэта «небяспечнейшы вораг», які, як гадзіна, пралазіць у самае нутро, каб атруціць свядомасць чалавека. І калі Ленін выкарыстоўвае стары вобраз для характарыстыкі новай з'явы, то ён спецыяльна агаварвае тое, як старыя якасці, не змяняючыся ў сваёй аснове, узмацняюцца адносна, так сказаць, да вопыта,

---

1) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. I, стар. 186.

набытага ворагамі ў справе змана народу. І вось перад намі паяўляецца салтыкова-шчэдрынскі Іудушка, але ён ужо «умудрон» вопытам заходня-еўрапейскіх майстроў рэакцыі». Гэта той-жа Іудушка з «Паноў Галаўлёвых», але яшчэ больш небяспечны, яшчэ больш агідны, бо карыстаецца «удасканаленымі» сусветнай буржуазіяй прыёмамі крывадушнасці.

Ліберадам, якія хапаюцца за фалды вялікага сатырыка Салтыкова-Шчэдрына, Ленін наносіць удары смертаноснымі радкамі сатыры таго-ж Салтыкова-Шчэдрына. І з якім выключным публіцыстычным майстэрствам гэта зроблена, з якой геніяльнай вынаходлівасцю выканана гэта: «Асабліва нясцерпна бывае бачыць, калі суб'екты, накшталт Шэпецева, Струве, Гродэскула, Ізгоева і іншай кадэцкай брацііі, хапаюцца за фалды Некрасава, Шчэдрына і г. д... Шчэдрын бязлітасна здзекуецца над ліберaламі і назаўсёды заклеймі іх формулай: «прыстасавальна да подласці» [1]).

У другім месцы, выкарыстоўваючы казку Шчэдрына «Лібераль», Ленін глыбокай салтыкова-шчэдрынскай сатырай да канца ўскрыў *варожую прыроду* народніка Южакова, якога характарызуе «класічная па сваёй лакейскай бессаромнасці фраза» (Ленін): «Нельга не прыгадаць з гэтай прычыны так трапна напісаную Шчэдрыным гісторыю эвалюцыі расійскага лібераля. Пачынае гэты ліберал з таго, што просіць у начальства рэформаў «па магчымасці»; прадаўжае тым, што кляньчыць «ну, хоць што-небудзь» і канчае адвечнай і непахіснай пазіцыяй «прыстасавальна да подласці». Ну, як не сказаць на самай справе аб «прыяцелях народа», што яны занялі гэту адвечную і непахісную пазіцыю, калі яны пад свежым уражаннем галадоўкі мільёнаў народа, да якой урад аднёсся спачатку з гандлярскім прыцiскам, а потым з гандлярскай-жа баязлівасцю,—гавораць у друку, што ўрад выратаваў народ ад канчатковага зруйнавання!!» [2]).

Вельмі часта звяртаецца Ленін да народнай мудрасці, якая знайшла сваё бліскучае ўвасабленне ў крылоўскай байцы, каб ёю больш рэльефна адцяніць, ярчэй вылучыць пэўны факт соцыяльнага жыцця; вельмі часта Уладзімір Ільіч Ленін едкай крылоўскай сатырай разіў ворага, зрываў авечую скуру з воўка. Звернемся да некалькіх прыкладаў. Выключна ўдала накіраваў Ленін лязо крылоўскай сатыры супроць капіталістаў і царскай улады, сфабрыкаваўшых новы закон, якім спрабавалі замаскіраваць нечуваную эксплаатацыю рабочых: «Узятыя разам, усе гэтыя правілы аб звыштэрміновай працы надзіва нагадваюць вядомую байку аб тым, як леў дзяліў «па-роўну» здабычу паміж сваімі таварышамі па паляванню: першую частку ён бярэ сабе па праву; другую частку за тое, што ён цар звяроў; трэцюю—за тое, што ён дужэйшы за ўсіх, а да чацвертай—хто лапу працягне, той з месца жывы не ўстане» [3]).

Ставячы пытанне аб значэнні ў рабочым руху стачак, Ленін піша: «Вельмі часта бывае, што фабрыкант стараецца ўсімі сродкамі ашукаць рабочых, выставіць сябе іх добрачынцам, прыкрыць сваю

---

1) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. XVI, стар. 132—133.
2) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. I, стар. 162.
3) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. II, стар. 168.

эксплаатацыю рабочых пэўнай пустой падачкай, пэўнымі ілжывымі абяцаннямі. Усякая стачка заўсёды адным ударам разбурае ўвесь гэты змах, паказваючы рабочым, што іх «добрадзей» ёсць воўк у авечай скуры» [1]).

Неаднаразова можна сустрэць у ленінскім тэксце прыслоўі, узятыя з баек Крылова. Цікава разгледзець, як Ленін ажыўляе, завастрае накіраванасць пагаворкі, прыслоўя, канкрэтызіруючы яе прозвішчам ворага, супроць якога накіравана лязо яе, напрыклад, у вядомым прыслоўі з байкі Крылова «Пустынник и медведь»— «Услужливый дурак опаснее врага»—Ленін замест другога слова падстаўляе прозвішча і тады прыслоўе трапна і навек прыклейваецца да ўладыра якасцей, выражаных прыслоўем. Вось, напрыклад, прыслоўе з падстаўленым прозвішчам: «Прыслужлівы Троцкі небяспечней ворага». І тут-жа даецца паглыбленае растлумачэнне гэтай характарыстыкі, абагульненне паводзін Троцкага: «Ні адкуль, як з «прыватных гутарак» (г. зн. па-просту плётак, якімі заўсёды жыве Троцкі), ён не мог запазычыць доказаў...»[2])

Так, пад пяром Владзіміра Ільіча Леніна ажывае крылоўская сатыра, становячыся на службу барацьбы з ворагамі народных мас.

Вялікі вучань вялікага настаўніка—Іосіф Вісарыёнавіч Сталін—у сваіх працах таксама часта выкарыстоўвае мастацкі вобраз, як зброю, як спосаб раскрыцця пэўнай жыццёвай з'явы.

Палітычнае ўгодніцтва меншавікоў перад буржуазіяй, іх пастаянную гатоўнасць на ўсялякія скідкі і кампрамісы Ленін неаднаразова характарызуе пры дапамозе шчэдрынскага «Карася-ідэаліста» і «Прамудрага пескара», які «жыў—дрыжаў і паміраў—дрыжаў», усяго баяўся, ад усялякай дзейнасці ўстрымліваўся.

Шчэдрынскі вобраз «прамудрага пескара» выкарыстаў таварыш Сталін для ацэнкі «учынкаў» контррэвалюцыйных правых апартуністаў, спрабаваўшых пасеяць недавер'е да грандыёзных сусветна-гістарычных задач соцыялістычнага будаўніцтва, усяліць страх перад гэтымі задачамі, даказаць бяссілле і немагчымасць ажыццяўлення вялікага плана. У гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў 23-чэрвеня 1931 года таварыш Сталін з гэтай прычыны гаварыў: «Існуюць некаторыя каляпартыйныя абывацелі, якія запэўняюць, што наша вытворчая праграма нерэальная, невыканальная. Гэта нешта накшталт «прамудрых пескароў» Шчэдрына, якія заўсёды гатовы распаўсюджваць вакол сябе «пустату недамыслія» [3]).

Таварыш Сталін дае дакладную і глыбокую характарыстыку шчэдрынскаму вобразу, якая поўнасцю ўскрывае філасофскую накіраванасць казкі «Прамудры пескар». Гэтым вобразам ускрыта абывацельская абмежаванасць, палітычная бездапаможнасць, г. зн. «пустата недамыслія».

Таварыш Сталін ужо ў палітычнай справаздачы ЦК XVI з'езду ВКП(б) ударыў па імкненнях контррэвалюцыйнай правай апазіцыі,

---

1) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. II, стар. 576.
2) *В. І. Ленін*, творы, выд. III, т. XVII, стар. 468.
3) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", 10 выд. Партвыдат ЦК ВКП (б), 1934 г. стар. 465.

накіраваных на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва і ўдарыў невымернай сілай чэхаўскай сатыры. Ітак успрыняцце вобраза «прамудрага пескара», выкарыстанага таварышам Сталіным на нарадзе гаспадарнікаў, ужо было падрыхтавана вобразам чэхаўскага «чалавека ў футляры»; шчэдрынскі вобраз як-бы дапаўняў шырока растлумачаны таварышам Сталіным вобраз Белікава, вобраз, авеяны змрокам чорнай рэакцыі.

Прывядзем вялікую цытату, каб поўнасцю паказаць выкарыстанне таварышам Сталіным сілы дзеяння вобразнага параўнання, каб прасачыць працэс паслядоўнага і дэталёвага развенчвання контррэволюцыйнай правай апазіцыі пры дапамозе мастацкага вобраза:

«... былыя лідэры правай апазіцыі не разумеюць нашых большэвіцкіх тэмпаў, не вераць у гэтыя тэмпы і наогул не прыемлюць нічога такога, што выходзіць з рамак паступовага развіцця, з рамак самацёку. Больш таго, нашы большэвіцкія тэмпы, нашы новыя шляхі развіцця, звязаныя з перыядам рэканструкцыі, абвастрэння класавай барацьбы і вынікі гэтага абвастрэння ўсяляюць у іх трывогу, разгубленасць, баязнь, страх. Зразумела таму, што яны адпіхваюцца ад усяго таго, што звязана з найбольш вострымі лозунгамі нашай партыі. Яны хварэюць той-жа хваробай, якою хварэў вядомы чэхаўскі герой Белікаў, настаўнік грэчаскай мовы, чалавек у футляры. Памятаеце чэхаўскае апавяданне «Чалавек у футляры»? Гэты герой, як вядома, хадзіў заўсёды ў галошах, у паліто на ваце, з парасонам і ў спякотнае і ў халоднае надвор'е. «Прабачце, для чаго вам галошы і паліто на ваце ў ліпені месяцы, у такое спякотнае надвор'е?»—пыталіся ў Белікава. «На ўсякі выпадак,—адказваў Белікаў,—як-бы чаго не выйшла; а раптам ударыць мароз, як-жа тады?» *(Агульны смех. Апладысменты).* Ён баяўся, як чумы, усяго новага, усяго таго, што выходзіць з прызвычаенага кола шэрага абыватэльскага жыцця. Адкрылі новую сталовую,—у Белікава ўжо трывога: «Яно, вядома, можа, і добра мець сталовую, але глядзіце, як-бы чаго не выйшла.» Арганізавалі драматычны гурток, адкрылі чытальню,—Белікаў зноў у трывозе: «Драматычны гурток, новая чытальня,—для чаго-б гэта? Глядзіце, як бы чаго не выйшла». *(Агульны смех).*

Тое самае трэба сказаць аб былых лідэрах правай апазіцыі. Памятаеце гісторыю з перадачай ВТНУ гаспадарчым наркаматам? Мы хацелі перадаць усяго два ВТНУ ВСНГ. Справа, здавалася-б, маленькая. А між тым мы сустрэлі адчайнае супраціўленне з боку правых ухілістаў. «Перадаць два ВТНУ ВСНГ? Навошта гэта? Ці не лепш пачакаць? Глядзіце, як бы чаго не выйшла з гэтай зацеі.» А цяпер усе ВТНУ ў нас перададзены гаспадарчым наркаматам. І нічога—жывём.

Ці, напрыклад, пытанне аб надзвычайных мерах супроць кулакоў. Памятаеце, якую істэрыку закатвалі нам з гэтай прычыны лідэры правай апазіцыі? «Надзвычайныя меры супроць кулакоў? Ці не лепш праводзіць ліберальную палітыку ў адносінах кулакоў? Глядзіце, як-бы чаго не выйшла з гэтай зацеі». А цяпер мы праводзім палітыку ліквідацыі кулацтва як класа, палітыку, у параў-

нанні з якой надзвычайныя меры супроць кулацтва прадстаўляюць пустышку. І нічога—жывём. Ці, напрыклад, пытанне аб калгасах і соўгасах. «Соўгасы і калгасы? Навошта яны? Куды нам спяшацца? Глядзіце, як-бы чаго не выйшла з гэтых соўгасаў і калгасаў». І так далей і таму падобнае.

Вось гэта баязнь новага, няўменне падыйсці па-новаму да новых пытанняў, гэта трывога—«як-бы чаго не выйшла»—гэтыя рысы чалавека ў футляры перашкаджаюць былым лідэрам правай апазіцыі па-сапраўднаму зліцца з партыяй.

Асабліва смешныя формы набываюць у іх гэтыя рысы чалавека ў футляры пры паяўленні цяжкасцей, пры паяўленні самай маленькай хмаркі на гарызонце. Паявілася ў нас дзе-небудзь цяжкасць, загвоздка,—яны ўжо ў трывозе: як-бы чаго не выйшла. Зашамацеў дзе-небудзь таракан, не паспеўшы вылезці як след з нары,—а яны ўжо кідаюцца назад, жахаюцца і пачынаюць енчыць аб катастрофе, аб гібелі савецкай улады. *(Агульны рогат).* Мы супакойваем іх і стараемся пераканаць, што тут няма яшчэ нічога небяспечнага, што гэта ўсяго толькі таракан, якога не трэба баяцца. Дзе там! Яны прадаўжаюць енчыць сваё: «Як так таракан? Гэта не таракан, а тысяча раз'юшаных звяроў! Гэта не таракан, а бяздонне, гібель савецкай улады». І пашла пісаць губернія... Бухарын піша з гэтай прычыны тэзісы і пасылае іх у ЦК, сцвярджаючы, што палітыка ЦК давяла краіну да гібелі, што савецкая ўлада напэўна загіне, калі не зараз, дык прынамсі праз месяц. Рыкаў далучаецца да тэзісаў Бухарына, агаварваючыся, аднак, што ў яго ёсць сур'ёзныя рознагалоссі з Бухарыным, якія заключаюцца ў тым, што савецкая ўлада загіне, па яго думцы, не праз месяц, а праз месяц і два дні. *(Агульны смех).* Томскі далучаецца да Бухарына і Рыкава, але пратэстуе супроць таго, што не змаглі абыйсціся без тэзісаў, не здолелі абыйсціся без дакумента, за які прыдзецца потым адказваць: «Колькі разоў я вам гаварыў,—рабіце, што хочаце, але не пакідайце дакументаў, не пакідайце слядоў» *(Гамерычны рогат усяго зала. Працяглыя апладысменты).* Праўда, потым, праз год, калі ўсякаму дурню робіцца ясна, што тараканава небяспека не варта выедзенага яйца, правыя ўхілісты ачуньваюць і, расхрабрыўшыся, не супроць таго, каб нават пусціцца ў хвальбу, заяўляючы, што яны не баяцца ніякіх тараканаў, што таракан гэты да таго-ж такі недалужны і дохлы. *(Смех. Апладысменты).* Але гэта праз год, а пакуль што мей клопат з гэтымі каніцельшчыкамі...»[1])

Па-майстэрску скарыстаўшы чэхаўскі вобраз, таварыш Сталін выклікаў гамерычны смех, які ўпаў, падобна грому, на галовы прэзрэнных ворагаў народа. З якой сілай высмеяна «палітыка» «як-бы чаго не выйшла», накіраваная на падрыў савецкай улады! Колькі нікчэмнасці, дробязнасці, баязлівасці і змяінай злосці ўскрыў таварыш Сталін у характарах «былых лідэраў правай апазіцыі» пры дапамозе мастацкага вобраза! Гранічна выразнае параўнанне скінула бутафорскі футляр і паказала ва ўсёй агіднай аголенасці гэтых ублюдкаў. Сіла дзеяння вобраза ўзрастае ад таго, што ён не

[1]) *І. Сталін.* „Пытанні ленінізма“, выд. 10-е, Партвыдат. ЦК ВКП(б), 1934 г. стар. 436—438.

проста ілюструе падзеі, а арганічна зліт са стылем сталінскай характарыстыкі «правых», са стылем едкага сарказма.

Чэхаўскі вобраз унцера Прышыбеева знайшоў сваё прымяненне ў артыкуле «Галавакружэнне ад поспехаў». Гэтым вобразам ахарактарызавана «палітыка» «чыноўніцкага дэкрэтыравання калгаснага руху *(Сталін)*, палітыка голага адміністрыравання тых галавацяпаў, якія «справу арганізацыі арцелі пачынаюць са знімання з цэркваў званоў». «Што можа быць агульнага,—пытаецца таварыш Сталін,—паміж гэтай «палітыкай» унцера Прышыбеева і палітыкай партыі, якая абапіраецца на добраахвотнасць і ўлік мясцовых асаблівасцей калгаснага будаўніцтва? Ясна, што паміж імі няма і не можа быць нічога агульнага. Каму патрэбны гэтыя крыўлянні, гэта чыноўніцкае дэкрэтыраванне калгаснага руху, гэтыя недастойныя пагрозы ў адносінах да сялян? Нікому, апрача нашых ворагаў»[1]).

Нягодныя антыпартыйныя метады арганізацыі калгасаў, якія мелі месца ў радзе раёнаў, таварыш Сталін называе прышыбееўскімі. Але гэтага мала. І таварыш Сталін выклікае ў нашым уяўленні другі вобраз з «Гісторыі аднаго горада» Салтыкова-Шчэдрына, узмацняючы ім свой аналіз данай з'явы: «Як маглі ўзнікнуць у нашым асяроддзі,—піша таварыш Сталін,—гэтыя галавацяпскія практыкаванні па частцы «абагульнення», гэтыя смехатворныя спробы пераскочыць праз сябе саміх, спробы, якія маюць сваёй мэтай абыйсці класы і класавую барацьбу, а на справе льючыя ваду на млын нашых класавых ворагаў? Яны маглі ўзнікнуць толькі ў атмасферы нашых «лёгкіх» і «нечаканых» поспехаў на фронце калгаснага будаўніцтва. Яны маглі ўзнікнуць толькі ў выніку галавацяпскіх настрояў у радах адной часткі партыі: «Мы ўсё можам!», «Нам усё ніпачым!» Яны маглі ўзнікнуць толькі і ў выніку таго, што ў некаторых нашых таварышоў закружылася галава ад поспехаў, і яны пазбавіліся на хвіліну яснасці розума і цвярозасці погляда».[2])

Таварыш Сталін выклікае ўяўленне аб галавацяпах і ў нашай памяці ўсплывае карціна з «Гісторыі нашага горада»: «Быў у старажытнасці народ, які называўся галавацяпамі... галавацяпамі называліся гэтыя людзі таму, што мелі звычку «цяпаць» галовамі аба ўсё, што-б не сустракалася на іх шляху. Сцяна трапіцца—аб сцяну цяпаюць; богу маліцца пачнуць—аб падлогу цяпаюць... Пачалося з таго, што Волгу талакном замясілі, цяля ў лазню зацягнулі, потым у кашалі кашу варылі, потым казла ў салоджаным цесце ўтапілі, потым свінню за бабра купілі, ды сабаку за ваўка забілі, потым лапці разгубілі ды па дварах шукалі: было лапцеў шэсць, а знайшлі сем; потым рака з царкоўнымі званамі сустракалі, потым шчупака з яец сагналі, потым камара за восем вёрст лавіць хадзілі, а камар у пашахонца на носе сядзеў; потым бацьку на сабаку прамянялі, потым блінамі вастрог канапацілі; потым блыху на ланцуг прыкавалі, потым чорта ў салдаты аддалі, потым неба каламі пад-

[1]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", выд. 10-е, Партвыдат ЦК ВКП(б) 1934 г. стар. 324.

[2]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", выд. 10-е, Партвыдат ЦК ВКП(б) 1934 г. стар. 326.

пралі, нарэшце стаміліся і пачалі чакаць што з гэтага выйдзе... Мы галавацяпы! няма за нас на свеце народа мудрэйшага і храбрэйшага! Мы нават косапузых і тых шапкамі закідалі—хваліліся галавацяпы» [1]).

Вось гэта бяссэнсіца, смехатворнае глупства, гульня ў жыццё, пазбаўленая здаровай разважлівасці, адарванасць ад рэальнай рэчаіснасці і кружачая галаву хвальба шчэдрынскіх галавацяпаў характарызавала і некаторых партыйных работнікаў.

Такое перакрыжаванае выкарыстанне двух вобразаў для характарыстыкі адной і той-жа з'явы, па-першае, дае выключна яркі, дакладны і ўсебаковы аналіз з'явы, па-другое, гаворыць аб глыбокім і шырокім веданні таварышам Сталіным мастацкай літаратуры, якое дае магчымасць шпарка адшукваць адпаведныя вобразы і рабіць іх супастаўленне.

У артыкуле «Адказ таварышам калгаснікам» таварыш Сталін зноў варочаецца да вобраза галавацяпаў, уласна кажучы, яшчэ раз падкрэслівае растлумачэнні, якія былі дадзены ў артыкуле «Галавакружэнне ад поспехаў» пры дапамозе гэтага вобраза: «Мы хочам,—піша таварыш Сталін у артыкуле «Адказ таварышам калгаснікам»,—каб людзі, дапусціўшыя памылкі і скажэнні, адступілі ад сваіх памылак. Мы хочам, каб галавацяпы адступілі ад свайго галавацяпства на пазіцыі ленінізма. Мы хочам гэтага, бо толькі пры гэтай умове можна будзе прадаўжаць сапраўднае наступленне на нашых класавых ворагаў. Ці значыць гэта, што мы робім ход назад? Вядома, не! Гэта значыць толькі тое, што мы хочам весці правільнае наступленне, а не галавацяпскую гульню ў наступленне.» [2])

Іншы раз даволі выклікаць у памяці яркае карціннае ўяўленне, каб поўнасцю развянчаць пэўную шкодную палітыку, якая мае месца ў сучаснасці. Напрыклад, у дакладзе на Першай усесаюзнай канферэнцыі работнікаў соцыялістычнай прамысловасці ў 1931 годзе «Аб задачах гаспадарнікаў» таварыш Сталін, спыняючыся на пытанні аб тым, што некаторыя гаспадарнікі не ўмеюць па-сапраўднаму кіраваць вытворчасцю, няправільна разумеюць пытанні кіраўніцтва, высмейвае іх, звяртаючыся да сатыры Шчэдрына: «Што значыць кіраваць вытворчасцю? У нас не заўсёды глядзяць па-большэвіцку на пытанне аб кіраўніцтве прадпрыемствам. У нас нярэдка думаюць, што кіраваць—гэта значыць падпісваць паперы. Гэта сумна, але гэта факт. Іншы раз мімаволі ўспамінаеш пампадураў Шчэдрына. Памятаеце, як пампадурша навучала маладога пампадура: не ламай галаву над навукай, не ўваходзь у справу, няхай другія займаюцца гэтым, не твая гэта справа: твая справа кіраваць, падпісваць паперы. Трэба прызнаць, на сорам наш, што і сярод нас, большэвікоў, ёсць не мала такіх, якія кіруюць шляхам падпісвання папер. А вось каб уваходзіць у справу, аўладаць тэхнікай, стаць гаспадаром справы, на гэты конт—ні-ні».

Як магло здарыцца, што мы, большэвікі, якія прарабілі тры рэволюцыі, выйшлі з перамогай з жорсткай грамадзянскай вайны,

[1]) *М. Е. Салтыкоў-Шчэдрын*, творы ОГІЗ-ГІХЛ, 1933 г. стар. 36—37.
[2]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", 10-е выд. Партвыдат ЦК ВКП(б) 1934 г. стар. 336.

якія вырашылі буйнейшую задачу стварэння прамысловасці, павярнулі сялянства на шлях соцыялізма,—як магло здарыцца, што ў справе кіраўніцтва вытворчасцю мы пасуем перад паперкай?

Прычына тут заключаецца ў тым, што падпісваць паперу лягчэй, чым кіраваць вытворчасцю. І вось многія гаспадарнікі пайшлі па лініі найменшага супраціўлення.»[1])

Сіла сатырычнага параўнання да такой ступені пераканаўча, што таварыш Сталін абмяжоўваецца толькі гэтым параўнаннем, пераходзячы далей да наступнага пытання.

Мастацкі вобраз, створаны класікамі літаратуры, дапамагае ярчэй вылучыць асноўнае, падкрэсліць мысль навочным паказам, матэрыялізіраваць мысль, раскрыць яе ў вобразе, у карціне. Сіла такога метада раскрыцця заключаецца яшчэ і ў тым, што, выкрышталізоўваючы мысль карцінным паказам, у чытача ці слухача паўстае ў памяці знаёмы, даўно вядомы і зразумелы вобраз.

Цікава адзначыць, што гутарачы з замежнай рабочай дэлегацыяй, у якой найбольшая колькасць была французскіх рабочых, таварыш Сталін звяртаецца да мастацкіх вобразаў з французскай літаратуры, дасягаючы гэтым асаблівага эфекта. Адказваючы на пытанне «Якія вашы адносіны да апазіцыі і напрамку Рут—Фішэр—Маслоў у Германії?» таварыш Сталін сказаў: «Мае адносіны да апазіцыі і да яе агентуры ў Германії такія-ж, як адносіны вядомага французскага раманіста Альфонса Додэ да Тартарэна з Тараскона. *(Вясёлае ажыўленне сярод дэлегатаў).* Вы, мусіць чыталі гэты славуты раман Альфонса Додэ аб Тартарэне з Тараскона. Герой гэтага рамана Тартарэн быў, па сутнасці справы, звычайны «добры» дробны буржуа. Але фантазія была ў яго такая імклівая, а здольнасць «хлусіць добрадушна» была развіта да таго, што ён аказаўся ў канцы канцоў афярай гэтых незаўрадных здольнасцей. Тартарэн хвастаўся, упэўніваючы ўсіх, што ён забіў у гарах Атласа безліч львоў і тыграў. Лёгкаверныя прыяцелі Тартарэна ўзвялі яго за гэта ў годнасць першага ў свеце паляўнічага на львоў. А між тым Альфонс Додэ ведаў напэўна, таксама як і сам Тартарэн ведаў напэўна, што Тартарэн ніколі не бачыў у вочы ні львоў, ні тыграў. Тартарэн хвастаўся, упэўніваючы ўсіх, што ён падняўся на Манблан. Яго лёгкаверныя прыяцелі ўзвялі яго за гэта ў годнасць першага ў свеце альпініста. А між тым Альфонс Додэ ведаў напэўна, што ніякага Манблана Тартарэн не бачыў ніколі, бо ён усяго-на-ўсяго пабываў ля падножжа Манблана. Тартарэн хвастаўся і ўпэўніваў усіх, што ён заснаваў вялікую калонію ў краіне, далёкай ад Францыі. Лёгкаверныя прыяцелі ўзвялі яго за гэта ў годнасць першага ў свеце каланізатара. А між тым Альфонс Додэ ведаў напэўна, таксама, як і сам Тартарэн павінен быў прызнаць, што нічога, акрамя канфузу, не магло атрымацца з фантастычных задей Тартарэна.

Вы ведаеце, да якога канфузу і скандалу для тартарэнцаў прывяло фантастычнае хвастаўство Тартарэна.

---

[1]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", 10-е выд. Партвыдат ЦК ВКП(б) 1934 г. стар. 443.

Я думаю, што такім-жа канфузам і скандалам для апазіцыі павінна скончыцца хвастаўлівая шуміха лідэраў апазіцыі, паднятая імі ў Маскве і ў Берліне». *(Агульны смех)*.

Такое выключна майстэрскае і асабліва ўдалае, дарэчы скарыстанае параўнанне адточаным лязом смеху забіла ў вачах замежных рабочых гэтых апазіцыянераў.

Як нельга лепш накіраваў таварыш Сталін завостраныя стрэлы гогалеўскага смеху на буржуазных крытыкаў нашай Канстытуцыі, якія енчаць на розныя галасы: «Большэвікі хістануліся ўправа».

«Што можна сказаць аб гэтых, з дазволу сказаць, крытыках?»— пытаецца таварыш Сталін і дае адказ:

«Калі пашырэнне базы дыктатуры рабочага класа і ператварэнне дыктатуры ў больш глыбокую, значыцца,—больш магутную сістэму дзяржаўнага кіраўніцтва грамадствам трактуецца імі не як узмацненне дыктатуры рабочага класа, а як яе паслабленне ці нават як адмаўленне ад яе, дык дазволена будзе запытацца: а ці ведаюць наогул гэтыя паны—што такое дыктатура рабочага класа?

«Калі законадаўчае замацаванне перамогі соцыялізма, законадаўчае замацаванне поспехаў індустрыялізацыі, калектывізацыі і дэмакратызацыі называецца ў іх «зрухам управа», то дазваліцельна запытацца: а ці ведаюць наогул гэтыя паны—чым адрозніваецца левае ад правага? *(Агульны смех, апладысменты)*.

Не можа быць сумнення, што гэтыя паны канчаткова заблыталіся ў сваёй крытыцы праекта Канстытуцыі і, заблытаўшыся, параблыталі правае з левым.

Нельга не прыгадаць з гэтага выпадку дваравую «дзяўчынку» Палагею з «Мёртвых душ» Гогаля. Яна, як расказвае Гогаль, узялася неяк паказаць дарогу фурману Чычыкава Селіфану, але, не здолеўшы адрозніць правы бок дарогі ад левага яе боку, заблыталася і трапіла ў няёмкае становішча. Трэба прызнаць, што нашы крытыкі з польскіх газет, не гледзячы на сваю амбіцыю, усё-ж недалёка адышлі ад узроўню разумення Палагеі, дваравой «дзяўчынкі» з «Мёртвых душ». *(Апладысменты)*. Калі прыгадаеце, фурман Селіфан палічыў патрэбным ушчуніць Палагею за змешванне правага з левым, сказаўшы ёй: «Эх ты, чорнаногая, не ведаеш, дзе права, дзе лева». Мне здаецца, што варта было-б зрабіць заўвагу нашым незадачлівым крытыкам, сказаўшы ім: «Эх вы, гора-крытыкі, не ведаеце дзе права, дзе лева. *(Працяглыя апладысменты)*».

Смехатворная непісьменнасць гэтых паноў крытыкаў пры дапамозе гогалеўскага вобраза ўстала перад усім светам з гранічнай навочнасцю, выклікаўшы іранічную ўсмешку, якая застанецца адвечным спадарожнікам крытычных недавучак. Нават трэцестуленны гогалеўскі вобраз, пры ўмелым скарыстанні яго, мог набыць такую велізарную значымасць.

Яшчэ мацней высмеяў таварыш Сталін тых «крытыкаў» Савецкай Канстытуцыі, якія нясуць усякую бязглуздзіцу, злосна шчоўкаючы гнілымі зубамі вакол непрыступных граніц цвітучай краіны сапраўднага чалавечага шчасця. Яны заяўлялі, што «СССР не з'яўляецца дзяржавай, што СССР прадстаўляе ні што іншае, як дакладна акрэсліваемае геаграфічнае паняцце *(агульны смех)*, што Кансты-

туцыя СССР не можа быць з гэтай прычыны прызнана сапраўднай канстытуцыяй.

Што можна сказаць аб такіх, з дазволу сказаць, крытыках?

У адным з сваіх казак-апавяданняў вялікі рускі пісьменнік Шчэдрын дае тып бюракрата-самадура, вельмі абмежаванага і тупога, але надзвычайна самаўпэўненага і стараннага. Пасля таго, як гэты бюракрат навёў у «даручанай» яму вобласці «парадак і цішыню», зьнішчыўшы тысячы жыхароў і спаліўшы дзесяткі гарадоў, ён азірнуўся навакол і заўважыў на даляглядзе Амерыку, краіну, канешне, мала вядомую, дзе ёсць, аказваецца, нейкія свабоды, што бянтэжаць народ, і дзе дзяржавай кіруюць іншымі метадамі. Бюракрат заўважыў Амерыку і абурыўся: што гэта за краіна, адкуль яна ўзялася, на якой-такой падставе яна існуе? *(Агульны смех, апладысменты)*. Канешне, яе выпадкова адкрылі некалькі вякоў таму назад, але хіба нельга яе зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? *(Агульны смех)*. І сказаўшы гэта, палажыў рэзалюцыю: «Закрыць зноў Амерыку!» *(Агульны смех)*.

Далей таварыш Сталін гаворыць, што гэтыя крытыкі «як дзве каплі вады падобны на шчэдрынскага бюракрата. *(Агульны смех, адабрыцельныя апладысменты)*. Гэтым панам СССР даўно ўжо намазоліў вочы. Дзевятнаццаць год стаіць СССР як маяк, заражаючы духам вызвалення рабочы клас усяго свету і выклікаючы шаленства ў ворагаў рабочага класа. І ён, гэты СССР, аказваецца, не толькі проста існуе, але нават расце. І не толькі расце, але нават мае поспехі, і не толькі мае поспехі, але нават стварае праект новай Канстытуцыі, праект, які ўзбуджае розумы, усяляе новыя надзеі прыгнечаным класам. *(Апладысменты)*... Што гэта за краіна, енчаць яны, на якой-такой падставе яна існуе *(агульны смех)*, і калі яе адкрылі ў кастрычніку 1917 года, то чаму нельга яе зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? І сказаўшы гэта, пастанавілі закрыць зноў СССР, абвясціць на ўвесь голас, што СССР, як дзяржава, не існуе, што СССР ёсць не што іншае, як простае геаграфічнае паняцце! *(Агульны смех)*.

Кладучы рэзалюцыю аб тым, каб закрыць зноў Амерыку, шчэдрынскі бюракрат, не гледзячы на ўсю сваю тупасць, усё-ж знайшоў у сабе элементы разумення рэальнага, сказаўшы тут-жа сам сабе: «Але, здаецца, гэта ад мяне не залежыць». *(Выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты)*.

Але ці хопіць розуму ў сучасных імперыялістычных тупіц «здагадацца», што «закрыць» на паперы тую ці іншую дзяржаву яны, канешне, могуць, але калі гаварыць сур'ёзна, то гэта «ад іх не залежыць». *(Выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты* [1]*)*.

Словы Салтыкова-Шчэдрына, прыведзеныя таварышам Сталіным— «гэта ад іх не залежыць»—зрабіліся пагаворкай, увайшлі ў скарбніцу народнай мудрасці.

Некаторыя буржуазныя даследчыкі спрабавалі давесці, што сатыра Шчэдрына была накіравана на паасобныя недахопы царскай

[1] *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", выд. XI, ОГІЗ Дзяржвыдат Палітычнай літаратуры, 1939 г. стар. 519—520.

рэчаіснасці, што яна бічавала адзінкавыя праявы недасканалага царскага дзяржаўнага апарата. Таварыш Сталін неабвяргальна давёў, што Салтыкоў-Шчэдрын бічаваў не дробныя, не хуткапраходзячыя рысы царскай бюракратыі пэўнага гістарычнага перыяду, а глыбокія, асноўныя тыповыя рысы кіруючага эксплаататарскага рэакцыйнага класа, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. Таварыш Сталін поўнасцю раскрыў вялікую абагульняючую сілу шчэдрынскай сатыры. І так, выкарыстаны таварышам Сталіным шчэдрынскі вобраз не толькі мае значэнне вострай зброі,—з данага выкарыстання мастацкага вобраза выцякае яшчэ і другое выключна важнае літаратуразнаўчае метадалагічнае значэнне.

Асаблівую цікавасць для літаратуразнаўства прадстаўляе выкарыстанне таварышам Сталіным цытаты з паэмы Некрасава «Каму на Русі жыць добра». Таварыш Сталін гаварыў, што царскую Расію часта білі драпежнікі сусветнага феадалізма і капіталізма: «Білі мангольскія ханы. Білі турэцкія бекі. Білі шведскія феадалы. Білі польска-літоўскія паны. Білі англа-французскія капіталісты. Білі японскія бароны. Білі усе—за адсталасць. За адсталасць вайсковую, за адсталасць культурную, за адсталасць дзяржаўную, за адсталасць прамысловую, за адсталасць сельскагаспадарчую. Білі таму, што гэта было даходна і сыходзіла беспакарана. Памятаеце словы дарэвалюцыйнага паэта «Ты и убогая, ты и обильная, ты и могучая, ты и бессильная, матушка Русь». Гэтыя словы старога паэта добра вывучылі гэтыя паны. Яны білі і прыгаварвалі: «Ты обильная»—значыцца, можна на твой конт пажывіцца. Яны білі і прыгаварвалі: «ты убогая, бессильная»—Значыцца можна біць і грабіць цябе беспакарана. Такі ўжо закон эксплаататараў—біць адсталых і слабых. Воўчы закон капіталізма. Ты адстаў, ты слабы—значыць ты не ў правах, значыць цябе можна біць і парабашчаць. Ты магутны—значыць ты ў правах, значыць, цябе трэба засцерагацца.

Вось чаму нельга нам больш адставаць.»[1])

Таварыш Сталін ускрыў глыбокую філасофскую мысль, укладзеную паэтам у славутыя паэтычныя радкі.

«Ты обильная» сваімі прыроднымі багаццямі; «Ты убогая, бессильная», бо кіравалі краінай памешчыкі і цары, якія не клапаціліся аб інтарэсах народа, яны не ўмацоўвалі дзяржавы для абароны народа ад інтэрвентаў, наадварот, узмацнялі дзяржаву ў напрамку больш зручнага грабяжу народа, умацоўвалі для таго, каб трымаць народ у голадзе, холадзе і, галоўнае, у пакорлівасці і паслухмянстве перад памешчыцкай і капіталістычнай эксплаатацыяй. «Ты могучая» багатырскай сілай вялікага народа, яго невычарпальнымі магутнымі крыніцамі творчай энергіі.

Такая дыялектыка сутнасці царскай Расіі. Прыгледзьцеся ўважліва да гісторыі царскай Расіі і вы ўбачыце, што самадзяржаўе з сваім дзяржаўным апаратам амаль заўсёды аказвалася бяссільным перад нападам звонку. Вораг пераходзіў граніцы і грабіў насель-

---

[1]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма", 10-е выд. Партвыдат ЦК ВКП(б), 1934 г. стар. 445.

ніцтва. І вось тады на абарону сваёй зямлі падымаўся вялікі і магутны народ рускі, вылучаў з свайго асяроддзя геніяльных палкаводцаў і бязлітасна граміў полчышчы іншакраінных гвалтаўнікоў. Так было і з мангольскімі ханамі, якіх разграміў народ на Кулікоўскім полі ў 1380 годзе; так было і з турэцкімі бекамі, якіх не раз гналі да канстантынопальскіх сцен; так было і з шведскімі феадаламі, разгромленымі пад Палтаваю ў 1709 годзе; так было і з французскімі інтэрвентамі, якіх у 1812 годзе выгнаў народ з сваёй зямлі; так было і з польскімі панамі, якім не раз прыходзілася, трацячы золатам шытыя штаны, без аглядкі ўцякаць ад рускага і украінскага народа да самай Варшавы, не раз рускі і украінскі народ да аднаго знішчаў полчышчы ганарлівай шляхты. Але гэта быў народ, а не царская Расія, якую, як гаворыць таварыш Сталін, заўсёды білі за адсталасць.

Такое супярэчлівае адзінства складала сутнасць царскай Расіі, увасобленае паэтам у сціслай паэтычнай формуле і геніяльна ўскрытае пры аналізе таварыша Сталіна.

Уладзімір Ільіч Ленін таксама звяртаўся да гэтай некрасаўскай формулы, характарызуючы супярэчлівасць поглядаў Льва Талстога у артыкуле «Леў Талстой, як люстра рускай рэвалюцыі».

Іншы раз некаторыя літаратуразнаўцы, не ўмеючы разабрацца ў філасофскай накіраванасці мастацкага твору ці паасобнага вобраза, прыходзяць да дзіўных вывадаў, якія ні ў якой меры не адпавядаюць сапраўднаму становішчу рэчаў. Асабліва многа выказана супярэчлівых думак пры аналізе твора Сервантэса «Дон Кіхот». Нават такі вядомы дзеяч і літаратуразнаўца, як Анатоль Васільевіч Луначарскі і той, узяўшы адну, далёка не вядучую рысу ў вобразе Дон-Кіхота, абвясціў: «У нашым рэвалюцыйным асяроддзі і Дон-Кіхоты і Санчо-Пансо з'яўляюцца вельмі пажаданымі тыпамі і робяцца сапраўднымі барацьбітамі за будучыню». [1])

Узоры глыбокага, пранікнёнага філасофскага аналіза літаратурных з'яў поруч са службовым выкарыстаннем мастацкага вобраза дае таварыш Сталін. Мы ўжо бачылі, як на падставе ўсебаковага вывучэння літаратурнай з'явы, таварыш Сталін робіць адзіна правільны і ярка сфармуліраваны вывад.

У справаздачным дакладзе на XVII З'ездзе партыі таварыш Сталін гаварыў: «Прышлося перамагчы, далей, забабоны іншага роду. Гутарка ідзе аб лявацкай балбатні, якая мае хаджэнне сярод адной часткі нашых работнікаў, аб тым, што савецкі гандаль з'яўляецца нібы пройдзенай стадыяй, што нам трэба наладзіць прамы прадуктаабмен, што грошы будуць хутка скасаваны, бо яны ператварыліся нібы ў простыя разліковыя знакі, што не трэба развіваць гандаль, калі ў дзверы стукаецца прамы прадуктаабмен. Трэба адзначыць, што гэтая лявацка-дробнабуржуазная балбатня, іграючая на руку капіталістычным элементам, якія імкнуцца сарваць разгортванне савецкага гандлю, мае хаджэнне не толькі сярод адной часткі чырвоных прафесароў, але і сярод некаторых работнікаў

[1]) *А. В. Луначарскі*, „Гісторыя заходня-еўрапейскай літаратуры", Дзяржвыдавецтва, 1930 г. ч. I, стар. 177.

гандлю. Вядома, смешна і забаўна, што гэтыя людзі, няздольныя наладзіць самую простую справу савецкага гандлю, балбочуць аб сваёй гатоўнасці наладзіць больш складаную і цяжкую справу прамога прадуктаабмена. Але Дон-Кіхоты таму і называюцца Дон-Кіхотамі, што яны пазбаўлены элементарнага адчування жыцця. Гэтыя людзі, якія таксама далёкі ад марксізма, як неба ад зямлі, відавочна, не разумеюць, што грошы застануцца ў нас яшчэ доўга, аж да завяршэння першай стадыі комунізма.» [1])

Ітак, асноўнае вызначэнне вобраза Дон-Кіхота—гэта адарванасць яго ад рэальнай глебы, гэта страта самага элементарнага адчування гістарычнасці і жывой рэчаіснасці, гэта—неразуменне акружэння, ігнарыраванне данага моманта, а ўсё гэта разам узятае прыводзіць да смешных дзеянняў, пазбаўленых здаровага сэнсу. І калі Дон-Кіхот Сервантэса, страціўшы пачуццё рэчаіснасці, ваюе з ветранымі млынамі, дык ад гэтага мала клопатаў, а вось калі дзеянні Дон-Кіхота пераносяцца на соцыяльнае жыццё, дык гэта ўжо шкодна.

Звяртаючыся да антычнай міфалогіі, таварыш Сталін адшукаў там асабліва яркі вобраз для свайго параўнання, ад якога так проста і ясна асветлілася пытанне аб узаемаадносінах народа і большэвіцкай партыі, да такой ступені проста і ясна асветлілася, што зрабілася проста такі адчувальным:

«Сувязь з масамі,—гаворыць таварыш Сталін у заключным слове на пленуме ЦК ВКП(б) ад 3—5 сакавіка 1937 года,—умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас—вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва.

Можна прызнаць, як правіла, што пакуль большэвікі захоўваюць сувязь з шырокімі масамі народа, яны будуць непераможнымі і, наадварот, варта большэвікам адарвацца ад мас і страціць сувязь з імі, варта ім пакрыцца бюракратычнай іржой, каб яны пазбавіліся ўсякай сілы і ператварыліся ў пустышку.

У старажытных грэкаў у сістэме іх міфалогіі быў адзін славуты герой—Антэй, які быў, як апавядае міфалогія, сынам Пасейдона—бога мораў і Геі—багіні зямлі. Ён выказваў асаблівую прывязанасць да сваёй маці, якая яго нарадзіла, выкарміла і выхавала. Не было такога героя, якога-б ён не перамог, гэты Антэй. Ён лічыўся непераможным героем. У чым заключалася яго сіла? Яна заключалася ў тым, што кожны раз, калі яму ў барацьбе з праціўнікам рабілася туга, ён дакранаўся да зямлі, сваёй маці, якая нарадзіла і выкарміла яго, і атрымліваў новую сілу. Але ў яго было ўсё-ж сваё слабае месца—гэта небяспека быць якім-небудзь чынам адарваным ад зямлі. Ворагі ўлічвалі яго слабасць і падпільноўвалі яго. І вось знайшоўся вораг, які выкарыстаў гэту яго слабасць і перамог яго. Гэта быў Геркулес. Але як ён яго перамог? Ён адарваў яго ад зямлі, падняў у паветра, адабраў у яго магчымасць дакрануцца да зямлі і задушыў яго такім чынам у паветры.

Я думаю, што большэвікі нагадваюць нам героя грэчаскай міфалогіі Антэя. Яны таксама, як і Антэй, моцныя тым, што трымаюць

---

[1]) *І. Сталін*, „Пытанні ленінізма“, выд. XI, ОГІЗ, Дзяржвыдат. палітычнай літаратуры, 1939 г. стар. 462.

сувязь са сваёй мацерaю, з масамі, якія нарадзілі, выкармілі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацераю, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб застацца непераможнымі.

У гэтым ключ непераможнасці бальшэвіцкага кіраўніцтва».[1])

У працах таварыша Сталіна сіла мастацкага вобраза падвойваецца яшчэ і таму, што таварыш Сталін заўсёды дае шырокае растлумачэнне, трактоўку вобраза. Таварыш Сталін пераказвае вельмі сціслa і гранічна зразумела сэнс вобраза, выкарыстанага ў даным выпадку. І ў чытача ці слухача ярчэй аднаўляецца ў памяці карціна з некалі прачытанай кнігі, а для тых, хто яе не чытаў, робяцца зразумелымі сэнс і сіла выкарыстанага вобраза. Гэта асаблівасць, уласцівая толькі Леніну і Сталіну, мае велізарнае значэнне і характарызуе класічна выразны, кавана-чоткі і крыштальна-празрысты стыль прац вялікіх правадыроў працоўных усяго свету.

З прыведзенага намі аналіза відаць, якое каласальнае значэнне мае вывучэнне метадаў выкарыстання Леніным і Сталіным мастацкіх вобразаў сусветнай літаратуры.

Сілаю мастацкага вобраза, па-майстэрску ўжытага, Ленін і Сталін наносяць смяротныя ўдары ворагам народа, сілаю мастацкага вобраза яны больш выразна, больш рэльефна раскрываюць пэўную мысль, сваім выкарыстаннем мастацкіх вобразаў класічнай сусветнай літаратуры яны даюць багаты навуковы матэрыял для мастацтвазнаўства, для правільнага разумення літаратурных з'яў.

---

[1]) *І. Сталін*, „Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў“, даклад і заключнае слова на пленуме ЦК ВКП(б) 3—5 сакавіка 1937 г., Партвыдат ЦК ВКП(б), 1937 г. стар. 43—47.

*В. Барысенка*

# ВОБРАЗ ВЯЛІКАГА ПРАВАДЫРА У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Табе—наша радасць, любоў і адданасць.
Табе—пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'еднаны,
Ты наша жыццё—дарагі правадыр".

*(З пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну)*

I

На савецкай, сонечнай зямлі воляю народа назаўсёды ўмацавана царства свабоды і шчасця. Магутная і непераможная савецкая радзіма. Непарушна і моцна вялікая дружба народаў Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Велізарны і грандыёзны поспехі і перамогі савецкага народа ў барацьбе за соцыялізм.

З іменамі Леніна і Сталіна свабодныя народы Савецкага Саюза звязваюць сваё вызваленне ад векавога рабства і эксплаатацыі, сваё насычанае творчай працай і гераічнымі справамі новае, поўнакроўнае жыццё, свае бліскучыя дасягненні на шляху да ззяючых вяршынь чалавечага шчасця—да комунізма.

У свядомасць і сэрца савецкага народа і ўсяго працоўнага чалавецтва вобраз Сталіна ўвайшоў як вобраз найвялікшага чалавека свету, страснага барацьбіта супроць насілля і зла, як вобраз бліжэйшага друга і саратніка Леніна і непахіснага прадаўжальніка яго рэволюцыйнай справы, правадыра партыі большэвікоў, натхніцеля і арганізатара найвялікшых перамог соцыялізма, мудрага настаўніка, клапатлівага бацькі, чулага друга, геніяльнага кіраўніка працоўных усяго свету.

Невымеральна глыбока любоў, бязмежна адданасць працоўнага чалавецтва да таварыша Сталіна. Да яго, вернага сына працоўнага народа, дастойнейшага з дастойных, накіраваны светлыя думкі, самыя шчырыя пачуцці магутнага савецкага народа і працоўных мас капіталістычных краін.

Па шырокіх, бяскрайніх прасторах соцыялістычнай краіны—у гарадах і мястэчках, вёсках і сёлах, кішлаках і аулах звонка гучаць простыя і задушэўныя песні савецкага чалавека пра таго, хто з'яўляецца самым дарагім і блізкім сэрцу вольнага тружаніка савецкай зямлі—пра Сталіна.

Стовасьмідзесяцітрохмільённы народ, яго лепшыя спевакі і

паэты, складаюць пафасныя гімны і песні ва славу свайго любімага, свайго мудрага Сталіна.

Беларус радасна спявае:

Нас вядзе таварыш Сталін
За сабою ўпярод,
Каб заможна жыць мы сталі
І шчаслівым быў народ.
Добра жыць нам, а за гэта
Любім песні мы спяваць,
Жыццё ў красках і букетах
Толькі Сталін змог нам даць.

А ў сваёй цудоўнай па думцы і форме быліне-сказе беларускі народ апавядае пра свайго бацьку і друга:

Гэта Сталін наш—ясны свет-зара—
Асвяціў з Крэмля цемру вечную.
Дзе балоты былі ды зыбучыя,
Дзе лясы былі ды драмучыя,
Там дарога лягла ды жалезная
Ў шырокая, як струна-прама.
Ды не простая та дарожанька—
Гэта ленінскі большэвіцкі шлях,
Па каторым вядзе Сталін родны наш
У шчаслівае жыццё светлае.
Знае ён усе нашы думанькі.
Канстытуцыю ды і Сталінскую
Напісаў ён рукой сваёй Ленінскай.
Як садоўнік ён даглядае сад,
А дзе сад цвіце—усе рэспублікі.

Казахскі народ вуснамі народнага песняра Джамбула спявае аб сваім шчасці.

И песню лучшую мою
О Сталине я пропою,
Её со мною запоет
Счастливый мой народ.
Ты, Сталин,—солнце наших дней,
Ты всех дороже и родней,
Тебе несем тепло сердец,
Мудрейший наш отец...

У адыгейскай песні пра Сталіна спяваецца:

Родина счастьем, как небом, покрыта,
И Сталин, как солнце, сияет для нас.
Он нашу нужду и мечту понимает,
Когда тебе трудно—он даст совет.
Он в битву ведет и в труде помогает,
И мыслью своей озаряет свет,
Слово вождя освещает дали,
Оно пролетает огнем по горам.
Пусть вечно живет драгоценный Сталин
На радость друзьям и на страх врагам.

Украінскі народ у адной з лірычных песняў спявае:

Світить місяць, світить ясный
Мов з ким розмовляє,
Кругом його ясні зорі
Як золотом сяюць.

То не місяць ясний світить,
То наш батько Сталін,
Він вбив горе і усі ми
Щасливими стали.
То-ж не зорі ясні сяють,
То-ж наші там долі,
Що вирвались із темряви
З тяжкої неволі.

Пра Сталіна складаюцца і пяюцца на шматлікіх мовах народаў Савецкага Саюза самыя рознастайныя песні, але ўсе яны прасякнуты агульнымі—і для рускага і украінца, беларуса і яўрэя, таджыка і калмыка—пачуццямі гарачай любві і адданасці да таварыша Сталіна.

Пра Леніна і Сталіна створана надзвычай многа празаічных і паэтычных мастацкіх твораў. Няма ніводнага народа—вялікага або малога—у сям'і народаў Савецкага Саюза, у вусна-паэтычнай скарбніцы якога-б не знайшлі свайго мастацкага адлюстравання вобразы найвялікшых людзей сусветнай гісторыі Леніна і Сталіна, як няма ніводнага савецкага паэта і пісьменніка, творчую свядомасць і ўяўленне якога не хвалявала-б тэма аб вялікіх правадырах Леніне і Сталіне.

Савецкі фальклор, як і самая перадавая ў свеце сацыялістычная, савецкая літаратура не мыслімы без вобразаў Леніна і Сталіна, як не мыслім жывы чалавек без сэрца і мозгу. Масавасць—адна з істотнейшых асаблівасцей фальклорных і літаратурна-паэтычных твораў пра Леніна і Сталіна.

Мастацкія творы рознастайных відаў пра геніяльных людзей чалавецтва ствараюцца не толькі прафесіяналамі паэтамі і пісьменнікамі, народнымі песнярамі і сказіцелямі, а і перадавымі рабочымі, калгаснікамі, чырвонаармейцамі, настаўнікамі, студэнтамі і многімі, многімі савецкімі людзьмі.

Вось чаму так невычарпальна багаты і шматгранны паэтычныя вобразы Леніна і Сталіна.

Беларускі народ, побач з другімі народамі нашай сонечнай краіны ўнёс значны і каштоўны ўклад у агульны фонд паэтычнай скарбніцы аб Леніне і Сталіне.

Мастацка-адароны беларускі народ за годы савецкай улады стварыў багаты фальклор, значнае месца ў якім займае ленінска-сталінскі эпас. У чароўных казках, былінах, сказах, песнях, гераічных паэмах, частушках, мудрых пагаворках і іншых фальклорных жанрах беларускі народ стварыў вялікай паэтычнай сілы і сацыяльна-гістарычнага абагульнення вобразы няўміручых геніяў Леніна і Сталіна.

Такія цудоўныя творы сучаснага беларускага фальклора як казкі «Чалавек-Сонца», «Ленінская праўда», «Цьма і Свет», многія песні і сказы сталі здабыткам шырокіх мас нашай радзімы і перакладзены на мовы брацкіх народаў.

Вобразы Леніна і Сталіна—адна з самых складаных і адказных тэм усёй нашай сацыялістычнай літаратуры. Вобразы Леніна і Сталіна ўзбуджалі, узбуджаюць і будуць заўсёды ўзбуджаць

творчую свядомасць майстроў мастацкага слова, як і творчую свядомасць народаў усяго света.

Мы не можам сказаць, што ў совецкай літаратуры іспалінскія вобразы Леніна і Сталіна знайшлі ўжо сваё патрэбнае глыбокае і канкрэтнае адлюстраванне. Не, далёка не! І на сёнешні дзень совецкі народ ад сваёй соцыялістычнай літаратуры патрабуе непараўнальна больш, чым ёю створана на гэту тэму—адну з самых паэтычных тэм, якія толькі ведала мастацкая літаратура ўсіх вякоў і народаў.

І пры ўсім гэтым неабходна заўважыць і падкрэсліць, што ў справе мастацкага вырашэння гэтай, адной з багацейшых і асноўных тэм нашай сучаснасці, совецкая літаратура ў цэлым, і беларуская літаратура ў прыватнасці, асабліва за апошнія годы мае, бясспрэчна, значныя поспехі.

Пісьменнікі і паэты настойліва і паспяхова працуюць над паглыбленай мастацкай распрацоўкай вобразаў Леніна і Сталіна. Імкнучыся да паўнаты і дасканаласці пры стварэнні вобраза любімага настаўніка і правадыра, пісьменнікі звяртаюцца да фальклора, як да невычарпальнай крыніцы высокіх народных ідэй, манументальных вобразаў, багацця паэтычнай мовы, музычнасці і напеўнасці верша. І таму паэтычная Сталініана звязана жывымі і шматлікімі ніцямі з сучасным фальклорам, з ленінска-сталінскім эпасам.

Вобраз настаўніка чалавецтва ствараецца калектыўнымі намаганнямі ўсіх совецкіх пісьменнікаў.

Лепшыя беларускія паэты і пісьменнікі сумелі мастацкі адлюстраваць у сваіх паэтычных тварэннях некаторыя істотныя рысы дарагога вобліка Сталіна і перадаць думы і пачуцці народныя аб сваім любімцу, другу і правадыру.

Сталін—светач і стваральнік новага, вольнага жыцця. Сталін—крыніца шчасця і радасці. Сталін—сімвал гераічнай барацьбы і слаўных перамог. Сталін—увасабленне мудрасці, непахіснасці і стойкасці, бясстрашша і гераізма, высокай прастаты і скромнасці. Сталін—увасабленне жывога ідэала—соцыялістычнага чалавека. Сталін—сінонім свабоды і святла, розума і харства, праўды і сумлення. Сталін—дастойнейшы з дастойных, адданейшы сын народа, геніяльны сусветны правадыр, друг і настаўнік працоўных усяго свету.

Такім вобраз Сталіна жыве ў уяўленнях, думах і пачуццях беларускага народа, такім абаяльны воблік Сталіна выступае і ў беларускай соцыялістычнай літаратуры.

Творы аб Сталіне цесна і непарыўна звязаны з самымі разнастайнымі тэмамі сучаснасці. Песні совецкіх беларускіх паэтаў аб Сталіне—гэта перш за ўсё песні пра харство і багацце нашага жыцця. Вобраз вялікага кармчага соцыялізма ў творчасці беларускіх паэтаў раскрываецца ў непасрэднай сувязі з паказам жыцця нашай краіны, грандыёзных перамог соцыялізма, роста новага быта, роста соцыялістычнай культуры і новых людзей совецкага грамадства. Вобраз мудрага правадыра заўжды падаецца ў арганічнай

сувязі і адзінстве з жыццём і барацьбою большэвіцкай партыі, усяго нашага народа і працоўных капіталістычнага свету.

У беларускай літаратуры, як і ў літаратуры іншых братніх народаў, вобраз Сталіна побач з вобразам Леніна, стаў цэнтральным і дамініруючым вобразам любімага народнага героя.

Падаючы вобраз правадыра ў поўнай злітнасці з карцінамі жыцця соцыялістычнай радзімы, беларускія пісьменнікі малююць яго ва ўмовах сваёй роднай абстаноўкі, у акружэнні своеасаблівасцей беларускай прыроды.

Найвялікшы геній зямлі—Сталін належыць народам усяго свету.

Беларускай совецкай літаратуры не ўласціва нацыянальная абмежаванасць пры трактоўцы і паэтычнай падачы вобраза Сталіна.

Беларускія паэты і пісьменнікі ўсведамляюць Сталіна як найвялікшага сусветнага рэволюцыянера, геніяльнейшага правадыра працоўных мас усяго свету.

Цікава адзначыць, што ва многіх творах пра Сталіна матывы супроцьстаўлення светлай соцыялістычнай рэчаіснасці змрочным і бязрадасным малюнкам дакастрычніцкай Беларусі выступаюць як асноўныя, кампазіцыйна-арганізуючыя матывы. Тэма супроцьстаўлення старога і новага характэрна не толькі для творчасці дакастрычніцкага пакалення беларускіх літаратараў, такіх заслужаных майстроў мастацкага слова, як Я. Купала, Я. Колас і З. Бядуля. Названая тэма ўласціва многім маладым пісьменнікам— П. Броўку, П. Глебку, А. Куляшову і інш.

Народныя паэты ў стылі сваёй асноўнай паэтычнай традыцыі разгортваюць шырокія, кантрастныя вобразы старога і новага. Я. Купала і Я. Колас майстэрскі зарысоўваюць сумныя карціны мінулага сваёй радзімы—эканамічную і культурную адсталасць Беларусі, жахі соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, жабрацтва і нядолю беларускага народа. З калючай боллю ў сэрцы Я. Купала ў вершы «Табе, правадыр» успамінае горкае мінулае:

Зірнуць-жа на годы, на час той мінулы,
На край, адкуль веяла цемрай, трывогай,
Дзе люд каталі ўраздроб і агулам,
Дзе блукала крыўда ўтаптанай дарогай.
Туман засціláў людзям душы і вочы,
З туманаў тарчалі гарбатыя плечы.
І думаў—канца не дождаць гэтай ночы,
І думаў—не зведаць шляхоў чалавечых.

Народная крыўда і нядоля асабліва выразна выступаюць ва ўсёй сваёй непрыгляднай змрочнасці пры супроцьстаўленні мінулага з сучаснасцю. Асноўныя раздзелы твораў Я. Купалы і Коласа прысвечаны паэтычнаму выяўленню жыцця адроджанага Кастрычнікам беларускага народа і цудоўнаму росквіту Соцыялістычнай Беларусі.

Выразнікі народных ідэй, народныя паэты, з радасцю і захапленнем апавядаюць аб узрушаючых сваёй грандыёзнасцю пераменах, якія адбыліся за годы совецкай улады ў гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці свайго народа і радзімы.

Мастацкі-пераканаўчы, жывы вобраз шчаслівай совецкай Беларусі вырастае з радкоў твораў Купалы і Коласа. Вось гэты акрэс-

лены, рэалістычны вобраз маладой краіны, намаляваны ў вершы Купалы «Табе, правадыр»:

Паўстала радзіма. Замок
Няволі зламала навек,
Надзела з пралесак вянок
Ї слёзы сагнала з павек.
Глядзіш—для яе, маладой,
Ткуць кросны атласы, шаўкі,
Паважнаю ходзіць хадой,
Шуршаць залатыя пяскі.

Параўноўваючы мінулае і сучаснае, Купала і Колас свае ўсхваляваныя ўзрокі, лепшыя думы і пачуцці накіроўваюць да таго, хто даў сапраўднае жыццё і паўнату чалавечага шчасця беларускаму народу, да тав. Сталіна.

Росквіт краіны звязваецца ў свядомасці беларускіх паэтаў з творчым геніем лепшага друга беларускага народа—тав. Сталіна. У беларускай паэзіі шматгранны вобраз Сталіна зазвычай разгортваецца на шырокім соцыяльным фоне бурнага і поўнакроўнага жыцця Савецкай Беларусі і краіны соцыялізма ў цэлым, на фоне квяцістага, шматфарбнага пейзажа беларускай прыроды.

Сусветная гісторыя паставіла побач з імем Леніна імя Сталіна. Два вялікіх і бессмяротных вобразы Леніна і Сталіна ў беларускай літаратуры падаюцца заўжды ў непарыўнай сувязі і еднасці. Сталін—вярнейшы і любімейшы вучань Леніна, непахісны і геніяльны прадаўжальнік ленінскай рэволюцыйнай справы.

У паэме П. Глебкі «Мужнасць» нарысавана карціна народнага гора з прычыны смерці Уладзіміра Ільіча і мастацкі выражана непахісная ўпэўненасць народа ў бессмяротнасці справы Леніна. У паэме на фоне паасобных замалёвак грандыёзных перамог соцыялізма выступае лірычны вобраз Сталіна, як выпрабаванага прадаўжальніка спраў свайго настаўніка—Леніна. Упэўнена і ўрачыста гучаць словы паэта пра вялікага кормчага соцыялізма.

... І мы ніколі не прыстанем—
ні ў цяжкай працы,
ні ў хадзе,
бо з намі наш любімы Сталін,
бо з намі партыя ідзе,
бо чуем кожнае імгненне
і кожнай кропляю крыві—
вялікі і магутны Ленін
сярод жывых
ідзе жывы.

Вялікі мастак слова Анры Барбюс пра Сталіна сказаў: «Ні ў кім так не ўвасоблены мысль і словы Леніна, як у Сталіне, Сталін гэта Ленін сёння». Глыбачайшая ідэя: Сталін—Ленін сёння палажана ў аснову многіх твораў беларускай паэзіі пра Сталіна.

У вершы «Жывому Леніну» М. Аўрамчык, малады пісьменнік, паэтычна раскрывае гістарычную праўдзівасць барбюсаўскага афарызма. Угледаючыся ў новае жыццё, паэт у канкрэтных з'явах нашай рэчаіснасці бачыць выражэнне бяссмертнасці ленінскай справы. Ленін жывы і жыве сярод нас, бо Ленін сёння—гэта Сталін. У Сталіне працягвае сваё духоўнае існаванне Ленін—такая ідэя

аўтара, што вызначае змест усяго твора. З шчырасцю гаворыць паэт аб Сталіне, як прадаўжальніку і прэемніку Леніна. Адданасцю светлай памяці Леніна пранікнуты верш у цэлым і наступныя дзве строфы ў асаблівасці:

Ці горадам ідзеш, ці нашым полем—
Сярод вясёлых радасных людзей,—
Любімы Сталін наш з табою поплеч,
З табою поруч па зямлі ідзе.
Ён—гэта ты, наш неўміручы геній,
Ён наш бясстрашны штурман рулявы,
Дзе ён ідзе, там ты, наш бацька Ленін,
Там ты ідзеш жывым сярод жывых!

Лірычны верш А. Жаўрука «Жывы Ленін» па сваёй тэматыцы блізкі вершу Аўрамчыка і аналагічны яму па ідэйнай накіраванасці. Асноўны сэнс твора выражаны ў наступных радках:

І ў тое светлае імгненне
Я зноў, мой брат, у мільённы раз
Адчуў, што ў ім вялікі Ленін
Жыве па даўняму між нас.

У беларускай літаратуры Сталін перш за ўсё выступае як найвялікшы правадыр сусветнай гісторыі, вызваліцель народаў ад гнёта і жабрацтва, які правёў вялікую і магутную краіну і яе народ скрозь агонь і буры на светлую дарогу шчасця. Светлы сталінскі розум усюды і заўсёды ўказваў і ўказвае адзіна-правільныя шляхі да шчасця савецкаму народу і ўсяму чалавецтву.

П. Глебка ў творы «Нашай славы зара», аглядаючы слаўны шлях, пройдзены народам за годы савецкай улады, услаўляе таго геніяльнага бальшэвіка, мудрасць якога з'яўляецца пуцяводнай зоркай для народа. «Прыветліваму і строгаму генію» Сталіну паэт пасылае самыя цёплыя словы сваёй песні, самыя лепшыя пажаданні.

Хай жыве прыветлівы і строгі
Геній мудрага правадыра,
Што паказвае табе дарогі,
Нашай славы ясная зара!

Сталін—правадыр працоўных усяго свету—гэта ідэя атрымала сваё поўнакроўнае мастацкае выражэнне ў вершах Коласа «Сталіну», «Свайму народу» і г. д. Сталін у коласаўскіх вершах выступае як геніяльнейшы стратэг, які ў складанейшых абставінах заўсёды беспамылкова знаходзіў і знаходзіць правільную дарогу да вялікай мэты чалавецтва—комунізма. Вера народа ў свайго выпрабаванага правадыра гучыць у наступных радках лірычнага твора Коласа:

Хай свет стары вайной на нас ідзе,
Каб наш спыніць разбег,—
Спакойны мы, бо Сталін нас вядзе,
Наш геній, наш стратэг.

У другім вершы—«Свайму народу» Колас заклікае вызваленыя народы Заходняй Беларусі пад Сталінскі сцяг і паказвае на Сталіна, як на найвялікшага чалавека нашай планеты, вернага правадыра працоўных, які вызначае напрамак і змест новага жыцця народам, стагнаўшым яшчэ зусім нядаўна пад гнётам польскіх паноў.

Ідзі-ж смела і чэсна ўпярод
Разам з намі дарогай адзінай.
Мудры Сталін вядзе свой народ
Самай вернай і простай пуцінай.

Беларуская паэзія з асобай сілай перадае веліч сталінскага розума, незвычайную мудрасць Сталіна. Сталін мудрэйшы з мудрых. Ён бачыць на стагоддзі ўперад. Яго думкі не ведаюць межаў. Сталінскі геній пранік і пазнаў ва ўсёй складанасці механізм і законы грамадскага жыцця, праведаў патаемныя сакрэты прыроды і чалавечай душы. Сталінскі розум абнавіў зямлю, абмаладзіў і ашчасліві ў чалавецтва. Сілу і веліч свайго генія правадыр аддае для шчасця людзей. Такі звычайны вобраз Сталіна-мудраца ў беларускай паэзіі.

Мудры правадыр усведамляецца народам адначасова і як чулы, клапатлівы бацька, адданы друг, родны брат працоўнага чалавека. «Сталіна, гаворыць т. Варашылаў, народы Совецкага Саюза, уся Чырвоная армія і флот называюць сваім бацькам і другам. У гэтым велізарны сэнс. Сталін як сапраўдны друг, як бацька клапоціцца аб людзях наогул і ваенных людзях у прыватнасці і асабліва.

Сталін смела падымае з народных нізоў самародкі, таленты, наглядае за іх ростам, ведае іх асабіста, клапоціцца аб іх».

Вобраз Сталіна—чулага, клапатлівага бацькі, які глыбока разумее народную душу, народныя думкі і патрэбы, клапоціцца аб жыцці народаў і аб кожным чэсным чалавеку на зямлі, ярка намаляваны ў шматлікіх творах беларускай літаратуры.

У купалаўскім вершы «Беларусь ардэнаносная» Сталін выступае як самы задушэўны, шчыры і адданы друг усіх народаў зямлі. Вітаючы Беларусь з вялікай узнагародай—ордэнам Леніна, Я. Купала сваёй прыгажуні краіне дае наказ заўсёды мець перад сабой вобраз беззаветнага друга працоўнага чалавецтва і памятаць, што:

Рана, позна,—гэта ведай,—
Ці сонца, ці зоры,
Мудры Сталін падзяляе
Тваё шчасце й гора.

У вершы П. Глебкі «Родным братам» намалявана карціна цяжкага жыцця нашых братоў—заходніх беларусоў пад гнётам панства. Колькі крыўды, здзеку знёс, колькі гарачых слёз праліў працоўны народ Заходняй Беларусі пад гнётам белапалякаў. Сталінскае сэрца балела за лёс нашых адзінакроўных братоў. Настаў час, і вялікі вызваліцель працягнуў руку дапамогі нашым змучаным братам. Разняволены народ, упэўнены ў светлай будучыні, узяўся за будаванне новага жыцця. Паэт заклікае сваіх вызваленых братоў пад сталінскі сцяг:

Кроч у новыя светлыя далі,
Разарваўшы прымусу ланцуг,
За цябе непакоіцца Сталін,
Усіх прыгнечаных бацька і друг.

Эдзі Агняцвет у вершы «Шчаслівы дзень» перадае ўрачысты дзень, калі народы Совецкага саюза з затаёным дыханнем слухалі

па радыё з залы Крэмлёўскага палаца гістарычны даклад правадыра аб Канстытуцыі соцыялізма.

Мы разам з дэлегатамі ўставалі,
Спяваць жадалася бясконца нам
— Жыві, твары, вялікі бацька Сталін,
на шчасце нам
і будучым вякам.

Ц. Крысько ў вершы «Сыну» дае цёплую лірычную карціну. Бацька наказвае свайму сыну свята паважаць Сталіна і заўсёды мець перад сабой як прыклад вобраз вялікага друга чалавека і чалавецтва—Сталіна. Бацька ўпэўнены ў светлым лёсе свайго сына, бо аб ім клапоціцца Сталін. А Сталін нікога не дасць у крыўду, ні аднаго малалетняга грамадзяніна совецкай зямлі:

Ніколі, ніколі мой сыне,
Ён ў крыўду не дасць, не пакіне:
І радасць падзеліць з табой
ў горы агорне душой.

Сталін, друг працоўнага чалавецтва, з'яўляецца тварцом магутнай дружбы народаў СССР.

У беларускай паэзіі з асаблівай яркасцю выражана агромная і выключная роль Сталіна ў стварэнні дружбы народаў. У «Пісьме беларускага народа», у творах Коласа, Купалы, Броўкі перадаецца пачуцце дружбы народаў совецкай зямлі, дружбы, выхаванай геніем Сталіна.

У вершы Коласа «Пад сталінскім сонцам» з лірычнай напружанасцю перадаецца веліч Сталіна, як тварца вялікай дружбы народаў:

Людзі дружбаю абняты,
Шмат дзівосных змен!
Нам сягодня стаўся братам
Таджык і туркмен.

На пытанне, хто даў народам совецкай зямлі волю, з'еднаў іх дружбай,—у беларускай паэзіі маем адзін адказ:

Пад большэвіцкім сцягам чырвоным
Сталін нас дружбай абняў.
(*Колас* „Сталін—партыя—народ").

Вобраз Сталіна, як тварца беларускай дзяржаўнасці, асабліва шырока распрацован у беларускай літаратуры. У «Пісьме Сталіну» беларускі народ гаворыць пра Сталіна, як пра бацьку і стваральніка беларускай дзяржаўнасці, з асаблівай любоўю і пранікнёнасцю:

Яна ўпяршыню расцвіла як дзяржава!
Ад шчырага сэрца ўдзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КП(б)Б".

Мудрая сталінская палітыка, забяспечыўшая волю і шчасце працоўным Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, атрымала ва многіх паэтычных творах сваё мастацкае адлюстраванне. Анатоль

Іверс, Міхась Машара, С. Пяюн—паэты заходніх абласцей БССР у сваіх песнях услаўляюць найвялікшага ў свеце гуманіста Сталіна, які «з рук заламаных знямогай панскія путы сарваў».

Сонцам расквечаны далі,
Далі радзімай зямлі.
Родны,
Вялікі наш Сталін,
Песню народа прымі.
Песню народа, якому
Ты вызваленне падаў,
З рук, заламаных знямогай,
Панскія путы сарваў.

заяўляе ад імя вызваленых народаў Заходняй Беларусі паэт Машара («Правадыру»).

Высокая чалавечнасць Сталіна, яго бязмежная адданасць і любоў да народа, чуласць і ўважлівасць да людзей, няспынныя штодзённыя клопаты аб чалавеку,—апяяны ў шматлікіх творах беларускай савецкай літаратуры. Найбольш цікавыя ў гэтых адносінах творы: «Пра Васілька і правадыра» П. Панчанкі, «Пятае снежня» А. Куляшова, «На заходне-беларускія матывы» Я. Купалы.

Пра выключную сталінскую чуласць апавядаецца ў творы П. Панчанкі «Пра Васілька і правадыра». У аснову верша паложаны жыццёвыя і неадзінкавыя факты нашай рэчаіснасці. У мясцовасці, далёкай ад горада, у адной сям'і захварэў сын. Гора свеціцца з кожнай рыскі змучанага твара маткі, якая схілілася над галавой хворага сына. Здаецца, ніхто не здольны вырваць з рук смерці яе сізага голуба, любімага сына. У цяжкую, чорную хвіліну свайго жыцця матка звяртаецца за дапамогай да самага дарагога чалавека, да правадыра. Сын, дзякуючы сталінскай дапамозе, ачуньвае. Матка поўна вялікай удзячнасці да самага добрага і чалавечнага чалавека:

Сталін—ён родны ўсім, дарагі,—
Сына вярнуў і пазбавіў тугі.
Сталіным любым маці жыла,
Сэрца сваё за яго аддала-б.

У творы «Пятае снежня»—А. Куляшова падкрэсліваецца выключная дабрата сталінскага сэрца, тытанічная працаздольнасць Сталіна і выключная ўважлівасць да людзей. Краіна пагружаецца ў сон. Далёка за поўнач. А ў Крэмлі вялікі правадыр заняты працай. Ён працуе для шчасця ўсяго чалавецтва, забываючы на сон:

Б'е гадзіннік.
І сэрца спакойныя ўдары
За крэмлёўскай сцяною чуваць у цішы.
Ён працуе і ведае ўсе нашы мары,
І так светла,
так радасна ў нас на душы.

Народ глыбока адчувае сталінскую дабрату і клопаты. У творы Купалы «На заходне-беларускія матывы» выражана гэта народнае адчуванне і разуменне Сталіна, як вялікага гуманіста. Матка, сялянка з Заходняй Беларусі, учарашняя прыгнечаная рабыня, а

сёння вольная совецкая жанчына, над калыскай сына спявае песню, у якой накідвае прыгожую карціну будучага жыцця свайго сына:

Жудкіх не зведаеш ночак,
Блукаць не будзеш нідзе,
Долю тваю, мой сыночак,
Сталін да сонца ўзвядзе.

Беларуская паэзія адзначае і такія рысы сталінскага вобліка, як скромнасць і прастата. Найвялікшы чалавек нашай эпохі Сталін вялік і ў сваёй прастаце і скромнасці. Тыповыя рысы соцыялістычнага чалавека найбольш поўна ўвасоблены ў вобліку Сталіна. У вершы «Шчаслівы дзень» Э. Агняцвет паказвае такія рысы любімага вобраза, як прастата, сардэчнасць і скромнасць.

Які сардэчны, просты і любімы.
Мне добра бачны смуглы твар
З вачамі яснымі і маладымі,
Ў якіх жыццё і веліч нашых мар.

Да самых разнастайных і каларытных вобразаў звяртаюцца пісьменнікі ў мэтах больш поўнага мастацкага паказа вобраза Сталіна.

Пашыран у совецкім фальклоры народаў СССР, як і ў творчасці паэтаў і пісьменнікаў, вобраз Сталіна-сонца. Пашыранасць гэтага лаканічнага і выразнага вобраза нельга тлумачыць запазычанасцю ўдалага і яркага вобраза адным народам у другога, вандраваннем яго з фальклора і літаратуры аднаго народа ў фальклор і літаратуру другога народа. Хутчэй можна думаць адваротнае, што вобраз Сталіна-Сонца узнік адначасова і незалежна ў розных народаў Совецкай краіны.

Так як сонца дае жыццё ўсяму жывучаму на зямлі, так і Сталін, вызваліўшы народы былой Расіі з ланцугоў няволі, даў чалавеку поўнае шчасця жыццё. Такі глыбокі сэнс гэтага маляўнічага паэтычнага вобраза, створанага совецкім народам. Вобраз Сталіна-Сонца—адзін з самых галоўных вобразаў беларускай паэзіі пра Сталіна.

У лірычнай паэме «Табе, правадыр» Я. Купалы Сталін увасабляецца ў магутным вобразе яснага сонца, якое, узышоўшы на неба, разагнала густы змрок ночы няволі, панаваўшай над Беларуссю, растапіла сваімі гарачымі праменнямі халодныя сковы векавога прыгнечання, знішчыла густыя туманы і імглу разумовага змроку і цемры, змяніла для беларускага абяздоленага народа вечныя сцюдзёныя жыццёвыя зімы на квітнеючыя і пахучыя весны:

Ты мудры прышоў, правадыр;
Апалі туманы, імгла,
Па свеце і ўздоўжкі і ўшыр
Шчаслівая слава пайшла.

У коласаўскім вершы «Сталіну»—той-жа вобраз Сталіна-Сонца. Аджываючаму свету супроцьставіцца новы свет соцыялізма—краіна советаў, сагрэтая ласкавымі праменнямі сонечнага сталінскага генія. Горды за магутнасць і росквіт сваёй соцыялістычнай радзімы паэт

з хваляваннем пасылае лепшыя пажаданні творцу народнага шчасця—таварышу Сталіну:

Няхай-жа дзень наш златакудры
Атуліць землю з края ў край,
Жыві шчасліва, Сталін мудры,
І ясным сонцам людзям зззяй!

Малады паэт М. Калачынскі ў лірычным творы «Песня пра Сталіна» паступова падводзіць чытача к усприяццю і асэнсоўванню гэтага-ж вобраза Сталіна-Сонца, своеасабліва яго раскрываючы. У блізкім да народнай песні лірычным вершы Калачынскі з мастацкім густам карыстаецца вобразнай сімволікай. Канкрэтныя з'явы прыроды тут выступаюць як вобразы-сімвалы, з якіх і складаецца асноўны кампазіцыйна-арганізуючы лірычны вобраз. Сталін асацыіруецца з вобразамі яснай зоркі, светлага месяца і каляровай вясёлкі. Разгорнутыя параўнанні Сталіна з зоркай, месяцам і вясёлкай завяршаюцца абагульняючым вобразам, які заключае твор,—вобразам яснага, светлага сонца:

Свеціць ясна-сонца Сталін,
Блізкі, родны, дарагі.
Сіне мора коціць хвалі
На крутыя берагі.
Днём і ноччу у ваконца,
Днём і ноччу у пуці
Ты свяці нам Сталін-Сонца,
З веку у век ярчэй свяці.

Сталін-Сонца з'яўляецца ўлюбёным мастацкім вобразам ў сучасных песнях паэтаў заходніх абласцей БССР. У вершы «Прывітанне» паэт Машара ад імя разняволенага народа звяртаецца са словамі ўдзячнасці да вялікага вызваліцеля Сталіна і лірычна-натхнёна заяўляе:

Ты сонца яснае ажыўшае краіны,
Ты радасць нашых вёсак, сёл і гарадоў.

Творам беларускай паэзіі, прысвечаным Сталіну, уласціва багатая і маляўнічая паэтычная сімволіка.

Ва многіх творах узвышаны вобраз Сталіна перадаецца праз сістэму маляўнічых параўнанняў з найбольш магутнымі і прыгожымі з'явамі прыроды. Сталін параўноўваецца з яснымі зоркамі, светлым месяцам, шырокім чыстым небам. У такім мастацкім дакуманце, як «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну», паэтычная сімволіка і разгорнутыя параўнанні вызначаюцца асаблівай свежасцю, канкрэтнасцю і мастацкай выразнасцю.

Прыгадаем хаця-б наступныя дзве страфы, у якіх з здзіўляючай мастацкасцю і прастатой выражаны пачуцці любві беларускага народа да дарагога правадыра:

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц—дарагі правадыр.
Праз тры рэволюцыі, бітвы, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады.
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр.

Глыбока разумеючы сусветнае, усечалавечнае значэнне дзейнасці Сталіна, натхняючую сілу сталінскіх ідэй, беларускія паэты малююць Сталіна як увасабленне актыўнага творчага пачатку новага жыцця, душы і розума ўсяго знамянальнага, грандыёзнага і новага ва ўсёй сучаснай сусветнай гісторыі. Вобраз Сталіна ў беларускай літаратуры падаецца заўсёды ў арганічнай злітасці з такімі з'явамі гістарычнай сапраўднасці, якія прадстаюць перад намі, як канкрэтнае выражэнне вынікаў кіпучай дзейнасці таварыша Сталіна і ўсеперамагаючай сілы яго ідэй. Цікавыя ў гэтых адносінах радасныя песні народнага паэта Я. Коласа «Пад сталінскім сонцам», «Мы славім правадыра», «Песня Кастрычніку» і інш.

У вершы «Мы славім правадыра» паэт, услаўляючы геараічны шлях совецкага народа, падкрэслівае і ўказвае на творчую энергію і глыбіню сталінскіх ідэй, як на крыніцу вечна абнаўляючага творчага пачатку. Гэта ідэя лаканічна выражана ў наступных радках:

Хто творчую волю гартуе як сталь,
Хто мудрых законаў дае нам крышталь?
Няхай-жа квітнее совецкая шыр,
Няхай-жа красуе наш друг правадыр!

Сталін—сэрца зямлі, сэрца народаў—гэты вобраз акрэсліваецца ў лірычным вершы «Сэрца маёй зямлі» А. Жаўрука. А. Жаўрук у росквіце нашай краіны, у размаху соцыялістычнага будаўніцтва падслухаў і ўбачыў біенне вялікага сталінскага сэрца. У захапленні веліччу і сілай сталінскай дружбы народаў, аглядаючы неабсяжныя прасторы совецкай зямлі, горда зазначае паэт:

Гэта ён
тое сэрца народаў,
Што шукаў я і ўрэшце сустрэў,
Чый гарачы,
Чый сонечны подых
Усенародную дружбу сагрэў.

У непасрэднай і прамой сувязі з вобразам Сталіна—сэрца зямлі знаходзяцца і такія мастацкія пераканаўчыя вобразы правадыра, як прыгожай вясны працоўнага чалавека, яго светлага юнацтва, квітнеючай маладосці нашай соцыялістычнай радзімы.

Сталін, як сімвал квітнеючай маладосці нашай радзімы, даволі поўна акрэслены ў вершы П. Броўкі «Самая шчаслівая». Ствараючы каларытны вобраз мужнай, моцнай і шчаслівай совецкай радзімы, Броўка замалёўвае такія з'явы совецкай рэчаіснасці, у якіх перш за ўсё выяўляецца неўміручая свежасць і маладосць сталінскіх ідэй і велічных спраў.

У росце новабудоўляў, уздыме соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, росце новых людзей, у працоўных подвігах совецкага чалавека,—гаворыць паэт,—усюды праменіцца светлы розум і благароднае сталінскае сэрца:

Гэта яго думы, яго дзеці
І яго жаданняў буйны рост.
Самая прыгожая у свеце,
У краіне нашай—маладосць.

Рэволюцыйна-дэмакратычная беларуская паэзія выпрацавала вядомыя ў дакастрычніцкай беларускай літаратуры вобразы аратага,

касца, сейбіта, у якіх пераважна маляваліся барацьбіты за народную долю і сімвалізіравалася рэволюцыйная актыўнасць народа.

Названыя вобразы, уласцівыя дакастрычніцкай літаратуры, не зніклі ў совецкай паэзіі. Беларускія паэты і ў першую чаргу прадстаўнікі дакастрычніцкага пакалення беларускіх пісьменнікаў Я. Купала, Я. Колас, Зм. Бядуля, асэнсоўваюць гэтыя традыцыйныя вобразы, карыстаюцца імі ў сваіх сучасных паэтычных творах.

У лірычным творы Купалы «Аб Сталіне-сейбіту» Сталін падаецца ў вобразе вялікага сейбіта, які сее, скажам словамі Некрасава, «вялікае, добрае, вечнае», а сталінская дзейнасць на карысць чалавецтва асацыіруецца ў творчым усведамленні пісьменніка з вялікай сяўбой.

Сваю песню аб Сталіне-сейбіту паэт разглядае як выяўленне думак і пачуццяў народных, у ёй як-бы чуецца вясёлая песня вольнай жняі, дужага касца, маладога каваля, чуецца песня ўсяго совецкага народа, які на шматлікіх нацыянальных мовах услаўляе вялікага сейбіта чалавечага шчасця. Я. Купала сваю песню злівае з песняй народа:

Аб Сталіне сейбіту песня мая,
А песня ад шчасця, ад радасных дзён,
Якая на крыллях ляціць салаўя
За межы граніцы, ды будзіць там сон.

Побач з вобразам Сталіна-сейбіта, беларускай літаратуры вядомы вобразы Сталіна—вялікага садоўніка, Сталіна—руплівага і дбайнага гаспадара. У вершы «Пятага снежня» А. Куляшоў з паэтычным майстэрствам і шчырым лірызмам малюе вобраз Сталіна як руплівага гаспадара.

Выразна намалявана наступная лірычная карціна ў вершы Куляшова, на фоне якой выступае воблік вялікага Сталіна.

Калгаснікі ўрачыста праважаюць свайго дастойнага абранніка-трактарыста, дэпутата Вярхоўнага Совета СССР, у Маскву. Коні імчацца па зімовай дарозе, а на санях вясёлая грамада калгаснікаў з музыкай і песнямі праважаюць дэпутата. Раптам калгаснікі спыніліся і з цікавасцю аглядаюць жытную рунь. І грамадзе сялян здаецца, што вялікі і дбайны гаспадар Сталін знаходзіцца зараз сярод калгаснікаў:

Ім здаецца, што з імі ў шэрым шынелі
Сталін родны над руняю схіляецца сам,
Пазнае брыгадзіраў славутай арцелі,
—Будзе добрае жыта,—гаворыць дзядзькам.

У вершы выражана любоў совецкага сялянства да Сталіна.

Моцна ўвайшоў у совецкі беларускі фальклор і літаратуру вобраз Сталіна—яснавокага і смелага сокала, магутнага і гордага арла.

Народны паэт Я. Купала з мастацкім густам выкарыстоўвае вобраз ясназоркага сокала ў лірычным вершы «Нашаму святу». З задушэўнай лірычнасцю ў творы апяваецца росквіт і маладосць соцыялістычнай краіны, яе багатая будучыня. Слава і хвала бацькаўшчыне гучыць як хвала і слава Сталіну. Вялікі настаўнік падаецца, як горды сокал, які даў людзям совецкай зямлі волю і

радасць жыцця. З старажытнага суровага Крэмля з юнацкім запалам горды сокал Сталін сее па ўсяму свету праменні, якія нясуць шчасце людзям. Гімнам, услаўляючым сталінскі геній, гучыць купалаўская чароўная песня:

Мы ідзем у сонцы з сонцам  
Маладым паходам.  
Слава бацькаўшчыне нашай  
І яе народам.  
Слава сокалу, што родам  
З пад каўказскіх скалаў,  
Што з Крэмля праменні сее  
З юнацкім запалам.

Я. Колас у вершы «Правадыру народаў», поўным любві да Сталіна і савецкага народа, распрацоўвае гэты-ж вобраз Сталіна-сокала, які здолеў беспамылкова вызначыць шлях да шчасця народам нашай радзімы і правёў іх праз імжу і туманы:

Вышлі мы ў прасторы  
Праз імжу, туманы,  
Праз крывавы жах.  
Сокал ясназоры,  
Генія абраннік,  
Сталін, ты—наш сцяг.

Лепшыя людзі нашай краіны—выдатныя героі соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, слаўныя вартавыя нашых граніц, гераічныя і стойкія чырвонаармейцы—слаўныя сыны і дочкі нашай мацеры-радзімы, выхаваныя партыяй большэвікоў, выступаюць у беларускай літаратуры, як славутае племя сталінскіх арлянят.

Як вельмі цікавы і станоўчы працэс у беларускай літаратуры, адзначым фалькларызацыю вобраза Сталіна. У калектыўных паэмах, у творчасці Купалы і Коласа гэты працэс выступае асабліва яскрава. Падобна таму, як гэта мы маем у былінах-сказах, народных казках,—у беларускай літаратуры Сталін устае як казачны волат, чудадзейны асілак, які валодае ключамі да чалавечага шчасця. Вобраз волата-асілка вытрыманы ў форме казачна-быліннай рамантыкі, надзяляецца рысамі, якія ўласцівы самому народу.

Купала ў сваім творы «Табе, правадыр» блізак да народнай трактоўкі вобраза Сталіна, як усемагутнага казачнага волата-багатыра.

Лепшыя творы і песні беларускай літаратуры пра Сталіна па сваёй сутнасці народныя. У іх адлюстроўваецца гераічная барацьба працоўных за ўрачыстасць комунізма, самыя разнастайныя бакі народнага жыцця, у іх раскрываецца душа савецкага народа.

Вобраз Сталіна выступае ў беларускай літаратуры, як вобраз любімага народнага героя. Прыгожы вобраз Сталіна авеяны гарачай любоўю, светлай радасцю, задушэўнай цяплынёй. У вобраз Сталіна лепшымі прадстаўнікамі соцыялістычнай літаратуры ўкладзена так многа хвалюючых народных дум, шчырых пачуццяў, высокіх імкненняў і парыванняў.

У свабодалюбівых песнях аб Сталіне гучыць гарачая любоў народа да свайго правадыра. Яны пранізаны пачуццямі адданасці,

глыбокай удзячнасці і пашаны народа да свайго вялікага сына і любімца, гатоўнасцю непахісна разам з партыяй пад кіраўніцтвам Сталіна ісці ўперад да новых перамог соцыялізма.

Гарачая любоў да вялікага Сталіна, як асноўны матыў, гучыць ва ўсіх творах беларускай літаратуры.

У «Пісьме беларускага народа вялікаму Сталіну» беларускі народ з выключнай цяплынёй, урачыста і шчыра заяўляе аб сваёй любві і адданасці вялікаму правадыру.

Табе наша радасць, любоў і адданасць,
Табе пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'еднаны,
Ты наша жыццё, дарагі правадыр!

Любоў да Сталіна натхняе на вялікія гераічныя подвігі совецкага чалавека. Яна ўлівае бадзёрасць, усяляе веру чалавека ў свае сілы, загартоўвае волю, умацоўвае стойкасць, дапамагае перамагаць цяжкасці і перашкоды, дае магчымасць паўней адчуць прыгажосць і веліч нашага жыцця.

Побач з цэлым радам іншых твораў беларускай літаратуры, у цікавым па сваёй тэматыцы творы А. Куляшова «Васіль Баранаў» моцна паказана бязмежная любоў совецкага чалавека да радзімы, да Сталіна.

Любоў да вялікага Сталіна сказваецца ў чэснай рабоце совецкага чалавека, у яго няспынных жаданнях памнажаць багацці совецкай зямлі, у яго любві да радзімы і народа, у яго гатоўнасці ў любую хвіліну, калі патрабуецца, аддаць самае дарагое, чым валодае чалавек,—сваё жыццё за Сталіна, за радзіму, за шчасце народа.

Ідэя бязмежнай адданасці Сталіну—гэта асноўная рэволюцыйная ідэя пранізвае ўсё наша жыццё і ўсю нашу літаратуру. Гэта ідэя выражана досыць поўна ў творы П. Панчанкі «Сталіну». Выражаючы сапраўды народныя пачуцці бязмежнай адданасці Сталіну, паэт глыбока-праўдзіва зазначае:

І лепшай слыве ўзнагародай
У нас сталінскі поціск рукі,
Ты радасць, ты сэрца народаў,
Глядзіш як прарок у вякі.
Калі-ж да палеткаў радзімы
Нахлынуць часы завірух,
Жыццё за цябе аддадзім мы,
Любімы настаўнік і друг.

Матыў глыбокай любві да Сталіна непарыўна зліты з пачуццямі найглыбейшай удзячнасці да яго, захаплення яго бацькаўскім сэрцам, светлым розумам.

Самыя лепшыя пачуцці, якія толькі ведае багатая народная душа, накіраваны да таварыша Сталіна.

Беларуская літаратура, правільна адлюстроўваючы ўяўленні народа аб сваім настаўніку і правадыру, у лаканічных, глыбокіх па сваёй ідэйнасці рэволюцыйных вобразах падае вялікага Сталіна, як сімвал неперыможнага сцяга працоўных, сімвал барацьбы і перамог, радасці і шчасця, мужнасці і гераізма.

У Сталіне народы ўсяго свету бачаць увасабленне сваіх надзей і спадзяванняў.

*Янка Купала*

# СТАЛІНУ МУДРАМУ

Я Сталіну мудраму песню спяваю.
А песня ад сэрца, з-пад сэрца такая,—
Крылата лунае над полем, над гаем,
Са светам гамоніць ад края да края...
Аб Сталіне мудрым я песню спяваю.

Са Сталіным лёгка жывецца на свеце,
Як яснае сонейка, гэтак нам свеціць,
Шляхі ён да шчасця і радасці квеціць,
Как гора не зналі старыя і дзеці.
Са Сталіным лёгка жывецца на свеце.

Як песня, жыве яго імя ў народзе,
У кожным здарэнні, у кожнай прыгодзе.
Ці майскае свята ў жывым карагодзе,
Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць,
Як песня, жыве яго імя ў народзе.

Глядзяць і ўсё бачаць яго зоры-вочы
Скрозь светлыя дні, скрозь туманныя ночы;
Ён слёзы ўцірае нядолі сірочай,
Ён новую долю бяздольным прароча,
Глядзяць і ўсё бачаць яго зоры-вочы.

Ён піша законы стагоддзям, народам,
Што йдуць і што прыдуць, на век, назаўсёды.
Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай,
Чырвоныя макі цвілі ў агародах,—
Ён піша законы стагоддзям, народам.

Жыві і красуйся нам вечныя векі,
Як вечна плывуць жыватворныя рэкі!
З табою дабром у нас поўны засекі,
З табою не страшны для нас небяспекі,
Жыві і красуйся нам вечныя векі!

Я Сталіну мудраму песню спяваю,
А песня ад сэрца, з-пад сэрца такая,—
Крылата лунае над полем, над гаем,
Са светам гамоніць ад края да края...
Аб Сталіне мудрым я песню спяваю.

18-XII-39 г.

*Якуб Колас*

## ПРАВАДЫРУ І НАСТАЎНІКУ

Ад чыстага сэрца, проста і шчыра,
Як просты і ты, Правадыр,
Цябе славіць песняй звонкая ліра,
Як сейбіта праўды, дружбы і міра,
Зямлі разняволенай шыр.

Паэты, ашугі з гор Дагестана,
Далін і стэпоў песняры
Вітаюць, як друга, згодна, аддана
Цябе, Правадыр наш, словам баяна
На струнах зурны і дамбры.

Жывыя пачуцці, думы і сказы
Прыносіць народ табе ў дар,
І новае мора сыпле алмазы,
Дзе сонца гуляе з хвалямі разам
І тушыць увечар свой жар.

На Арктыцы дзікай, холадам скутай,
На гонях, дзе нівы шумяць,
На краі нядаўніх здзекаў, пакуты,
Дзе воляй тваёю скінуты путы,
Ляжыць тваіх думак пячаць.

Ад Белага мора і да гор Крыма,
Ад Буга за быстры Амур
Лунае, як промень, роднае імя
На гмахах бяскрайных слаўнай радзімы,
Народжанай громамі бур.

І гэту радзіму узняў ты высока,
Даў сілу ёй, голас, разгон,
Магутныя крыллі, смелае вока,
І вывеў яе ты з голаду, мроку,
І сталінскі даў ёй закон.

Ад чыстага сэрца, проста і шчыра,
Як просты і ты, Правадыр,
Цябе славіць песняй звонкая ліра,

Як сейбіта праўды, дружбы і міра,
Зямлі разняволенай шыр.

Бушуе навокал мутнае мора,
І пеніцца ў беразе вал.
Дзесь намысел злосны спеляць пражоры,
Паўзучыя гады сыкаюць ў норах,
І вые труслівы шакал.

Цямраная сіла свету старога
Сплятаецца ў чорны клубок,
Адна ў яе думка, мэта, дарога—
Паўстаць насупраць жыцця маладога,
Спыніць наш вясенні паток.

Але няхай знаюць: марны заходы
Прыслужнікаў цемры і зла,
Бо з намі ты, Сталін,—воля народа,
На варце краіны, шчасця, свабоды
Стаіць твая постаць—скала.

Бо зорыць нядрэмна орляе вока,
Бо ты разбіваеш хады
Глашатаяў здзекаў, гнёту і мроку,
Разгадваеш проста, мудра, глыбока
Зладзейскія сцежкі, сляды.

Магутнай рукою смела, імкліва
Ты крышыш былога ланцуг.
Жыві-ж нам на радасць, доўга, шчаслівa,
Нястомны, адданы, людзям жычлівы,
Наш бацька, настаўнік і друг!

13-XII 1939 г.

---

*Пятрусь Броўка*

# ЖЫЦЦЁ

З людскіх глыбінь
Прышоў ён, чалавек—
І стаў над цэлым акіянам-светам.
Зямля мая!
Краса тваіх садоў і рэк
Яго бязмежнай ласкаю сагрэты.

У гомане бароў
І ў шолахах трысця—
Аб ім напеў чароўны мне пачуўся...
З вачэй яго
Я смагу напаіў жыцця—
Яны святлей крыніц на Беларусі.

І ў шумных гарадах,
І ў моры спелых ніў,
Дзе ўвесь народ бяссмерце нараджае,—
Ягоны голас чуў.
Ён заўжды першым быў!
Я ўспамінаю свята ўраджаю...

У сад
Сабралася сям'я гаспадароў
Багаццяў, знойдзеных у працы пільнай.
Сталы наўкруг,
Застаўленыя шчыльна,
Згіналіся пад цяжкасцю дароў.

Калі з гары
Напечанага хлеба
Старэйшы ўзняў, як золата пірог...
Праз голле дрэў
Прарваўся гулка ў неба
Магутны кліч у славу перамог.

І людзі цалаваліся
Ад сэрца усяго;
Гукалі госця дарагога сесці—

А на стале,
На самым першым месцы
Стаяў пачэсны кубак для яго.

Ён быў там бацькам,
Самым лепшым другам,
Яго імя не сходзіла ў бяседзе.
І дзеці матак абступалі кругам:
— Скажыце нам, калі да нас прыедзе?!

Калі мы йшлі
Праз пушчы Аўгустова—
За намі ўслед займалася зара,—
Адно яднала нас
Любімейшае слова:
Імя правадыра.

Праз дым гармат
Мы бачылі, як блізка
Ля нашай мэты, здзейсненай, стаім.
Бары галовы нахілялі нізка,
Вітаючы сыноў,
Пасланых ім.

Мы чулі выбух
Волі чалавечай,
Што ўжо навек парвалася мяжа...
Не раз на штык
Ад гэткае сустрэчы
З вачэй спадала шчырая сляза.

Яшчэ стралялі
З роспачы адзінкі,
І свежым быў іх уцякацкі след;
Страчалі нас,
Наперадзе дзяўчынка
Ля сэрца несла з кветкамі партрэт.

Пад ім
Увысь узнятыя галовы
Віталі слаўны, сонечны паход.
Пад ім стаяў, народжаны нанова,
З'еднаны мудрай воляю
Народ!

І гаманілі скрозь—
Рака з ракою,
Лясы, бары з прасторамі палёў,
І птушкі
З гнёзд, разбураных вайною,
Ляцелі зноў да родных берагоў.

Стаялі мы,
Ад нас ішла дарога
Паміж вясковых, вызваленых хат.
Туды, дзе ён,
Прад поглядам якога
Відзён вякоў наступных далегляд.

Як спіць мой край,
Адно не дрэмле варта
Яго надзейна ўзброеных сыноў;
Я знаю—
Правадыр стаіць ля карты
Прастораў земных, шумных гарадоў.

Прад ім
Пайшлі шырокія каналы
Пяскі пустынь вадою пакарыць;
Ля вечных льдоў
Вясна запанавала...
І бачыць ён за далямі граніц:

З глыбокіх нор
Нікчэмныя пачвары
Яшчэ ўздымаюць воўчае выццё...
Са ўсіх бакоў
Чырвоныя штандары
Ідуць на штурм за новае жыццё.

Праз даль шляхоў
Ім зоркай агнявою—
Зямля садоў, дзе шчасце расцвіло,
Зямля,
Дзе ён нястомнаю рукою
На свет узняў нязгаслае святло.

І вось прад ім
У гуках стройных маршаў
Сыноў адважных армія ідзе...
Спакойны ён за будучыню нашу,
За клятву Леніну,
За новы дзень!

Снежань, 1939 г.

*Максім Танк*

## ДЗЕ НІ ПОЙДЗЕШ

Дзе ні пойдзеш: струны сонца,
Струны рэк гарацъ і ззяюць,
А у кожнай вёсцы граюць
І цымбалы і гармонік,—
Ўсе пра Сталіна, пра бацьку,
Пра танкістаў, пра байцоў,
Пра Радзіму дарагую,
Пра дачок яе, сыноў.

На зубцах Крэмля рубінавыя
Ясна зоры ззяюць.
З чатырох канцоў Радзімы
Бацька сокалаў склікае.

Кажа:—Бачыў я учора,
На ўсходзе ваблакі,
Чуў я ноччу шапацелі
Над Амурам траснікі.

Чуў, на захадзе як плачуць,
І як пеніць хвалі Нёман,
Як па нас сумуюць песні
І браты завуць на помач.

Бачу, як над іхнім полем,
Над шляхамі ноччу, днём
Рэюць хмары градавыя,
Кружыць стадам варанне...

І адказывае сокал:
— Хвалі мора і тайгу—
Рубяжоў—граніц Радзімы
Твае дзеці берагуць.
І адказывае сокал:
— З тваёй, Бацька, сонцам-славай
Мы гатовы свае крыллі
Па-над Нёманам расправіць,
Занясці свабоду, песню
Па якой сумуе брат...

Нашым крыллям сняцца даўна
Грані снежныя Карпат.
Нашы танкі ўглядаюцца
Даўно ўжо ў тыя далі,
Нашы коні ржуць, пачуўшы
Сіні шум далёкай хвалі...

І паслаў іх Бацька-Сталін,
Каб парвалі кайданы,
Каб братам сваім свабоду,
Долю занясьлі яны.

Як ляцелі—хмары цёмныя
На захад уцякалі,
Як ішлі—іх з хлебам-соллю
І з цвятамі сустракалі.

Дзе ступілі—расцвітала
Радасць полымем зары,
Дзе запелі—падпявалі
Нашы рэкі і бары.

І цяпер па неабсяжных
Зарунеўшых жытам нівах,
Ад хваль Нёману да ўсходу
Чуеш песень пераліўы:

Ўсё пра Сталіна пра Бацьку,
Пра танкістаў, пра байцоў,
Пра Радзіму дарагую,
Пра дачок яе, сыноў.

2.XII. 1939 г. Вілейка.

---

## НА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА

Асенні дзень. Дрыжаць лісты,
Не адляцеўшыя у вырай.
У змроку раннім і густым
Ён бронзавы на плошчы вырас.
Здалёку, з Смольнага прышоў
І стаў, глядзіць, як залаціцца
Ў чырвоным полымі сцягоў
Ордэнаносная сталіца.
Сталёвым крокам перад ім
Пад ўзрывы медныя аркестраў
Ідуць калоны, залатым
Абвееныя песні ветрам.

Звініць зямля, гараць штыкі,
На шлемах баявыя зоры.
І танкі, і грузавікі,—
Цяжкі калёс гарматных говар.
І ўсіх вядзе ў агні сцягоў,
Да мрамарнага п'едэсталу,
Да мэты сонечнай, яго
Саратнік—непахісны Сталін.

Ён апрануў у сталь, святло
Былыя мары і заветы.
Каб бронза тваіх ясных слоў
Звінела заклікам над светам.
Ён вызваліў наш край з турмы.
Ён сонца запаліў над намі.
І, радасныя, сёння мы
Ідзём шырокімі шляхамі.

Зачараваныя, глядзім,
На сілу гордую Радзімы,
Што зззяе полымем жывым.
І вусны самі шэпчуць імя
Таго, што з Смольнага прышоў,
Таго, хто ў гэтым ветры сінім
Трымае зарава сцягоў,
І правіць лётам сакаліным.

**Вілейка, лістапад** 1939 г.

## ДЗЕ ЖЫТА ЗАШУМІЦЬ

Былі ў паноў высокія
Палацы і шырокія
Прысады і палі,
А нашы хаты нізкія
І нівы камяністыя
Шнурамі ў даль плылі.

Батрацкім потам зрошаны
Раслі аўсы харошыя
Ў паноў і ячмяні;
Шнуры нашы сірочыя
Тапталі ветры поўначы
Глушылі палыны.

За лусту хлеба чорнага
І дні, і ночы зорныя
Рабілі на паноў,—
Пакуль зара крэмлёўская
Не ўспыхнула над вёскамі—
І ясны дзень прышоў.

Пайшоў зямельку родную
Народ дзяліць, усходнімі
Шляхамі ідучы,
Пра сокалаў, што далі нам
Свабоду і пра Сталіна
Частушкі пяючы.

І будзем жыць шчасліва мы.
Гардзіцца будзем нівамі
Без межаў і граніц,
Дзе конніцай сталёваю
Падымем скібы новыя
Дзе жыта зашуміць.

20-XI—1939 г.

---

## СЯГОННЯ

Сягоння першы раз, краіна,
Да шчасця, вольная, ідзеш.
Няма этапных каляінаў.
Няма крывавых болей меж.
Сівыя цені хмараў змрочных
У пурпуры сцягоў згараць,
І не заслоняць болей сонца
Драты і павуцінне крат!
І песням першы раз сягоння—
Такая шыр, такі прастор!

Пяеш у нізе—яна звоніць
На грані беласнежных гор;
Пяеш над Нёманам—на ўсходзе
Яе ўзнімае акіян.
Асмужыць сонцам яе поўдзень
Адсвеціць полюсу брыльянт.
А толькі скажаш: Воля... Сталін!..
З старон пачуеш чатырох,
Як адгукнуцца рэхам далі
На розных мовах і ладох.

Сягоння сэрцам радасць звоніць,
Край асвабоджаны ідзе
Спаткаць Кастрычнік на загонах,
На пляцах вуліц—славы дзень.
Ён з громам нарастае ў маршах
Шуміць сцягамі над зямлёй,
Палае маладосцю нашай,
На шлемах—яркаю звяздой.

---

*Філіп Пестрак*

## ЗАШУМІ ТЫ, БОР...

## *(Дума аб Сталіне)*

Зашумі ты, бор, дружным гоманам,
Над краінаю зашумі,
Ты развей наш боль, боль надломлены
Па шырокай, па зямлі.
Расцвіла цяпер радасць нашая
Квеццем-чырванню на прасцяг,—
Доля нашая непрапашчая,
Доля нашая—Сталін-сцяг!
З кветак радасці шыем сэрцамі
Свайму Сталіну родны знак—
Слёз вузорамі пераплецены,
Думы нашыя зіхацяць.
Думы пешчаны, гадаваныя
Ў цёмнай немачы хатніх сноў,
Думы, ворагам катаваныя,
Ў стогнах змучаных сыноў.
У абмытыя ранкаў росамі
Ў час рассветнае зары,
Як галоднымі йшлі палосамі
Гора чорнага змагары.
Сталін—дум прастор, Сталін—шчасця дар,
Сталін—вольны шум родных ніў,
Зямлі новае мудры гаспадар
Ў бліскаx палымных зарніц.
Ты прыймі прывет бацькі знылага,
Маці сплаканай ад трывог,
Ад сыноў, дачок, каго выгнала
Рука панская у вастрог.
Сталін—волі моц. Над узгор'ямі
Гартам пеніцца яго дух—
Нашы дзеці йдуць—шлюць сузор'ямі
Яму смехаў грамаду.
Мы за Сталіна—вызваліцеля
Пойдзем рашуча на бой,—
За радзіму, за вялікую
Зашумі радзімы бор!

Снежань, 1939 г. Гродна.

# КРАІНЕ

Краіна родная! Вітай зару збаўлення,
Бо мы прыйшлі з вастрожных брам,
Скаваных дум простор і радасць вызвалення
Нясём сваім затужаным братам.

Хай песня зазвініць. Ланцужныя аковы
Насіла ты ў цямрычнай духаце,
Складала ў барацьбе крывавых песень словы
І бунтам сеяла—штандар твой зіхацеў.

Хай згіне жаль тых вузенькіх палосак
І песня сумная гаруючай жняі,
Хай згіне крык душы забітых, гразных вёсак,
І смерць над панам-катам хай грозна зазвініць!

Цяпер мінуў кашмар. На панскія, на троны
Ударыў імпэтам чырвоны, зорны крок—
У дым, у пыл магнацкія кароны!
Хай згіне векавы, крывавы чорны смок!

Рассей, радзімая, па ўсім сваім прасторы
Ўсю моц душы і накіп бойных дум—
Ўжо нам не жаліцца аб нашым вечным горы—
Збірайся ў шумную да працы грамаду!

Рубеж крывавы змыт. Дзяржаўны крок грыміць.
Штандарных дзён краса ў праменнях пяцікутных
Да сонца сцеле шлях для роднае зямлі,
Руйнуе ўсе сляды народнае пакуты.

Шукаю цёплых слоў. Я выйшаў з цёмных брам,
І грудзі нашыя пяюць аб гібкай сталі—
Пароль на збор усім вызволеным братам—
На вуснах нашых спеў і родны, мудры Сталін!

Верасень, 1939 г. Гродна.

*М. Клімковіч*

## ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА

Завітай к нам, родны Сталін.
Паглядзі, чым край наш стаў,
Што ад панскае няволі
Ты у бойцы адстаяў.
Не пазнаеш Беларусі,
Што стагнала з веку ў век,—
Абнавіўся край шчаслівы,
Стаў шчаслівым чалавек.
Ўстрэнем мы цябе, як бацьку,
Правадыр наш дарагі,
Дываном пасцелем ў ногі
Ўсе мурожныя лугі.
Зашуміць, як мора, жыта
Залатое на раллі.
Нізка схоняць буйны колас
Плоданосныя палі.
Нашых фабрык і заводаў
Стане горды мужны строй,
Пагранічнікі-герої
Пройдуць лаваю стальной.
Як каліна к сонцу кветкі
Паднімае на лугах,
Мы дзяцей сваіх паднімем
К табе, родны, на руках,
Каб ты ведаў, як расце наш
Край шчаслівы з года ў год,
Як цябе, наш бацька, любіць
Беларускі наш народ.

*Міхась Машара*

## ПРАВАДЫРУ

Сонцам расквечаны далі,
Далі радзімай зямлі,
Родны,
Вялікі наш Сталін,
Песню народа прымі.
Песню народа, якому
Ты вызваленне падаў,
З рук заламаных знямогай
Панскія путы сарваў.

Радасць грудзямі сваволіць,
Поўняцца сэрцы табой.
Вольных палёў і ваколіц
Пан больш не стопча нагой.
Ўдзячнасць хвалюе краіну,
Лёг у прасторы наш пуць.
Неба затканае сінім,
Светлыя думы плывуць.
Фабрыкі ў рытме вясёлым
Ўжо беспрацоўе знялі,
Усім беззямельным па сёлах
Панскай хапіла зямлі.

Выраслі курсы і школы,
Вольны нам далі і шыр.
Радасцю нашай чырвонай
Славім цябе, правадыр.

Шагам рытмічным і згодным,
Смела наперад ідзём,
На пагранiччы заходнім,
Варту Советаў нясем.

Мы твае дзеці, Вялікі,
Дні нашы сталі красой,
Будзе патрэбна—
Ты—клікні,
Ўсе мы гатовы у бой.

Сонцам расквечаны далі,
Далі радзімай зямлі.
Родны,
Вялікі наш Сталін,
Песню народа прымі!

Эдзі Агняцвет

# СТАЛІН

Пад небам Грузіі старой,
Дзе ў дыванах зялёных горы,
Дзе родны спеў звініць Курой—
Стаіць маленькі горад Горы.
Там спее золата ў садах,
Там Джугашвілі Кацярына
Ў далёкі пазірала шлях
І пела калыханку сыну:
— Сынок мой, слухай
кліча край,
І плача Суліко ў няволі.
Сынок мой, хутка падрастай,
Арлом ляці, знайдзі нам долю,
— Ты не губляй нідзе дарог—
ці між снягоў,
ці над Уралам...
Навечна песню ён збярог,
Што маці любая спявала.
Ён залатое ўзняў руно
Са дна марэй,
з-пад грознай хвалі.
І стала на зямлі відно,
Як зоркі на Крэмлі заззялі.
І зашумелі вусці рэк
Там, дзе пяскі гулі тужліва.
Ён самы просты чалавек,
Ён самы мудры і праўдзівы.
Ён чуе кожны подых мой,—
Таму ў жыцці не знаю гора,
Рабоў ён падымае ў бой,
Каб вечна ім свяцілі зоры.
Як сын народзіцца ў мяне,
Маленькай кветкай гляне ў далі,
Як толькі гаварыць пачне,
Ён першым скажа слова—
— Сталін.

Снежань 1939 г.

# АБ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ СОВЕЦКАГА САЮЗА

## *Даклад Старшыні Совета Народных Камісараў і Народнага Камісара Замежных Спраў тав. В. М. МОЛАТАВА на паседжанні Вярхоўнага Совета СССР 31 кастрычніка 1939 г.*

Таварышы дэпутаты!

За апошнія два месяцы ў міжнароднай абстаноўцы адбыліся важныя змяненні. Гэта адносіцца, перш за ўсё, да становішча ў Еўропе, але таксама і да краін, якія знаходзяцца далёка за прэдзеламі Еўропы. У сувязі з гэтым трэба ўказаць на тры асноўныя акалічнасці, якія маюць рашаючае значэнне.

Па-першае, трэба ўказаць на змяненні, якія адбыліся ў адносінах паміж Совецкім Саюзам і Германіяй. З часу заключэння 23 жніўня совецка-германскага дагавора аб ненападзе быў пакладзен канец ненармальным адносінам, існаваўшым на працягу раду год паміж Совецкім Саюзам і Германіяй. На змену варожасці, усяляк падаграваўшайся з боку некаторых еўрапейскіх дзяржаў, прышло зблізэнне і ўстанаўленне дружаственых адносін паміж СССР і Германіяй. Далейшае паляпшэнне гэтых новых, добрых адносін знайшло сваё выражэнне ў германа-совецкім дагаворы аб дружбе і граніцы паміж СССР і Германіяй, падпісаным 28 верасня ў Маскве. Круты паварот, які адбыўся ў адносінах паміж Совецкім Саюзам і Германіяй, паміж двума самымі буйнымі дзяржавамі Еўропы, не мог не сказацца на ўсім міжнародным становішчы. Пры гэтым падзеі цалкам пацвердзілі тую ацэнку палітычнага значэння совецка-германскага зблізэння, якая была дана на мінулай Сесіі Вярхоўнага Совета.

Па-другое, трэба ўказаць на такі факт, як ваенны разгром Польшчы і распад польскай дзяржавы. Правячыя кругі Польшчы не мала кічыліся «моцнасцю» сваёй дзяржавы і «магутнасцю» сваёй арміі. Аднак, аказалася дастатковым кароткага ўдару па Польшчы з боку спачатку германскай арміі, а потым—Чырвонай Арміі, каб нічога не асталося ад гэтага ўродлівага дзецішча версальскага дага-

вора, жыўшага за кошт прыгнечання няпольскіх нацыянальнасцей. «Традыцыйная палітыка» беспрынцыпнага лавіравання і ігры паміж Германіяй і СССР аказалася несастаяцельнай і поўнасцю абанкроцілася.

Па-трэцяе, трэба прызнаць, што выбухнуўшая ў Еўропе вялікая вайна ўнесла карэнныя змяненні ва ўсю міжнародную абстаноўку. Гэтая вайна пачалася паміж Германіяй і Польшчай і ператварылася ў вайну паміж Германіяй—з аднаго боку, Англіяй і Францыяй—з другога боку. Вайна паміж Германіяй і Польшчай закончылася быстра, з прычыны поўнага банкроцтва польскіх кіраўнікоў. Польшчы, як вядома, не дапамаглі ні англійскія, ні французскія гарантыі. Да гэтага часу, уласна, так і невядома, што гэта былі за «гарантыі» *(Агульны смех)*. Пачаўшаяся паміж Германіяй і англа-французскім блокам вайна знаходзіцца толькі ў сваёй першай стадыі і па-сапраўднаму яшчэ не разгарнулася. Тым не менш, зразумела, што такая вайна павінна была ўнесці карэнныя змяненні ў становішча Еўропы, ды і не толькі Еўропы.

У сувязі з гэтымі важнымі змяненнямі міжнароднай абстаноўкі, некаторыя старыя формулы, якімі мы карысталіся яшчэ нядаўна,—і да якіх многія так прывыклі—яўна ўстарэлі і цяпер непрымянімы. Трэба аддаць сабе ў гэтым адчот, каб унікнуць грубых памылак у ацэнцы склаўшагася новага палітычнага становішча ў Еўропе.

Вядома, напрыклад, што за апошнія некалькі месяцаў такія паняцці, як «агрэсія», «агрэсар» атрымалі новы канкрэтны змест, набылі новы сэнс. Не цяжка здагадацца, што цяпер мы не можам карыстацца гэтымі паняццямі ў тым-жа сэнсе, як, скажам, 3—4 месяцы таму назад. Цяпер, калі гаварыць аб вялікіх дзяржавах Еўропы, Германія знаходзіцца ў становішчы дзяржавы, якая імкнецца да хутчэйшага сканчэння вайны і да міру, а Англія і Францыя, учора яшчэ ратаваўшыя супроць агрэсіі, стаяць за працяг вайны і супроць заключэння міру. Ролі, як бачыце, мяняюцца.

Спробы англійскага і французскага ўрадаў апраўдаць гэтую сваю новую пазіцыю дадзенымі Польшчы абавязацельствамі, зразумела, яўна несастаяцельны. Аб аднаўленні старай Польшчы, як кожнаму зразумела, не можа быць і гутаркі. Таму бессэнсоўным з'яўляецца працяг цяперашняй вайны пад сцягам аднаўлення ранейшай польскай дзяржавы. Разумеючы гэта, урады Англіі і Францыі, аднак, не хочуць спынення вайны і аднаўлення міру, а шукаюць новага апраўдання для працягу вайны супроць Германіі.

У апошні час правячыя кругі Англіі і Францыі прабуюць паказаць сябе ў якасці барацьбітоў за дэмакратычныя правы народаў супроць гітлерызма, прычым англійскі ўрад аб'явіў, што нібы для яго мэтай вайны супроць Германіі з'яўляецца, не больш і не менш, як «знішчэнне гітлерызма». Атрымліваецца так, што англійскія, а разам з імі і французскія, староннікі вайны аб'явілі супроць Германіі штосьці накшталт «ідэалагічнай вайны», напамінаючай старыя рэлігійныя войны. Сапраўды, у свой час рэлігійныя войны супроць ерэтыкаў і інаверцаў былі ў модзе. Яны, як вядома, прывялі да цягчайшых для народных мас вынікаў, да гаспадарчага разарэння і да культурнага адзічання народаў. Нічога іншага гэтыя войны і не

маглі даць. Але гэтыя войны былі ў часы сярэдневякоўя. Ці не да гэтых часоў сярэдневякоўя, да часоў рэлігійных войн, забабонаў і культурнага адзічання цягнуць нас зноў пануючыя класы Англіі і Францыі? Ва ўсякім выпадку, пад «ідэалагічным» сцягам цяпер зацеяна вайна яшчэ большага маштаба і яшчэ большых небяспек для народаў Еўропы і ўсяго свету. Але такога роду вайна не мае для сябе ніякага апраўдання. Ідэалогію гітлерызма, як і ўсякую іншую ідэалагічную сістэму, можна прызнаваць або адмаўляць, гэта—справа палітычных поглядаў. Але любы чалавек зразумее, што ідэалогію нельга знішчыць сілай, нельга пакончыць з ёю вайной. Таму не толькі бессэнсоўна, але і злачынна весці такую вайну, як вайна за «знішчэнне гітлерызма», прыкрываемая фальшывым сцягам барацьбы за «дэмакратыю». На самой справе, ніяк нельга назваць барацьбой за дэмакратыю такія дзеянні, як закрыццё комуністычнай партыі ва Францыі, арышты комуністычных дэпутатаў французскага парламента або ўрэзванне палітычных свабод у Англіі, неаслабяваючы нацыянальны гнёт у Індыі і т. п.

Ці не ясна, што мэта цяперашняй вайны ў Еўропе не ў тым, аб чым гавораць у афіцыяльных выступленнях для шырокага круга слухачоў ва Францыі і Англіі, г. зн. не ў барацьбе за дэмакратыю, а ў чымсьці другім, аб чым не гавораць гэтыя паны адкрыта.

Сапраўдная прычына англа-французскай вайны супроць Германіі не ў тым, што Англія і Францыя пакляліся нібы аднавіць былую Польшчу. І, вядома, не ў тым, што яны рашылі нібы ўзяць на сябе задачу барацьбы за дэмакратыю. У правячых кругоў Англіі і Францыі ёсць, зразумела, іншыя, больш сапраўдныя матывы для вайны супроць Германіі. Гэтыя матывы адносяцца не да галіны якой-небудзь ідэалогіі, а да сферы іх сугуба матэрыяльных інтарэсаў, як магутных каланіяльных дзяржаў.

Брытанская імперыя, насельніцтва якой дасягае 47 мільёнаў, уладае калоніямі з насельніцтвам у 480 мільёнаў чалавек. Каланіяльная імперыя Францыі, насельніцтва якой не перавышае 42 мільёнаў, ахватвае 70 мільёнаў жыхароў ва французскіх калоніях. Уладанне гэтымі калоніямі, даючае магчымасць эксплаатыраваць сотні мільёнаў людзей, з'яўляецца асновай сусветнага панавання Англіі і Францыі. Страх перад германскімі дамаганнямі на гэтыя каланіяльныя ўладанні—вось у чым падаплёка цяперашняй вайны Англіі і Францыі супроць Германіі, якая сур'ёзна ўзмацнілася за апошні час у рэзультаце развалу версальскага дагавора. Апасенні за страту сусветнага панавання дыктуюць правячым кругам Англіі і Францыі палітыку распальвання вайны супроць Германіі.

Такім чынам, імперыялістычны характар гэтай вайны відавочны для кожнага, хто хоча бачыць сапраўднае становішча спраў, хто не закрывае вачэй на факты.

З усяго гэтага відаць, каму патрэбна гэта вайна, якая вядзецца з-за сусветнага панавання. Вядома, не рабочаму класу. Такая вайна не абяцае рабочаму класу нічога, апрача крывавых афяр і бедстваў.

Пасля гэтага, мяркуйце самі: змяніўся ці не змяніўся за апошні перыяд змест такіх паняццяў, як «агрэсія», «агрэсар». Не цяжка бачыць, што ўжыванне гэтых слоў у старым сэнсе,—гэта значыць,

як гэта было да апошняга рашучага павароту ў палітычных адносінах паміж Совецкім Саюзам і Германіяй і да пачатку вялікай імперыялістычнай вайны ў Еўропе,—можа параджаць толькі блытаніну ў галовах і непазбежна будзе штурхаць да памылковых вывадаў. Каб гэтага не здарылася, мы не павінны дапускаць некрытычных адносін да тых старых паняццяў, якія непрымянімы ў новай міжнароднай абстаноўцы.

Так склалася міжнародная абстаноўка ў апошні перыяд.

Пяройдзем да змяненняў, якія адбыліся ў знешнім становішчы самога Совецкага Саюза. Змяненні тут адбыліся не маленькія, але, калі гаварыць аб галоўным, то нельга не прызнаць наступнага: дзякуючы паслядоўнаму правядзенню сваёй мірнай знешняй палітыкі, нам удалося значна ўзмацніць свае пазіцыі і міжнародную вагу Совецкага Саюза. *(Працяглыя апладысменты).*

Нашы адносіны з *Германіяй,* як я ўжо сказаў, палепшыліся карэнным чынам. Тут справа развівалася па лініі ўмацавання дружаственых адносін, развіцця практычнага супрацоўніцтва і палітычнага падтрымання Германіі ў яе імкненнях да міру.

Заключаны паміж Совецкім Саюзам і Германіяй дагавор аб ненападзе абавязваў нас да нейтралітэта ў выпадку ўдзелу Германіі ў вайне. Мы паслядоўна праводзілі гэтую лінію, чаму ніяк не супярэчыць уступленне нашых войск на тэрыторыю былой Польшчы, якое пачалося 17 верасня. Дастаткова напомніць, што тады-ж, 17 верасня, совецкі ўрад разаслаў усім дзяржавам, з якімі ён мае дыпламатычныя адносіны, спецыяльную ноту з заявай аб тым, што СССР і надалей будзе праводзіць палітыку нейтралітэта ў адносінах з імі. Як вядома, нашы войскі ўступілі на тэрыторыю Польшчы толькі пасля таго, як польская дзяржава распалася і фактычна перастала існаваць. Аставацца нейтральнымі да такіх фактаў мы, зразумела, не маглі. У рэзультаце гэтых падзей перад намі паўсталі вострыя пытанні безапаснасці нашай дзяржавы. Да таго-ж совецкі ўрад не мог не лічыцца з выключным становішчам, што стварылася для брацкага насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, якое ў разваліўшайся Польшчы аказалася кінутым на волю лёсу.

Паследуючыя падзеі поўнасцю пацвердзілі, што новыя совецка-германскія адносіны пабудаваны на моцнай базе ўзаемных інтарэсаў. Пасля ўступлення часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыю былой польскай дзяржавы ўзніклі сур'ёзныя пытанні разгранічэння дзяржаўных інтарэсаў СССР і Германіі. Гэтыя пытанні былі быстра ўрэгуліраваны па ўзаемнай згодзе. Германа-совецкі дагавор аб дружбе і граніцы паміж СССР і Германіяй, заключаны ў канцы верасня, замацаваў нашы адносіны з германскай дзяржавай.

Адносіны Германіі з іншымі заходнееўрапейскімі буржуазнымі дзяржавамі за апошнія два дзесяцігоддзі вызначаліся, перш за ўсё, імкненнем Германіі разбіць путы версальскага дагавора, тварцамі якога былі Англія і Францыя пры актыўным удзеле Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэта, у канчатковым выніку, і прывяло да цяперашняй вайны ў Еўропе.

Адносіны Савецкага Саюза з Германіяй будаваліся на іншай аснове, не маючай нічога агульнага з інтарэсамі ўвекавечання пасляваеннай версальскай сістэмы. Мы заўсёды былі той думкі, што сільная Германія з'яўляецца неабходнай умовай моцнага міру ў Еўропе. Было-б смешна думаць, што Германію можна «проста вывесці са строю» і скінуць са шчотаў. Дзяржавы, пястуючыя гэтую глупую і небяспечную мару, не ўлічваюць сумнага вопыту Версаля, не аддаюць сабе адчоту ва ўзросшай магутнасці Германіі і не разумеюць таго, што спроба паўтарыць Версаль пры цяперашняй міжнароднай абстаноўцы, якая ў корані адрозніваецца ад абстаноўкі 1914 года,—можа скончыцца для іх крахам.

Мы няўхільна імкнуліся да паляпшэння адносін з Германіяй і ўсямерна віталі такога роду імкненні ў самой Германіі. Цяпер нашы адносіны з германскай дзяржавай пабудаваны на базе дружаственых адносін, на гатоўнасці падтрымліваць імкненні Германіі да міру і, разам з тым, на жаданні ўсямерна садзейнічаць развіццю савецка-германскіх гаспадарчых адносін к узаемнай карысці абодвух дзяржаў. Трэба спецыяльна адзначыць, што змяненні ў палітычнай галіне, якія адбыліся ў савецка-германскіх адносінах, стварылі спрыяючыя прадпасылкі для развіцця савецка-германскіх гаспадарчых адносін. Апошнія гаспадарчыя перагаворы германскай дэлегацыі ў Маскве і адбываючыяся ў даны момант перагаворы савецкай гаспадарчай дэлегацыі ў Германіі падрыхтоўваюць шырокую базу для развіцця тавараабароту паміж Савецкім Саюзам і Германіяй.

Цяпер дазвольце спыніцца на падзеях, непасрэдна звязаных з уступленнем нашых войск на тэрыторыю былой польскай дзяржавы. Мне няма неабходнасці апісваць ход гэтых падзей. Аб усім гэтым падрабязна гаварылася ў нашым друку, і вы, таварышы дэпутаты, добра знаёмы з фактычнай стараной. Скажу толькі аб самым істотным.

Няма чаго даказваць, што ў момант поўнага распаду польскай дзяржавы наш урад абавязан быў працягнуць руку дапамогі пражываючым на тэрыторыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі братам-украінцам і братам-беларусам. Ён так і паступіў. *(Бурныя, працяглыя апладысменты, дэпутаты ўстаюць і наладжваюць авацыю).*

Чырвоная Армія ўступіла ў гэтыя раёны пры ўсеагульным спачуванні украінскага і беларускага насельніцтва, сустракаўшага нашы войскі, як сваіх вызваліцеляў ад панскага гнёту, ад гнёту польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Пры баявым прасоўванні Чырвонай Арміі па гэтых раёнах у нашых воінскіх часцей былі месцамі сур'ёзныя сутычкі з польскімі часцямі, а, стала быць, былі і афяры. Якія былі гэтыя афяры, відаць з наступнага. На Беларускім фронце ў часцях Чырвонай Арміі, лічачы начальствуючы і радавы састаў, мы мелі забітых—246 і раненых—503, а ўсяго—749. На Украінскім фронце мы мелі забітых з начальствуючага і радавога састава—491 і раненых—1.359, а ўсяго—1.850. Значыць, агульная колькасць афяр, панесеных Чырвонай Арміяй на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, складае: забітых 737, раненых—1.862, гэта значыць,

у цэлым—2.599 чалавек. Што датычыць нашых баявых трафеяў у Польшчы, то яны складаюць 900 з лішнім гармат, звыш 10.000 кулямётаў, звыш 300 тысяч вінтовак, больш 150 мільёнаў вінтовачных патронаў, каля 1 мільёна артылерыйскіх снарадаў, да 300 самалётаў і г. д.

Перайшоўшая да СССР тэрыторыя па сваіх размерах роўна тэрыторыі вялікай еўрапейскай дзяржавы. Так, тэрыторыя Заходняй Беларусі дасягае 108 тысяч квадратных кілометраў, з насельніцтвам у 4 мільёны 800 тысяч чалавек. Тэрыторыя Заходняй Украіны складае 88 тысяч квадратных кілометраў, з насельніцтвам у 8 мільёнаў чалавек. Такім чынам, перайшоўшая да нас тэрыторыя Заходняй Украіны разам з тэрыторыяй Заходняй Беларусі складае 196 тысяч квадратных кілометраў, а яе насельніцтва—каля 13 мільёнаў чалавек, з якіх украінцаў—больш 7 мільёнаў, беларусаў—больш 3 мільёнаў, палякаў—звыш 1 мільёна, яўрэяў—звыш 1 мільёна.

Палітычнае значэнне гэтых падзей цяжка пераацаніць. Усе паведамленні з Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі сведчаць аб тым, што насельніцтва з неапісуемым захапленнем сустрэла сваё вызваленне ад панскага гнёту і горача вітала новую вялікую перамогу савецкай улады. *(Узрыў доўгіх апладысментаў).* Прайшоўшыя ў апошнія дні выбары ў Народнае Сабранне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, якія тут былі ўпершыню арганізаваны на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права, з тайнай падачай галасоў, паказалі, што, па крайняй меры, 9/10 насельніцтва гэтых абласцей былі ўжо даўно падрыхтаваны для з'еднання з Савецкім Саюзам. Вядомыя ўжо цяпер усім нам рашэнні Народных Сабранняў ва Львове і Беластоку сведчаць аб поўнай аднадушнасці народных выбраннікаў ва ўсіх палітычных пытаннях.

Пяройдзем да нашых адносін з прыбалтыйскімі краінамі. Як вядома, і тут адбыліся істотныя змяненні.

У аснове адносін Савецкага Саюза з *Эстоніяй, Латвіяй і Літвой* ляжаць адпаведныя мірныя дагаворы, заключаныя ў 1920 годзе. Па гэтых дагаворах Эстонія, Латвія і Літва атрымалі самастойнае дзяржаўнае існаванне, прычым за ўвесь прайшоўшы перыяд Савецкі Саюз нязменна праводзіў дружаственую палітыку ў адносінах гэтых, уноў створаных, малых дзяржаў. У гэтым знайшло сваё выражэнне карэннае адрозненне палітыкі савецкай улады ад палітыкі царскай Расіі, якая зверска прыгнятала малыя народы, не давала ім якой-небудзь магчымасці самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця і пакінула ў іх нямала цягасных успамінаў. Трэба прызнаць, што вопыт прайшоўшых двух дзесяцігоддзяў развіцця дружаственых савецка-эстонскіх, савецка-латвійскіх і савецка-літоўскіх адносін стварылі спрыяючыя прадпасылкі для далейшага ўмацавання палітычных і ўсякіх іншых адносін СССР з прыбалтыйскімі суседзямі. Гэта паказалі і апошнія дыпламатычныя перагаворы з прадстаўнікамі Эстоніі, Латвіі і Літвы, і тыя дагаворы, якія былі падпісаны ў Маскве, у рэзультаце гэтых перагавораў.

Вы ведаеце, што Савецкі Саюз заключыў такія пакты ўзаемадапамогі з Эстоніяй, Латвіяй і Літвой, якія маюць буйнейшае палі-

тычнае значэнне. Прынцыповая аснова гэтых пактаў аднолькавая. Яны асновaны на ўзаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам,—з аднаго боку, Эстоніяй, Латвіяй і Літвой,—з другога боку, уключаючы і ваенную дапамогу адзін аднаму, у выпадку нападу на каго-небудзь з іх. З прычыны асобага геаграфічнага становішча гэтых краін, якія з'яўляюцца свайго роду подступамі да СССР, асабліва з боку Балтыйскага мора, гэтыя пакты прадстаўляюць Савецкаму Саюзу магчымасць мець ваенна-марскія базы і аэрадромы ў пэўных пунктах Эстоніі і Латвіі, а ў адносінах Літвы ўстанаўліваюць сумесную з Савецкім Саюзам абарону літоўскай граніцы. Стварэнне гэтых савецкіх ваенна-марскіх баз і аэрадромаў на тэрыторыі Эстоніі, Латвіі і Літвы і ўвод некаторай колькасці чырвонаармейскіх часцей для аховы гэтых баз і аэрадромаў забяспечвае надзейную апору абароны не толькі для Савецкага Саюза, але і для саміх прыбалтыйскіх дзяржаў і, тым самым, служыць справе захавання міру, у якім зацікаўлены нашы народы.

Меўшыя месца ў апошні час дыпламатычныя перагаворы з Эстоніяй, Латвіяй і Літвой паказалі, што паміж намі існуе дастатковае давер'е і патрэбнае разуменне неабходнасці ажыццяўлення гэтых ваенна-абараняльных мер у інтарэсах як Савецкага Саюза, так і саміх гэтых дзяржаў. У перагаворах поўнасцю выявілася імкненне іх удзельнікаў да захавання міру і да забеспячэння безапаснасці для нашых народаў, занятых мірнай працай. Усё гэта і забяспечыла паспяховае сканчэнне перагавораў і заключэнне пактаў узаемадапамогі, маючых важнае гістарычнае значэнне.

Асобы характар указаных пактаў узаемадапамогі ніяк не азначае якога-небудзь умяшання Савецкага Саюза ў справы Эстоніі, Латвіі і Літвы, як гэта прабуюць паказаць некаторыя органы замежнага друку. Наадварот, усе гэтыя пакты ўзаемадапамогі цвёрда агаварваюць недатыкальнасць суверэнітэта падпісаўшых іх дзяржаў і прынцып неўмяшання ў справы другой дзяржавы. Гэтыя пакты выходзяць з узаемнай павагі дзяржаўнай, сацыяльнай і эканамічнай структуры другой стараны і павінны ўмацаваць аснову мірнага добрасуседскага супрацоўніцтва паміж нашымі народамі. Мы стаім за чэснае і пунктуальнае правядзенне ў жыццё заключаных пактаў на ўмовах поўнай узаемнасці і заяўляем, што балбатня аб саветызацыі прыбалтыйскіх краін выгодна толькі нашым агульным ворагам і ўсякім антысавецкім правакатарам.

На аснове дасягнутага паляпшэння палітычных адносін з Эстоніяй, Латвіяй і Літвой, Савецкі Саюз пайшоў шырока насустрач гаспадарчым патрэбам гэтых дзяржаў, заключыўшы адпаведныя гандлёвыя пагадненні. У сувязі з гэтымі гаспадарчымі пагадненнямі, тавараабарот з прыбалтыйскімі краінамі павялічваецца ў некалькі разоў і мае спрыяючую перспектыву для далейшага росту. Ва ўмовах, калі гандаль усіх еўрапейскіх краін, у тым ліку і нейтральных дзяржаў, перажывае велізарныя затрудненні, гэтыя эканамічныя пагадненні СССР з Эстоніяй, Латвіяй і Літвой маюць для іх вельмі буйнае станоўчае значэнне.

Такім чынам, збліжэнне, якое адбылося паміж СССР, Эстоніяй, Латвіяй і Літвой, будзе садзейнічаць больш хуткаму ўздыму сель-

ская гаспадаркі, прамысловасці, транспарта і наогул народнага дабрабыту нашых прыбалтыйскіх суседзяў.

Прынцыпы совецкай палітыкі ў адносінах малых краін з асобай сілай прадэманстрыраваны на прыкладзе дагавора аб перадачы Літоўскай рэспубліцы горада Вільна і Віленскай вобласці. Пры гэтым літоўская дзяржава з яе насельніцтвам у два з палавінай мільёны чалавек значна расшырае сваю тэрыторыю, павялічвае на 550 тысяч чалавек сваё насельніцтва і атрымлівае горад Вільна, лік жыхароў якога амаль у два разы перавышае насельніцтва цяперашняй літоўскай сталіцы. Совецкі Саюз пайшоў на перадачу горада Вільна Літоўскай рэспубліцы не таму, што ў ім пераважае літоўскае насельніцтва. Не, у Вільна большасць складае нелітоўскае насельніцтва. Але совецкі ўрад лічыўся з тым, што горад Вільна, які Польшчай быў насільственна адторгнут ад Літвы, павінен належаць Літве, як такі горад, з якім звязана, з аднаго боку, гістарычнае мінулае літоўскай дзяржавы, а з другога—нацыянальныя спадзяванні літоўскага народа. У замежным друку ўказвалася, што ў сусветнай гісторыі не было яшчэ такога выпадку, каб вялікая дзяржава па ўласнай волі аддавала малой дзяржаве такі вялікі горад. Тым ярчэй гэты акт совецкай дзяржавы дэманстрыруе яго добрую волю.

У асобным становішчы знаходзяцца нашы адносіны з Фінляндыяй. Гэта аб'ясняецца, галоўным чынам, тым, што ў Фінляндыі больш сказваюцца рознага роду знешнія ўплывы з боку трэціх дзяржаў. Бесстаронныя людзі павінны, аднак, прызнаць, што тыя-ж пытанні забеспячэння безапаснасці Совецкага Саюза і, асабліва, Ленінграда, якія стаялі ў перагаворах з Эстоніяй, стаяць і ў перагаворах з Фінляндыяй. Можна сказаць, што ў некаторых адносінах пытанні безапаснасці для Совецкага Саюза тут стаяць нават вастрэй, паколькі галоўны, пасля Масквы, горад совецкай дзяржавы—Ленінград, знаходзіцца ўсяго ў 32 кіламетрах ад граніцы Фінляндыі. Гэта значыць, што Ленінград знаходзіцца ад граніцы другой дзяржавы на адлегласці меншай, чым гэта трэба для артылерыйскага абстрэлу з сучасных дальнабойных гармат. З другога боку марскія подступы да Ленінграда таксама ў значнай меры залежаць ад таго—варожую або дружаственную пазіцыю ў адносінах да Совецкага Саюза займае Фінляндыя, якой належыць уся паўночная частка ўзбярэжжа Фінскага заліва і ўсе астравы ўздоўж цэнтральнай часткі Фінскага заліва.

Лічачыся з такім становішчам, а таксама са стварыўшайся ў Еўропе абстаноўкай, можна разлічваць, што з боку Фінляндыі будзе праяўлена належнае разуменне.

На чым асноўваліся адносіны Совецкага Саюза з Фінляндыяй за ўсе гэтыя годы? Вядома, што асновай гэтых адносін з'яўляецца мірны дагавор 1920 года па тыпу нашых дагавораў з іншымі нашымі балтыйскімі суседзямі. Совецкі Саюз сваім свабодным волевыяўленнем забяспечыў самастойнае і незалежнае існаванне Фінляндыі. Не можа быць сумнення, што толькі совецкі ўрад, які прызнае прынцып свабоднага развіцця нацыянальнасцей, мог пайсці на гэты крок. Трэба сказаць, што ніякі ўрад у Расіі, апрача совецкага, не можа дапусціць існаванне незалежнай Фінляндыі ля самых варот

Ленінграда. Аб гэтым красамоўна гаворыць вопыт з «дэмакратычным» урадам Керэнскага-Цэрэтэлі, не гаворачы ўжо аб урадзе князя Львова-Мілюкова і, тым больш, аб царскім урадзе. Няма сумнення, гэта важная акалічнасць магла-б служыць добрай прадпасылкай для паляпшэння совецка-фінскіх адносін, у якіх, як відаць, Фінляндыя не менш зацікаўлена, чым Совецкі Саюз.

Совецка-фінскія перагаворы пачаліся нядаўна, па нашай ініцыятыве. Што з'яўляецца прадметам гэтых перагавораў? Не цяжка зразумець, што ў сучаснай міжнароднай абстаноўцы, калі ў цэнтры Еўропы разгортваецца вайна паміж буйнейшымі дзяржавамі, чрэватая вялікімі нечаканасцямі і небяспекамі для ўсіх еўрапейскіх дзяржаў,—Совецкі Саюз не толькі мае права, але і абавязан прымаць сур'ёзныя меры для ўмацавання сваёй безапаснасці. Пры гэтым, натуральна, што совецкі ўрад праяўляе асобыя клопаты адносна Фінскага заліва, які з'яўляецца марскім подступам да Ленінграда, а таксама адносна той сухапутнай граніцы, якая ў якіх-небудзь 30 кілометрах навісла над Ленінградам. Я напомню, што насельніцтва Ленінграда дасягнула трох з палавінай мільёнаў, што амаль роўна насельніцтву ўсёй Фінляндыі, якая налічвае 3 мільёны 650 тысяч жыхароў. *(Вясёлае ажыўленне ў зале).*

Наўрад ці ёсць падставы спыняцца на тых небыліцах, якія распаўсюджваюцца замежнай прэсай аб прапановах Совецкага Саюза ў перагаворах з Фінляндыяй. Адны сцвярджаюць, што СССР «патрабуе» сабе г. Віпуры (Выбарг) і паўночную частку Ладажскага возера. Скажам ад сябе, што гэта—чысты вымысел і хлусня. Іншыя сцвярджаюць, што СССР «патрабуе» перадачы яму Аландскіх астравоў. Гэта—такі-ж вымысел і хлусня. Балбочуць яшчэ аб якіхсьці прэтэнзіях, нібы існуючых у Совецкім Саюзе ў адносінах Швецыі і Нарвегіі. Але гэта беспардонная хлусня проста не заслугоўвае абвяржэння. *(Агульны смех).* На самой справе, нашы прапановы ў перагаворах з Фінляндыяй з'яўляюцца максімальна скромнымі і абмяжоўваюцца тым мінімумам, без якога немагчыма забяспечыць безапаснасць СССР і наладзіць дружаскія адносіны з Фінляндыяй.

Мы пачалі перагаворы з прадстаўнікамі Фінляндыі, для чаго Фінляндскі ўрад камандзіраваў у Маскву пп. Паасківі і Танера, з прапановай заключыць совецка-фінскі пакт узаемадапамогі, прыкладна, па тыпу нашых пактаў узаемадапамогі з іншымі прыбалтыйскімі дзяржавамі. Паколькі, аднак, фінлядскі ўрад заявіў нам, што заключэнне такога пакта супярэчыла-б занятай ім пазіцыі абсалютнага нейтралітэта, мы не сталі настайваць на нашай прапанове.

Мы прапанавалі тады перайсці да канкрэтных пытанняў, у якіх мы зацікаўлены з пункту гледжання забеспячэння безапаснасці СССР і, у асаблівасці, безапаснасці Ленінграда, як з боку мора—у Фінскім заліве, так і з боку сушы, з прычыны празмернай блізасці пагранічнай лініі да Ленінграда. Мы прапанавалі дагаварыцца аб тым, каб адсунуць на поўнач ад Ленінграда на некалькі дзесяткаў кіламетраў совецка-фінскую граніцу на Карэльскім перашэйку. Узамен гэтага мы прапанавалі перадаць Фінляндыі частку тэрыторыі Совецкай

Карэліі, перавышаючую ў два разы тэрыторыю, перадаваемую Фінляндыяй Совецкаму Саюзу. Мы прапанавалі таксама дагаварыцца аб тым, каб Фінляндыя здала нам у арэнду на пэўны тэрмін невялікі ўчастак сваёй тэрыторыі ў раёне ўваходу ў Фінскі заліў, каб мы маглі там арганізаваць ваенна-марскую базу. Пры наяўнасці совецкай ваенна-марской базы ля паўднёвага ўваходу ў Фінскі заліў, а іменна ў Балтыйскім порце, як гэта абумоўлена совецка-эстонскім пактам узаемадапамогі, стварэнне ваенна-марской базы ля паўночнага ўваходу ў Фінскі заліў магло-б поўнасцю забяспечыць безапаснасць Фінскага заліва супроць варожых замахаў з боку іншых дзяржаў. Мы не сумняваемся ў тым, што стварэнне такой базы адпавядае інтарэсам не толькі Совецкага Саюза, але і безапаснасці самой Фінляндыі. Іншыя нашы прапановы і, у прыватнасці, наша прапанова аб абмене тэрыторыі некаторых астравоў у Фінскім заліве, а таксама часткі паўвостраваў Рыбачы і Сярэдні на двайную па размерах тэрыторыю ў Совецкай Карэліі, як відаць, не сустракаюць супярэчнасцей з боку фінляндскага ўрада. Рознагалоссі ў адносінах некаторых нашых прапаноў яшчэ не пераадолены, а зробленыя ў гэтых адносінах Фінляндыяй уступкі, напрыклад, частковая ўступка тэрыторыі на Карэльскім перашэйку, яўна не дасягаюць мэты.

Мы зрабілі, далей, рад новых крокаў насустрач Фінляндыі. Мы сказалі, што, калі будуць прыняты нашы асноўныя прапановы, мы гатовы зняць нашы пярэчанні супроць узбраення Аландскіх астравоў, на чым ужо даўно настойвае фінляндскі ўрад. Мы агаварылі толькі, што мы знімаем свае пярэчанні супроць узбраення Аландскіх астравоў пры ўмове, што ўказаныя ўзбраенні будуць праводзіцца нацыянальнымі сіламі самой Фінляндыі і што ў гэтых узбраеннях трэція краіны не будуць прымаць ніякага ўдзелу, паколькі і СССР не ўдзельнічае ў іх. Мы прапанавалі таксама Фінляндыі правесці на ўсёй совецка-фінскай граніцы на Карэльскім перашэйку раззбраенне ўмацаваных раёнаў, што павінна цалкам адпавядаць інтарэсам Фінляндыі. Мы выразілі, далей, жаданне ўзмацніць совецка-фінскі пакт ненападу дадатковымі ўзаемнымі гарантыямі. Нарэшце, умацаванне палітычных совецка-фінскіх адносін, несумненна, з'явілася-б выдатнай базай і для быстрага пад'ёму гаспадарчых адносін паміж нашымі краінамі.

Такім чынам, мы гатовы ісці насустрач Фінляндыі ў тых пытаннях, у якіх яна асабліва зацікаўлена.

Пасля ўсяго гэтага мы не думаем, каб з боку Фінляндыі сталі шукаць повада да зрыву мяркуемага пагаднення. Гэта не адпавядала-б палітыцы дружаственых совецка-фінскіх адносін і, вядома, нанесла-б сур'ёзную шкоду Фінляндыі.

Мы ўпэўнены, што кіруючымі фінскімі кругамі будзе правільна зразумета значэнне ўмацавання совецка-фінскіх дружаственых адносін, і фінляндскія дзеячы не паддадуцца якому-небудзь антысовецкаму даўленню і падбухторванню з боку каго-б то ні было.

Я павінен, аднак, паведаміць, што нават прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі знайшоў умесным умяшацца ў гэтыя пытанні, што цяжка ўзгадніць з палітыкай амерыканскага нейтралітэта. У сваім пасланні 12 кастрычніка на імя т. Калініна—Старшыні Прэзідыума

Вярхоўнага Совета, п. Рузвельт выразіў надзею на захаванне і развіццё дружалюбных і мірных адносін паміж СССР і Фінляндыяй. Можна падумаць, што ў Злучаных Штатаў Амерыкі лепш абстаяць справы, скажам, з Філіпінамі або з Кубай, якія даўно патрабуюць ад ЗША свабоды і незалежнасці, і не могуць іх атрымаць, чым у Савецкага Саюза з Фінляндыяй, якая даўно ўжо атрымала ад Савецкага Саюза і свабоду і дзяржаўную незалежнасць.

На пасланне п. Рузвельта т. Калінін адказаў наступным чынам:

«Лічу ўмесным напомніць Вам, пан прэзідэнт, што дзяржаўная незалежнасць Фінляндскай рэспублікі была прызнана свабодным волевыяўленнем савецкага ўрада 31 снежня 1917 года, і што суверэнітэт Фінляндыі забяспечан за ёю мірным дагаворам паміж РСФСР і Фінляндыяй ад 14 кастрычніка 1920 года. Указанымі актамі савецкага ўрада вызначаны былі асноўныя прынцыпы ўзаемаадносін паміж Савецкім Саюзам і Фінляндыяй. У адпаведнасці з гэтымі прынцыпамі вядуцца і цяперашнія перагаворы паміж савецкім урадам і ўрадам Фінляндыі. Наперакор тэндэнцыйным версіям, распаўсюджваемым кругамі, відавочна, не зацікаўленымі ў еўрапейскім міры, адзінай мэтай указаных перагавораў з'яўляецца ўмацаванне ўзаемаадносін паміж Савецкім Саюзам і Фінляндыяй і ўмацаванне дружаственага супрацоўніцтва абодвух краін у справе забеспячэння бяспаснасці Савецкага Саюза і Фінляндыі».

Пасля такога яснага адказу Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР павінна быць зусім зразумела, што пры наяўнасці добрай волі, фінляндскі ўрад пойдзе насустрач нашым мінімальным прапановам, якія не толькі не супярэчаць нацыянальным і дзяржаўным інтарэсам Фінляндыі, але ўмацоўваюць яе знешнюю бяспаснасць і ствараюць шырокую базу для далейшага шырокага развіцця палітычных і гаспадарчых адносін паміж нашымі краінамі.

Некалькі слоў аб перагаворах з *Турцыяй.*

Аб сутнасці гэтых перагавораў пішуць за граніцай усякую небыліцу. Адны сцвярджаюць, што СССР нібы патрабаваў перадачы раёнаў Ардагана і Карса. Скажам ад сябе, што гэта—суцэльны вымысел і хлусня. Іншыя сцвярджаюць, што СССР патрабаваў нібы змянення міжнароднай канвенцыі, заключанай у Монтры, і пераважных правоў для СССР у пытанні аб пралівах. Гэта—таксама вымысел і хлусня. На самай справе гутарка ішла аб заключэнні двухбаковага пакта ўзаемадапамогі, абмежаванага раёнамі Чорнага мора і праліваў. СССР лічыў, што заключэнне такога пакта не можа пабудзіць яго да дзеянняў, якія маглі-б уцягнуць яго ва ўзброены канфлікт з Германіяй, гэта па-першае, і што СССР павінен мець гарантыю, што з прычыны пагрозы вайны Турцыя не прапусціць ваенных караблёў нечарнаморскіх дзяржаў праз Басфор у Чорнае мора, гэта па-другое, Турцыя адхіліла абедзве гэтыя агаворкі СССР і тым зрабіла немагчымым заключэнне пакта.

Савецка-турэцкія перагаворы не прывялі да заключэння пакта, але яны дапамаглі высвятліць або, па крайняй меры, прашчупаць рад цікавячых нас палітычных пытанняў. У сучаснай міжнароднай абста-

ноўцы асабліва важна ведаць сапраўдны твар і палітыку дзяржаў, адносіны з якімі маюць сур'ёзнае значэнне. У палітыцы Турцыі нам многае стала цяпер куды ясней, як у рэзультаце маскоўскіх перагавораў, так і ў рэзультаце апошніх знешне-палітычных актаў турэцкага ўрада.

Як вядома, урад Турцыі палічыў за лепшае звязаць свой лёс з пэўнай групіроўкай еўрапейскіх дзяржаў, прымаючых удзел у вайне. Ён заключыў пакт узаемадапамогі з Англіяй і Францыяй, якія ўжо два месяцы вядуць вайну супроць Германіі. Тым самым Турцыя канчаткова адкінула асцярожную палітыку нейтралітэта і ўступіла ў арбіту разгортваючайся еўрапейскай вайны. Гэтым вельмі задаволены як у Англіі, так і ва Францыі, якія хочуць пабольш нейтральных краін уцягнуць у сваю сферу вайны. Ці не пашкадуе аб гэтым Турцыя—гадаць не будзем. *(Ажыўленне ў зале).* Нам прыходзіцца толькі адзначыць гэтыя новыя моманты ў знешняй палітыцы нашага суседа і ўважліва сачыць за развіццём падзей.

Калі Турцыя да пэўнай ступені цяпер звязала сабе рукі і схілілася да рыскованай для яе падтрымкі адной з ваюючых краін, то, відавочна, турэцкі ўрад сазнае адказнасць, якую ён гэтым ўзяў на сябе. Але гэта не тая знешняя палітыка, якой следуе Совецкі Саюз і дзякуючы якой Совецкі Саюз ужо забяспечыў не мала знешне-палітычных поспехаў. Совецкі Саюз лічыць за лепшае і надалей пакінуць сабе рукі свабоднымі, паслядоўна праводзіць сваю палітыку нейтралітэта і не толькі не садзейнічаць распальванню вайны, а садзейнічаць умацаванню наяўных імкненняў да аднаўлення міру. Мы ўпэўнены ў тым, што палітыка міру, якую няўхільна праводзіць СССР, мае і ў далейшым лепшыя перспектывы. Гэтую палітыку мы будзем праводзіць і ў раёне Чорнага мора з упэўненасцю, што поўнасцю забяспечым належнае яе правядзенне, як гэтага патрабуюць інтарэсы Совецкага Саюза і дружаственых яму дзяржаў. *(Апладысменты).*

Цяпер аб адносінах з *Японіяй.*

За апошні час у совецка-японскіх адносінах ёсць вядомае паляпшэнне. Гэтае паляпшэнне намецілася з часу нядаўняга маскоўскага пагаднення, у рэзультаце якога быў ліквідаван вядомы канфлікт на мангола-манчжурскай граніцы.

На працягу раду месяцаў, дакладней гаворачы на працягу мая, чэрвеня, ліпеня, жніўня і да сярэдзіны верасня, у Номанханскім раёне, прымыкаючым да мангола-манчжурскай граніцы, адбываліся ваенныя дзеянні з удзелам японa-мачжурскіх і совецка-мангольскіх войск. У баявых дзеяннях за гэты перыяд удзельнічалі ўсе роды зброі, уключаючы авіяцыю і цяжкую артылерыю, а баі часамі прымалі вельмі кровепралітны характар. Нікому непатрэбны канфлікт выклікаў нямалыя афяры на нашай старане, але гэтыя афяры былі ў некалькі разоў больш на японa-манчжурскай старане. Нарэшце, Японія звярнулася да нас з прапановай ліквідаваць канфлікт, і мы ахвотна пайшлі насустрач японскаму ўраду.

Як вядома, канфлікт быў выклікан імкненнем Японіі прысвоіць частку тэрыторыі Мангольскай Народнай Рэспублікі і гэтым шляхам насільствена змяніць у сваю карысць мангола-манчжурскую

граніцу. Такі аднабаковы метад павінен быў сустрэць рашучы адпор і паказаў яшчэ раз сваю поўную несастаяцельнасць, калі справа датычыць Совецкага Саюза або яго саюзнікаў. Калі на злапалучным прыкладзе Польшчы было нядаўна прадэманстрыравана, як танна іншы раз каштуюць пакты ўзаемадапамогі, падпісаныя некаторымі вялікімі дзяржавамі Еўропы *(смех)*, то на мангола-манчжурскай граніцы было прадэманстрыравана зусім іншае. Тут было прадэманстрыравана значэнне пактаў узаемадапамогі, пад якімі стаіць подпіс Совецкага Саюза. *(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).*

Што датычыць указанага канфлікта, то ў рэзультаце совецка-японскага пагаднення, заключанага 15 верасня ў Маскве, ён быў ліквідаван і мір быў поўнасцю адноўлен на мангола-манчжурскай граніцы. Тым самым быў зроблен першы крок да паляпшэння совецка-японскіх адносін.

На чарзе стаіць стварэнне змешанай пагранічнай камісіі з прадстаўнікоў совецка-мангольскай і япона-манчжурскай старон. Гэтай камісіі прадстаіць разглядзець некаторыя спрэчныя пагранічныя пытанні. Можна не сумнявацца, што калі добрая воля будзе праяўлена не толькі з нашага боку, то метад дзелавога разгляду пагранічных пытанняў дасць станоўчыя рэзультаты.

Апрача таго, выяснілася магчымасць прыступіць да перагавораў па пытаннях совецка-японскага гандлю. Нельга не прызнаць, што развіццё совецка-японскага тавараабароту адпавядае інтарэсам абодвых дзяржаў.

Такім чынам, мы маем падставы гаварыць аб намеціўшымся паляпшэнні нашых адносін з Японіяй. Зараз цяжка меркаваць, у якой меры можна разлічваць на быстрае развіццё гэтай тэндэнцыі. Нам яшчэ не ўдалося высніць, наколькі сур'ёзна падрыхтавана глеба для гэтага ў японскіх кругах. Са свайго боку павінен сказаць, што мы станоўча адносімся да гэтага роду японскіх прапаноў, падыходзячы да іх з пункту гледжання асноўнай нашай палітычнай пазіцыі і клопатаў аб інтарэсах міру.

Нарэшце, некалькі слоў аб ваеннай кантрабандзе і аб вывазе зброі з нейтральных краін у ваюючыя краіны.

Гэтымі днямі была апублікавана нота совецкага ўрада ў адказ на ноты Англіі ад 6 і 11 верасня. У нашай ноце ізложан пункт гледжання СССР на пытанні ваеннай кантрабанды і ўказана, што совецкі ўрад не можа прылічыць да ваеннай кантрабанды прадукты харчавання, паліва для мірнага насельніцтва і прадметы адзення, што забараніць увоз прадметаў масавага спажывання—значыць, асудзіць дзяцей, жанчын, старыкоў, хворых на бедствы і галодную смерць. Совецкі ўрад указвае ў ноце, што такія пытанні не могуць быць прадметам аднабаковага рашэння, як зрабіла гэта Англія, а павінны быць вырашаны з агульнай згоды дзяржаў. Мы разлічваем, што нейтральныя краіны, а таксама грамадская думка Англіі і Францыі прызнаюць правільнасць нашай пазіцыі і прымуць меры к таму, каб вайна паміж арміямі ваюючых краін не была ператворана ў вайну супроць дзяцей, жанчын, старыкоў, хворых. Ва ўсякім выпадку наша краіна, як краіна нейтральная, не зацікаўленая ў

распальванні вайны, прыме ўсе меры да таго, каб зрабіць вайну менш разбуральнай, аслабіць яе і паскорыць яе сканчэнне ў інтарэсах міру.

З пункту гледжання такой перспектывы рашэнне амерыканскага ўрада аб адмене забароны (эмбарго) на вываз зброі ў ваюючыя краіны выклікае законныя сумненні. Наўрад-ці можа быць сумненне, што гэта рашэнне будзе мець сваім рэзультатам не аслабленне вайны і не набліжэнне канца вайны, а наадварот—узмацненне, абвастрэнне і зацяжку вайны. Вядома, такое рашэнне можа забяспечыць высокія барышы для амерыканскай ваеннай прамысловасці. Але вось пытанне: ці можа гэта акалічнасць служыць апраўданнем адмены эмбарго на вываз зброі з Амерыкі? Ясна, што не можа.

Такая міжнародная абстаноўка ў цяперашні час.

Такія асновы знешняй палітыкі Савецкага Саюза.

*(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю, усе дэпутаты ўстаюць).*

---

## ЗАЯВА ПАЎНАМОЦНАЙ КАМІСІІ НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ПРАМОВА таварыша С. О. ПРЫТЫЦКАГА

**члена паўнамоцнай камісіі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі**

Таварышы дэпутаты Вярхоўнага Совета Саюза ССР!

20 год, 20 цёмных доўгіх год народы Заходняй Беларусі былі адарваны ад сваіх адзінакроўных братоў, ад шчаслівых народаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Задушаныя галечай і бяспраўем, падняволеныя, абяднеўшыя, пазбаўленыя культуры, асуджаныя на выміранне, яны былі пазбаўлены ўсякіх элементарных чалавечых правоў.

Усё было зроблена ўрадам панскай Польшчы для таго, каб зламіць дух народа, знішчыць яго нацыянальную самасвядомасць, яго культуру, родную мову, штучна апалячыць, зрабіць народ бязмоўным і пазбаўленым усякай надзеі на адраджэнне.

Але ў самыя цяжкія годы прыдушаныя і ўніжаныя народы Заходняй Беларусі не трацілі веры ў тое, што прыдзе час, калі вялікі Сталін і 170-мільённы совецкі народ працягнуць ім руку брацкай дапамогі і вызваляць ад вечнай кабалы і капіталістычнага ярма. *(Апладысменты).*

Многа нашых лепшых сыноў, нашых братоў і сясцёр загінула ў засценках і турмах панскай Польшчы. Мы верылі ў надыходзячы час нашага вызвалення. Гэтая вера прыдавала нам сілы ў барацьбе. І мы бачым цяпер, што яна была не дарэмнай.

Вялікі совецкі народ, яго непераможная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія па загаду Совецкага ўрада, прынеслі нам доўгачаканае вызваленне.

17 верасня мы сустракалі на нашых дарогах, у нашых гарадах і вёсках першыя часці Чырвонай Арміі.

Шчасце і радасць напоўнілі нашы сэрцы. Мы асыпалі кветкамі дарогу Чырвонай Арміі, мы акрапілі яе шлях слязамі радасці і шчасця. Гэта былі простыя палявыя кветкі, але імі народы Заходняй Беларусі як-бы галасавалі за сваё ўступленне ў сям'ю вялікіх народаў Совецкага Саюза.

Велізарная турма для народаў Заходняй Беларусі, якую прадстаўляла сабою польская дзяржава, распалася ў некалькі гадзін, і народ пасля шматгадовай ночы ўбачыў сонечны дзень.

Так, таварышы! Іменна турмой была для народаў Заходняй Бела-

русі былая польская дзяржава. Панскія каты хацелі адвучыць наш народ не толькі свабодна гаварыць, але нават усміхаецца. Нашы дзеці раслі без усмешкі. Мы не чулі іх звонкіх дзіцячых галасоў. Яны з дзецтва адчувалі бяспраўе, на якое былі асуджаны іх бацькі, іх старэйшыя браты і сёстры. Яны раслі спалоханыя, кволыя і непадобныя на дзяцей.

Многа гора і ўніжэння перацярпеў народ Заходняй Беларусі на працягу ўсёй сваёй гісторыі і яшчэ больш пакутваў апошнія дваццаць год пад паскудным панскім ботам.

Многа крыві лепшых нашых сыноў пралілося за гэты час. Не адзін сумны, жалобны спісак можна было скласці і запоўніць іменамі лепшых сыноў і дочак Заходняй Беларусі: беларусаў, украінцаў, палякаў, яўрэяў. І гэтыя людзі замучаны, закатаваны ў засценках паліцэйскіх участкаў і турмах панскай Польшчы.

Сяляне Заходняй Беларусі былі зашчэмлены ў страшэнныя ціскі беззямелля, галечы і бяспраўя. Дзве трэці ўсіх зямель былі ў руках памешчыкаў і польскіх магнатаў. Многа дзесяткаў тысяч сялянскіх двароў не мелі сваёй зямлі, цягла, або мелі невялікія кавалачкі зямлі, раскіданыя ў вузкіх палосках.

З боллю і слязамі глядзелі беларускія сяляне на тыя лясы, на прыгожыя азёры, на тыя паветкі, якія яны бязмежна любілі, па якіх расселіся ненавісныя памешчыкі і асаднікі.

Працоўныя сяляне не маглі беспакарана ступіць нагой на панскую зямлю, якая па праву павінна была належаць народу.

За адну ягадку, сарваную ў памешчыцкім лесе, селяніна збівалі панскія ляснікі. За адну галінку, паднятую ў панскім лесе, яго збівалі, саджалі ў турму. Калі яго карова выпадкова пападала на памешчыцкую зямлю, яго штрафавалі і да крыві збівалі панскія наймiты.

Нашы сяляне жылі ў курных хатах, пры лучынах, без святла, а карыстанне лямпай было роскашшу. Яны не маглі купіць цукру, яны не памятаюць яго смаку.

Таварышы дэпутаты! Вельмі цяжка расказваць вам аб гэтым мінулым, вам цяжка паверыць, што сотні тысяч рабочых і сялян у нас былі непісьменнымі, што былі суцэльныя вёскі, пазбаўленыя медыцынскай дапамогі.

Ніхто не ахоўваў цяжкай працы рабочага на заводах і фабрыках.

Наша родная беларуская мова была выгнана са школ, а наш гонар народны, наша нацыянальная культура былі глыбока ўтаптаны ў гразь брудным паліцэйскім ботам.

Паглядзіце на нашых жанчын і дзяцей, і вы гэта ўбачыце. Савецкія дзеці расцвіталі ў шчаслівай краіне, дзе з першых год партыя Леніна—Сталіна і савецкая дзяржава клапаціліся аб іх. Правы дзяцей былі забяспечаны яшчэ да пяўлення іх на свет. А ў нас нараджэнне кожнага дзіцяці было няшчасцем. У нас дзеці з калыскі адчувалі на сабе прыгнёт, нацыянальную рознь, якую насаджала польская дзяржава сярод народаў Заходняй Беларусі.

Калі ты народзішся беларусам, то ты прыгодзен толькі для вайны, як гарматнае мяса. Калі ты народзішся яўрэям, то чакай розных здзекаў, крыўды і знявагі.

Так было ў панскай Польшчы. Але гэта больш не паўтарыцца ў жыцці беларускага народа! *(Бурныя апладысменты).*

Мы столькі перацярпелі, так нагаладаліся, так доўга маўчалі, што ў тую-ж гадзіну, у тую-ж мінуту, калі часці Чырвонай Арміі прышлі да нас, мы сталі прасіць чырвонаармейцаў устанавіць у нас совецкую ўладу. Нам не цярпелася ні дня, ні мінуты. Але байцы Чырвонай Арміі і яе камандзіры параілі нам: совецкая ўлада—гэта народная ўлада, самі арганізуйце яе, самі будуйце яе, бо вы цяпер гаспадары свайго жыцця.

Мы стварылі сялянскія камітэты, мы вярнулі ў гаспадарскія рукі народа зямлю, якая па праву належала яму, бо адзіным законным гаспадаром усёй зямлі быў і можа быць толькі народ.

Таварышы, ёсць вялікі гімн, за спяванне якога ў панскай Польшчы нас саджалі ў турму. Мы не маглі пець голасна гэты гімн, але яго словы жылі ў нашых сэрцах, у сэрцах нашага народа. У гэтым гімне ёсць такія радкі:

«Лишь мы, работники всемирной
Великой армии труда,
Владеть землей имеем право,
А паразиты никогда».
*(Бурныя апладысменты)*

Таварышы! Ці маглі мы думаць, што гэтыя забароненыя вялікія і праўдзівыя словы так хутка стануць для нас жывой явай, што зямля будзе ўзята ў рукі яе законным гаспадаром, а паразіты будуць выгнаны беззваротна, назаўсёды, на вечныя часы. *(Бурныя апладысменты).*

Таварышы, шчасце і святло прышлі сёння ў нашу яшчэ нядаўна цёмную і жабрацкую вёску.

Вялікі совецкі народ па-брацку дапамог нам і вызваліў нас ад векавечнага змроку, бяспраўя і турмы, у якую была ператворана наша краіна.

Пролетарыят Беластока першым патрабаваў склікання Народнага Сабрання. Быў выбран арганізацыйны камітэт па выбарах у Народнае Сабранне.

На тысячах мітынгаў па ўсёй Заходняй Беларусі рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя патрабавалі склікання Народнага Сабрання, якое павінна было рашыць, якая ўлада будзе ў Заходняй Беларусі, якое павінна было рашыць пытанні аб далучэнні Заходняй Беларусі да Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, аб канфіскацыі зямлі памешчыкаў, аб тым, каму павінны належаць фабрыкі, заводы і банкі.

22 кастрычніка—дзень выбараў у Заходняй Беларусі—ператварыўся ў вялікае свята. Упершыню ў гісторыі наш народ праводзіў выбары на аснове самай шырокай дэмакратыі, без усякіх абмежаванняў па роду маёмасці, па соцыяльнаму паходжанню, па рэлігіі, па нацыянальнасці. Усе грамадзяне, дасягнуўшыя 18 год, з вялікай радасцю прымалі ўдзел у гэтым галасаванні за сваіх народных выбаршчыкаў.

96 проц. выбаршчыкаў прынялі ўдзел у галасаванні за кандыдатаў, выстаўленых многалюднымі сходамі рабочых, сялянскімі камітэтамі, сходамі рабочай гвардыі, шматлікімі сходамі працоўнай інтэлігенцыі.

91 проц. галасоў аддаў беларускі народ за сваіх кандыдатаў. 18-гадовыя юнакі, стогадовыя дзяды і бабулькі, дзяўчаты і хлопцы,—усе ішлі з вясёлымі песнямі на выбарчыя ўчасткі галасаваць за народнае шчасце. *(Бурныя, працяглыя апладысменты).*

Рэшткі польскай белагвардзейшчыны—асаднікі, замаскіраваныя паліцэйскія каты, бачачы такое магутнае натхненне, такое непахіснае адзінства, такую волю і імкненне народа ўстанавіць совецкую ўладу, схаваліся ў свае шчыліны і норы. Мы ім не дадзім літасці! Перахітрыць або ашукаць нас нікому не ўдасца і няхай на гэта не спадзяюцца нашы ворагі.

28 кастрычніка—дзень адкрыцця Народнага (нацыянальнага) Сабрання назаўсёды астанецца ў памяці працоўных, увойдзе ў гісторыю беларускага народа. У гэты дзень 926 дэпутатаў сабраліся ў Беластоку, каб выразіць волю ўсяго народа, рашыць пытанні, высунутыя народам, так рашыць іх, як прапанаваў народ.

Хто яны гэтыя 926 дэпутатаў? Сярод іх няма ніводнага памешчыка, ніводнага капіталіста, ніводнага польскага магната, ніводнага асадніка, ніводнага паліцэйскага, ніводнага найміта—прыгнятальніка працоўных Заходняй Беларусі.

Нашы дэпутаты—гэта рабочыя, сяляне, прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі.

З якім уздымам, з якой радасцю мы, дэпутаты Народнага Сабрання, выказваліся і аднадушна галасавалі за совецкую ўладу, за далучэнне Заходняй Беларусі да БССР, а таксама рашалі пытанні аб канфіскацыі зямель, банкаў і буйнай прамысловасці.

Цесна было ў той зале, дзе сабралася Народнае Сабранне. Так многа было чалавечага шчасця, так хацелася людзям гаварыць, так многа павінен быў кожны расказаць аб сабе, аб сваім жыцці, аб нашай далейшай рабоце і аб нашых задачах мірнага будаўніцтва!..

З вялікай радасцю, бурнымі апладысментамі і крыкамі «ура» мы, дэпутаты Народнага Сабрання, выконвалі волю і заданне народа, выражалі ўдзячнасць вялікаму і роднаму бацьку Сталіну, совецкаму ўраду, усяму совецкаму народу *(бурныя, працяглыя апладысменты)* і нашай вызваліцельніцы Чырвонай Арміі. *(Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю).*

Дэпутаты Народнага Сабрання прышлі з наказам сваіх выбаршчыкаў, прышлі і рашалі жыццёвыя пытанні, так доўга хваляваўшыя народы Заходняй Беларусі.

Гэта былі незабыўныя гадзіны, у якія кожны дэпутат перажываў велізарную радасць, гордасць за свой вызвалены народ, які аказаў нам такое вялікае давер'е.

Беларускае Народнае (нацыянальнае) Сабранне, як адзіны і поўнаўладарны гаспадар і выразіцель волі працоўных Заходняй Беларусі, павінна было вырашыць пытанне аб дзяржаўнай уладзе на нашай тэрыторыі. Вырашаючы гэта пытанне, мы звярнуліся к прыкладу вялікага Совецкага Саюза.

Гістарычны вопыт народаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік паказаў нам, што толькі совецкая ўлада ёсць сапраўды народная ўлада. *(Бурныя апладысменты).*

Там, дзе совецкая ўлада, там назаўсёды знішчана наёмнае рабства, знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам, толькі там Сталінскай Канстытуцыяй забяспечана права на працу, права на адпачынак, права на матэрыяльнае забеспячэнне па старасці.

Там, дзе совецкая ўлада, толькі там сталінскія клопаты аб чалавеку, толькі там гутарка можа ісці аб сапраўдным дэмакратызме для шырокіх працоўных мас.

Там, дзе совецкая ўлада, там няма і не можа быць нацыянальнага гнёту і няроўнасці, там усе народы ўваходзяць у адзіную дружную сям'ю. Толькі пры совецкай уладзе—росквіт культуры ўсіх народаў СССР.

Прыклад Совецкага Саюза і горкі вопыт нашага жыцця ў панскай Польшчы паказвае, што толькі Совецкі Саюз можа пазбавіць народы ад цемры і бяспраўя, што совецкая ўлада—адзіная справядлівая ўлада ва ўсім свеце.

Вось чаму Беларускае Народнае Сабранне, выражаючы волю народаў Заходняй Беларусі, абвясціла ўстанаўленне совецкай улады—улады працоўных горада і вёскі, Советаў дэпутатаў працоўных.

Мы, ад імя Народнага Сабрання, заяўляем, што ніякая іншая ўлада, акрамя совецкай улады, нам непатрэбна. *(Бурныя апладысменты).* За совецкую ўладу, за ўладу працоўных мы і ўвесь наш народ будзем змагацца да апошняй кроплі крыві. За совецкую ўладу на тэрыторыі Заходняй Беларусі мы гатовы аддаць усё, нават самае дарагое для чалавека—наша жыццё. *(Бурныя апладысменты).*

А зараз, таварышы, дазвольце мне зачытаць дэкларацыю Народнага Сабрання Заходняй Беларусі аб уваходжанні народаў Заходняй Беларусі ў састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

## НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ АБ УВАХОДЖАННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 29 кастрычніка 1939 г.*

«У цяжкую гадзіну, пагражаўшую разарэннем і знішчэннем нашаму народу, вялікі Совецкі Саюз узяў пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі.

З дапамогаю непераможнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі народы Заходняй Беларусі вызваліліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Назаўсёды мінулі чорныя годы зняваг беларускага народа пад ігам польскіх паноў, папіраўшых элементарныя правы і нацыянальнае дастоінства беларускага народа.

Працоўныя Заходняй Беларусі заўсёды лічылі сябе звязанымі неразрыўнымі, кроўнымі ўзамі са сваімі братамі, пабудаваўшымі Совецкую Соцыялістычную Беларусь.

Працоўныя Заходняй Беларусі рашуча патрабуюць аб'еднання дагэтуль расчлененых двух частак адзінага беларускага народа, адзінай беларускай зямлі.

Лічачы волю беларускага народа вышэйшым законам, Беларускае Народнае Сабранне пастанаўляе:

*Прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, аб'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'еднанню беларускага народа.*

Толькі ў саставе Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі народ Заходняй Беларусі зможа залячыць глыбокія раны, нанесеныя яму доўгімі гадамі заняволення, і з дапамогаю вялікага Совецкага Саюза падняць і пераўтварыць гаспадарку, развіць сваю народную культуру, дастойную свабоднага народа, забяспечыць росквіт добрабыту ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.

Няхай жыве Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве наша магутная радзіма—вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік». *(Апладысменты).*

Гэта дэкларацыя, прынятая на Беларускім Народным Сабранні аднагалосна ўсімі дэпутатамі, адлюстроўвае волю і жаданне ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.

Таварышы дэпутаты Вярхоўнага Совета! Зямельнае пытанне—гэта пытанне, вельмі хвалюючае ўсіх працоўных Заходняй Беларусі. Знішчэнне панскіх уладанняў і ліквідацыя беззямелля і малазямелля сярод шырокіх мас сялянства азначае, што сялянскаму голаду і жабрацтву будзе назаўсёды пакладзен канец. Вось чаму Беларускае Народнае Сабранне, кіруючыся кроўнымі інтарэсамі сялян Заходняй Беларусі і выражаючы волю сялян, аб'явіла на тэрыторыі Заходняй Беларусі канфіскацыю зямель памешчыкаў, манастыроў і буйных дзяржаўных чыноўнікаў з усім іх жывым і мёртвым інвентаром.

Сабранне аднадушна падтрымала пастанову сялянскіх камітэтаў аб перадачы панскіх земляў у карыстанне рабочых і сялян. Сабранне рашыла, што зямлёй павінен карыстацца той, хто на ёй працуе, хто сам апрацоўвае гэту зямлю. Такое наша рашэнне па зямельнаму пытанню.

Рабочыя, сяляне і інтэлігенцыя на сваіх шматлікіх сходах паставілі пытанне аб неабходнасці нацыяналізацыі банкаў і буйных прадпрыемстваў. І гэта зусім зразумела, бо банкі і заводы ў руках панскіх магнатаў, памешчыкаў і капіталістаў служылі сродкам умацавання эксплаататараў, давалі магчымасць фабрыкантам і заводчыкам бесчалавечна эксплаатаваць і грабіць рабочых, разараць рамеснікаў і сялян, нажываць нязлічоныя багацці.

У мэтах знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам Народнае Сабранне аб'явіла нацыяналізацыю банкаў і буйных прадпрыемстваў, аб'явіла іх усенародным здабыткам, дзяржаўнай уласнасцю. Так мы, дэпутаты, рашылі, і гэтае рашэнне найвялікшага пытання адпавядае патрабаванням усяго народа Заходняй Беларусі.

Многія байцы і камандзіры Чырвонай Арміі, выконваючы загад совецкай улады і таварыша Сталіна, выконваючы сваю гістарычную

місію вызвалення Заходняй Беларусі, гераічна загінулі ў барацьбе. Іх імёны будуць вечна жыць у сэрцах беларускага народа. Па прапанове рабочых і інтэлігенцыі горада Беластока, Народнае Сабранне пастанавіла пабудаваць у горадзе Беластоку помнік героям, загінуўшым за вялікую справу вызвалення Заходняй Беларусі. *(Бурныя апладысменты).*

Рашэнні Беларускага Народнага Сабрання знаходзяць аднадушнае адабрэнне ўсяго народа Заходняй Беларусі, як рашэнні, якія адказваюць інтарэсам народа.

Дарагія таварышы дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР! Беларускае Народнае Сабранне аказала нам вялікае давер'е, вялікую чэсць, выбраўшы нас членамі паўнамоцнай камісіі Заходняй Беларусі, даручыла нам у саставе 66 чалавек ад імені ўсіх рабочых, сялян і інтэлігенцыі Заходняй Беларусі прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік *(бурныя апладысменты)*, у адзіную магутную сям'ю вялікіх і непераможных брацкіх народаў.

Ад імені ўсяго народа мы запэўняем, што зробім усё, каб па прыкладу нашых братоў і сясцёр Совецкай Беларусі, з дапамогай усяго Совецкага Саюза дабіцца ў бліжэйшы час індустрыялізацыі нашай краіны. Мы будзем змагацца за тое, каб заваяваць на нашых вялікіх палях такія высокія ўраджаі, якіх дабіліся нашы браты ў БССР.

Мы пабудуем новыя фабрыкі і заводы, новыя ачагі культуры і зробім усё, каб быць дастойнымі Сталінскай эпохі. *(Бурныя апладысменты).*

Мы ведаем, што перад намі многа труднасцей, але мы іх не баімся, мы пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам друга і бацькі таварыша Сталіна справімся з імі. *(Бурныя апладысменты).*

Няма такіх труднасцей, якія былі-б непераможны. Народ—гэта сіла, гэта невычарпальная крыніца энергіі. Жаданне працаваць на карысць сваёй радзімы, на шчасце рабочых у нас ёсць. Усе нашы веды, нашу энергію, нашы сілы аддадзім на росквіт соцыялістычных багаццяў, на ўмацаванне магутнасці нашай краіны. Такое жаданне ўсіх працоўных Заходняй Беларусі. Мы будзем будаваць разам з вамі плячо аб плячо новае шчаслівае жыццё. Асвяцім электрычным святлом нашы цёмныя вёскі. Аддадзім нашых сыноў у Чырвоную Армію, каб яны ішлі абараняць нашы вялікія правы, якія мы нікому не аддадзім, каб яны бераглі свяшчэнную зямлю, ад якой мы былі адарваны 20 год.

Калі вораг будзе пасягаць на нашы землі, на нашу свабоду, мы ўсе, як адзін, аддадзім наша жыццё за вялікую соцыялістычную радзіму-маці.

Няхай жыве вялікая дружба народаў!

Няхай жывуць вызваленыя народы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны!

Няхай жыве Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве найвялікшы чалавек нашага часу, наш друг і вызваліцель таварыш *Сталін! (Бурныя апладысменты).*

# З А К О Н

## АБ УКЛЮЧЭННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК СА З'ЕДНАННЕМ ЯЕ З БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, заслухаўшы заяву Паўнамоцнай Камісіі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі, **ПАСТАНАЎЛЯЕ:**

1. Задаволіць просьбу Народнага Сабрання Заходняй Беларусі і ўключыць Заходнюю Беларусь у састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік са з'еднаннем яе з Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета назначыць дзень выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет БССР ад Заходняй Беларусі.

3. Прапанаваць Вярхоўнаму Совету Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

4. Прасіць Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прадставіць на разгляд Вярхоўнага Совета СССР праект разгранічэння раёнаў і абласцей паміж Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*М. КАЛІНІН.*
*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*
*А. ГОРКІН.*

Масква, Крэмль.
2 лістапада 1939 г.

## ЗАЯВА ПАЎНАМОЦНАЙ КАМІСІІ НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ПРАМОВА тав. МАЛЕВІЧА А. С.

**(Селянін вёскі Гулі, Слабадской валасці, Вілейскай вобласці)**

Таварышы дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі!

Народы Заходняй Беларусі, вызваленыя гераічнай Чырвонай Арміяй, даручылі нам, сваім паўнамоцным прадстаўнікам, вітаць у Вашай асобе сваіх братоў шчаслівай, квітнеючай, ордэнаноснай Совецкай Беларусі. Яны даручылі нам перадаць нашу шчырую народную ўдзячнасць вялікаму совецкаму народу за выратаванне нас ад панскіх бізуноў, ад дзікага тэрора і здзекаў, ад вечнай нішчаты, голаду, ад нацыянальнага прыгнечання і няроўнасці.

Наша першая думка звернута да таго, хто прывёў Совецкі народ да шчаслівага і радаснага жыцця, хто забяспечыў магутнасць і несакрушымую сілу вялікай краіны соцыялізма, забяспечыў мірную працу і творчае жыццё народу, хто ўсяляе сілы і ўпэўненасць прыгнечаным і эксплаатуемым народам свету ў іх барацьбе за сваё вызваленне,—да вялікага, мудрага настаўніка, нашага друга таварыша Сталіна. *(Бурныя, працяглыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Голас: Няхай жыве вялікі Сталін! Аркестр грае «Інтэрнацыянал»).*

Дарагія таварышы! Народнае Сабранне Заходняй Беларусі, выконваючы волю вызваленага народа, пастанавіла ўстанавіць на тэрыторыі Заходняй Беларусі Совецкую ўладу, адзіную ўладу ў свеце, дзе рабочыя і сяляне самі кіруюць сваёй дзяржавай і будуюць сваё жыццё без памешчыкаў і капіталістаў. Народнае Сабранне пастанавіла канфіскаваць памешчыцкую зямлю, нацыяналізаваць буйную прамысловасць і банкі.

Дарагія таварышы! Дваццаць год мы былі адарваны ад шчаслівага народа Совецкай Беларусі. Дваццаць год польскія памешчыкі і капіталісты грабілі і прыгняталі беларускі народ, дваццаць год яны марылі голадам нашу малазямельную і беззямельную вёску, дваццаць год капіталісты трымалі рабочы клас у становішчы пастаяннага беспрацоўя, нішчанскай заработнай платы і падвяргалі жорсткай эксплаатацыі.

Невялікая кучка ў 16.000 памешчыкаў мела ў сваім распараджэнні

45 проц. усёй зямлі, а 45 проц. сялянскіх гаспадарак не мелі зямлі. Толькі адна тысяча памешчыкаў Палесся ўладала 2/3 усёй зямельнай плошчы, а 70.000 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак валодалі толькі адной шаснаццатай часткай зямельнай плошчы. Вось вам характэрны прыклад, хто валодаў зямлёй і лясамі. Апрача гэтага, польскі ўрад правёў грабежніцкую хутарызацыю, адняў у сялян лепшыя землі і перадаў іх сваім ланцужным сабакам—польскім асаднікам. Польскія правіцелі ўзвалілі на плечы беларускіх сялян цяжкія падаткі, якія раслі з года ў год. Сяляне штогод уплачвалі да 90 страхавых і падатковых плацяжоў, а іменна: памаёмасны, зямельны, дарожны, школьны, больнічны, страхавы, падатак на сабак, на коміны і т. д. З нас бралі сродкі на больніцы, а іх у нас не было. З нас бралі грошы на школы, а большая колькасць насельніцтва непісьменная: многа дзяцей у школу не ходзяць, бо нехапае школ. Мы плацілі падаткі, а нашы грошы расплываліся па кішэнях міністраў, чыноўнікаў і эксплаататараў. Жорсткі эканамічны гнёт быў лёсам беларускіх рабочых і інтэлігентаў. Польскія капіталісты і фабрыканты, якой-бы яны нацыі ні былі, набівалі сабе кішэні, жорстка эксплаатуючы рабочых. Яны будавалі сваё шчасце за кошт эксплаатацыі працоўных. Затое колькасць беспрацоўных у Польшчы дасягала да 2,5 мільёна чалавек, з іх у Заходняй Беларусі было каля 400.000 чалавек. Большасць рабочых працавала па 6—7 месяцаў у годзе, атрымліваючы нішчанскую заработную аплату.

Нацыянальны гнёт і няроўнасць—вось які лёс быў народаў Заходняй Беларусі. Памешчыкі і капіталісты былой панскай Польшчы ператварылі Заходнюю Беларусь у сваю калонію, яны наваднілі яе жандарамі, паліцэйскімі шпіёнамі і правакатарамі, яны знішчалі беларускую нацыянальную культуру, яны адабралі ў нас права гаварыць на сваёй роднай мове. Яны хацелі вытравіць усякую думку аб вас—нашых братах, аб шчаслівым совецкім народзе, аб вялікім Совецкім Саюзе, але мы прагна лавілі малейшую праўду аб вас. Пад пагрозай турмаў і бізуноў мы тайна слухалі па радыё перадачы з Чырвонай Масквы і Мінска. Перад намі заўсёды быў светлы вобраз Совецкага Саюза—вялікае брацтва народаў, вызваленых ад пут капіталізма, шчаслівага і пасьпяхова будуючых сваё жыццё.

Совецкі Саюз з'яўляўся для нас пуцяводнай зоркай, маяком, якія не маглі скрыць ад народа ніякі паклёп буржуазных газет. Мы бачылі, як жыве Совецкі беларускі народ. З нашых прыгоркаў з вузенькімі палоскамі мы бачылі бязмежныя калгасныя палі, на якіх працавалі трактары, мы чулі вясёлыя песні совецкіх людзей, мы бачылі новыя сталінскія школы ў пагранічных сёлах. Мы марылі аб тым часе, калі з'еднаемся з вамі ў адзіную дружную сям'ю, каб разам будаваць сваё жыццё, каб разам змагацца супроць ворагаў беларускага народа.

Не ўдалося польскім панам знішчыць беларускі народ. Многа дзесяткаў і сотні год беларускі народ змагаўся супроць прыгнечання польскіх паноў, многа гераічных старонак упісана ў гісторыю барацьбы беларускага народа.

Агульны лёс, агульная барацьба спаяла ў адно працоўны беларускі народ, і не ўдалося польскім панам вытравіць у нас імкненне да

адзінства з народам Совецкай Беларусі. Выключныя поспехі Совецкай Беларусі яшчэ больш усялялі ў нас веру і імкненне да адзінства.

Вось чаму Народнае Сабранне Заходняй Беларусі, выражаючы волю, імкненні, спадзяванні і надзею народаў Заходняй Беларусі, пастанавіла прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі *(бурныя апладысменты)*, з'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'еднанню беларускага народа.

Дазвольце мне агласіць дэкларацыю, прынятую Народным Сабраннем Заходняй Беларусі па гэтаму пытанню.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ НАРОДНАГА САБРАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ АБ УВАХОДЖАННІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*Прынята аднагалосна на пасяджэнні 29 кастрычніка 1939 г.*

У цяжкую гадзіну, пагражаўшую разарэннем і знішчэннем нашаму народу, вялікі Совецкі Саюз узяў пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі.

З дапамогаю неперамажнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі народы Заходняй Беларусі вызваліліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Назаўсёды мінулі чорныя годы знявагі беларускага народа пад ігам польскіх паноў, папіраўшых элементарныя правы і нацыянальнае дастоінства беларускага народа.

Працоўныя Заходняй Беларусі заўсёды лічылі сябе звязанымі неразрыўнымі, кроўнымі ўзамі з сваімі братамі, пабудаваўшымі Совецкую Соцыялістычную Беларусь.

Працоўныя Заходняй Беларусі рашуча патрабуюць аб'еднання дагэтуль расчлененых двух частак адзінага беларускага народа, адзінай беларускай зямлі.

Лічачы волю беларускага народа вышэйшым законам, Беларускае Народнае Сабранне пастанаўляе:

*Прасіць Вярхоўны Совет Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Совецкага Саюза і Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, аб'еднаць беларускі народ у адзіную дзяржаву і пакласці тым самым канец раз'еднанню беларускага народа.*

Толькі ў саставе Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі народ Заходняй Беларусі зможа залячыць глыбокія раны, нанесеныя яму доўгімі годамі зняволення, і з дапамогаю вялікага Совецкага Саюза падняць і пераўтварыць гаспадарку, развіць сваю народную культуру, дастойную свабоднага народа, і забяспечыць росквіт добрабыту ўсіх працоўных Заходняй Беларусі.

Няхай жыве Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве наша магутная радзіма—вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

*(Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. З усіх канцоў зала раздаюцца воклічы ў чэсць кіраўнікоў партыі і ўрада. «Няхай жыве таварыш Сталін«!, «Тав. Сталіну ура!», «Няхай жывуць народы Заходняй Беларусі!», «Бацьку і настаўніку—роднаму Сталіну ура!»).*

Дарагія таварышы! Мы бязмежна шчаслівы і захоплены тым прыёмам, які быў аказан нам, членам Паўнамоцнай Камісіі, народамі вялікага Савецкага Саюза.

Мы бязмежна шчаслівы і горды тым, што на нашу долю выпала найвялікшае шчасце ў прысутнасці вялікага Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў перадаць Сесіі Вярхоўнага Совета СССР просьбу народа Заходняй Беларусі аб прыняцці нас у састаў вялікага Совецкага Саюза. Мы ўбачылі вялікага Сталіна і яго саратнікаў. Як друг, як бацька, ён сустрэў нас, і яго ўсмешка напоўніла нас шчасцем. Гэтыя шчаслівыя дні, дні сустрэчы з родным Сталіным, астануцца на ўсё жыццё ў кожным з нас.

Нашы сэрцы напоўніліся радасцю, калі Унечарговая V Сесія Вярхоўнага Совета СССР прыняла рашэнне і задаволіла нашу просьбу—прыняла нас у дружную сям'ю народаў Совецкага Саюза—радзіму працоўных усяго свету. *(Бурныя апладысменты).*

Скончыліся назаўсёды жудасныя дні панскай няволі. Мы сталі свабоднымі грамадзянамі краіны Совета—краіны соцыялізма. Няма большага шчасця ў свеце, як быць грамадзянінам вялікага Совецкага Саюза, няма большага шчасця ў свеце, як мець правы грамадзяніна Совецкага Саюза—права на працу, права на адпачынак, права на асвету, права на забяспечаную старасць. Няма большага шчасця ў свеце, як жыць, працаваць пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі—Канстытуцыі перамогшага соцыялізма, няма большага шчасця ў свеце, як мець такую магутную, квітнеючую соцыялістычную радзіму. *(Бурныя апладысменты).*

Дні нашага прабывання ў Маскве, сталіцы вялікага Совецкага Саюза,—гэта былі дні бязмежнага захаплення і здзіўлення. Тое, што мы ўбачылі, пераўзышло ва многа разоў усе нашы ўяўленні. Мы ўбачылі на прыкладзе горада Масквы поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР—тую гіганцкую работу, прароблену Совецкім народам у справе перабудовы ўсёй краіны. Мы былі здзіўлены і захоплены Маскоўскім метрапалітэнам, каналам Волга—Масква, гіганцкімі новапабудаванымі прадпрыемствамі. Мы ўбачылі соцыялістычны горад: прыгожыя жылыя дамы, вызначаныя для работнікаў працы, а не для капіталістаў і іх прыхвасняў. Мы ўбачылі дзіцячыя сады, яслі, школы, шчаслівую совецкую дзетвару, тэатры, кіно, паркі, музеі, інстытуты, універсітэты—усё гэта належыць народу і для народа. Мы бачылі радасную працу на соцыялістычных прадпрыемствах. Вызваленая жанчына заняла роўнапраўнае месца з мужчынай. Мы ўбачылі самае каштоўнае ў Совецкім Саюзе—гэта совецкі народ. Мы ўбачылі дружбу народаў і аднадушша ў рашэнні ўсіх дзяржаўных пытанняў.

Тое, што мы ўбачылі на Краснай плошчы ў Маскве ў дзень XXII гадавіны Вялікай Пролетарскай Соцыялістычнай Рэволюцыі ў СССР, не паддаецца ніякаму апісанню. Бязмежнае адзінства Совецкага народа і згуртаванасць вакол Комуністычнай партыі, вакол

свайго ўрада, бязмежная любоў да свайго друга і бацькі, роднага Сталіна. *(Бурныя апладысменты).* Магутнасць Чырвонай Арміі выпрабавалі на сваіх спінах польскія паны. Тое, што мы ўбачылі на парадзе на Краснай плошчы ў Маскве, наглядна нам паказала, што Совецкаму Саюзу не страшны ніякія ворагі. Няхай запомняць гэта падпальшчыкі другой імперыялістычнай сусветнай вайны.

Чырвоную Армію—узброеную сілу соцыялістычнай дзяржавы, Армію, якая прышла ратаваць нас ад жахаў вайны, праіграной незадачлівымі польскімі правіцелямі, мы сустракалі 17 верасня на нашых дарогах, у нашых сёлах і гарадах, засыпалі кветкамі шлях арміі-вызваліцельніцы. Мы актыўна дапамагалі Чырвонай Арміі, кожны воін яе стаў для нас дораг, як радасны сын.

Таварышы дэпутаты! Велізарныя поспехі дасягнуты Совецкай Беларуссю за гэтыя годы. Выраслі гіганцкія прадпрыемствы. У 23 разы вырасла прамысловасць Совецкай Беларусі ў параўнанні з даваенным часам, пераўтварыліся гарады Совецкай Беларусі. Мінск з захудалага горада ператварыўся ў прыгожую, упарадкаваную сталіцу Совецкай Беларусі; ён упрыгожыўся грандыёзнымі будынкамі—Домам Урада, Дзяржтэатрам, бібліятэкай, Палацам піонераў, будынкам Акадэміі навук і т. д. З краіны непісьменнай і адсталай, Совецкая Беларусь ператварылася ў краіну суцэльнай пісьменнасці, высокай культуры. Яна мае 22 вышэйшыя навучальныя ўстановы, 41 навукова-даследчы інстытут, узначальваемы Акадэміяй Навук БССР. 7.067 пачатковых і сярэдніх школ. Расцвіло мастацтва Совецкай Беларусі. Далёка за прэдзеламі Совецкай Беларусі вядомы імёны совецкіх пісьменнікаў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў. Вырасла совецкая інтэлігенцыя.

Пераўтварылася вёска. Калгаснае сялянства жыве заможным і культурным жыццём. Велізарная дапамога аказана ім дзяржавай—227 машынна-трактарных станцый, 8.141 трактар і больш тысячы камбайнаў працуе на палях калгаснай вёскі Совецкай Беларусі.

Таварышы дэпутаты! Ад імені 5-мільённага народа Заходняй Беларусі, упаўнаважыўшага нас, мы просім прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. *(Бурныя апладысменты).* Гэтым закончыцца многавяковае прыгнечанне ў той частцы Беларусі, якая была ў панскай Польшчы. Увесь беларускі народ будзе разам будаваць сваё новае, шчаслівае жыццё.

Вы ведаеце, што наш народ працавіты і працу любіць. На сваім вопыце вы ведаеце як вызваленая праца нараджае і паднімае таленты з народа. На вашым вопыце мы бачым, якую дапамогу аказвае Совецкі Саюз раней прыгнечаным і адсталым народам. Агульнымі сіламі мы справімся з усякімі цяжкасцямі і ў максімальна кароткі гістарычны тэрмін падцягнем Заходнюю Беларусь, аграбленую і прыдаўленую польскімі панамі, да ўзроўню перадавых соцыялістычных рэспублік, якой стала ўжо Беларусь Совецкая.

Мы ведалі і ведаем, што ў Совецкім Саюзе няма нацыянальнай розні, не гаворачы ўжо аб нацыянальным гнёце. Усе народы дружна працуюць пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі над росквітам сваёй соцыялістычнай гаспадаркі, сваёй соцыялістычнай культуры і разам высока паднімаюць эканоміку і культуру Совецкага Саюза—іх агуль-

най радзімы. Многанацыянальнасць—тое, што з'яўляецца для капіталістычных краін цяжкай, смяротнай хваробай,—у Савецкім Саюзе ператварылася ў брацкую сталінскую дружбу народаў, што не толькі еднае і ўмацоўвае Савецкі Саюз, але служыць праўобразам аб'еднання ўсіх нацый у свеце і служыць лепшым агітатарам за Савецкую ўладу.

Мы ведалі і ведаем, што ў Савецкім Саюзе няма эксплаатацыі чалавека чалавекам, што тут ажыццяўляецца самая поўная роўнасць людзей, што тут «владыкой мира» стала свабодная, радасная і чэсная праца на сябе, на сваіх дзяцей, на соцыялістычнае грамадства, што тут кожны грамадзянін акружан сталінскімі клопатамі аб чалавеку. Савецкі чалавек адказаў на гэта стаханаўскім рухам, высокай палітычнай свядомасцю і актыўнасцю, вялікім савецкім патрыятызмам.

Мы з радасцю ідзем у гэтую сям'ю народаў, у соцыялістычнае грамадства. Мы будзем старанна вучыцца ў вас, чэсна працаваць, змагацца за новае, шчаслівае жыццё. А для тых вар'ятаў, якія не кінулі яшчэ сваёй думкі аб звароце нас у ярмо панскай Польшчы, мы скажам: «як не ўзыходзіць сонцу з захада і як Нёману і Дзвіне не бегчы назад з Балтыйскага мора да сваіх вытокаў, так не бываць нашай з'еднанай Савецкай Беларусі пад пятой польскага і ўсякага іншага пана». *(Апладысменты)*. Усё сваё жыццё, да апошняй кроплі крыві, мы аддадзім у абарону Савецкай улады, нашай роднай улады, доўгачаканай. Заходнія рубяжы Савецкага Саюза, гарады і сёлы Заходняй Беларусі стануць непрыступнай крэпасцю вялікага Савецкага Саюза. А ўся Савецкая Беларусь будзе цвёрдым, несакрушымым аплотам вялікага Савецкага Саюза, кіруемага Комуністычнай партыяй большэвікоў і яе ЦК на чале з таварышам Сталіным.

Няхай жыве Савецкая ўлада!

Няхай жыве Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве вялікая Комуністычная партыя!

Няхай жыве доўгія-доўгія годы на радасць усяму чалавецтву наш правадыр, друг і настаўнік Іосіф Вісарыёнавіч Сталін!

*(Усе ўстаюць. Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты. Воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Няхай жыве вялікі Сталін!», «Няхай жыве Савецкая ўлада!», «Няхай жыве Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік!», «Няхай жыве Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка!», «Вялікаму Сталіну ура!, ура!», «Няхай жыве доўгія, доўгія годы на радасць усяму чалавецтву наш правадыр, друг і настаўнік таварыш Сталін! ура!», «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Няхай жыве ЦК ВКП(б)!», «Таварышу Сталіну ура!», «Няхай жыве вялікая Комуністычная партыя!», «Дэпутату Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, таварышу Варашылаву ура!», «Няхай жыве дружба народаў СССР!», «Няхай жывуць вызваленыя народы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, увайшоўшыя ў вялікую савецкую сям'ю!», «Няхай жыве савецкая палітыка міру!» (сказана на польскай мове). «Няхай жыве тварэц Сталінскай Канстытуцыі таварыш Сталін! Ура!»).*

*Масква, Крэмль*

# Таварышу СТАЛІНУ

*Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!*

Да Вас, вялікага правадыра працоўных усяго свету, да Вас, наш родны бацька, друг і настаўнік, мы, выбраннікі беларускага народа, сабраўшыся на Ўнечарговую Трэцюю Сесію Вярхоўнага Совета БССР, звяртаем свае шчаслівыя сэрцы, свае ўсхваляваныя думкі, свае першыя словы гарачай удзячнасці і палкага большэвіцкага прывітання.

З лікуючай радасцю беларускі народ адабрае законы, прынятыя Ўнечарговай Пятай Сесіяй Вярхоўнага Совета Саюза ССР, законы, якія з'яўляюцца вялікім гістарычным актам і навекі астануцца зззяючай вехай у жыцці заходніх украінцаў і беларусаў. Мы бязмерна шчаслівы і горды сазнаннем таго, што Заходняя Беларусь уключана ў састаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік са з'яднаннем яе з Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, што ў вялікую сям'ю народаў СССР увайшлі вызваленыя нашы браты і сёстры з Заходняй Беларусі, якіх мы з найвялікшай радасцю прымаем у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Ніколі чалавецтва не забудзе тых гістарычных дзён, калі доблесная, бясстрашная і непераможная Чырвоная Армія, авеяная славай легендарных бітваў і паходаў, прышла на дапамогу народам, зныўшым пад гнётам панскай Польшчы, і вызваліла іх з шляхецкай няволі.

Польскія паны, якія імкнуліся цаной абнішчання і галоднай смерці мільёнаў уцвярдзіць панаванне асатанелай шляхты, пры дапамозе англійскай і французскай буржуазіі разаралі працоўных Заходняй Беларусі. Лепшых сыноў і дачок свабодалюбівага, гордага беларускага народа яны ператварылі ў рабоў, закабалялі іх у галечы. Раз'юшаным тэрорам, турмой і катаргай яны падаўлялі беларускую культуру і навуку, закрывалі школы, забаранялі беларускую мову і ўтаптвалі ў гразь дастоінства беларускага народа, яго звычаі і традыцыі. Жандарскай нагайкай і панскім бізуном яны навязвалі польскую мову, насільна праводзілі апалячванне, насаджалі на баларускія землі ланцужных псоў польскага імперыялізма—асаднікаў.

Нацыянальнае прыгнечанне, даведзенае да крайніх прэдзелаў, беспрацоўе, голад, беспрасветная нястача і галеча, цемра і невуцтва былі адзіным лёсам працоўных горада і вёскі Заходняй Беларусі.

З найвялікшым натхненнем беларускі народ заяўляе, што няма і не можа быць звароту да мінулага. Мільёны працоўных Заходняй

Беларусі ўпершыню за ўсю сваю гісторыю адчулі радасць жыцця, убачылі святло, здабылі радзіму-маці. І ніколі нікому не ўдасца адняць вялікае шчасце ў беларускага народа. Навечна, назаўсёды не стала граніц, раз'еднаўшых нашых братоў. Зямля стала адзінай, адзіны стаў беларускі народ, які ў рэзультаце цяжкай гістарычнай несправядлівасці доўгія годы быў штучна аддзелен ад мільёнаў нашых братоў. Беларусь стала свабоднай, адзінай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай. Вызваленыя народы Заходняй Беларусі— гэта нашы адзінакроўныя браты, і ніхто не пахісне наша адзінства, нашу векавую дружбу, нашы кроўныя брацкія пачуцці.

Якое шчасце разам з усімі народамі вялікага Совецкага Саюза жыць і тварыць на карысць нашай радзімы, змагацца за росквіт і славу вызваленай краіны, за магутнасць соцыялістычнай дзяржавы.

Беларускі народ з гордасцю славіць вялікую большэвіцкую партыю Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам якой з убогай, цёмнай і адсталай наша краіна пertтварылася ў магутнейшую дзяржаву, уладаючую выдатнай індустрыяй і перадавой сельскай гаспадаркай, якія вырабляюць усё, што патрабуецца для народнай гаспадаркі, абароны і спажывання. Мы бязмерна шчаслівы тым, што жывем у краіне, дзе назаўсёды ліквідавана беспрацоўе, зніклі крызісы, абнішчанне і разарэнне мас, дзе няма эксплаатацыі чалавека чалавекам. Беларускі народ шчаслівы тым, што ён здабыў пад Вашым, таварыш Сталін, мудрым кіраўніцтвам сваю соцыялістычную дзяржаўнасць, сваё выдатнае радаснае жыццё, што з адсталай калоніі царскай Расіі Беларусь стала квітнеючай рэспублікай, якая яркай звяздой зззяе ў шчаслівым сталінскім сузор'і адзінаццаці роўных сярод роўных рэспублік.

Мы поўны сазнаннем гордасці за наша сучаснае і прамяністае будучае. Разам з вызваленымі народамі Заходняй Беларусі мы смела пойдзем да новых перамог комунізма і будзем мацаваць магутнасць вялікага Совецкага Саюза. Пад яркім сонцам Сталінскай Канстытуцыі мы будзем змагацца за росквіт і славу вызваленай краіны, за шчаслівае і радаснае жыццё, за далейшае ўмацаванне абароназдольнасці і магутнасці нашай любімай радзімы, ні на міг не забываючы аб капіталістычным акружэнні.

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка была, ёсць і будзе несакрушымым фарпостам вялікага СССР на яго заходніх рубяжах.

І калі ворагі соцыялізма асмеляцца на нас напасці, мы будзем бязлітасна іх біць да канца, да поўнага іх знішчэння на той тэрыторыі, адкуль яны прыдуць.

Няхай жыве нераздзельная, навекі з'еднаная Совецкая Беларусь!

Няхай жыве наша магутная, выдатная, любімая радзіма—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік!

Няхай жыве наша доблесная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія!

Няхай жыве наша слаўная непераможная партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве мудры правадыр працоўнага чалавецтва, натхніцель і арганізатар перамог соцыялізма, тварэц беларускай совецкай дзяржаўнасці, лепшы друг беларускага народа—наш вялікі Сталін!

# З А К О Н

## АБ ПРЫНЯЦЦІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, заслухаўшы заяву Паўнамоцнай Камісіі Народнага Сабрання Заходняй Беларусі, пастанаўляе:

1. Вітаць усямерна гістарычную пастанову Вярхоўнага Совета СССР ад 2-га лістапада 1939 года аб уключэнні Заходняй Беларусі ў састаў Совецкага Саюза.

2. Прыняць Заходнюю Беларусь у састаў Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і з'еднаць тым самым вялікі беларускі народ у адзінай беларускай дзяржаве.

3. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета назначыць дзень выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет БССР ад Заходняй Беларусі.

4. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета БССР вызначыць адміністратыўнае дзяленне абласцей і раёнаў Заходняй Беларусі і, у адпаведнасці з пунктам «б» артыкула 19 Канстытуцыі БССР, прадставіць на зацвярджэнне Вярхоўнага Совета СССР праект аб утварэнні новых абласцей і праект размежавання раёнаў і абласцей паміж Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай.

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР*
*Н. НАТАЛЕВІЧ.*
*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР*
*Л. ПАПКОЎ*

14 лістапада 1939 г.
г. Мінск.



С. М. Кіраў.

## ЯК МНЕ ГОРА МАЁ ВЫПЛАКАЦЬ

Запісана са слоў 72-гадовай казачкіцы
Е. П. Крывашэевай, гор. Саранск.

Як пачула я пра смерць Сяргея Міроныча,—
Кінуў сон салодкі мяне ў ночы цёмныя,
У светлы поўдзень маё сэрца засмуцілася,
Твар увесь абмылі слёзы горкія.
Што рабіць мне, як мне гора маё выплакаць?
Другам нашага народа ты мне бачышся,
Сынам кроўным і любімым, успамінаешся.
Светлым розумам, Міроныч, ты праславіўся.
І вялікімі ты справамі узвысіўся!
Наляцела, закружыла бура чорная,
Ў горад Леніна ўляцела бура чорная,
Ды сарвала з плеч, ліхая, буйну-галаву.
Засмуціла злая бура край-радзіму нашую.
Ах, Сяргей Міроныч, горды сокал наш!
Хто забойца твой праклятый? Хто, адкуль ён ёсць?
Пэўна, ў справах яго злых быў ты перашкодаю,
Пэўна шчасце, радасць нашую ненавідзеў ён.
І таму даўным-даўно разбойнік за табой сачыў,
Не было і сну яму, душману, ў ночы цёмныя.
Дзе бываў ён—за табой падглядываў,
Сляды ног тваіх, Міроныч, ён выследжываў
Ён баяўся, быццам філін, святла яснага.
Быццам сонца, ён баяўся светлых воч тваіх.
Ззаду ён падкраўся да цябе—па-разбойніцку,
Ён ужаліў цябе ў сэрца па-змяінаму.
Што рабіць мне? Як мне гора маё выплакаць?
Другам цэлага народа ты мне бачышся,
Сынам кроўным і любімым ўспамінаешся.
Светлым розумам, Міроныч, ты праславіўся.
І вялікімі ты справамі узвысіўся.
Як закрыю векі—думу думаю,—
Зноў жыццё былое ўспамінаецца:
Як мы спіны гнулі у памешчыкаў,
Як людскога звання не насілі мы,
Як мянялі нас на псоў пародзістых.
Запалілася над намі сонца Леніна.
Запалілася над намі сонца Сталіна,
Упершыню адчулі радасць мы

На рабоце, як на свяце сонечным.
Як гаворым—песні запяваем,
Калі ходзім—долу не кранаемся
Доўга жыць на свеце белым хочацца!
Калі-б крыллі лёгкія далі мне,
Да цябе, Міроныч, паляцела-б
Пераплыла-б цераз раку шырокую
Перабегла-б праз гару агністую.
Абпаліла-б валасы сівыя,
У труне цябе хаця-б убачыла,
Над тваёй труною зарыдала-б,
З галавы да ног цябе аплакала.
Але бачу—на паперы толькі вобраз твой,
Па паперы праваджу я ручанькай,
І цякуць і ллюцца слёзы горкія
Па шчаках гарачымі струменямі.
За шчаку ўзялася левай ручанькай,
На грудзях, ля сэрца, ляжыць правая,
Вочы адкрываю—не відаць цябе,
Працягну я рукі—не пацiснеш іх,
Галасок падам—ты не адклікнешся.
Што рабіць мне? Як мне гора маё выплакаць?
Другам цэлага народа ты мне бачышся
Сынам родным ты, любімы, ўспамінаешся,
Шоўк сыпучы, валакністы—валасы твае,
Светлы розум у тваёй галовушцы.
Ты, Сяргей Міроныч, быў цвярдзей за каменя,
З намі быў лягчэй ты пуху галубінага,
Быў быстрэйшы ты крыла арлінага.
Ох, наш родны Сяргей Міроныч!
Горка плачу я—слязамі абліваюся,
Хоць цябе зусім не бачаць мае вочанькі,
Знаю—шмат зрабіў ты добрага.
Шмат зрабіў дабра працоўным ты,
Многа даў нам думак мудрых, мысьлей радасных,
Шмат вялікіх спраў табою зроблена,
Увайшоў у цвеце год, Сяргей Міроныч,
Нібы ў цёмны бор, у месца цёмнае,
Ён цякучую вадзіцу не ўбачыць,
Голасу заводаў не пачуе.
Адышоў у цвеце год ад свету белага,
Ад сяброў, братоў ды ад таварышаў!
Толькі бачым мы партрэт Міроныча
На паперы белай намалёваны.
З намі ён цяпер не павітаецца,
Больш не возьме нас за ручанькі.
Толькі памяць пра Сяргей Міроныча
Назаўсёды застанецца ў сэрцы кожнага.

Злы душман забіў правадыра любімага,
Смерць прынёс яму зладзей нязгадана,
Ой, не ў пору, Сяргей Міроныч,
Адыйшоў ад нас ў магілу цёмную,
Там не плешчацца вадзіца срэбная,
Там лужок зялёны не хвалюецца,
Ясна сонейка праменнем не кранаецца,
Вецярочак лёгкі не калышацца,
Не паллецца з неба цёплы дожджычак,
Свежае паветра не кране Міроныча.

Як ляжаў ты у труне дні і ночанькі.
Колькі у цябе было таварышаў!
З свету цэлага, неабдымнага
Сабіраліся вакол цябе таварышы,
Слова чакалі твайго апошняга.
Не падняў сваю ты галованьку,
Не сказаў ты слоўца развітальнае.
Ой, Сяргей Міроныч, горды сокал наш,
Калі ўдоўж заслона лягу я,
Калі вочанькі мае закрыюцца,
Калі складуць ручанькі на грудзях мне,
Толькі я тады забуду пра Міроныча,
Адлучу ад сэрца бездыханнага!

Што рабіць мне? Як мне гора маё выплакаць?
Другам цэлага народа ты мне бачышся,
Сынам кроўным і любімым успамінаешся,
Светлым розумам, Міроныч, ты праславіўся,
Справамі вялікімі ты ўзвысіўся!

Перакладзена з рускай мовы

*Анат. Астрэйкам,*
*Мік. Калачынскім.*

*М. Паслядовіч*

# ПАЎСТАННЕ [1])

## XXVI

Спіць Пятро Ашман... Ужо даўно развіднела, даўно трэба было Пятру Ашману ўсхапіцца з пасцелі і, прамыўшы вочы сцюдзёнай вадой, узяцца за работу. Узяцца за струг, за шархубель. Многа нарыхтавана, многа прасушана на печы клёпак. Трэба паспець да нядзелі, да кірмашу, даць ім лад. Колькі ёсць работы тваім неспакойным рукам, Пятро Ашман! Колькі табе трэба накрычацца за дзень, каб і сыны не згулялі ніводнай мінуткі!

Спіць Пятро Ашман... Не чуе яго чуйнае на сон вуха, не бачыць яго зыркае вока, што на дварэ даўно дзень, што ўжо даўно прачнуліся і яго хатнія і суседзі. Даўно ўжо сядзіць каля ашмановай пасцелі Мікола Верабей, паклаўшы рукі на вішнёвы кіёк. Глядзіць дзед Верабей сваімі ласкавымі яснымі вачамі на ўрачыста-спакойнага Ашмана, на яго складзеныя ўжо навек рукі і гаворыць ціха:

— Вот, брат Пятрок, і ўсё. У грыбы ўжо не сходзім разам. Не пасядзім разам на прызбе...

У труне спіць Пятро Ашман... У галавах яго жыве, дыхае пахучым цяплом воску свечка. Не адна яна згарэла, сышла жоўтымі кроплямі слёз, чакаючы на старэйшага ашмановага сына Мацвея. Ён усё яшчэ не варочаўся з панскіх шараварак. Тры дні ляжыць непарушна строгі бацька, тры дні не сціхае ў хаце плач дачкі Ашмана, распачліва-разгублены крык пятнаццацігадовага сына Нічыпаркі. Толькі ў прыкутай паралюшам да ложка жонкі не з'явілася ніводнай слязінкі. Можа іх ужо і зусім не было ў яе сухім і каляным, як пергамент, целе? Яна толькі разы два папрасіла, каб яе паднялі і далі паглядзець на мужа: першы раз, калі Пятра яшчэ цёплага ўнеслі ў хату, і другі—калі яго памытага і прычасанага, паклалі ў труну.

Уся вёска,—нават і тыя, якія сюды ніколі не заходзілі,—перабывала ў ашманавай хаце. «Пан Малецкі» таксама з'явіўся на чале босай каманды. Падышоў да нябожчыка, перахрысціўся двумя пальцамі на абразы, пачціва пацалаваў халодную ашманову руку і адступіўся да сваіх сяброў, каб праз хвілінку прашаптаць:

— А можа ён прыкідваецца?.. А-а? Адно вока ў яго глядзіць, як жывое...

— Гэц адсюль!—прыгразіў малышам высокі і прамы Кароль

[1]) Канец. Пачатак гл. „Пол. Рэв." № № 5, 6, 7, 10.

Забашавіч, русін, аўстрыйскі пленны і прымак Тамары Бойка.— Я вам, гіцлі, пакажу гэтае прыкідванне!

Хлопцы, як засцігнутыя знянацку птушкі, выпархнулі ў дзверы.

— Мацвея яшчэ няма?—пытаецца час-ад-часу дзед Верабей і зноў схіляецца на свой вішнёвы кіёк.—Калі ён да полудню не прыдзе, будзем хаваць бацьку без яго.

Сядзяць і стаяць каля ашманіхі бабы. Ашманіха ўтаропіла свой нерухомы позірк у груд альховых клёпак на печы, гаворыць нібы сама сабе:

— Яго пахаваюць. А што ён ім зрабіў такое злое? Забіць чалавека за адны толькі словы!.. Ён тады як чуў сваю смерць. Вельмі не хацеў ісці з хаты. Ён мне зачарпнуў вады, даў піць. Сеў каля мяне. А яны яго ўсё патрабуюць і патрабуюць. Ён і пашоў... Дайце, жанкі, мне паглядзець на яго...

Яе прыўзнімаюць і паварачваюць пажоўклым тварам да труны. Тамара Забашавічыха абедзьвума рукамі распіхае ў бакі людзей, натыкаецца на шырокую спіну мужа, шыпіць:

— І ён убіўся сюды! Не можаш каля парогу пастаяць... яшчэ людзям ногі паадтоптваеш.

Забашавіч спалохана азіраецца на сваю жонку і пакорліва дае ёй дарогу да труны.

Людзі, якія стаяць каля парогу, выцягваюць шыю, становяцца на цыпкі, каб паглядзець, што робіцца ў сярэдзіне натоўпу. Ашманіху падносяць да труны. Яна доўга глядзіць на тонкую застыглую бародку нябожчыка, на моцна сцятыя ў прадсмяротнай крыўдзе губы і гаворыць роўным голасам.

— Няхай іх усіх перунамі паб'е, маланкамі пасмаліць за тваю смерць. Няхай іх праклянуць за гэта і свае родныя дзеці.

— Нясіце яе на пасцель,—камандуе Забашавічыха.

Апранутыя ў цяплейшае—у кажухі і світы—мужчыны і хлопцы стаяць у сенцах. Патрэскваюць у люльках і папяросах недасушаныя карэнні тытуню-самасаду. Поташ, які толькі што вярнуўся з мястэчка, куды ён ездзіў па свяшчэнніка, расказвае:

— Ледзьве я яго ўпрасіў. Стаў на дыбкі і хоць ты яму кол на галаве чашы! Яшчэ ўпікаць пачаў, падла кудлатая. Вы, кажа, як зверы лютыя, схапілі айца Герасіма і ў цямніцу пасадзілі. Думалі, што вам ужо ні нараджацца, ні паміраць не трэба. Большэвіцкаму богу пачалі маліцца. За гэта і атрымалі пакаранне ўсявышняга...

— Што, што?—раптам перабіў, прашываючыся да Поташа, Моця Жучок, нізенькі, але непамерна тлусты чалавечак. Ён да гэтага часу стаяў асобна ад групы і з нейкім задумённа-філасафічным выглядам бразгаў у кішэні доўгай бікешы медзякамі.— Кажаш, поп не хацеў ехаць? Нават і на грошы не падкупіўся?.. эх, не ўмееце вы з ім гаварыць! Шкада, што мяне там не было. Чаму вы мне не сказалі, што едзеце да папа?

Слухаючы Поташа, Моця Жучок усё больш і больш ажыўляўся. Нават, часта без усякай патрэбы, перапыняў расказчыка, каб уставіць пару слоў, альбо пачынаў гаварыць сваё, якое не мела ніякіх дачыненняў да сёнешняй сумнай падзеі. Часта Моця Жучок,

апанаваны аратарскім пафасам, забываўся, дзе ён у гэтую хвіліну знаходзіцца, і гучна рагатаў.

Гэта быў адзін з цікавых тыпаў Верасніцы. Моцю Жучка можна было сустрэць на кожным вясковым сходзе, на вяселлі, на радзінах, на памінках па нябожчыку. Усюды, дзе меўся выпадак паказаць сваё красамоўства, альбо дзе пахла чаркай—Моця Жучок быў першым. Пасля пагулянкі ён хапаў за гузік сустрэчнага знаёмага і, пазіраючы на яго знізу ў гару, пахваляўся:

— Чуў? Ну, брат, і чарчыну-ж мы выдалі ўчора! Каб ты толькі ведаў! Усе клёпкі ў галаве як не рассыпаюцца. А сёння, каб яно затанула, яшчэ давядзецца піць: Косцік Пятровіч абгабляваў новую шафу. То я думаю,—расцягваючы словы і смакуючы стыль сваёй гаворкі, прадаўжаў Моця,—то я думаю, што памачыць губу з гэтай прычыны будзе не лішнім.

Калі Поташ закончыў расказваць пра наём папа, Моця, які прапхаўся ўжо ў самы цэнтр групкі, запытаўся.

— А за колькі ён згадзіўся ехаць?

— За дваццаць пяць рублёў і асміну жыта,—адказаў Поташ.

Моця Жучок аж падскочыў:

— Дваццаць пяць рублёў?! І ты даў яму дваццаць пяць рублёў? Гэта-ж вар'яцтва! Толькі падумаць!.. Не ўмееце вы таргавацца. Я ўжо не раз гэта казаў. І ўсё адно не памагае вам! З вас дзяруць скуру, а вы маўчыцё. Нямыя, як рыба... Асталопы вы!

Моця Жучок направа і налева сыпаў зневажлівыя словы, бэсціў усіх прысутных і ўсе прысутныя хоць-бы адным рухам запярэчылі супроць гэтага нахабнага тону, супроць гэтага пагардлівага падзелу на «я» і «вы». Нават калі Моця Жучок запытаўся, ці «прызапасілі-ж чарчыну на памінальны абед?»—Поташ адказаў:

— Што гарэлка... Яна ёсць. А чалавека спэйкалі... Няма чалавека.

— Бо не трэба было яму лезці з сваёю праўдаю. Каб маўчаў, дык-бы і сёння жыў,—кінуў Моця.—Ну, трэба-ж паглядзець, што там у хаце робіцца. Можа выносіць час, а то сцямнеецца хутка. Дзе тут стары Верабей быў?

І Моця, груба распіхаючы ўсіх локцямі і наступаючы на чужыя ногі, уюном пашыўся ў хату.

— Вось Жучок дык Жучок!—Нязлосна шавяльнуў чорнымі вусамі Поташ.—Дзівіцца, што поп узяў дорага. А пазаўчора сам, калі яго папрасілі пачытаць над Ашманом псалтыр, запрасіў за ноч дзесяць рублёў і кварту гарэлкі.

На парозе паказалася хударлявая постаць сьвяшчэнніка ў рызе. Ён перапранаўся ў суседняй хаце. Усе знялі шапкі і пачціва расступіліся, даючы яму дарогу ў хату. Ён прайшоў, сурова, як суддзя, паглядаючы па баках, але безуважна хрысцячы. За папом дробна трусіў, у новенькай бліскучай расе, ружовашчокі маленькі дыякан.

У гэты якраз момант з хаты прашываўся назад у сенцы ўзрушаны нечым Моця Жучок. Дыякан пастараніўся. Новенькая раса яго зачапілася за востры кручок клямкі і з трэскам разлупілася больш як на паўаршына.

— Ах такую тваю!..—бухнуў у напружанай благавейнай цішыні густы дыяканаў бас.

— Саромцеся, айцец дыякан!—строга азірнуўся на дыякана свяшчэннік.—Не ганьбіце самога сябе...

— А татачка, а родненькі...—раптам загаласіла ашманава дачка.—А на каго ты нас пакідаеш... Татачка а родненькі... А што яны з табою зрабілі...

Віктар, які стаяў у сенцах, рвануў Мішку Страмка за рукаў.

— Пашлі адсюль.

— А можа пачакаем, пакуль не вынясуць?—запытаўся Мішка,—папраўляючы шапку з разлупленым на двая брылем.—Паслухаем, што скажа Мацвей. Калі толькі прыедзе...

— Не хочаш ісці—і не трэба,—Віктар накіраваўся да выхаду.

— Ну чаго ты, Віцька!—заспяшаўся следам за ім Мішка Страмок.—Ну я толькі запытаўся.

— Адразу за мною не ідзі,—прашаптаў Віктар, калі яны толькі ўдвух апынуліся на вуліцы.—Пачакай хвілін пяць і тады сып. Старайся не трапляцца людзям на вочы.

Гэтыя словы ашаламілі Мішку. Якую яшчэ штуковіну выдумаў Віцька Жаркевіч? І чаму не трапляцца людзям на вочы? Чым далей аддаляўся Віктар, тым больш заінтрыгаваны быў Мішка ў тым, што будзе наперадзе. Вось хлапец завярнуў праз поташаў двор на загуменне, пачаў спускацца з гары да агародаў. Вось ужо не відаць зімняй салдацкай шапкі, якую прынёс віктараў бацька з вайны. Мішка кінуўся на ашманаў двор, пераскочыў цераз вароты і тут, з густога вішнёвага зарасніку зноў убачыў Віктара: ён падыходзіў ужо да Вераб'ёвай сушні пад агромністай ліпай. Яшчэ адна хвіліна—і хлапец знік у будынку.

Мішка азірнуўся і таксама накіраваўся да сушні. Папярэджаны Віктарам пра асцярогу, Мішка так старанна і напружана круціў галавою ў розныя бакі, што ў яго аж шыя забалела. Разы два зачапіўшыся лапцем за мёрзлыя гурбякі, ён ледзь не паляцеў потырч. Ну і чорт з ім! Каб нават давялося ісці па агні, дык Мішка і тады-б не астаўся ад Віктара. Асабліва, калі наперадзе была таямніца, якая, нібы магніт, прыцягвае кожнага чалавека.

Калі Мішка пераступіў парог сушні, там ужо гарэў агонь—невялічкая газніца, якая толькі ледзь-ледзь асвятляла чорныя, вэнджаныя дымам сцены, невыразны груд каменнай печы ў кутку. Сушню ў прадсвяточныя дні выкарыстоўвалі, як лазню. Тут мыліся і дзён чатыры таму назад. Яшчэ не высахла зямля, злітая тлустай ад мыла і поту вадою. Мішка нават плюхнуўся адною нагою ў невялікую лужынку.

Газнічка гарэла на абернутай бочцы. Тут-жа ляжаў «наган». Белыя мельхіоравыя галоўкі куль мутна свяціліся з круглых дзірак барабана. Віктар стаяў па той бок бочкі, скрыжаваўшы на грудзях рукі і неміготнымі вачамі пазіраючы на Мішку Страмка. Мішка, убачыўшы такое відовішча, затрапятаўся кожнай жылкай.

— Ты дзверы ў прыбудовак зачыніў?—ціха запытаўся Віктар у Мішкі пасля некаторай паўзы.

— Дзверы?! Не-э...

— Зачыні. І каб ніводная жывая душа не ўлезла, падапры дзверы калком. Ідзі...

Ну і Віцька! Як не паміраючы ад цікаўнасці, што-ж будзе далей, Мішка ў момант выканаў загад сябра.

— Цяпер слухай, што я табе скажу,—пачаў Віктар, калі Мішка зноў апынуўся перад ім.—Слухай і запамінай. Толькі дай прысягу, што ніводнае слова нікому не будзе расказана...

— Ну вот яшчэ! Гаворыць!—лёгкадумна запярэчыў Мішка.— Хіба ты мяне не ведаеш?..

Віктар прадаўжаў, не звярнуўшы ўвагі на яго ўсклікі:

— Цябе могуць арыштаваць. Будуць у цябе выпытваць. Ты, вядома, не скажаш. Цябе будуць біць, цябе будуць рэзаць, падпякаць на агні, павядуць расстрэльваць. І расстраляюць. За тое, што ты нічога не скажаш, што тут мы гаварылі, што пасля будзем рабіць...

У Мішкі патроху пачало перасыхаць у горле. Не вельмі яму хацелася трапіць да таго, хто можа зрабіць з ім так, як гаворыць Віктар. Гэта трошкі горш, чым атрымаць аплявуху ад ненавісных каралёва-станскіх шляхцюкоў! І за што можа хто так разлавацца на Мішку, каб раптам бабахаць яму ў лоб?

— Табе могуць даць грошай, шмат грошай, паабяцаюць усё, што ты захочаш, каб толькі сказаў, хто цябе навучыў рабіць, як ты павінен рабіць, даўшы прысягу. І ты прызнаешся, што табе гэта гаварыў рабіць Віктар Жаркевіч. Ты скажаш панам, што ён падвучыў цябе пайсці ў лазню. Там у яго быў «наган». Тады цябе могуць выпусціць, а мяне...

— Віцька? Ці не ашалеў ты?! Ды няхай мяне парэжуць на кускі... Няхай сабакі расцягаюць мае косці, калі я каму пікну пра цябе хоць слова!

Віктар правёў рукою па шурпатай насечцы рэвальвера:

— Можаш гаварыць. Я не баюся.

— Дык, па твоему, баюся я? А-а?—крыкнуў пакрыўджаны Мішка.—А-а? Ты тады зламаў калёсы, каб не везці палякам аружжа, а я пабаяўся гэта зрабіць? Ды каб у мяне тады была сякера, альбо добры дручок, дык-бы гэты камандзір астатні раз аплявушыў людзей!.. Няўжо ты яшчэ не ведаеш мяне? Віцька?

— Ведаю. Таму я паклікаў сюды цябе, а не каго другога...

— Дык навошта ты мне распісуеш пра страх? Хіба я сабака які, што брэша на звей-вецер?

— Я расказваю табе ўсё, што ты павінен ведаць, што мы, партызаны, гаворым усім: хто паўстае супроць паноў, той павінен ведаць партызанскую дысцыпліну. А той хто на яе забываецца і прадае сваіх таварышоў, нідзе і ніколі не знойдзе паратунку, ніхто яго не засцяражэ ад грознай расплаты за здраду! Яго будуць лавіць і падпільноўваць усюды, як шалёнага сабаку. Нас многа! Мы не носім і не будзем насіць ніякай формы. Нас цяжка будзе ўсіх пералавіць. Нас многа, але будзе яшчэ больш. Мы будзем біцца з панамі да таго часу, пакуль ніводнага з іх не застанецца на нашай зямлі. Дык хочаш ты быць партызанам?

— Віцька! Няўжо ты мне не верыш?

— Цалуй наган!

Мішка цмокнуў гарачымі губамі халодную як лёд зброю.

— А цяпер на прачытай гэту паперку і распішыся пад ёю.

І Віктар, дастаўшы з кішэні працягнуў Мішку белы шматок паперы. Мішка ўзяў яе ў рукі і пачаў чытаць:

«Я, ніжэйпадпісаны, клянуся чэсцю і дастоінствам свабоднага грамадзяніна, што ўсведамляю важнасць узятага на сябе абавязацельства, ад якога залежыць вынік нашай барацьбы ў справе вызвалення пролетарскіх мас, якія пакутуюць у цяжкай няволі і рабстве, і свята абавязваюся прайсці абраны мной цярністы шлях. Ва ўсведамленні рэволюцыйнага абавязку я гатоў афяраваць сабой у дасягненні ажыццяўлення намечаных мэт за ідэал вызвалення і аднаўлення ў нас совецкай улады, падобна многім іншым папярэднім мне таварышам, якія дастойна памерлі ў няроўных баях.

Усякую ўскладзеную на мяне задачу для карысці справы абавязваюся выканаць свята і беспярэчна ва ўсякі час дня і ночы; ніякія нястачы, перажыванні і страх не пахіснуць маю волю імкнуцца ўперад і выконваць ускладзенае.

Абавязацельства гэтае, якое я ўзяў на сябе, лічу непагрэшнай ісцінай, якую павінен запомніць і выканаць.

Невыкананне чаго-небудзь з данага мной абяцання лічу злачынствам, і за здраду яму станаўлюся ворагам не толькі таварышам, з якімі працую, але ў цэлым класу пролетарыяў, і перад ім адказваю сваёй галавой.

За здраду справе няхай мне будзе пакараннем—усеагульная пагарда і смерць!»

Калі раней у Мішкі было некаторае падазрэнне і недавер'е адносна нейкай асабістай прыгонніцкай авантуры з боку Віктара, асабліва ў сувязі з такой рамантычнай абстаноўкай, дык цяпер яно развеялася, як дым. Паперка была надрукавана на машынцы. У ёй трапяталіся агнёвыя словы партызанскай прысягі. Гэта не было жартам, выдумкай чалавека, які перачытаў усю школьную бібліятэку. Дрыготкімі рукамі ўзяў Мішка аловак і няроўнымі літарамі вывеў свой подпіс.

З гэтага часу Мішка Страмок ужо не належаў толькі самому сабе. Камандзір, якога Мішка яшчэ не ведаў, мог паслаць яго туды, адкуль часта не варочаюцца жывымі. І Мішка Страмок не меў права адмовіцца ад небяспечнага даручэння.

— А калі будзе гэтае... бой?—запытаўся ён у Віктара.

— Тады ты атрымаеш сігнал.

— А дзе я вазьму вінтоўку? Хто мне дасць «наган»?

— А пра гэта разам цяпер будзем думаць.

## XXVII

Тры дні чакаў Мішка Страмок суровага сігналу. За гэтыя тры дні ён перажыў столькі страху, колькі яго не меў за ўвесь час далейшага прабыцця ў партызанскім атрадзе.

Ужо як толькі Мішка вышаў, прыняўшы прысягу, з лазні,— ужо тады навакольны свет, уся навакольная прырода здалася яму зусім другою, непадобнай да тае, якую ён наглядаў да прысягі.

Небывалае да гэтага часу пачуццё вялікай асабістай адказнасці раптам апанавала Мішку. Вот ён выходзіць з лазні, неўзабаве пойдзе па вуліцы, яму будуць сустракацца з маленства знаёмыя і прывычныя верасніцкія асобы. Ён будзе вітацца, размаўляць з імі, і ім, асобам гэтым, будзе неўцям, што Мішка ўжо не той!.. Не той цяпер Мішка!.. Што пад знешнім зманным выглядам звычайнага вясковага хлапца ён носіць вялікую таямніцу загаворшчыка супроць узброеных да зубоў паноў, супроць усёй арміі акупантаў! Хутка ў яго будзе вінтоўка, альбо наган. Добра, каб яшчэ і сабля дасталася. Тады можна біць ворага і здалёку і зблізку. Усе гэтыя тры віды зброі Мішка будзе насіць разам. Ох, і пакажуць-жа яны панам! Грозны, раскатны гул бітвы ўжо грымеў у вушах Мішкі, мітусіліся ў вачах ашаломленыя мішкавым геройствам паны. Яны то падалі няжывымі з коней на зямлю, то баязліва ўцякалі ў кусты. Мішка даганяе іх, замахваецца сабляй і—галава афіцэра коціцца на зямлю! А за Мішкам імчацца на конях другія, такія-ж храбрыя, як і ён сам, хлопцы. Наперад!—камандуе Мішка, азіраючыся на хлопцаў...

І ўбачыў Мішка не ўзвіхраныя ветрам грывы баявых коней, пачуў не звон вострых сабель. За ім была толькі лазня дзеда Вераб'я. Гэта не саблі зазвінелі, а скрыпнулі прыадчыненыя Віктарам дзверы прылазніка. Сам Віктар, выставіўшы галаву азіраўся, ці няма блізка непатрэбнага ў гэты момант сведкі. Потым ён нецярпліва махнуў Мішку, каб хутчэй адыходзіў, і зараз-жа зноў схаваўся ў лазні.

І карціны нябачных подвігаў былі зацемнены ў Мішкавай галаве карцінамі допытаў. Агнём загулялі ў вушах суровыя словы прысягі: калі-ж здраджу!..

Такія словы не ўстаўлены ў прысягу абы так сабе! Калі паны даведаюцца, што Мішка гэта не проста Мішка, а партызан, чалавек, які павінен на кожным кроку, пры кожным зручным выпадку, нарабіць ім як мага больш шкоды, тады ўжо сцеражыся, хлопча: будуць цябе лавіць дома, у лесе. Усюды панастаўляюць шпіёнаў, усюды будуць лавіць Мішку. Засне Мішка дома, а ўночы абкружаць двор жандары, загрукаюць падкаванымі абцасамі ў сенцах. Схопяць соннага Мішку і пачнуць дубасіць прыкладам: пачнуць дапытваць, хто яго супольнікі, дзе яны хаваюцца... Не будзе цяпер Мішку спакою, мінулася юнацкая бесклапотнасць!

Таму, узбягаючы на гару, Мішка яшчэ больш круціў галавою ва ўсе бакі, чым, спускаючыся да лазні. Паветра, здавалася Мішку, аж грымела грозным гулам перасцярогі.

Неспакойная была гэта ноч у Мішкі Страмка. Ледзь толькі зліпаліся сном вочы, як раптам з'яўляліся польскія жандары. Разам з імі былі палкоўнік Свянціцкі і капітан Марушэчак. Марушэчак даставаў з кабуры агромністы рэвальвер і пакутна доўга, уганяючы Мішку ў халодны ліпучы пот, цэліўся з пісталета. Мішка падскакваў ад стрэлу і сударгава махаў рукамі ў паветры.

— А-я-яй... ая-яй!—разлягаўся па хаце пакрыўджаны голас Хімкі, аднаго з братоў вялікай мішкавай сям'і.

— Міша!—бурчэў з печы бацька.—Нешта табе чэрці сну не даюць? Нешта ты варочаешся, блузніш усялякае глупства?

— Я не хачу з ім спаць! Ён мне ўсе валасы павыдзірае!— заявіў рашучы пратэст Хімка.—І па твары кулаком даў...

Маці, пазяхаючы і ўздыхаючы, запальвала газнічку. Падыходзіла да Мішкі, мацала яго лоб. Хаця каб не захварэў хлопец? Садзілася на ложак, гладзіла па белых шаўковых валасах Мішкі. Ён быў яе любімцам, першым, пасля памёршых шасці сыноў, сынам.

Як толькі была запалена газніца, у розных, цёмных і відных кутках, на палках, на палатках, на заслонах, заварушыліся, пачалі пазяхаць з-пад коўдраў і кажухоў, проста з-пад ірваных дзяруг шматлікія наследнікі Страмкоў. Трынаццаць братоў было-б у Мішкі, каб не памерлі першыя шэсць. Чатырнаццаць сыноў было-б у Страмкоў! Але два першыя памерлі ад прастуды, калі ім пашло па другому году, трэці зваліўся з берага і захлынуўся ў Свіслачы. Чацвертага ў чатыры годы аблажыла шкарлятына, а два памерлі невядома ад якой хваробы. А Мішка выжыў. Відаць, смерць, здаволіўшыся такімі жудаснымі афярамі, назаўсёды пакінула гэтую сям'ю. Пасля Мішкі то праз два годы, то праз год прыбаўляліся ў хаце новыя жыхары,—і ўсё касцы, усё сейбіты, як гаварыў дзед Верабей пачуўшы што Страмчыха дала свету новае жыццё. Сем братоў было цяпер у Мішкі!

— Цэлае аддзяленне Страмкоў!—захапляўся Поташ і ўздрыгваў, калі гэта аддзяленне распачынала паміж сабою ўпартую бойку за знойдзены ў вулічным пыле яблык. На шчасліўца наляталі з усіх бакоў, вырывалі яблык з рук. Ад другога адбіраў трэці, стараючыся шмыгануць у дальні зацішны куток і там са смакам з'есці нечаканую спажыву. Шчаслівец уцякаў, а за ім з плачам, з лаянкамі, з пагрозамі пажаліцца бацьку, ляцела праз платы і парканы, праз бульбу і грады астатняя страмкова гвардыя з сямі чалавек.

Сам Страмок да першых дзяцей быў вясёлым і досыць бесклапотным чалавекам. Часта, нават, пасля жаніцьбы, яго можна было сустрэць на вечарынках у пары альбо з жонкай, альбо і з дзяўчынай. Шмат ведаў ён цікавых апавяданняў і пра паноў, і пра папоў, і пра мужыкоў, якія былі такія разумныя, што абдурвалі і адных і другіх. Заўсёды вакол Страмка быў вялікі гурток цікаўных слухачоў. У гэты час Страмок пачаў працаваць на сплаве, ганяў па Свіслачы плыты. Заработку на дваіх ставала. Быў яшчэ ў Страмка невялікі, на адну дзесяціну пляц, які дастаўся яму ў спадчыну ад бацькі.

Але пачалі нараджацца дзеці. Адно, другое, трэцяе. Ранейшых заработкаў ужо не ставала. Страмок патроху хмурнеў, кінуў хадзіць на вечарынкі, апанаваны вялікімі клопатамі пра дзяцей, якім патрэбен быў і хлеб і адзенне. Яны, здавалася Страмку, елі як не ў сябе. Жакеткі, альбо лапці гарэлі на іх, як на агні. А тут з'яўляліся ўсё новыя і новыя наследнікі на гэтую няшчасную дзесяціну, на пагорблены ўжо карак бацькі.

— І адкуль толькі яны ў цябе бяруцца?—дзівіўся ён з жонкі.— Гэтым няма як даць рады, а ты новага падарыла на маю шыю...

— Ціха, Яўхімка! Неяк-жа будзе, — адказвала цярплівая жанчына.

Яна дні і ночы сядзела шыючы, перашываючы, фастрыгуючы, лапячы адзенне для васьмі сыноў. Кожны дзень знаходзіліся ўсё новыя і новыя прарэхі. Учора яна латала рукаў світкі, альбо сарочкі, сёння хлапцы пастараліся нарабіць гэтых прарэхаў яшчэ больш. Яны нібы наўмысля стараліся разадраць аб цвік то штаніну, то згубіць новую шапку, каб толькі іх маці беспрастанку гнула спіну ў адной і той-жа да смерці абрыдлай рабоце.

Але яна была цярплівая і адданая сваім дзецям да самаахвярнасці. Ніводнае жорсткае слова папроку не зрывалася з яе губ. Наадварот, яна адчувала яшчэ нейкае здаваленне ў сваёй пакутна-цяжкой працы, якой, здавалася, ніколі не будзе канца. Ніколі яна не папракнула мужа за тое, што прынёс мала грошай са сплаву, альбо тады, калі Страмок з'яўляўся дахаты п'яным і злым на самога сябе, на жонку, на ўвесь свет.

Яна тады кідалася да яго, сцягвала з яго кажушок альбо жакетку, дрыглівымі рукамі разувала лапці, усё ўпрошваючы:

— Ціха, Яўхімка! Неяк-жа будзе. Не крычы, не страш дзяцей... Неяк-жа будзе.

— Будзе, як нас не будзе,—заспакоены яе лагодным голасам і мяккім дотыкам рук, бурчэў Страмок і раптам сам нечакана расчульваўся. Ён падзываў пальцам сваіх дзяцей, якія на гэты час хаваліся і аціхалі то на печы, то на палатках і гаварыў ім:

— Садзіцеся тут, і-і-ік, белагаловікі... Во, так. А ты Пецька хадзі, і-ік, ка мне на калені... Ну чаго ты, дурань, баішся?.. Хочаш з мамай? Ну, добра... Раскажу я вам...

Дзеці, адно ў адно белагаловыя, усе з светла-блакітнымі вачамі, дапытліва і чакальна пазіралі на п'янага бацьку.

— Раскажу я вам...—мармытаў Яўхім і раптам голас яго закіпаў у гневе:—Ну, чаго вы так вытрашчыліся, нібы на злодзея? Марш адсюль!..

— Яўхімка, ціха!—як кнігаўка стагнала жонка.—Ідзі, паляжы, праспіся...

Аднойчы, калі плытнікі працавалі на руме, Страмок прыбег да хаты паснедаць. Дзеці толькі што адышлі ад стала. У меншых сарочкі былі яшчэ выкваццаны ў зацірку. Страмок пачаў есці пакіненую для яго бульбу з хлебам. Дзеці ўзнялі гвалт, што і ім хочацца есці.

— Ты што: ім не давала?—адразу спахмурнеў Яўхім.

— Чаму не. Яны пад'елі. А ты сеў, дык ім зноў захацелася. Хіба ты дзяцей не ведаеш?

— Проста з рота рвуць!—паглядаючы на прагныя дзіцячыя вочы дзівіўся Яўхім.—Ну, хадзіце, садзіцеся,—дадаў ён ужо больш ласкавым голасам.

Дзеці ў момант расхваталі яду, якая была прыгатавана для бацькі. На стале засталася толькі насыпаная на голыя дошкі соль.

Яўхім толькі круціў галавою, паглядаючы, як знікае ў гэтых неўтаймоўных дзіцячых жыватах яда. Яму здавалася, што яны ядуць не таму, што галодныя, а проста для дзіцячага капрызу,

дзеля кампаніі. Бязлітасна знішчаюць тое, што даецца такою цяжкою працай. Здаецца, што каб ён, бацька, пачаў грызці і жаваць дрэва—дзеці-б зрабілі тое самае. У іх, здавалася яму, усё ішло, як у прорву. Глухая нянавісць расла ў яго да сваіх дзяцей...

Да пачатку вайны, пакуль не ўзялі ў армію, ваяваў так з жыццём Яўхім Страмок. Але з фронта раптам пачаў прысылаць да хаты лісты, поўныя клопату пра жонку, дзяцей. У лістах пералічаў усіх васьмёх сыноў па імю, упрашаў, каб слухаліся маткі, калі яго часамі заб'е варожая куля. Ён раіў Мішку зараз-жа наняцца за пастушка, каб лягчэй было маці прахарчаваць і прыадзець меншых яго братоў. І Мішка і меншы яго брат Тонька, наняліся за пастушкоў да пана Свянціцкага. Бацька вярнуўся дахаты толькі пасля рэволюцыі. У хляве ён знайшоў карову, каня, якіх у яго ніколі не было. Цэлых дзесяць дзесяцін зямлі далі Страмкам з маёнтку Свянціцкага! Па дзесяціне на душу! І конь і карова—таксама былі выдадзены сялянскім камітэтам з панскага маёнтку.

— І воз хлеба далі!—хвалілася жонка, узрадаваная што бачыць мужа жывога, нават не раненага.

— А ты думала як?—адказваў Страмок, нібы ён яшчэ год дваццаць таму назад ведаў, што іменна так будзе.—Гэта-ж Ленін сказаў, каб мужыкам уся на свеце зямля належала. Ведаеш, песня ёсцека:

Лишь мы работники всемирной,
Великой армии труда,
Владеть землей имеем право,
А паразиты никогда.

І песня гэта «Інтэрнацыяналам» завецца.

І пачаў Яўхім Страмок працаваць на сваім новым надзеле, корпацца на зямлі, як крот. Яму памагаў Мішка, Тонька. Па вечарах уся шматлікая сям'я Страмкоў, змардаваная дзённай работай, сядзела каля комінка, на якім патрэскваў агонь, кіпела, пастаўленая на трыножкі бульба. Маці працэжвала толькі што надоенае малако. Страмок, паглядаючы на сваю белагаловую гвардыю, гаварыў аб тым, што трэба будзе зрабіць заўтра. Многа стала цяпер у Страмкоў работы. Хату новую паставіць, перасыпаць хлеў...

Але хаты не паспелі паставіць, хоць бярвення і навазілі. Ляжала яно ўжо акоранае, смалістае і звонкае, чакаючы цесляроў. І невядома, ці будзе пастаўлена хата. Нават хутчэй за ўсё, што не будзе. Усе бярвенні падлічаны ўжо прыганятымі з маёнтку. Яўхім Страмок ужо атрымаў загад завезці іх у панскі двор.

— Не павязу!—гаварыў усім Яўхім Страмок, пакуль не застрэлілі Петрака Ашмана.—І не дам, калі пачнуць самі браць.

А калі застрэлілі Ашмана, калі зрэзалі бізунамі і дубцамі чалавек дваццаць вострых на язык верасняцаў, змоўк і задумаўся. Нават у сваёй хаце мала размаўляў. Зноў пачаў пакрысе выпіваць, невядома ў каго дастаючы самагонку.

Такая была Мішкава сям'я. У такім настроі быў бацька, калі Мішка даў страшную прысягу ваяваць з панамі.

Прапелі другія пеўні, а Мішка не мог самгнуць вачэй. За сцяною, на вуліцы, гулка прагрукацела адзінокая фурманка. Бацька варо-

чаўся на печы, ні то ад гарачыні, ні то ад неспакойных думак. Каля яго, на вянках цыбулі шасталі прусакі. Слабое святло газнічкі толькі ледзь-ледзь рассявала змрок, поўны ўедлівага паху паранай бульбы, духаты і посвісту праз нос ужо заснуўшага Хімкі.

Як толькі прапелі пеўні, маці ўстрапянулася, устала з палка. Неўзабаве да комінку, бліжэй к святлу, быў прысунуты невялікі заслон. На яго Мішкава маці паставіла кошык бульбы і пачала яе абіраць. Тонкая, як паперка, кажурына адна за адною віліся з-пад нажа.

Калі-б Мішка не прачынаўся ў гэты час, ён заўсёды бачыў сагнутую над працай маці. Яна лажылася пазней за ўсіх, і ўставала раней за ўсіх, каб яшчэ да відна згатаваць снеданне, альбо зацыраваць дзірку ў вопратцы. І так з дня ў дзень, з году ў год!.. Яе рукі не ведалі спакою ні на адну хвіліну. Галава яе ўвесь час была занята думкамі, як найлепш пераліцаваць жакетку, альбо кажушок большага сына—для меншага. І таму даўно зрэзалі глыбокія маршчыны яе калісьці прыгожы твар, шматлікія сінія жылы выпіралі з-пад тонкай скуры калісьці поўных рук. Завастрыліся плечы, пасівелі раней пары скроні. І адзенне, якое яна нейкім дзівам зберагала ад першых дзён замужжа, ужо вісела на ёй, як мяшок. Шырачэзная ў дробныя сінечырвоныя клеткі, спадніца, чорная катанка—жылі па многа год!..

Мішка, паглядаючы на маці, раптам заміргаў вачамі і ўскочыў з палка. Шпарка пачаў адзявацца.

— Ты гэта куды?—з непакоем зірнула на яго маці.—Калі ўставаць, дык яшчэ рана. Яшчэ цёмна на двары.

— А дроў у хаце няма,—глуха, нібы злуючы на самога сябе, прахрыпеў Мішка.

Маці паглядзела на яго, як на хворага.

— Дроў?! Дык я-ж сама прынясу! Яшчэ што выдумаў! Спі! што з табою зрабілася?

Яна нават кінула абіраць бульбу і непакойліва сачыла за кожным яго рухам.

Мішка не мог гаварыць. Ён амаль выбег на двор, аслеплены цемраю, вобмацкам дабраўся да падпаветкі. Пасля дроў, ён схапіў вёдры і прыцягнуў вады. Потым натрос трушанкі і даў карове, каню. Увесь час, усю раніцу ён быў апанаваны нейкім шалёным узрушэннем дапамагаць маці ў яе пакутнай працы. Ён вырашыў кожны дзень уставаць у такі-ж час, як і яна. Наглядаючы ў часе працы за маці, ён заўважыў, што яе твар аж пасвятлеў, яна нават стала жартаваць: што вось шкада, што не нарадзіўся ты Мішка, дзяўчынай!

— Я вам дапамагу і кросны ткаць,—паабяцаў расчулены Мішка.—Калі ў мяне няма сясцёр, дык мы самі павінны рабіць бабскую работу. У вас хутка апухнуць рукі, працуючы на такую гамэрню.

— Нічога. На сваіх працаваць не цяжка. Толькі прымусовая работа косці выядае.

Так, у працы, у размовах з маці прайшоў для Мішкі першы дзень пасля прыймання прысягі. А ўвечары, калі сцямнела, нехта паціху забарабаніў у шыбіну. Мішка ўстрапянуўся і ў адной сарочцы выскачыў на двор.

— Ты? Віцька?

— Я. На аддай бацьку во гэтую пісульку,—пачуўся ў адказ голас Корбута.—І скажы яму, каб хутчэй рабіў усё, што тут напісана.

Халодная, як у мерцвяка, рука войта абмацала цёплую Мішкаву далонь і заціснула ў пальцах лёгкую, як пух, і, ледзь улоўную на вобмацак паперку. Потым пачуліся гулкія крокі, якія аддаляліся. За варотамі свіснула пуга, зацокалі на жалезных восях колы. Вось і ўсё, што чуў, але не бачыў у гэтую хвіліну Мішка.

Ен стаяў ашаломлены, не адчуваючы пякучага сіверу. Уздрыгваючы ад таго, што магло быць, каб ён яшчэ далей распусціў свой язык. Можа атрымацца, што і Корбут пачне думаць пра яго сувязь з Віктарам? Шапне Свянціцкаму і тады пацягнуць Мішку, як міленькага! Нізашто, ні пра што. Можа за адзін толькі зговар. І той, можа, жартлівы...

Дзевяць Страмкоў сядзелі навакол стала, на якім дымілася бульба, бялелася у дзвёх гліняных місках квашанае малако,—калі ў хату ўвайшоў дзесяты Страмок.

— Хто там быў?—запыталася маці.

— Корбут,—разгортваючы паперку і падаючы яе цераз стол бацьку, адказаў Мішка.—Наце, чытайце.

— Знайшоў прахвесара!

— Дык падсуньце бліжэй газнічку.

Па меры таго, як Мішка чытаў паперку, сёрбанне малака паволі сціхала. Спярша ціха і нячутна паклала лыжку на стол маці. Бацька наадварот—кінуў яе з грукатам, напалохаўшы гэтым малых дзяцей. Потым папярхнуўся бульбінай Хімка.

— Ціха ты, халера!—раптам люта крыкнуў на яго бацька.— Глытае, як не ў сябе...

Калі Мішка скамячыў дрыглівымі пальцамі паперку, ужо ні адзін са Страмкоў не мог есці.

— І што? Што-а? Ён усім такія пісанні раздаў?—прашаптаў Страмок, вырываючы з мішкавых рук паперку.—Усе павінны паздаваць кароў і коней?

— Не ведаю. Я яго нават не бачыў. З'явіўся і знік, нібы цень,— адчуваючы, як раптам загарэлася ў яго горле прамовіў Мішка.

— А вот я даведаюся... Тады паглядзім!..

Страмок схапіў кажушок і, надзяваючы яго на хаду, рушыў з хаты.

— Ешце, дзеткі... Ешце малачко... Неяк-жа будзе...—ласкавым голасам прамовіла маці.—Зараз прыдзе бацька і мы ўсе будзем ведаць. Неяк-жа будзе...

Яна таропка адвярнулася ад святла і вышла ў сенцы. Там была доўга, нечым грукаючы ў цемры і холадзе.

## XXVIII

У той вечар Страмок разведаў, што павесткі завесці на працягу дваццаці чатырох гадзін кароў і коней у маёнтак атрымала чалавек дваццаць. Гэта збіла верасняцаў з панталыку. На сходзе палкоўнік гаварыў аб усіх, хто дакрануўся да маёнткавага дабра, а тут, аказваецца, справа ішла пра невялічкую групу. На сходзе пан палкоўнік пагражаў наогул, а тут—прыслаў праз воласць канкрэтныя заданні канкрэтным людзям. Тыя, каму Корбут не занёс лёгкай, як пух, але з такім жахлівым цяжарам клопату, паперкі—радаваліся ўпотай, што іх абмінула помстлівая рука памешчыка, а ўголас абураліся з такой бязлітасна-драпежніцкай выхадкі.

— І вы павядзеце?—дапытваўся раніцою Моця Жучок у панурых суседзяў, якія сабраліся каля Вераб'евага двара.—Каб ён прыслаў такую паперку мне, дык-бы я такое яму зрабіў, што ён навекі запамятаў-бы.

— А што-б ты яму зрабіў?—скручваючы азяблымі пальцамі папяросу, запытаўся Поташ.

— Што?—жорстка перапытаў Моця.—Кажу, што ён навекі запомніў-бы мяне. І жывёла ў хлеве засталася-б.

— Ну вот скажам, ты атрымаў павестку,—прадаўжаў Поташ, выплюнуўшы з роту табачную цурынку.—То што-б ты зрабіў?

Моця забразгаў у кішэні нейкімі жалязкамі, ці медзякамі.

— Выставіў-бы твайму пану кукіш. Зразумеў?

Мужчыны стрымана зарагаталі ад такой храбрасці Моці Жучка. Размаўляючы пра зварот пану жывёлы, яны неспакойна паглядзелі то ў адзін, то ў другі бок вуліцы: ці не вядзе ўжо хто карову, ці каня? Вызначаны панам палкоўнікам крайні тэрмін—дванаццаць гадзін дня—набліжаўся, здавалася ім, з хуткасцю маланкі, але яшчэ ніхто не думаў брацца за вяроўку ці аброць. Нікому не хацелася выганяць першым, кожны яшчэ не траціў надзеі, што можа абыйдзецца і так, як абыходзілася тыя два разы пасля панскага папярэджання. Бо і ў другі раз, у дзень забойства ні ў чым непавіннага Ашмана, карны атрад, адлупцаваўшы найбольш падазроных людзей, паехаў ні з чым. Можа пан Свянціцкі палічыў, што небяспечна ў адзін і той-жа час і людзей забіваць і грабіць іх працу.

— Вы толькі падстаўляйцеся, дык ён з вас тры скуры злупіць,—нешта жуючы, кідаў словамі Моця Жучок.—Я вам параю што рабіць: не весці ды ўсё! Скажыце, што ў даўнасць зайшло! Вот. І няхай ён яшчэ вам заплаціць за пракорм, за дагляд. А дарам, як дзед Верабей кажа, і каза ваўку ў рот не скача!

Моця разгарачваўся ўсё больш і больш. Выплюнуўшы штосьці недажаванае з роту і вынуўшы з кішэні руку, Моця стаў у позу прамоўцы, і пачаў бесціць і папракаць гэтых панурых людзей у іх мужычай недальнабачнасці, у ламаватасці, якія ні да чаго добрага не даводзяць. Ён абвінавачваў у тым, што іх характар вельмі мяккі, вельмі падатлівы, у той час, калі яны павінны зубамі бараніць кожную кроплю свайго дабра...

— Паглядзім, як ты абароніш сваё,—не сцярпеў гэтай нахабнай

прамовы Мікола Поташ.—У цябе таксама завялася панская кароўка.

— Ну вот: мужык мужыком!—агрызнуўся Моця Жучок, нездаволены, што яго перапынілі.—Каб я так з гэтага мейсца сыйшоў, як я ім павяду карову. Павыдыхаюць яны ўсе!

Ён змоўк і, дастаўшы нешта з кішэні, пачаў жаваць з глыбокафіласафічным выглядам. Зняважаны Поташам, ён адвярнуўся да ўсіх задам, як-бы паказваючы, што яго вялікі розум нічога агульнага не мае з гэтым прасцяцкім розумам верасьнянцаў.

Моця Жучок сапраўды паспеў захапіць карову з панскага маёнтка, захапіць самаўпраўна, нягледзячы на тое, што ў яго і да рэволюцыі было дзве сваіх каровы. Ён-бы не супроць быў захапіць і ўвесь маёнтак, каб толькі яму было гэта дазволена. Для таго, каб вобраз Моці Жучка быў больш поўны, нельга абмінуць яшчэ некаторыя дэталі з яго жыцця. Так, Моця Жучок лез усюды, дзе толькі пахла добрай спажывай, дзе пахла пірагамі, за якія не трэба было плаціць вялікай працай. Канчаючы ў мястэчку двухкласную школу, ён пачаў пагаварваць аб службе акцызнага чыноўніка. Яму нават пачалі сніцца сны, звязаныя з гэтай завіднай пасадай. Кожную ноч сыпаліся ў яго кішэню тысячы залатых рублёў хабару ад купцоў розных гільдый за ўтойванне незаконных спосабаў гандлю. То раптам яго прасторную кватэру завальвалі дарагімі суknамі, белым, як снег, паркалем. Моця не ведаў, дзе ўсё гэта дзяваць, а гандляры ўсё ішлі і ішлі, каб толькі ўціхамірыць найбагатшымі падарункамі раз'юшанага службіста.

Але гэта быў толькі сон! Потым Моцю здалося, калі ён бываў на станцыі, што лягчэйшай службы, як жандарская, яму не знайсці. Усё яму—і адзенне, і шабля, і рэвальвер—даецца казённае, без капейкі, ды яшчэ пенсію плацяць. А работы, думаў Моця, ніякай. Падкоціць пасажырскі поезд да станцыі, Моця тады важна падкручваючы вусы, выйдзе на перон, паглядзіць на мітуслівых пасажыраў так, каб у іх аж дух заняло, і зноў, да чарговага поезда, у сваю канцылярыю. Альбо пачне, бразгаючы сабляй, абыходзіць крамы пасялковых гандляроў. А тыя, быць не можа, каб выпусцілі Моцю—жандара, з пустымі рукамі. Моця—хлапец сам бачыў, як набіраў тавары ў краме жандар, якога ён, Моця, думаў замяніць. І не плаціў за гэта ні капейкі!

І Моця стаў сніць сябе ў ролі жандара. Прычым у сне ён быў і росту вышэйшага, такога, што сапраўдны Моця даставаў-бы таму ўяўнаму Моцю толькі да кален! Тады-б яго баяліся яшчэ больш...

Тры гады перабіраў Моця прафесіі. Але, каб прыстроіцца на службу, усюды патрэбна была пратэкцыя, патрэбна было знаёмства. У акцызныя прымалі такім парадкам, што Моця не ведаў, дзе, з якога канца пачынаць хадайнічаць. За жандараў наймаліся толькі старыя фельдфебелі, якія ўмелі спрытна выбіваць чужыя зубы. Моця, якому самому выкрышылі пару зубоў у адной бойцы з каралёвастанцамі, да гэтай прафесіі не падыходзіў. Хадзіў вучоны Моця па Верасніцы, нічога не робячы, уводзячы ў злосць бацьку: вывучыў сынка, што ні сабе карысці, ні людзям! А паспрабуй, загадай якую работу, тады з калом у горла не ўлезеш. Яшчэ

пачне папракаць, што бацька скупы, шкадуе залатое дзесяткі, каб уставіць зубы свайму роднаму сыну.

Але за год да вайны Моцяў бацька прастудзіўся і раптоўна памёр. Давялося Моцю ўзяцца за плуг, за барану. І шэсць дзесяцін пахаці здаліся для яго нейкай жахлівай катаргай. Давялося Моцю і ажаніцца. Жонку ён выбраў бадай разы ў два вышэйшую за сябе, прыгожую стройную дзяўчыну. Яна вышла за яго, ашаломленая яго вялікай вучонасцю і ўмельствам гаварыць, здавалася ёй тады, разумней за ўсіх. Моця пастараўся ўзваліць на яе ўсю гаспадарскую работу. Яна больш за яго арала, баранавала і нават касіла не менш за яго.

Потым давялося Моцю пайсці на вайну. У адной з тылавых часцей, дзе хаваліся ад фронта адвакаты, беларускія і украінскія нацыяналісты, Моця паспрабаваў праверыць свае аратарскія здольнасці. Эфект быў надзвычайны. Касяневіч, высокі з нервовым тарганнем павек прапаршчык, які запраўляў эсэраўскай прапагандай у часці, нават павіншаваў яго.

— Мм-да... не чакаў. Прызнаюся, не чакаў. Мм-да. Руку, мм-да, за страсць.

З таго часу Моця Жучок выступаў на кожным мітынгу, дзе трэба было агітаваць за вайну да «пераможнага канца».

Да якога чыну даслужыўся Моця Жучок—было невядома, сам ён не гаварыў. Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі ён вярнуўся дахаты, абвешаны туга напакаванымі паходнымі сумкамі і зараз-жа распачаў гандаль бялізнаю і падэшвамі. Калі ўсё было распрададзена, Моця раптам пачаў скупліваць кабаноў і адпраўляць на станцыю. Але вышла так, што за дзён шэсць прагандляваўся на дзве тысячы рублёў. Кінуў і гэту справу. У гэты якраз час Токараў арганізаваў у Верасніцы кааперацыю. Верасьнянцы, ведаючы што большага грамацея, як Моця Жучок, ім не знайсці, асабліва для такой новай справы, параілі яго за крамніка. Моця на другі-ж дзень прыцягнуў дахаты мяшок цукру і скрынку тараноў. Гэта заўважылі. Давялося Моцю пакінуць краму. Як непрытомны пачаў ён хадзіць па вёсцы. Пачаў выпіваць, аднак, і з п'яным вокам, не прапускаючы нічога такога, над чым нельга было-б не пакрасамоўнічаць.

У дзень пахавання Ашмана ён, ідучы за труною, насміхаўся з папа: што ён і доўгагрывы, як баба, што ўсе яго прычындалы—адзін зман, што яшчэ знаходзяцца дурні, якія вераць у папоўскія забабоны. А як толькі вярнуліся з могілак і выпілі на памінальным абедзе, пачаў з гэтым «доўгагрывым» цалавацца.

Самае дзіўнае ў яго адносінах з людзьмі было тое, што яны верылі, нібы ён гаворыць самую праўду,—такі ў яго быў переканаўчы голас, такая непадробная, здавалася, шчырасць. Слухаючы яго, усе забываліся, што гэта звычайнае трапло, прайдзісвет, словы якога ніколі не супадаюць са справай.

І цяпер, калі Моця Жучок сказаў, здавалася, шчырым голасам, што ён-бы ніколі не паву́ў у маёнтак жывёлы, усе яму паверылі...

А тэрмін, вызначаны панам палкоўнікам, набліжаўся з ліхаманкавай хуткасцю.

— Чаго вы стаіцё?—нарэшце павярнуўся тварам да людзей Моця Жучок.—Думаюць, насы паспускаўшы! Ідзіце па хатах ды ўсё. Нічога ён вам не зробіць. А паспрабуе зрабіць, тады... Людзі цяпер вучоныя, цяпер голымі рукамі не возьмеш... Няхай яны толькі паспрабуюць палезці ў мой хлеў. Дык так габляну, што і свету не ўбачаць!

Яўхім Страмок раптам устрапянуўся.

— Чорт яго бяры. Як будзе, дык будзе, а не павяду. Сам няхай бярэ, хоць задавіцца ёю... Будзе некалі на нашай вуліцы свята.

— Не павяду і я,—ціха, але цвёрда прамовіў Верабей і павярнуў у свой двор.

Мужчыны пачалі ўжо разыходзіцца, як да іх падбег «пан Малецкі». Весела агледзеўшы ўсіх, ён кінуўся да Моці Жучка.

— Усё сяло абабег... Шукаў вас,—пачаў «пан Малецкі», ледзь зводзячы дух ад шпаркага бегу.—Карову трэба весці не нам. Корбут памыліўся... Цёця-мама дарэмна ўсю ноч праплакала... Гэта вы павінны весці карову.

«Пан Малецкі» падаў Моцю Жучку тонкую паперку.

— Што ты брэшаш, шчанюк?—раптам дзіка зароў Моця.— Пашоў вон адсюль!.. Такая твая морда...

— Чаго ты на яго вызвярыўся, дурань?—заступіўся за малога дзед Верабей, які, пачуўшы шум, зноў вярнуўся да гурту.—Што ён вінаваты? Яму загадалі зрабіць, ён і слухае.

Моця ўз'еўся на дзеда Вераб'я.

— І ты, стары псюк, яшчэ ўсадзі свае тры грошы. Цябе не чапаюць, дык і ты не лезь...

Паперка дрыжэла ў Моцькавых руках, калі ён чытаў. Рот перастаў жаваць. Поташ, зацікаўлены новай з'явай, падышоў да Моцькі і нахіліўся, каб паглядзець, што напісана ў паперцы. Праз хвіліну Моця Жучок нечага паглядзеў ашалелымі вачамі на сонца і, запхнуўшы ў кішэню паперку, без галавы паляцеў да свайго двара.

Неўзабаве ён выскачыў зноў з сваіх варот, выцягваючы за сабою на доўгім повадзе чорную з белымі лапікамі карову. Карова не хацела ісці, упіралася ў карабатую, скамянелую ад мароза зямлю. Тады Жучок выламаў частаколіну і пачаў дубасіць па яе шырокім вострым крыжы.

Калі жывёліна адумалася і паслухмяна пабрыла за гаспадаром, Моця Жучок паспакайнеў. Ён нават пачаў гаварыць да людзей, якія ў гэты час стаялі каля сваіх хат:

— Чулі, якую павестку адгабляваў мне пан Свянціцкі? Чуў такі... А ты што: не атрымаў? Атрымаў такі... Дык чаго-ж ты стаіш? Чапляй кароўчыну на вяроўчыну ды пойдзем на пакланенне да яснавяльможнага. А то зробяць, як з Ашманом... Тады ўжо губы ў гарэлцы не памочыш...

— Ах, каб ты ў смале яе мачаў, халера!—вылаяўся Поташ.— Язык, як у таго цюцькі хвост... Каб Свянціцкі загадаў яму прывесці жонку, дык ён і яе пацягнуў бы на вяроўцы... А вы, хлопцы, дурні будзеце, калі павядзіцё кароў, ці коней. Я пакуль што схаджу з яго паперкаю за хлеў... памалюся богу...

— Добра яму весці, калі ў яго яшчэ дзве каровы асталося,— прамовіў услед Жучку Яўхім Страмок.—І я такім разумным быў-бы.

## XXIX

Не прайшло і двух гадзін, калі Моця Жучок пацягнуў у маёнтак карову, як на Верасніцу наляцелі конныя белапалякі. Іх было чалавек сорак. Атрадам камандаваў капітан Марушэчак. У гэты якраз час высунуўся на вуліцу дзед Верабей. Капітан Марушэчак спыніў каня насупраць яго двара і дастаў з палявой сумкі паперу.

— А ну, стары пёс, паказвай, дзе тут жыве Яўхім Страмок? Дзе тут жывуць Шлапак, Размысловіч?..

Пан капітан пералічыў бадай усіх тых, каму былі ўчора раздадзены павесткі, і нецярпліва зірнуў на старога:

— Ну хутчэй вядзі!

Дзед Верабей стаяў, як акамянелы. Толькі праз хвіліну, калі Марушэчак замахнуўся на яго бізуном, прагаварыў лагодным голасам:

— Дык-жа я іх, тутэйшых, нікога не ведаю. Я сам, пане ахвіцэр, з-за пушчы. І заходзіў у гэту хату пагрэцца. Змёрз вельмі, ідучы са станцыі. Такі сівер...

Марушэчак вылаяўся і рушыў далей. Верабей паглядзеў яму ўслед і, перайшоўшы цераз вуліцу, пастукаў у вакно страмковай хаты:

— Яўхім, палякі цябе пытаюцца. Мусіць, па кароўку прыехалі.

Сказаў і шпарка рушыў за гумны.

З гадзіну атрад лятаў то ў адзін, то ў другі канец вуліцы, адшукваючы занесеных у спіс людзей. Наскочылі на «пана Малецкага», які ў захапленні пaглядаў з-за варот на патронныя сумкі жаўнераў і новенькія вінтоўкі. Але калі ў яго запыталіся, дзе жывуць такія і такія, паказаў, завываючы, на рот і вушы: нічога не чуе і нічога не гаворыць—глуханямы.

— А вот яны ў мяне загавораць!—патрос Марушэчак бізуном.— Займайце па парадку першыя двары і выганяйце іх адтуль разам з каровамі. Тады яны пакажуць, дзе жывуць гэтыя грабежнікі.

Манеўр капітана Марушэчка меў поспех. Нікому не хацелася аддаваць сваіх кароў і коней за тых, каму былі раздадзены павесткі. Давялося паказаць, дзе жыве Страмок, дзе жывуць астатнія, занесеныя ў панскія спісы верасняны.

Поташ быў прыкінуўся хворым. Як толькі палякі ўскочылі ў хату, пачаў стагнаць і круціцца, нібы ад болю, пад суконнай коўдрай. Але жаўнеры сцягнулі яго з палка, прымусілі, пагражаючы вінтоўкай, апранулца і вывесці карову на вуліцу, ужо ўсю напоўненую лямантам і слязьмі баб. Каровы вырываліся з рук, стараліся завярнуць у першыя сустрэчныя вароты. Па дварах, па загуменню, забрахалі, завылі на розныя галасы сабакі. Некаторыя з іх нават пачалі кідацца на спешаных жаўнераў, але пасля некалькіх стрэлаў адбегліся і завылі, падымаючы ўгару тужлівыя морды.

Страмчыха бегла побач капітана Марушэчка, хапалася то за бот, то за руку, крычала нема:

— Панок! Апошнюю кароўку... Панок... Што-ж я цяпер дам сваім дзеткам... Злітуйся, панок. калі бога ў душы маеш... Калі ў цябе ёсць свае дзеткі, свая маці!..

— Ідзі да д'ябла, старая...—брыдка вылаяўся Марушэчак, з агідай вырываючы сваю руку.

Страмчыха тады ашалела кідалася да мужа, вырывала з яго рук карову і цягнула яе назад, у свой двор. Яе даганялі жаўнеры, адштурхвалі прыкладамі ў бок і зноў прымушалі панурага Страмка весці карову. Так цягнулася Страмчыха, як і многія іншыя бабы, аж да маста, пакуль не раззлаваўся сам Страмок.

— Марта!.. Ідзі дахаты, кажу. Бо зараз як вазьму папляску, дык усю скуру спушчу! Паможа гэта тваё галашэнне..

На масту адстала Марта, пазіраючы гарачымі, ашалелымі ад роспачы вачамі на бурую карову, якая аддалялася, пагойдваючы выкачанымі ў гной бакамі. З Мартай адсталі і астатнія жанчыны. Там стаялі яны, нібы не заўважаючы адна аднае, доўга, маўклівыя і нерухомыя. Унізе пад імі холадна шуршэла аб тонкі прыпай лёду вада Свіслачы. Дзьмуў пякучы сівер...

А гэтым часам Мішка з пакарэжаным ад крыўды тварам бегаў па вёсцы, адшукваючы Віктара. Убачыўшы яго каля варот Булынкі ў групе людзей, Мішка крыкнуў са слязьмі ў голасе:

— Віцька!.. Дай «наган»!.. Я яшчэ даганю іх... Я іх усіх пастраляю...

Мужчыны, старыя і маладзейшыя, насцерагліся, дапытліва паглядаючы то на Мішку, то на Віктара. Баючыся, каб шалёны Мішка не ляпнуў яшчэ мудрэйшага, Віктар крыкнуў жорстка:

— Пайшоў ты к чорту! Я цябе знаць не знаю. Знайшоў ён у мяне «наган»! Ідзі бяры, калі ведаеш, дзе ляжыць!

— Віцька!..

Мішка завыў і кінуўся ў канец вёскі. Мужчыны пачалі глядзець, куды ён пабяжыць і што будзе рабіць. Цяпер, калі палякі пакінулі Верасніцу, яны вылазілі з хат і гумнаў, дзе былі схаваліся ад дзікай панскай навалы.

— Тут што: каб узяцца ўсім гуртом, дык бы ад іх, гэтых арлоў, толькі адно пер'е асталося!—мітынгаваў Моця Жучок, які нечакана апынуўся сярод натоўпу. Завёўшы карову, ён цяпер быў смелы, як леў. Самае цікавае было тое, што ён зусім забыўся на свой ранейшы ўчынак.

Кароль Забашавіч весела аглядзеў Моцю Жучка ад ног да галавы, але нічога не сказаў. Другія нібы і не заўважылі звароту Моці Жучка. Усіх цяпер на некаторы момант зацікавіў Мішка.

А ён, прамінуўшы бягом хат пяць, раптам пайшоў крокам. Яшчэ хаты праз дзве ён зусім спыніўся і, зірнуўшы бездапаможна наўкола, аслабела дацягнуўся да першай прызбы і сеў.

Каля Віктара загаманілі..

— Адваяваўся, небарака!

— Дзяціны яшчэ розум у галаве.

— Дзіва што! Такія пеўнікі ў нас на пазіцыі былі. Усё вы-

тыркаюць галовы з акопа, каб паглядзець, што ў немца робіцца. Выткнецца во так, а немец яму—цюк, і гатова!

— Тут таксама: не вытыркай галавы, дык застанешся жывы.

— Ашман нябожчык вытыркнуўся быў...

— Тут яшчэ горш як на пазіцыі. Там за цароў ваявалі, а тут за зямлю. А за зямлю брат брата заразае.

— Што за зямлю! Некрашы, калі дзяліліся, засеклі бацьку за хамут! А тут маёнтак былі разабралі. Цяпер ён за гэты маёнтак усе вантробы вытрасе.

— Патрэбны яму твае вантробы!

— Яму аддай усё, што савецкая ўлада раздала.

— Пахрабрэлі яны вельмі. А ці даўно па бліндажах хаваліся, калі мы пагоны з іх здзіралі!

У гэты-ж вечар яшчэ чалавек дваццаць верасняцаў атрымалі тонкія паперкі. Тыя, што ўжо завялі кароў, радаваліся, што не толькі на іх навалілася бяда. Пашырыліся чуткі пра налёт карнікаў і на суседнія вёскі. Нават дабраўся Свянціцкі да каралёвастанскіх шляхцюкоў.

І ў гэты-ж вечар адбылася падзея, якая дала Мішку Страмку зброю ў рукі...

Яшчэ задоўга да таго, як сцямнелася, раптам перамянілася надвор'е. Вецер, які на працягу тыдня дзьмуў з поўначы, патроху пачаў сціхаць. Гадзіны на дзве ў паветры запанавала цішыня. Потым чысты небасхіл захаду пачало зацягваць цяжкай шэрай смугою. Па дварах загарланілі пеўні. Яны спявалі да таго часу, пакуль на вуліцы не закружыліся лёгкія белыя пушынкі. Калі сцямнелася, снег паваліў густа. Вялізнае ахлоп'е яго адно за адным павольна падала на асветленую ад Поташавага акна вуліцу.

І раптам на гэты прасвет высунулася ахутаная парам фурманка. Вялікія камкі снегу пачапляліся за колы, перашкаджаючы змораному каню цягнуць цяжка нагружаны воз. Фурманка спынілася. Падводчык стаў зграбаць з каня мокры снег. Неўзабаве Мішка Страмок прыляцеў да Віктара.

— Вінтоўкі вязуць!—прашаптаў ён, азіраючыся на віктараву маці.—І камандзірам той ахвіцэр, у якога мы восі ламалі. Чуеш, Віцька? Давай сцягнем па адной? А-а?

— Вартаўнікоў многа?

— Ды іх бадай не відаць. І на дварэ цёмна, ды яшчэ такі снег...

Мішка аж падскакваў ад нецярплівасці. Ён то падбягаў да акна, то ляцеў да дзвярэй, каб напіцца вады. Відаць, яму было ў гэты час вельмі горача і душна.

Віктар апрануў кажушок, нацягнуў на вушы збітую салдацкую шапку і вышаў у сенцы. Як толькі за імі зачыніліся дзверы, прашаптаў:

— Толькі не гарачыся. Трэба раней добра выглядзець, разнюхаць. Калі рабіць, дык каб было пэўна.

— Ты што: жартуеш?

— Не, Мішка. Я табе кажу сур'ёзна. Ты сёння пастараўся ўжо крыкнуць на ўсю вуліцу, што ў мяне ёсць наган...

— Добрае пастараўся!.. Яны апошні кавалак хлеба ад роту адбіраюць, ботам у твар тыцкаюць, а я што: маўчаць? Ага?

— Досыць!—абарваў Віктар Мішку, які, відаць, надоўга сабраўся крычаць аб сваёй крыўдзе.—Хадзем. Толькі папярэджваю— выйдзе няўдача, яны з намі расправяцца на месцы. Запамятай гэта. Калі збаяўся, дык лепш не ідзі...

— Віцька!

Яны выскачылі на вуліцу.

У многіх хатах яшчэ гарэў агонь, асвятляючы тую або іншую частку вуліцы, шэрыя ад снегу вазы, каля якіх былі ўзброеныя вінтоўкамі жаўнеры. Яны, відаць, добра прамерзлі, бо час-ад-часу забягалі ў хату пагрэцца. Некалькі падводчыкаў сабралася ў групку каля калодзежа. Каля іх апынуўся дзед Верабей, які варочаўся ад Ашманоў. Віктар і Мішка таксама прыстроіліся каля групкі.

— Скажы нам, дзядуля, ці далёка тут да Беразіны?—пачаў адзін з падводчыкаў.—Нешта едзеш, едзеш, а канца-краю няма.

— А ты сам хіба не тутэйшы,—пачуўся голас дзеда Вераб'я.

— Дзе там! Пра Асмягі чулі?

— Чаму не! Далёка, гэта, нябожа!

— Ну, дык я адтуль. Ужо чатыры дні цягаю гэтыя іх цацкі, каб яны пагарэлі разам з імі. А цяпер вот за Беразіну гоняць.

— Калі гоняць, дык трэба везці. Фурманкі што: у нас вот апошніх кароў ужо забіраюць! Не ведаем, як і жыць будзем.

— А навошта іх аддаеце? Не давайце! Што яны: пагадавалі іх вам?

— Не даваць—гэта бунт!—пачаў падводчык, які толькі што адышоў ад запрэжанай у фуру паркі чорных коней.—Калі забіраюць, дык, мусіць, ёсць падставы. У мяне вот, нічога не забіраюць. І не забяруць, як я ведаю.

Верабей аглядзеў усю яго, апранёную ў рудую, з высокім башлыком бікешу постаць. Было невядома, жартуе гэты чалавек, ці кажа насур'ёз, выціраючы рукавом надзіва доўгія, завостраныя к канцам чорныя вусы.

— А чаму ў цябе не забяруць?—запытаўся Верабей.

— А таму, што я нічога чужога не браў,—гучна высмаркаўшыся ў нейкую мяккую анучку, адказаў чалавек у бікешы—Вы вот усе так стогнеце, таго не ведаючы, што самі вінаваты. Ёсць такая прыказка... «не крадзь нічога і не бойся нікога».

— Ну, гэта ты дарэмна нас усіх злодзеямі парабіў,—гнеўна крыкнуў Верабей.—Хіба ў нас бога за душою няма, ці што? Нам усё ўлада давала, мы самаўпраўна нічога не бралі.

— Трэба было вам слухаць тую ўладу. Яны вот раздалі чужое дабро, а самі хвосцікамі накрыліся. За Беразіну ўцяклі. Але і там доўга не ўседзяць. Выкураць іх і адтуль. Прыпомняць ім і рэквізіцыі і вобыскі.

Мішка ўчапіўся за Віктараву руку.

— Віцька, што ён такое гаворыць? Гэта на нашых?

— Маўчы!—Віктар так сціснуў віктаравы пальцы, што ў таго аж косці хруснулі.

— Ніякая ўласць не любіць, калі ёй супраціўляюцца,—прадаў-

жаў вусаты.—Ласкавае цялятка дзве маткі ссе. А шкоднае—ніводнае...

Раптам ён звярнуўся да падводчыкаў.

— Вы, хлопцы, гляньце тут на маіх коней. Я забягу ў адну хату. Я ўгаварыў пана Стаканчыка даць папаску коням. Гадзінкі дзве прастаім.

— Ладна, валяй!—цыркнуўшы праз зубы слінаю, абазваўся адзін з падводчыкаў.—Паглядзім тваіх коней...

Бікеша знікла ў цемры вуліцы.

— Гаворыць, як памешчык,—зірнуўшы яму ўслед прамармытаў Верабей.

— Ён і ёсцека бадай што памешчык!—раптам ажыўлена і злосна загаварылі падводчыкі.—Гэта-ж фальваркавец з Засвятога. Яго два сыны афіцэрамі ў нейкага Балахонца. А татка таксама стараецца. Добраахвотна нават у падводы ездзіць. Усё баіцца, калі не дапаможа палякам, дык нашы зноў вернуцца і адбяруць фальварак, а яго расстраляюць. У яго тут недзе сват жыве. Дык гэта ён да яго пабег.

— А як таго свата прозвішча?

— Ліха яго ведае. Здаецца, Корбуш, ці Корба... Казаў, войтам у іх, палякаў, служыць...

— А-а... Бывайце, мужчынкі, здаровы,—прамовіў Верабей і, падняўшы каўнер, пасунуўся паўз вазы дахаты...

— Трэба было зайсці ў хату пагрэцца,—паглядаючы на асветленае акно, прамовіў адзін з падводчыкаў.

— Хадзем,—дружна падтрымалі яго астатнія.—І падмацуемся там у зацішку.

Віктар пацягнуў Мішку на суседні двор.

— Вінтоўкі мы возьмем з воза гэтага «ласкавага цяляткі». Няхай, сволач пасля адбрэхваецца. Яны яму пакажуць за яго ласкавасць! Навекі ён іх запамятае, гэтых сваіх збавіцеляў,—прашаптаў Віктар Мішку.—А цяпер бяжы да Мацвея Ашмана. Нам трэба нарабіць трошкі шуму. Каб вунь той салдат губу развесіў.

— А што: хіба і Мацвей...

— Мішка?!—сурова перабіў сябра Віктар.

— Я нічога. Я толькі так,—ужо здалёку кінуў Мішка.

Віктар стаў сачыць за жаўнерам, які аслупянеў насупроць фальваркаўскай фуры. Што калі ён так увесь час будзе стаяць? Тады не дабрацца да запаветных скрынак. Вінтоўкі былі цяпер патрэбны Віктару, як збаўленне ад таго страшэннага цяжару, які ён насіў у сваёй душы. Праклятыя паны грабілі іх сярод белага дня, нахабна здзекваліся з іх слёз, а яны не мелі чым абараніцца?

Яго думкі былі перапынены з'яўленнем Мацвея і Мішкі. Мацвей панура выслухоўваў усё, што шаптаў Віктар.

— Гэты жаўнер стаіць насупроць Адамчыкавага двара. «Холера» ты ўмееш крычаць?

Мацвей моўчкі кіўнуў галавою.

— Ну вот. Крычы «холера», але каб было падобна на польскае. І можаш яшчэ што крычаць. Ну, скажам, ратуйце. Толькі каб таксама было падобнае на польскае. Увогуле крычы так, нібы цябе

гэты сабака, чорт... жывога есць! І раздражні яго, каб ён аж вый. А тут яшчэ другія сабакі падмогуць, дык нас ніхто і не пачуе.

Мацвей зноў кіўнуў галавой.

— Ну, ідзі!

І Мацвей гэтак-жа моўчкі, як і з'явіўся, знік у цемры. Мішка падышоў на цыпках да варот, але неўзабаве вярнуўся.

— Стаіць, нібы прырос да зямлі,—прашаптаў ён, паказваючы на жаўнера, і ледзь не крыкнуў ад радасці, калі ў Адамчыкавай хаце згас агонь, а густая снегавая цемра ахутала і воз, і жаўнера.— Вот добра.

Віктар, напружана прыслухоўваючыся да начных шолахаў, да конскага пырхання, шаптаў:

— Толькі ўсё рабіць маланкай! Я ўжо агледзеў, за што ўхапіцца. Ад мяне не адставай ні на крок. Я вазьму во так за тваю руку і пакажу, дзе брацца...

І ён ухапіўся за Мішкаву руку, якую той зараз-жа пастараўся вырваць, і Віктар здагадаўся, чаму. І рука, і ўвесь сам Мішка аж калаціўся ці то ад нецярплівасці, ці то ад страху.

— Адамчыкавы вароты зачынены. Калі жаўнер туды паляціць, яны зарыпяць. Тады кідайся за мною—спяшаўся Віктар, адчуваючы як у яго самога нервова, нібы ад холаду, задрыжэлі губы.

Гулкі бас «Чорта» прымусіў іх устрапянуцца. Неспакойны Мішка напэўна апынуўся-б ужо за варотамі, каб яго не стрымаў Віктар. Сабака брахнуў раз і заціх. «Напэўна выглядае—падумаў Віктар.— Зараз падымецца такі сабачы верхал, што хоць з пушкі страляй— не пачуеш!»

І «Чорт» пачаў. Ужо адным ланцугом ён нарабіў такога шуму, што можна было прайсці незаўважаным пад самым носам жаўнера. Следам за гэтым злое звярынае выццё зашугала на вуліцы. Роспачлівы лямант Мацвея паддаў сабаку яшчэ большай ахвоты. Яму дапамаглі суседнія сабакі. А ўяўны паляк і енчыў, і стагнаў і прасіў дапамогі. Віктар ледзьве разабраўся ў гэтым тлуме, як зарыпелі Адамчыкавы вароты, як нешта такое пачаў крычаць жаўнер.

Як у ліхаманцы яны рынуліся на вуліцу.

Мішка не адчуваў таго, што ён робіць. Яму здавалася, што ён сніць нейкі страшны сон і ў сне цягне нейкі страшны цяжар. Так, без памяці, у змроку праплыў ён некуды з гэтага жахлівага гармідару ў незвычайна ціхую пустату. І гэта пустата не заспакоіла, а яшчэ больш аглушыла яго. Гулка білася ў грудзях сэрца, шумела ад яго ўдараў кроў у вушах. Так цягнулася да таго часу, пакуль у цемры не пачуўся хрыплы, задаволены смех Віктара. Чырканула запалка. Слабое святло газнічкі загойдалася, закланялася ў бакі.

Толькі цяпер апамятаўся Мішка. Апамятаўся і ўсхапіўся на ногі. Усхапіўся са скрынкі, на якую паваліўся, зачапіўшыся за парог лазні.

— Ну вот і ўсё,—зноў захрыпеў Віктар,—зняможана асядаючы на палаці.—Як толькі паедуць палякі, мы гэту скрыню і распатронім...

— А... а... ммога... ммога нне вінтоўкі... тут?—Мішка нават пачаў заікацца.—А-а? Віцька!..

У наступную хвіліну ён занепакоіўся: ці не гоняцца за імі? Выбег у прылазнік, асцярожна адчыніў дзверы. Стаяў доўга, прыслухоўваючыся да лянівага ўжо брэху сабак. Вярнуўся ў лазню з пакрыўленым тварам.

— У мяне, Віцька, нешта жывот забалеў. А-а? Можа, я падарваўся?

— Вельмі баліць?

Мішка, прыклаўшы далонь да жывата, прыслухаўся.

— Так сабе. Ніколі не балеў, а тут... во зноў...

Мішка зморшчыўся і асеў на скрынку.

— Ідзі ляж на палацях. Я кастрыцы пасцялю.

Мішка паслухмяна выканаў загад Віктара. Хутка бразнулі, напалохаўшы хлапцоў, дзверы прылазніка. Віктар усадзіў руку ў кішэню. Але трывога была дарэмнай. У лазню ўвайшоў Мацвей Ашман. Мішка, які быў ускочыў з палацяў, зноў лёг, як толькі ўбачыў здаравенную постаць бондаравага сына. Рукі яго, жылістыя і чырвоныя ад мароза, на шмат вытыркаліся з куцай зялёнай ватоўкі. З валенкамі на нагах, Мацей быў падобны на мядзведзя.

— Ну ўсё?—толькі і запытаўся ён у Віктара.—Можа мне дахаты пайсці?

— Пачакай. Возьмеш сабе вінтоўку.

Яны шчыльна зачынілі дзверы і асцярожна ўзламалі скрынку. Як толькі Мішка пачуў трэск досак, адразу-ж забыўся на свой боль і ўсхапіўся з кастрыцы. І не адыходзіў ад хлапцоў да таго часу, пакуль апошняя вінтоўка не апынулася ў яго руках.

— Гэту я і вазьму,—прамовіў прыкладваючы яе да пляча.— З гэтай я і ў паноў буду страляць.

## XXX

Калі вінтоўкі былі ўпарадкаваны, Віктар вывеў на гарод каня і, ускочыўшы на яго, пагнаў у бок пушчы. Снежны віхор ударыў яму ў твар, апёк холадам вушы. Віктар падняў каўнер кажушка, абмацаў у кішэні рукаяць нагана. Чамусьці прыпомніў вобраз Блажко Андрэя, яго пацёрты ў марскіх і сухапутных паходах бушлат, рыжую насечку пісталета...

На момант блiснулі з-за прысад, нібы два воўчыя вокі ў змроку, вокны панскага маёнтка. Там цяпер было ціха. Далёкае чужое жыццё цякло там, за гэтымі асветленымі шыбамі, у густой засені стагодніх бяроз і ліп. Віктар азірнуўся на вёску. Але яе не было відаць. Яна адразу стаілася насцярожаная і спакутаваная, як толькі ён ад'ехаў ад яе поўвярсты. Віктар ведаў: хоць цёмна ўжо было ў хатах, але там яшчэ ніхто не спаў. Людзям, у якіх адбіраюць здабыты цяжкой працай кавалак хлеба, было не да сну!

Спяшаючыся найхутчэй даехаць да пушчы, каб сёння-ж зноў вярнуцца назад, ён пачаў сцёбаць каня доўгім канцом повада. Конь нездаволена запырхаў ад такога пачастунку, але ходу не

прыбавіў. Бег адным і тым-жа, здавалася, на век заведзеным трухам. Віктар не стаў яго больш падганяць, асцерагаючыся, што ён занаравіцца і завядзе такою цемрай чорт ведае куды.

Неўзабаве Віктар уехаў у зліты з цемраю лес. Каляныя ад марозу галінкі час ад часу балюча секлі яго па твары. Хлопец паехаў крокам: у такую цемру можна лёгка напароцца вокам на сук!

Дзіўная справа: Віктар зусім не адчуваў страху, што едзе ён па-начы ў такі гушчар, дзе вядуцца не толькі ваўкі, але, казалі, ёсць і мядзведзі. На той бок пушчы яны часта задзіраюць кароў, падглядаюць пчолы. Дык чаму гэтым агромністым зверам не апынуцца цяпер тут, на вузкай лясной сцежцы? Віктар дастаў з кішэні «наган». Але зрабіў гэта ўжо не праз страх перад мядзведзямі, а хутчэй для таго, каб адчуваць у руках сапраўдную ваенную зброю. Ён ведаў, што ён цяпер у пушчы не адзін, што тут яшчэ ёсць людзі, блізкія яму, і сярод іх самы блізкі і самы родны—яго бацька.

Закінутая смалярня, у нелюдзімым лесе была цяпер яго прытулкам. Маўклівы і дома, ён павінен тут маўчаць яшчэ больш. Замест жонкі, замест роднага сына, ён бачыць толькі дзікіх птушак і звяроў. Замест сямейнага прытулку і ласкі ён чуе толькі грозны сігнал перасцярогі. Спаць ён цяпер павінен з адкрытымі вачамі, рукі і ў сне павінны быць наспагатове, каб схапіцца за вінтоўку...

Пачынаецца зіма. Завее, замяце мяцеліца густым снегам усе лясныя сцежкі, насыпле высокія гурбы. Будуць падыходзіць да адзінокай хацінкі Ермачка зграі галодных ваўкоў. Завыюць, хватаючы сумам за душу, на ўсю пушчу. Холадна будзе яснець над абсыпанымі снегам дрэвамі далёкі, літы месяц...

Часта будзе бацьку сніцца на няўтульнай саламянай пасцелі яго родная хата, з якой ён выгнан небяспекай смерці. Выгнаны надоўга, можа, на ўвесь свой век. Ён там ужо не гаспадар, а толькі госць, якога цяпер падпільноўваюць, пра якога распытваюць у кожнага сустрэчнага другія, страшныя госці!..

— Стой! Рукі ўгару! Стралязь буду!—раптам затрашчаў недзе наперадзе Віктара ўзрушана-напалоханы голас.—Хто едзе?

— Свой,—здзівіўшыся, што чуе тут голас ненавіснага Сідара Тоцькі, холадна кінуў у цемру Віктар.

— Хто свой? Прозвішча? Пароль?

І Тоцька лязгнуў затворам вінтоўкі.

Віктар адчуў, як пачаў угравацца яго твар. Смаргануўшы каня за повад, ён у злой упартасці паехаў на голас.

— А вот як злезу з каня, дык я табе пакажу пароль!—прыгразіў нябачнаму Тоцьку.—У мяне, брат, не горшая за тваю ёсць цацка. Паказаць?

— Праязджай,—міласцівым баском пыхнуў каралёвастанец.

— Дзякую, што дазволіў...

— Еш на здароўе.

Віктар ужо быў узяўся за повад, каб павярнуць каня ў бок ненавіснага суперніка, але адумаўся. Яшчэ не ставала, каб ухапіцца

ноччу за каўняры адзін аднаму ды яшчэ ў такім месцы! Тоцькаў віскат могуць пачуць з хацінкі, прыбягуць і пачнуць расцягваць, як тады на вуліцы... Ды цяпер было не да гэтага. Але як сюды трапіў Тоцька?

У хацінцы не спалі. Віктар убачыў тут новых людзей, відаць знаёмых толькі бацьку, ці Буйневічу. У сялянскіх жоўтых кажушках, у салдацкіх зялёных ватоўках, у суконных шэрых світах, яны стаялі і сядзелі, задыміўшы папяросамі першы пакой. Усё гэта, як Віктар даведаўся з размовы, былі сяляне суседніх вёсак, батракі, якія з гадзіну таму назад прыбеглі ў пушчу. Аказваецца, Свянціцкаму ставала клопату не з адной толькі Верасніцай. Ён меў справу да сялян і ў Ліпніках, і ў Махаедах, і ў Перавозе. Воласць, якой раней быў вінен пан Свянціцкі, цяпер, з прычыны панскага нашэсця, аказалася віннай яму: і лесам, і збожжам, і грашыма.

Майсей Жаркевіч, памешваючы качарэжкай жар у групцы, здавалася, абыякава слухаў усхваляваную гаворку начных наведвальнікаў хацінкі. Сюды, у пушчу яны знеслі сабраныя за дзень навіны.

— Давялося мне сёння пабываць у Французскай грэблі,—падсядаючы да Жаркевіча, пачаў чалавек у заечай кучомцы.—Там у мяне сват жыве, калі чулі, Максім Струг, каляснік. Той, што Перамышлю крэпасць браў. Дык вот ён пазычыў у мяне яшчэ летась фуганак і падоўжную пілу, і не вязе. Наказваю я адным чалавекам, наказваю другім—не вязе, не адгукаецца нават і хоць ты што яму. Давялося паехаць самому. Бо піла мая—англіцкая, палатно тонкае, тонкае, а зуб, скажу проста, як звер дзярэ. Навошта там што: дзесяцівяршковую калоду за дзве гадзіны распускаю на цалёўкі! Вот. Ну, прыехаў я ў Французскую грэблю, а там, брат, галас такі, што хоць вушы затыкай. У адным канцы сяла лямант, у другім, пасярэдзіне. Што такое, сват, тут у вас робіцца?—пытаюся ў Струга.—Ці не чума на ваша сяло напала? «Не пытайся,—адказвае.—Яшчэ горшая справа, як чума. Прыехаў ваш пан памешчык Свянціцкі і нарабіў так, што людзі цяпер ні сесці, ні легчы не могуць. Аднаго мяне не зачапілі, бо толькі што з абозу вярнуўся...»

— А чаго ён да вас прычапіўся?—пытаюся.

— За рэволюцыю. Што лес секлі.

— Як секлі? Вы-ж у царскай дачы секлі! У фамільным царскім лесе!

— Гаварылі яму! Каму гэта цікава аб'язджаць дваццаць вёрст і сеч яго лес, калі за дзве вярсты такая царская дача? З аднаго дрэва поўхаты выходзіць!.. «А хто вам дазволіў фамільнае дабро чапаць? Як у вас падняліся рукі на царскую маёмасць? Гэта-ж звар'яцець трэба!»

Змітрок Буйневіч, які расклаў на стале торбу з хлебам і салам, запытаўся:

— Дапраўды: як гэта яны там адважыліся падымаць сваю мужыцкую ручку на дабро божага памазаніка?

— От чалавек, не дасць дасказаць,—нездаволена паморшчыўся сват Максіма Струга.—Ты слухай, што атрымалася далей. Дык

вот. Калі ён, нейкі нізенькі ахвіцэр, так пачаў спавядаць, яму і адказаў адзін з французагрэбельцаў, Прахор Баравік.

— Пан ахвіцэр, мусіць, не з тутэйшых, што пагражае за самаўпраўства. Ніякага тут самаўпраўства не было. Усё рабілася па закону. Да нас гэты лес, і сенажаці, што ў гэтым лесе былі, перайшлі ў спадчыну.

— Як у спадчыну?—вырачыў вочы ахвіцэр.—Таксама знайшліся мне наследнікі!..

— А вот так. Я растлумачу, калі пан не тутэйшы і нічога не ведае. Дык вот цар наш, яго інператарская вялікасць Мікалай другі, цар польскі і вялікі князь фінляндскі, у сваіх маніхвестах і паперах называлі нас няйначай, як «дзеці мае». Што гэты «татка» еў пірагі, а яго гэтыя «дзеці» значыцца мы,—кару і мох, гаварыць не будзем. Ёсць адна прыказка—«цярпі казак, атаманам будзеш»! Дык мы, пане ахвіцэр, і цярпелі, чакаючы, калі бог прыбярэ нашага татку, а мы, як дзеці яго, атрымаем у спадчыну яго лясы і зямлю. І дачакаліся. І ўсё, што належала яго інператарскай вялікасці, атрымалі ў сваё поўнае карыстанне. Тут, пане ахвіцэр па закону рабілася. Калі хто ў пана Свянціцкага што і высек, дык вы ў таго і сыскуйце, а мы далей фамільнага царскага лесу не лезлі...

— Ну і што,—зноў запытаўся Буйневіч,—афіцэр пахваліў яго за такое тлумачэнне?

— Пахваліў... Бізуном па спіне. Чалавек сорак, у каго толькі пазнаходзілі бярвенне, зрэзалі на горкае яблыка. І загадалі зараз-жа запрагаць коней і везці дрэва на станцыю. А тым, хто ўжо збудаваў хату, па тысячы марак штрафу паклалі...

— А што з Баравіком?—адразу запыталася некалькі галасоў.

— Звязалі і пацягнулі ў маёнтак. Дастанецца цяпер гэтаму царскаму наследніку за язык! А калі яшчэ выявяць, што ён у камітэце беднаты быў, дык адразу да сценкі паставяць...

Майсей Жаркевіч уздрыгануўся. Уздрыгануўся і Віктар, які не спускаў вачэй з бацькі. Як пастарэў бацька! Стаў яшчэ больш маўклівым і суровым. Аб чым ён цяпер думае, трымаючыся за качаргу вузлаватымі калянымі пальцамі? Навіна з Французскай грэблі ўвайшла ў яго, не выклікаўшы на медным ад водбліску вугольляў твары ні здзіўлення, ні страху. Можа і ўздрыгануўся ад таго, што раптоўна абарвалася гутарка, пад акампанімент якой цяклі ў яго галаве невядомыя нікому напружаныя думкі? Можа ён успамінаў цяпер часы свайго далёкага дзяцінства? Свайго бацьку, маці? Можа думаў пра жыццё, якое так раптоўна высока ўзнесла Жаркевіча пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, каб з прыходам паноў зноў скінуць у бяздонную прорву галечы і голаду? Колькі было патрачана сілы, а ўсё марна! І не відаць канца бядзе!.. Зноў усё трэба пачынаць нанава...

Віктар агледзеў прысутных. Іх было чалавек пятнаццаць. Але хлапца найбольш здзівіла тое, што ў ліку неспакойных, гатовых хоць зараз ісці ў бой, людзей апынуўся ціхамірны Кароль Забашавіч. Уся ўвага русіна была занята затворам старой паляўнічай бярданкі.

— Кінь ты гэту халеру, а то яшчэ зубы паб'е!—не сцярпеў

Буйневіч.—Заўтра мы табе не такую заваюем... За пяць вёрст даставаць будзе!

— Вінтоўкі мы дасталі,—прашаптаў Віктар бацьку.—Дваццаць карабінаў...

— Што-о? Дасталі... Дзе дасталі?

— З панскай фуры сцягнулі. Ляжаць цяпер у Вераб'евай сушні...

— Ціха... Хадзі сюды!

Майсей Жаркевіч лёгка ўсхапіўся на ногі і піхнуў дзверы ў другі пакой. Віктар прашыўся следам за ім і зачыніў за сабою дзверы.

І як толькі апынуўся ў гэтым пакоі, зразумеў, што людзі збегліся сёння ў лясную хацінку не для таго, каб толькі падзяліцца апошнімі непрыемнымі навінамі. Сюды іх склікала суровая прысяга, тая, якую даў Віктар, якую даў Мішка Страмок, Мацвей Ашман і другія хлапцы.

Два чалавекі былі ў пакойчыку—Антон Токараў і Дарафей Булынка. Яны сядзелі каля століка і нешта запісвалі на доўгія вузенькія лісткі паперы.

— Ёсць вінтоўкі, Антон,—паціху, але ўрачыста прамовіў Жаркевіч, калі мужчыны павярнуліся ў яго бок.—Дваццаць карабінаў.

— Што ты кажаш?—і Токараў лёгка, як хлапчук, ускочыў з табурэта.—Гэта не жарт?

— Калі мой хлопец не брэша, дык цяпер мне ўжо не трэба будзе хадзіць за Беразіну. Мне нават самому не верыцца. Такія блазнюкі і такую штуковіну адпаліць!.. Гэта...

— Мы іх сцягнулі з панскай фуры,—перапыніў бацьку Віктар.—Іх, вінтовак, ужо не дваццаць, а толькі чатырнаццаць. Шэсць раздадзены хлопцам, якія прынялі прысягу.

— Гэта ўсёроўна... Дарафей, у цябе ўсё гатова?

— Перапісана, таварыш Токараў,—падаючы старшыні рэўкома лісткі, адказаў Булынка.—Дваццаць пяць чалавек ідуць у Верасніцу і там чакаюць «гасцей». Астатнія пятнаццаць застаюцца ў рэзерве. Яны займаюць пазіцыі ў вапняковых ямах гары, каб на ўсякі выпадак прыкрыць адыход байцоў першай лініі, калі яны не вытрымаюць націску карнікаў...

— Вось як! Яшчэ не пачаў бою, а ўжо думаеш пра адступленне? Нічога сабе начальнічак штаба! А можа мы зробім такім парадкам: запас падзелім на дзве часткі. Чалавек восем кінем на той бок ракі, на шведскія курганы, а сем астатніх чалавек, з лёгкім кулямётам, накіруем у бок мястэчка, у лес, дзе мы стралялі па каменданцкаму атраду. Тады мы забіваем адразу двух зайцоў: забяспечваем свой тыл ад налёту з боку станцыі і не даем падмацаванням карнай групы перабрацца на гэты бок ракі для выратавання сваіх...

— Калі будзе цэлы мост...—пачаў быў нясмела Віктар.

— Мост мы ўзрываем, Віктар. Як толькі гэтыя зборшчыкі памешчыцкага барахла пад'едуць да Верасніцы, маста ўжо не будзе...

— Раздзел, стройся!—голас у Булынкі быў ужо строгі і ўладны. І Віктар, знямеўшы побач Змітрака Буйневіча, аж не

паверыў, што яны некалі пагражалі гэтаму надзвычай суроваму камандзіру «пакласці яго дагары лапкамі». Булынка цяпер выгукваў людзей па спіску, не хаваючы свайго здаволення, што адказваюць яму, былому старшаму унтэру, з такой гатоўнасцю і слухмянасцю, нібы палкоўніку.

— Буйневіч Змітрок?

— Я,—гаркнуў Буйневіч.

— Адашчык Максім!

— Я.

— Пpановіч Тарас?

— Ага... Ёсцёка...

Булынка апусціў руку з лістком і насупіўся.

— Я табе другі раз паагакаю, варона. Ты што: на палявы статут забыўся? Павінен адказваць—«я». І торбу сваю адкладзі ў бок. Калі ў ваенным страю, дык няма чаго займацца хатнімі справамі... Сялюк Дзямян?

— Я.

— Тоцька Сідар?

— У караўле Сідар... На дварэ Сідар,—адказала некалькі чалавек разам.

Булынка выклікаў усіх, каго ведаў і каго не ведаў Віктар. Выклікаў бацьку Віктара, а на яго забыўся. Склаў лісткі і пачаў растлумачваць баявую задачу. Калі ён скончыў і адышоў у бок, загаварыў Токараў. Позірк яго быў калючы, а голас жорсткі і сухі.

— Можа хто збаяўся? Можа страх пракраўся каму ў душу? Выходзьце тады са строю!

Ніводзін чалавек не скрануўся з месца.

— Калі хто збаяўся—выходзь,—паўтарыў Токараў, папраўляючы маузер за поясам.—Яшчэ не позна вярнуцца дахаты, каб поўзаць на каленях перад панамі...

Тады выскачыў з раду той, які расказваў нядаўна пра Французскую грэблю. Неспакойны і трапяткі, ён залемантаваў у пякучай крыўдзе:

— Таварыш камісар!.. Не кажы так. Ты не маеш права так казаць!..

## XXXI

«Каханы татусь! Кахана мамуся!

Нарэшце я знайшоў хвіліну, каб напісаць вам ліст. Была і яшчэ адна прычына майго доўгага маўчання: я не хацеў засмучаць вас апісаннем таго спусташэння, якое я знайшоў у нашым маёнтку. Паркетная падлога нашых утульных пакояў была затаптана грубымі ботамі і лапцямі хлопаў. Яны ператварылі наш дом у клуб, у звычайную гміну і хто толькі хацеў, мог беспакарана прагульвацца па ім ад нізу да верху. Яны разламалі адну сцяну і з двух пакояў зрабілі дачу для сваіх бунтарскіх зборышчаў...

Цяпер усіх гэтых жахаў няма! Я загадаў сагнаць верасніцкіх баб, і яны сваімі рукамі выскраблі і вымылі панано-

шаную іх мужыкамі гразь. Я загадаў сагнаць іх мужыкоў, і яны сваімі рукамі зноў пабудавалі паламаныя парканы вашае сядзібы. Яны раней паразбівалі дзверы ў нашых амбарах і хлявах, і цяпер я прымусіў іх зрабіць усе дзверы нанава.

Разбэшчанае большэвіцкай рэволюцыяй гэтае быдла думала, што я жартую, загадваючы зарочаць у маёнтак награбленае дабро. Як я даведаўся ад Корбута, яны спадзяваліся на тое, што мяне дзе-небудзь заспее па дарозе да Беразіны большэвіцкая куля. Нахабныя і да рэволюцыі, яны цяпер сталі дзёрзкімі. Гэтымі днямі адзін з такіх дэмакратаў адважыўся заявіць капітану Марушэчку, што законнымі наследнікамі памешчыцкай і царскай маемасці з'яўляюцца яны, хлопы! Перад цэлым натоўпам ён пачаў выказваць тую думку, што варта толькі прыбраць гаспадара, і яны тады адразу разбагацеюць... Марушэчак своечасова перапыніў яго разбойніцкія сентэнцыі. Цяпер гэты царскі наследнічак, разам з іншымі большэвіцкімі агітатарамі лічыць пацукоў у сутарэнні нашай сыраварні.

Я проста здзіўляюся, як шпарка паспелі большэвікі разбэсціць гэтае ціхманае і пакорлівае быдла. Калі раней яны яшчэ за поўвярсты здымалі шапкі перад намі і згіналіся ў тры пагібелі, дык цяпер ім цяжка нават падняць руку да казырка! Каб не вопратка, дык можна падумаць, наглядаючы з боку, што ідзе па вуліцы не звычайны верасніцкі хлоп, а сам князь Радзівіл! Такая самаўпэўненая і развязная іх паходка! У позірку іх не лагоднасць, не страх, а самая дзікая нянавісць і злосць. Яны, няшчасныя, робячы гэта, і не падазраюць, што агенты Масквы ўвялі іх у зман адносна іх чалавечай годнасці!

Цяпер гэты чад і зман мы паступова і няўхільна выветрываем з іх галоў, і яны зноў будуць такімі, якімі былі да гэтай крамольніцкай рэволюцыі. Яны ўжо самі пачынаюць прыводзіць у маёнтак кароў і коней. Яшчэ дзень—і ўсё ў нашых хлявах і амбарах будзе запоўнена. Ранейшая цяплыня пачынае павеваць ад усіх нашых будынкаў, ад парку. І Гэлька, якая ехала сюды са страхам, цяпер павесялела. Цяпер у яе адна толькі думка: як найлепш правесці новагодні бал. Капітан Марушэчак, закаханы ў яе па вушы, таксама пачынае пагаварваць пра гэта.

Найбольш непрыемнасцей мне дастаецца ад нашага агульнага знаёмага. На якое ліха татусь запрашаў яго ў наш дом? Замест таго, каб сядзець спакойна і чакаць, пакуль нашы часткі вызваляць яго маёнтак за Беразіною, гэты стары салапяка ўмешваецца ў кожную нашу справу. Ён абрыдзеў мне сваімі бясконцымі роспытамі пра наступленне. Кожнае раніцы ён патрабуе аператыўных зводак з фронта, патрабуе падрабязнасцей з таго сектара, насупроць якога знаходзіцца яго маёнтак. Раней гэты вар'ят бэсціў генерала Даўбор-Мусніцкага, цяпер, узлаваны стабільнасцю фронта, пачаў абвіна-

вачваць усё наша вярхоўнае камандванне ў нерашучасці, у няведанні справы. Пазаўчора ён нават дагаварыўся да таго, што ў генеральным штабе заселі звычайныя баязліўцы і невукі. Я ледзь стрымаўся, каб не схапіць яго палкі з гэтай ашчэранай пашчай гадзюкі і не збіць ёю гаспадара!..

Ну вось і ўсё. Адносна продажу лесу фірме «Іспана-суіза» згодзен. Перадайце агенту, няхай вышле тэлеграму аб дні прыезду».

У дзверы кабінета пастукалі. Палкоўнік Свянціцкі запрасіў увайсці толькі пасля таго, калі дапісаны ліст быў ужо ў канверце.

На парозе паказаўся «агульны знаёмы»—пан Бжазінскі ў жоўтай піжаме, з нязменнай палкай у руках. Шоргаючы пантофлямі аб навосчаную падлогу, ён імкліва падышоў да стала і сеў у крэсла, відаць, збіраючыся прабыць тут як мага даўжэй. Бжазінскі быў нечым узрушаны.

— Прашу прабачэння ў пана, што перашкодзіў,—пачаў ён, пакручваючы палку.—Але пан Вацлаў можа не ведае, што адна яго карова зноў уцякла ў гэта злое сяло. Калі зараз-жа не пасланы жаўнераў, хлопы могуць яе зарэзаць... У лепшым выпадку, яны заменяць яе на ялавіцу, альбо падсунуць бугая... Трэба спяшацца... Прозвішча хлопа... яго прозвішча...

Пан Бжазінскі ўсадзіў руку ў кішэню піжамы і дастаў адтуль акуратна складзены лісцік паперы. Не маючы яшчэ свайго маёнтку, пан Бжазінскі прыстроіўся гаспадарыць і кіраваць у чужым. Апанаваны неўтрапёнай дзейнасцю, ён часта забываўся, што ён у гэтым доме толькі госць, якому далі прытулак з ласкі, і ўпарта таргаваўся з жаўнерамі за кожны шматок сена, за кожнае палена дроў. Употай ад Вацлава Свянціцкага пан Бжазінскі пачаў весці запісы скарыстанага карным атрадам сена, аўса, усяго таго, што на яго думку, належала старому Свянціцкаму. Армія то свая, але калі даваць ёй усё без уліку, без аплаты, дык сам пойдзеш з торбай! І памешчык Бжазінскі, сам таго не заўважаючы, ператварыўся ў вернага лакея старога Свянціцкага, які яшчэ адседжваўся ў Варшаве і не мог дакладна ведаць пра становішча спраў у сваім маёнтку на Беларусі.

— Яго прозвішча Страмок Яўхім,—нарэшце прамовіў Бжазінскі, складаючы паперку.—Зараз-жа пашліце жаўнераў. І няхай яны загадаюць яму, каб прывёз восемдзесят пудоў сена. Наогул гэтыя разбойнікі павінны здаваць разам з каровамі і харчы на іх! Я ўжо казаў пану капітану, але ён нейкі дзіўны...

— Капітан Марушэчак заняты больш важнай справай,— холадна перапыніў Бжазінскага пан палкоўнік.—Я папрасіў-бы пана звaрочвацца па ўсіх справах маёнтку да мяне. Калі пан быў у арміі, дык павінен ведаць, што і салдаты і афіцэры выконваюць загады толькі свайго непасрэднага начальства.

Пан палкоўнік пазваніў і загадаў увайшоўшаму дзяжурнаму:

— Неадкладна пашліце ў Верасніцу падхарунжага Струся. Перадайце яму, каб ён дзейнічаў па свайму погляду, як толькі скончыцца вызначаны для хлопаў тэрмін...

— Галоўнае, каб ён зараз-жа прымусіў хлопаў прывесці збеглую карову!—дадаў павярнуўшыся да дзяжурнага неўтрапёны пан Бжазінскі.—А то яны, пся іх скура, яшчэ зарэжуць яе на мяса! І сена няхай вязуць, і збожжа, і дрэва...

Дзяжурны казырнуў пану палкоўніку і вышаў. Пан Бжазінскі цмокнуў языком і загрукаў палкай.

— О, пся яго маць! Што-та робіцца там цяпер у маім маёнтку? Я, вярнуўшыся дахаты, буду размаўляць з гэтымі хлопамі зусім па іншаму. Яны ў зубах прынясуць кожную маю рэч. Я прымушу іх цалаваць кожны каменьчык, які яны скранулі з месца! Пан Вацлаў завельмі далікатна размаўляе з гэтымі бунтарамі... Але пан Вацлаў не слухае, што я кажу!

Пан палкоўнік, якому абрыдзелі скуголенні гэтага старога вар'ята, сапраўды яго не слухаў. Адышоўшыся да акна, ён павярнуўся да Бжазінскага спіною і стаў пазіраць на аснежаны парк. Раптам яго ўвагу прыцягнула фурманка, якая замільгала за дрэвамі. Фурманка, нарэшце, параўнялася з брамаю. Тоўсты, захутаны ў бабровую футру чалавек саскочыў з лёгкага сялянскага вазка і накіраваўся к панскаму дому. Пан Свянціцкі пазнаў гэтага чалавека, ледзь толькі ён ступіў два крокі.

— Ну як ты жывеш тут, браце?—пачуўся ў пакоі, па некаторым часе, бадзёры голас Гамулькі.—Якое тутака ў цябе хараство! Якая ціхата ў парку! А каб-жа ты ведаў, што ў лесе робіцца: казка дый годзе!

— Прашу прабачэння...—пачаў быў пан Бжазінскі, але Свянціцкі перапыніў яго, звяртаючыся да Гамулькі.

— Ты напэўна прагаладаўся. Пойдзем у сталовую.

— Пачакай хвілінку. Дай мне асвойтацца. Дзе тутака можна павесіць маю сермягу?—сцягваючы з плеч babровае футра, гугнявіў Гамулька.

Пан Свянціцкі павярнуўся да Бжазінскага:

— Можа пан будзе такі ласкавы і пойдзе загадае, каб хутчэй падрыхтавалі абед?

Пан Бжазінскі ўздрыгануўся, нібы па яго твары сцебанулі пугай—дратаванкай. Часта міргаючы чырвонымі хваравітымі павекамі, ён ускапіўся з крэсла. Гэты малады шчанюк, атрымаўшы ў трыццаць год чын палкоўніка, страціў усякае пачуццё такту! Ці не ўяўляе ён, што перад ім стаіць звычайны хлоп, а не дваранін, не ганаровы грамадзянін жэчы паспалітай? Заспакоены тым, што нарэшце дабраўся да свайго маёнтка, ён ужо не звяртаў увагі на становішча другіх памешчыкаў, маёнткі якіх яшчэ былі пад уладай советаў. Ці не глядзіць ён на гэтых выгнаннікаў, як на прыжывальшчыкаў? Калі так, дык ці не можна было хоць перад людзьмі не паказваць гэтага!.. Ненавідзячы ў душы за гэтую хамскую выхадку маладога Свянціцкага, Бжазінскі, аднак, адказаў яму з далікатнай усмешкай:

— Добра. Я зараз.

І важна, з ганарыста ўзнятай галавою, накіраваўся да дзвярэй.

Гамулька, расціраючы азяблыя рукі, ужо сядзеў у мяккім крэсле і расказваў пану палкоўніку мінскія навіны.

— Прызнацца табе па шчырасці, мне нават абрыдзеў гарадскі шум, гэтыя бясконцыя банкетаванні,—выціраючы хусткай акуляры, гугнявіў міністр.—Што залішне, то не здарава, кажа наша польска-беларуская прыказка. І мяне зноў пацягнула ў зацішныя мясціны.

— Шэптыцкага бачыў?

— Дзіва што: нават перакінуўся адным-другім словам на вечары ў Чапскіх. Памаладзеў наш пан генерал дый годзе.

— А што такое?—запытаўся Свянціцкі, прыпальваючы папяросу.

— Што такое... Каб ты толькі бачыў! Гізуе, нібы малады бычок каля старэйшае дачкі Чапскіх. Маладыя прыгожыя паненкі як не покаюць ад зайздрасці: такая рыжая і кастлявая драбіна, але гэтакая ёй увага, гэтакае шчасце!

Гэты грубы жарт прасцяка-міністра выклікаў на тонкіх губах палкоўніка ледзь улоўную ўсмешку. Апанас Гамулька быў, здавалася яму, цяпер такі-ж наіўна-хамаваты ў вышэйшых колах грамадства, як і ў свае студэнцкія годы. І цяпер ён быў такі-ж надзіва шчыры з Вацлавам Свянціцкім, як і раней.

— Я табе прывёз адзін сурпрыз,—прадаўжаў міністр, дастаючы з вялікага партфеля жмут стракатых паперак.—Гэтыя цацкі мы аднагалосна вырашылі на паседжанні Рады перадаць на твой разгляд. Маеш, браце, цацікавіцца... Нахабства, якога яшчэ не бачыў свет...

Па меры таго, як пан палкоўнік перагортваў адну паперку за другою, твар яго хмурнеў усё больш. Пругкія гузакі забегалі каля сківаў, толькі губы застылі ў злой скамянелай нерухомасці.

— Пане фельчар узяўся не за сваю справу,—загаварыў Гамулька, калі Свянціцкі скончыў чытаць паперкі і кінуў іх на стол.—Ён пачаў складаць даведкі хлопам, якія атрымалі заслужанае пакаранне за ранейшую сквапнасць. Ён, гэты сантыменталіст, піша, што яму не даюць сну раны ад бізуноў і шампалоў... Заступнік знайшоўся, трасца яго матары! Яго ехідная душа відаць як на далоні: замест арыгіналаў ён прыслаў толькі копіі даведак. Арыгіналы засталіся ў хлопаў, якім гэты бальшэвіцкі агент параіў падаць на цябе ў суд. Мне думаецца, што і прозвішча фэльчара не Іван Карась, а нейкае другое.

— Яго прозвішча сапраўды Карась. Але гэты Карась навекі запамятае такое плаванне, як толькі я пазнаёмлю яго з капітанам Марушэчкам! Дзякую, Апанас, за паслугу.

Шалёны стук у дзверы прымусіў уздрыгануцца не толькі Гамульку, але і пана палкоўніка. Усхваляваныя галасы, лязгат зброі чуўся ў калідоры. Палкоўнік і яго госць усхапіліся з крэслаў. Не паспеў Свянціцкі папрасіць каб увайшлі, як неспакойны наведвальнік сам ускочыў у кабінет. Гэта быў дзяжурны штаба.

— Пане палкоўнік!—закрычаў ён дзікім голасам.—Пане палкоўнік!.. Струсь не вярнуўся!.. Я паслаў па яго ад'ютанта з групай жаўнераў. Яны не вярнуліся...

— Што, што? Гавары хутка, галган!..

— Іх раззброілі, пане палкоўнік!.. Іх замкнулі ў лазні. Там паўстанне...

## XXXII

У першую хвіліну падхарунжы Струсь не разабраўся, што ён бачыць перад сабою. Замест тоўстых кароткіх рагоў рахманай каровы з хлява вытыркнуліся дзве вінтоўкі. І малады, перарывісты ад хвалявання голас падаў каманду падняць у гару рукі.

Калені падхарунжага задрыжэлі. Твар збялеў.

— Рукі ў гару!—завішчэў следам за Віктарам Мішка Страмок.— Раз, два...

Першымі паднялі рукі ў гару тры жаўнеры, якія стаялі за спіною падхарунжага. Мішка бокам прашыўся з хлева і з неўтрапёным спрытам пазрываў з іх плеч карабіны, павыцягваў з ножан і паадкідаў далёка ў бок іх саблі. Жаўнеры пакорліва нагіналі галовы, нагадваючы здарожаных коней, з якіх стомлены, але разлаваны гаспадар знімае вупраж.

— Цяпер дзесяць крокаў назад! Так! Стаяць смірна. Заплюшчыць вочы! Хто без дазволу кранецца з месца—атрымае кулю!..

Мішка крычаў і падскакваў каля жаўнераў так, нібы разззбройваў не ён іх, а яны яго. У дрыготна-тлумнай ліхаманцы, Мішка Страмок кінуўся нават на польскіх коней.

— Спакайней там,—гукнуў яму Віктар, усё яшчэ трымаючы на прыцэле пана Струся.—Ідзі памажы гэтаму парсюку распрануцца...

Мішка павярнуўся да падхарунжага і аслупянеў. Пан падхарунжы усё яшчэ быў у ранейшай позе з карабінам за плячыма, з сабляй пры боку. Усё яшчэ непаднятыя ў гару рукі калаціліся, па ранейшаму дрыжэлі калені і трэслася ўся яго вялізная, грузная фігура.

Адчуваючы сябе пераможцам, Мішка ўсміхнуўся:

— Ну што-ж, пан: бяры кароўку! Вунь яна стаіць у кутку. А-а? Ну смялей!.. Гані зноў у памешчыцкую стадолу...

Віктару абрыдзела глядзець на дрыжыкі некалі храбрага фельдфебеля і ён крыкнуў Мішку:

— Не разяўляй роту! Сабяры вінтоўкі, саблі. Укінь іх у хлеў.

Мішка ў момант выканаў загад.

— А цяпер знімі ўбранне з гэтага пана.

Карабін і сабля падхарунжага Струся таксама паляцелі ў хлеў.

Да гэтага часу на двор Страмкоў збеглася многа народу. Мужчыны, жанчыны, дзеці стаялі шчыльнай сцяной у варотах, з цікаўнасцю чакаючы далейшага разгортвання падзей. Усіх, асабліва жанчын, уразіла гэтая шыбельніцкая адвага Віктара і Мішкі. Толькі нямногія ведалі, што ў кампаніі маладых паўстанцаў былі яшчэ Мікола Поташ, Мацвей Ашман і некалькі іншых мужчын Верасніцы. Схаваныя ў іх кішэнях рэвальверы гатовы былі ў любую хвіліну выстраліць у палякаў, калі-б толькі яны паспрабавалі супраціўляцца.

Раптам Мішка, абмацваючы кішэні падхарунжага Струся, наморшчыў лоб і пацягнуў некалькі разоў носам, як-бы да нечага прынюхваючыся.

— Ты чаго?—запытаўся ў яго Віктар, ужо ўскідваючы сваю вінтоўку на плячо.

Мішка падазрона паглядзеў на шырачэзныя штаны пана Струся.

— Нешта... З ім нешта здарылася... З перапуду...

Тры абяззброеныя жаўнеры, пачуўшы такую гаворку, усміхнуліся і нешта залапаталі. Мішка ўскіпеў:

— Ну-ну там! Каму загадана было не варушыцца? А-а? Рукі ў гару!

— Адставіць,—шавяльнуў чорнымі вусамі Мікола Поташ.

Падхарунжага Струся разам з жаўнерамі пагналі ў вераб'еву лазню. Калі давялося выстаўляць караул, Мішка Страмок стаў на дыбкі:

— Паздыхаюць няхай яны тут, калькі я тут буду дзяжурыць. Лепш пад кулю ісці, чым панскае дзярмо пільнаваць! Можаце мяне нават расстраляць за непаслушэнства!

Вартаваць палонных прызначылі Забашавіча з яго доўгай грознай берданкай.

Віктар і Мішка зноў накіраваліся ў вёску.

Верасніца гудзела як патрывожаны вулей. Ужо ніхто не мог уседзець у хаце такою грозназю і адказнай хвілінай. Вестка, што Віктар і Мішка раззброілі і пасадзілі ў лазню здаравеннага і грознага польскага падафіцэра і што гэты падафіцэр ад нечаканасці нават праявіў бессаромную слабасць—такая вестка маланкай абляцела ўсе хаты. Ажыўлена размаўляючы, здаволена пасміхваючыся, да страмковай хаты рушылі цэлыя натоўпы старых і малых.

Гэтых людзей яшчэ напоўдарозе сустракаў «пан Малецкі». Яму першаму хацелася расказаць аб усіх, якія былі і якіх ніколі не было ў прыродзе, падрабязнасцях раззбраення польскіх салдат. Колькасць жаўнераў у сваім расказе «пан Малецкі» павялічыў да дваццаці чалавек; у паноў апрача вінтовак было яшчэ два кулямёты, а гранат—дык нават цяжка пералічыць!..

— І кулямёты былі?—дзівіліся верасняне́цы,—І гранаты?

— Цэлы воз!—безапеляцыйна заяўляў «пан Малецкі», выціраючы рукавом жакеткі нос.—Як толькі жаўнеры апынуліся на страмковым двары, Віктар і пачаў па іх страляць.

— Страляць? Нешта я не чуў грукату...

— А ён страляў!—упарта паўтарыў «пан Малецкі».—Адразу ён забіў тоўстага ахвіцэра. Таго, што заўсёды выганяў на сход... Як стрэліў у пуза, дык у таго ахвіцэра аж дымок пайшоў... А тады пачаў страляць са страхі Мішка...

Каля Страмковага двара «пан Малецкі» адставаў ад групкі і бег насустрач другім верасняніцам. Тут ён ужо гаварыў, што два кулямёты былі не ў карнікаў, а ў Віктара і Мішкі. Цяпер са страхі страляў ужо не Мішка, а Віктар, адтуль-жа Віктар кінуў на палякаў і гранату, якая пабіла ўсіх польскіх коней...

Наогул, у апавяданнях «пана Малецкага» было столькі грукату, столькі афяр, што верасняне́цы аж згаралі ад цікаўнасці, каб як найхутчэй пабачыць гістарычны ад гэтага дня страмкоў двор.

— Ідуць, ідуць!—пачуў Віктар узрушаныя галасы малых.— Завялі палонных, ды зноў варочаюцца. Вунь яны!

І Віктар ведаў, што «яны»—гэта ён, Віктар, і Мішка Страмок.

Рука Віктара мімаволі паднялася да шапкі і ссунула яе крышку на бок. Тое-ж самае зрабіў і Мішка Страмок, які ні ў чым не хацеў адставаць ад свайго баявога сябра.

Дзяўчаты ў захапленні паглядалі на двух дружбакоў, якія нібы ліпку, абадралі чатырох узброеных да зубоў жаўнераў. Віктар абвёў позіркам усіх прысутных і раптам сэрца яго радасна ўздрыганулася: абкружаная групай сяброўак на страмковым двары стаяла Клаўдзя, першая верасніцкая красуня. У вачах яе згледзеў Віктар і гордасць і каханне. Гэтыя вочы пазіралі толькі на яго, заўважалі толькі яго! Толькі яму ўсміхаліся яе начырвоненыя марозам губы!

І столькі было пяшчоты і ласкі ў бездані яе сініх вачэй, што Віктар разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Лёгкі штуршок Міколы Поташа вярнуў яму прытомнасць.

— Коней вядзіце на буйневічаў двор. Такі загад Антона Токарава.

— Мішка!—устрапянуўся Віктар.—Забірай польскія вінтоўкі і нясі ў змітракову хату. Я павяду коней.

Мацвей таксама ўзяў за павады двух коней і яны рушылі на вуліцу, праз людзей, якія пачціва расступіліся, каб даць дарогу, а пасля зноў самкнулі шчыльны круг і следам за Віктарам павалілі з двара.

Антон Токараў, як толькі Віктар увайшоў у хату, падбег да яго з незвычайнай для сваіх год лёгкасцю і моцна паціснуў руку.

— Дзякую, хлопцы!—мармытаў расчулена старшыня рэўкома.— Ад шчырага сэрца дзякую! Самае важнае, што абыйшлося без грукату. Вы толькі зірніце на яго,—звярнуўся Токараў да партызан.—Сапраўдны баец, сапраўдны салдат.

— Гэта ён... Мішка,—увесь зачырванеўшыся, прашаптаў Віктар і паказаў рукою на ўвайшоўшага ў хату сябра.—Мішка раззброіў...

— Што Мішка? Які Мішка?—нічога не зразумеў віктараў дружбак.—Дзе гэтыя вінтоўкі падзець?

— Давай сюды,—гукнуў яму ад стала Дарафей Булынка.

Хата Буйневічаў, якой ратуючыся ад белапалякаў цураліся яе гаспадары, зноў ажыла. Партызаны занялі яе яшчэ ноччу. Змітрок прынёс з падпаветкі дзве бярэмы дроў і добра напаліў грубку. Мужчыны і хлопцы яшчэ раз агледзелі сваю зброю і тыя, хто яе не меў, атрымалі новенькія вінтоўкі, здабытыя Віктарам і Мішкам. Былі падлічаны і размеркаваны ўсе патроны. Майсей Жаркевіч узадраў палавіцы ў сваёй хаце і дастаў запаветную скрынку гранат. Але скарыстаць іх не давялося.

Гранаты аказаліся... без капсуляў!

— Ну і чорт з імі!—вылаяўся Токараў.—Абыйдземся якнебудзь без іх. Каб толькі Дзямід не падвёў з кулямётам.

На світанні з'явіўся ў Верасніцу Дзямід. Ён выклікаў Токарава ў сенцы і там нешта доўга размаўляў з ім. Знік ён гэтак-жа шпарка, як і з'явіўся, пакінуўшы ў сенцах кулямёт Люіса.

Усё цяпер у партызан было падрыхтавана для адпору.

Мірная хацінка Змітрака Буйневіча ператварылася ў штаб. Бадай штохвілінна грукалі дзверы, то ўпускаючы, то выпускаючы

наведвальнікаў. Змітрок Буйневіч разводзіў і змяняў караул, маскіруючы людзей у самых крайніх будынках вёскі. Ноч прайшла ціха, калі не лічыць двух стрэлаў з боку маёнтка. Яшчэ зацемна Дарафей Булынка накіраваў двух чалавек перарэзаць тэлефонную лінію, якая злучала маёнтак з чыгуначнай станцыяй, з паветам, дзе быў размешчан невялікі польскі гарнізон. Яшчэ зацемна вышаў Майсей Жаркевіч з вёскі, на чале пятнаццаці чалавек, накіроўваючыся ў лес, паміж мястэчкам і Верасніцай...

Ударную групу партызанскага атрада Токараў вырашыў размясціць у канцы вёскі, насупроць грэблі, у акопах, якія засталіся пасля адыходу Чырвонай арміі за Беразіну. Акопы цягнуліся па абрывістаму краю гары. Увесь той бераг ракі, мост і грэбля былі відаць адсюль як на далоні. Калі палякам адрэзаць шлях да адступлення—поспех задуманай справы быў забяспечан.

Гадзін у дванаццаць дня з боку маёнтка паказалася другая група жаўнераў. Токараў з партызанамі ўжо былі ў акопах.

— Разласаваліся, такую іх...—вылаяўся Змітрок, калі жаўнеры пачалі спускацца па заснежанай дарозе да маста.—Астатнія нашы каровы не даюць ім спакою...

— Яны на малако ласы,—прыглушаным шэптам адказаў Поташ.—Казалі, што гэты небарака падхарунжы жыць не жыве, калі цэлага вядра за дзень не выхлебтае.

— Таму, мусіць, і кішка ў яго такая далікатная...

У акопах пачуўся смяшок. Асцерагаючыся, што жаўнеры могуць пачуць гаворку і павярнуць назад, Токараў загадаў спыніць размову.

— Жывога нікога не пускаць!—прашаптаў ён, жорстка шавелячы сівымі вусамі. Першага, на белым кані, бяру я. Другога, на гнядым кані, павінен прыгалубіць Змітрок. Дарафей знімае трэцяга... Гэта тады, калі яны не захочуць падняць рукі, альбо пачнуць уцякаць. Хто бярэ чацвертага?

— Я,—падахвоціўся Віктар.

Карнікаў было шэсць. Яны ўжо наблізіліся метраў на дзвесце. Пярэдні нешта гаварыў жаўнерам, паказваючы ў бок лазні. Партызаны мімаволі азірнуліся туды і ледзь не крыкнулі ад нечаканасці. Доўгі Кароль Забашавіч, закінуўшы на плечы сваю неразлучную берданку, пахаджаў на самым віду ўздоўж лазні.

Карнікі спыніліся. Пярэдні зняў карабін з пляча. Тое-ж зрабілі і астатнія жаўнеры.

Мішка Страмок збялеў, як палатно, і дрыготкімі рукамі падняў вінтоўку.

— Віцька!—залемантаваў Мішка не сваім голасам.—Што ён, дурань доўгалыгі, робіць? Яго зараз—заб'юць!

— Стой! Назад!—зашыпеў Булынка, вырываючы вінтоўку ў Мішкі.—Была каманда страляць? А-а? Была?

Мішка апусціў вінтоўку і адвярнуўся ў другі бок. Ён з жахам чакаў стрэлу, чакаў роспачлівага прадсмяротнага крыку гэтага неўважлівага Забашавіча.

А Забашавіч, нарэшце, сам заўважыў белапалякаў. Зараз-жа чмякнуўшыся аб зямлю, ён як змяя папоўз за вугал лазні.

Кароткі стрэл прагрукацеў у марозным паветры. Выстраліўшы белапаляк даў шпоры каню і паімчаўся ў бок акопаў. За ім паскакалі астатнія карнікі. Яшчэ момант—і яны апынуліся каля акопаў.

І тады Дарафей Булынка рвануўся з акопа.

Віктар бачыў толькі даручанага яму жаўнера. Доўгатвары, з каротка абстрыжанымі чорнымі вусінамі, ён ліхаманкава выхапіў саблю і накіраваў каня прама на Віктара. Ён зусім не слухаў, ці не хацеў слухаць, што крычаў яму хлапец, адступаючыся да схілу гары, з якой саслізнуў разам з астатнімі сваімі таварышамі. Відаць, гэты лях быў зусім іншай пароды, непадобны да тых баязліўцаў, якія прахлаждаліся цяпер у лазні. Дзікаю злосцю гарэлі за доўгай міготнай палоскай сталі яго чорныя вочы. Сударгава шавяліліся засіверяныя сухія губы...

Віктар, амаль не цэлячыся, рвануў за спуск.

## XXXIII

Ён не чуў грукату стрэлу. Як у сне мільганула і зазвінела аб мёрзлую зямлю сабля карніка. Нібы ў тумане бачыў далей Віктар распластаны на снезе труп свайго ворага, яшчэ момант таму назад жывога, з шалёнай злосцю ў вачах...

З шасці чалавек карнікаў толькі тры здаліся ў палон. Два, што кінуліся з саблямі на партызан, былі забіты. Шосты, самы задні, адразу павярнуў у маёнтак. Прыпаўшы да шыі каня, ён, як маланка праляцеў па масту, і хутка знік у воблаку снежнага пылу.

— Ну, зараз пачнецца...—нібы сам сабе прагаварыў Токараў.— Цяпер, хлопцы, трымайцеся. Добра памятайце партызанскую прысягу! Памятайце, што перад вамі не звычайныя салдаты, а сапраўдныя галаварэзы, адборныя бандыты, яны не ведаюць літасці. Дык няхай не будзе яе і ў вас! Надышоў час расплаты за страляннe ў мірных грамадзян, за панскія бізуны і шампалы...

Віктар слухаў і нецярпліва ўглядаўся на той бок ракі. Часта яго позірк спыняўся ўнізе гары, дзе прыпаў да зямлі навекі заспакоены жаўнер.

Віктар з палёгкай уздыхнуў, калі пачуў загад Булынкі перайсці ў акопы на другі бок дарогі. Там не будзе мільгаць перад вачамі гэты скамянелы чалавек... Палонныя жаўнеры ўжо былі адведзены Буйневічам і Мацвеем Ашманам у лазню.

Віктар дапамог Булынку перацягнуць кулямёт на левы фланг, Мішка паднёс істужкі. У лёгкай жакетцы, у летняй шапцы з разлупленым надвая казырком, Мішка аж пасінеў ад холаду.

— Пайшоў-бы ты, сынок, пагрэўся каля мамінай спадніцы,— звярнуўся да яго незнаёмы партызан, увесь аброслы рыжаю пакручастай поўсцю.—Адмарозіш вушы, тады новых не прыклеіш...

— Нічога, татуля,—агрызнуўся Мішка, незадаволены такім апякунскім тонам.—Глядзіце, каб ваш язык не адмерз.

Так прайшла гадзіна, а можа і больш. І раптам на фоне заснежанага кургана з'явілася цёмная постаць. Чалавек паказваў рукою ў бок маёнтку і нешта крычаў. Антон Токараў выскачыў з акопа і ў сваю чаргу замахаў рукою.

Тады чалавек па той бок ракі пяць разоў махнуў шапкай і зараз-жа знік, нібы праз зямлю праваліўся.

— Падрыхтавацца!—падаў каманду Антон Токараў.—Без загаду не страляць.

Віктар, загнаўшы патрон у дула, ужо не зводзіў позірку з таго берага. Неўзабаве з-за густога бярозавага зарасніку выскачылі два коннікі. Знятыя з плеч і ўзятыя на спагатову вінтоўкі сведчылі пра іх асцярогу. Пад'ехаўшы да маста, яны спыніліся. Адзін нацягнуў руку да бінокля і, прыставіўшы яго да вачэй, доўга вадзіў ім па схілу гары. Ён, напэўна, не заўважыў ні трупаў двух карнікаў, не заўважыў і ніводнага з партызан, якім Токараў загадаў не шавяліцца, не вытыркаць галоў. Пастаяўшы з хвіліну, коннікі рушылі далей.

— Не чапаць іх. Няхай едуць хоць у самую вёску,—перадаў каманду Токараў.

А з-за гаю ўжо выязджаў цэлы атрад. Жаўнераў было чалавек сто, але Віктару здалося, што едзе іх цэлы полк. Глухі і грозны конскі тупат дайшоўся да акопаў. Два афіцэры ехалі наперадзе атрада. Яшчэ здалёку пазнаў Віктар аднаго з іх...

Два белапалякі ўжо даехалі да самых акопаў і тут спыніліся, у глыбокай западзіне дарогі, дзе нядаўна адбылася сутычка партызан з шасцю карнікамі, Віктар не бачыў іх, але чуў іх усхваляваныя воклічы, чуў, як наравіста захраплі коні. Дазорныя, відаць, натрапілі на трупы сваіх салдат і цяпер раіліся, што рабіць далей.

— Дзе яны? Я іх не бачу...—перарывіста зашаптаў Мішка пасінелымі губамі.

— Ціха!..

І раптам коннікі загрукацелі зноў да сваіх. Атрад да гэтага часу ўжо ўз'ехаў на мост. Дазорныя падляцелі да начальніка атрада і нешта пачалі дакладваць, паказваючы рукою ў бок акопаў...

— Без каманды не страляць!—яшчэ раз паўтарыў загад Антон Токараў.

— Без каманды не страляць...—дрыглівымі губамі прашаптаў Мішка Страмок, перадаючы загад далей па ланцугу.—Бачыш ты, Віцька, колькі іх?! І кулямёты... два, тры...

Мішка аж калаціўся. Дрыжэла ў яго руках вінтоўка.

— На табе рукавіцы,—прашаптаў Віктар.—І шапку маю вазьмі.

Мішка з ахвотай усцягнуў віктаравы рукавіцы, але ад зімняй шапкі адмовіўся. Пачаў нацягваць на вушы сваю, з парваным казырком. Раптам пачуўся кароткі сухі трэск. Мішка як нацягваў шапку, так і знямеў. Гнілое сукно шапкі не вытрымала і распаўзлося па аколышу надвая...

І хто ведае: можа гэта аварыя з шапкай, а можа і тое, што польскі атрад рвануўся наперад па дарозе, раптам угрэлі Мішку і ён перастаў калаціцца. Паволі таго, як атрад усё бліжэй падлятаў да акопаў, Мішка ўсё вышэй падымаў сваю вінтоўку і нарэшце прасунуў яе ў байніцу. Шчоўкнуў засцерагальнікам і прыставіў прыклад да пляча.

— Буду біць у самую кучу!—шапнуў Віктару.

Але, страляць у «самую кучу» не давялося. Крокаў за васемсот «куча» раптам рассыпалася ў бакі. Кулямётчыкі ліхаманкава сцягнулі кулямёты з вазоў і пачалі прыстраіваць іх за буграмі. А хвілін праз пяць уся даліна ракі захліпнулася ад грукатаў стрэлаў. Схіл гары, акопныя насыпы закурыліся пескавым і снежным пылам. Мішка заплюшчыў вочы і ўвабраў галаву ў плечы.

А кулі з візгатам грызлі мёрзлую зямлю, роем жугалі над галовамі. І не было, здавалася сілы, якая-б прымусіла Мішку выткнуць галаву з акопа і цэліцца ў наступаючага ворага.

І акопы маўчалі. Ніводзін дымок не паказваўся з іх, абсыпаных па часе баявых шчылін.

Колькі цягнулася гэтая шалёная страляніна, ні Віктар, ні Мішка не ведалі. Ім здалося, што гэты забойчы грукат пачаўся ад таго часу, як яны толькі нарадзіліся. Што не было на свеце ні спакою, ні мірных, дзіцячых гульняў і забаў на ціхай, такой роднай вуліцы Верасніцы!.. Можа і самой Верасніцы не было і тое, што яны ў гэтую хвіліну прыпаміналі—гэта не што іншае, як далёкі і непаўторны сон...

Колькі часу цягнулася гэтая шалёная страляніна? Пра гэта ведаў Антон Токараў. Стаіўшыся разам з Булынкам за грудам камення на левым флангу, ён гарачым позіркам сачыў за агнём карнікаў. Сівыя вусы яго шавяліліся часцей, чым калі-небудзь. Высокі лоб хмурнеў усё больш. Часцей, чым калі-небудзь, абмацваў ён свой маузер.

— Ты сам правяраў зарад?—запытаўся Токараў у Булынкі, калі страляніна крыху аціхла.—Яны не забыліся прывязаць бікфордаў шнур.

— Я сам яго прывязаў,—адказаў Булынка не абарачваючыся.— Я думаю, Дземід не паліць таму, што палякі могуць заўважыць. Але глянь... Бачыш ты іх! Пайшло!

Ад маста, відаць, падпаліўшы шнур, адбягаўся чалавек у кажуху. У гэты якраз момант Свянціцкі махнуў сабляй і нястрымная лавіна коннікаў, паблісквaючы аголенымі клінкамі, рынулася па лугу да Верасніцы.

— Падрыхтавацца,—махнуў над галавою маузерам Токараў,— і неўзабаве крыкнуў люта:—Аго-о-нь!

Пасля напружанай і пакутна-цяжкой бяздзейнасці гэты крык прагучэў, як адратоўчы сігнал. Забыўшыся на ўсё на свеце, Віктар прыцісну́ў да пляча вінтоўку. Тое-ж зрабіў і Мішка Страмок. Твар яго стаў чырвоны. Сарваўшы віктаравы рукавіцы, ён абхапіў вінтоўку і, выхапіўшы з масы здаравеннага жаўнера, на мышастым маленькім коніку, упаяў мушку ў яго цёмны шынель... пацягнуў за спуск...

З-за грукату кулямёта Мішка не чуў свайго стрэлу. Ён нават не згледзеў, упаў, ці яшчэ імчыцца на акопы здаравенны жаўнер. Мішка бачыў перад сабою тых, якія яшчэ засталіся жывымі і рваліся бліжэй да Мішкі, каб знесці яму галаву вострай сабляй. І Мішка біў то ў коней, то ў людзей, наогул у ва ўсё жывое, што прагнула яго смерці...

Калі палякі былі ад акопаў ужо крокаў за пяцьдзесят, агром-

ністы пярун загрымеў над зямлёю. Высачэзны слуп агню і дыму ўдарыў ад маста ў неба. Паляцелі ў розныя бакі шырокія смольныя пласціны, пашчапаныя на шмаццё дошкі насцілу.

Шлях да адступлення белапалякам быў адрэзаны. Ашаламучаныя такой нечаканасцю і бязлітасным агнём з акопаў, яны рынуліся назад да ракі.

Гулка лопаўся і трашчаў тонкі малады лёд ад цяжару коней. Жаўнеры, якія перабраліся на той бераг, без аглядкі, на хаду страсаючы з сябе ледзяную ваду, беглі ў маёнтак. Тыя, што не адважыліся скакаць у раку, спешыліся і заляглі за тоўстымі дубамі і пагуркамі ўзбярэжжа.

— Урра!—не стрымаў сваёй радасці Мішка Страмок. Схапіўшы вінтоўку, ён выскачыў на бруствер.—Ур-рра-а... ах!

І раптам абвяў і як мяшок абсунуўся зноў у акоп.

## XXXIV

Ехаць па Івана Карася начальнік атрада накіраваў Віктара. Перад тым, як хлопец ускочыў на каня, Токараў адвёў яго на хвіліну ў бок.

— Ты вот што, Віктар: гавары з ім больш далікатна. Без гвалту. Разумееш? Так, як ты размаўляў з настаўнікам. Ён—інтэлігент. Пераканай, што выехаць яму сюды трэба зараз-жа.

— Зраблю, таварыш Токараў!

— Ну, валяй!

Віктар паправіў на плячы вінтоўку і ўскочыў на каня.

Іван Карась, фельчар і стары халасцяк, жыў у самым цэнтры мястэчка, непадалёку ад прыёмнага пакою. Ён толькі што вярнуўся са службы і, не гледзячы на тое, што быў стомлены дзённай працай, ажыўлена пачаў апавядаць сваёй хатняй работніцы дзённыя навіны.

— Ведаеш, кісачка, я, мусіць хутка звар'яцею. Я зусім не спадзяваўся такога варварства ад такіх адукаваных людзей. Проста, аж не верыцца, як можна цярпець такія пабоі... Жывая скура пасечана на шмаццё... У мяне яшчэ і цяпер бегаюць мурашкі па целе. Бр-р... Хаця я чалавек не сантыментальны, хоць я ўсяго пабачыў на свеце... Я не вытрымаў і паслаў іх даведкі ў Раду. Я хачу, каб пра гэта ведаў увесь культурны свет!.. А сёння—давялося пісаць новыя даведкі...

— А навошта ім гэтая... як іх?.. Ну, гэта...

— Даведкі, кісачка?—запытаўся Іван Карась, сцягваючы з ног боты, каб уздзець пантофлі.—Даведкі ім, кісачка, патрэбны для таго, каб падаць на Свянціцкага ў суд...

— У суд? На пана?—здзівілася «кісачка» і раптам перамяніла тэму гаворкі.—Во, ці не боты пачаў сцягваць? А-а?

Голас у «кісачкі» быў ужо такі грозны, што Іван Карась паспяшыў зноў усцягнуць бот на нагу і ўсхапіцца з крэсла.

— Карове не давана, а ён на бакавую сабраўся?—прадаўжала «кісачка».—Ты-ж гэта што: можа думаеш, што я сама буду цягаць у хлеў вёдры з бульбай? Не дажджэш ты!

— Кісачка, ну я забыўся...—хапаючы вядро з парэзанай бульбай, апраўдваўся Іван Карась.—Ведаеш, стаміўся за дзень.

— Стаміўся?!—грымела пасудай «кісачка».—А я што: гульма-гуляла цэлы дзень? Гэта табе чорт банькі мые, запляваную падлогу ў прыёмным пакоі падмятае? Ды яшчэ гэта паскудства брыдкае, п'явак тваіх пільнуй, каб не падохлі!.. Вот насланне боскае на маю бедную шыю! Цьфу!..

Напалоханага такой успышкай гневу, Івана Карася ўжо даўно след прастыў, а «кісачка» усё крычала і лаялася ў кухні. Паважнага пры народзе Івана Васільевіча яна дома абзывала гультаём і дармаедам, камандавала ім, як строгая афіцэрская жонка прасцякомдзяншчыком.

І гаспадар, і домработніца спалі на адным ложку. І гора было Івану Карасю яе не паслухаць! Тады «кісачка», а ў сапраўднасці Мар'я Дорахава, здаравенная пудоў на сем баба, люта спіхала шчупленькага, кастлявага фельчара з пасцелі і ён ужо не мог заснуць усю ноч, бадзяючыся з пакоя ў пакой: то прылягаючы на голай дзеравянай канапцы, то зноў усхватваючыся. Гэтыя сваркі, а таксама і тое, што ён з ёю жыў, як з жонкай, яны ад людзей хавалі. Наадварот, людзі яшчэ думалі, што Мар'я Дорахава—вельмі няшчасная жанчына: нібыта яе, удаву, прагналі з дому злыя дзеці і яна пайшла ў служанкі да гэтага сварлівага і крыклівага фельчара. Падставай для такіх пагалосак былі адносіны Івана Васільевіча да сваёй «кісачкі» ў прыёмным пакоі. Там ён быў непадобны на ціхага пакорлівага Івана Карася. О, не! у сваім службовым кабінеце ён нагадваў капітана ваеннага карабля, загады якога Мар'я (у прыёмным пакоі ён толькі так яе і называў) выконвала беспярэчна і шпарка, як маланка. Прыпамінаючы сваю няволю дома, ён тут помстліва, па два, па тры разы прымушаў выконваць адну і тую-ж работу, прыдзіраўся да кожнай пылінкі не толькі на інструментах, бутэлечках з лякарствамі, але і на падлозе. І яна, не падаючы віду, што злуецца і ў душы рыхтуе яму дома належную аддзяку за яго каманду, пакорліва кідалася на яго покрык.

— Мар'я, дзе мае п'яўкі? Дзе мае банькі, Мар'я?—толькі і чулася кароткае і ўладнае Івана Васільевіча.

— Ды я-ж зрабіла, Іван Васільевіч! Хіба вы не бачыце, што п'яўкі вашы на століку?

Фельчар нездаволена хмурыў свае рыжыя бровы.

— Што такое, Мар'я? Што за тон? Ты напэўна забываешся, дзе знаходзішся! Ты забываешся, што ў мяне пацыент!

А дома гэты грозны і суровы капітан апранаў форму простага матроса, а дома капітанскі мосцік займала ўжо «кісачка». Тут гэта «няшчасная ўдава» прымушала яго цягаць карове цабры, мыць бульбу, развешваць на гары ці ў садзе памытую бялізну. Калі яго знаёмыя местачкоўцы пыталіся, чаму ён робіць гэтую бабскую працу, Іван Васільевіч адказваў:

— Што, хіба вы не разумееце? Гэта-ж гігіенічная гімнастыка. Людзям разумовай працы яна асабліва карысна. Раю і вам гэта рабіць. Каяцца не будзеце.

— Вось як! Не ўжо, дзякую. Абыйдуся, як небудзь без яе,—адказваў знаёмы.

Дома «кісачка» прызначала і адмяняла візіты Івана Васільевіча да хворых, вызначала, якую ён павінен браць плату: загадвала, калі браць салам, маслам, кілбасамі, а калі браць грашыма, а то і проста сенам ці мякінай для каровы.

— Гэта-ж чорт ведае што!—паспрабаваў запярэчыць супроць такога нахабнага ўмяшання ў яго справы Іван Васільевіч.—Ты хочаш ператварыць медыцынскага работніка ў каляднага папа. Ты, мусіць, не ведаеш, як бедна жывуць нашы сяляне? У іх саміх часта не хапае не толькі сала, але і хлеба.

— Ну дык ты да такіх і не ездзі!—затрымела «кісачка».—Калі няма ў іх чым плаціць, дык няхай лечацца самі. Ты вот толькі пагавары мне, дык кіну ўсё тваё, ды пайду да хаты. І ўчора сын прасіў, каб вярнулася... адзін тады, як воўк у нары, будзеш тут сядзець!

— Кісачка, ну што ты гаворыш! Ну я толькі пажартаваў!—палахліва апраўдваўся Іван Васільевіч.—Ну, супакойся, усё зраблю.

І яго завостраны, з частымі вяснушкамі твар, рабіўся яшчэ больш вастрэйшым. Дрыготкімі рукамі папраўляў ён рэдзенькія рыжыя валасы, хапаў з вешалкі чорны капялюш і, апрануўшы пальто, выскакваў на двор, дзе яго чакала фурманка.

Гледзячы па тым, якое давалася заданне Івану Васільевічу Карасю, «Кісачка» крычала наўздагон.

— Глядзі-ж прыедзь мне без сена. Тады самога ў яслі карове ўкіну.

Альбо:

— Не прывязі толькі сала! Тады самога на скаварадзе засмажу і табе-ж падам... Я табе яшчэ пакажу Мар'ю, халера, гультай!..

Усякую прафесію, не звязаную з фізічнай працай, «кісачка» лічыла гультайскай. У яе разуменні слова праца асацыіравалася толькі ці з касьбою, ці з ворывам, з варочаннем карчоў, або з капаннем камення. А з усіх фізічных прац самай цяжкою яна лічыла працу прыбіральшчыцы, працу хатняй гаспадыні! Таму яе асабліва здзіўляла тое, чаму ўсе сяляне так паважаюць Івана Васільевіча? Сама здаровая, як карова, не маючы патрэбы ні ў якіх леках, яна праз свой абмежаваны розум лічыла, што і ўсе людзі на свеце такія-ж здаровыя, і гэтыя паездкі людзей к доктару, а доктара к ім, бываюць з-за таго, што ім, людзям, няма чаго рабіць; і вот яны выдумляюць усялякую панскую трасцу. Не паспрабаваўшы пакутнага болю сваіх уласных ран, яна лічыла, што яны не баляць і ўсім астатнім.

Такая была прыбіральшчыца, такі быў фельчар з невялікага доміка ў невялічкім садзіку, куды цяпер, няшчадна сцябаючы каня, ляцеў Віктар. У яго вушах усю дарогу біўся пакутны стогн паранечага Мішкі, які цяпер, каб не ён, Віктар, можа-б соладка спаў, скруціўшыся пад цёплым кажухом, на палку ў сваёй хаце...

У хатах яшчэ гарэлі агні, па вуліцах яшчэ сям-там мільгалі людзі, калі віктараў конь загрукаў падковамі па бруку. Пешаходы здзіўлена аглядаліся на чалавека ў звычайным сялянскім кажушку, але з ваеннай вінтоўкай за плячыма, з наганам за поясам. Тут, відаць, яшчэ не ведалі пра паўстанне, пра жорсткі бой сялян з кар-

ным атрадам. Два паліцыянты, з куртатымі карабінамі за плячыма, яшчэ спакойна размаўлялі на скрыжаванні двух вуліц...

Пад'ехаўшы да садзіка, Віктар саскочыў на зямлю і піхнуў наперад фортку. У тую-ж хвіліну недзе каля фельчаравага хлявушка хапіўся брахаць тоненькім галаском сабака. У доміку прасвечвала толькі адно акно, тое, дзе была спальня Івана Васільевіча. Пакончыўшы з гаспадарчымі справамі і загадамі сваёй помстлівай гаспадыні, ён, відаць, сабраўся адпачываць у сваёй мірнай і цёплай пасцелі.

Кінуўшы повад каня на частаколіну палісадніка, Віктар ускочыў на ганак і пачаў асцярожна стукаць кулаком у дзверы.

— Хто там?—пачуўся неўзабаве камандзірскі голас Мар'і.

— Адчыні, тады ўбачыш,—адказаў Віктар, нецярпліва бразгаючы клямкай.—Фельчар Іван Васільевіч дома?

— Ён ужо спіць,—усё яшчэ з-за дзвярэй праспявала Мар'я.

— Нічога, мы яго папросім, каб устаў... Ды чаго ты там таргуешся?—ужо зазлаваў Віктар.—Я хачу гаварыць з ім. Да цябе ў мяне малая справа... А яшчэ гэты праклятьі сабака тут вые!..

«Кісачка» адчыніла дзверы і зараз-жа спалохана падалася назад, убачыўшы перад сабою хмурнага, узброенага вінтоўкай і рэвальверам чалавека. Віктар, не звяртаючы на яе ўвагі прагрукацеў праз кухню ў сталовую, дзе звычайна прыехаўшыя ўночы сяляне чакалі фельчара.

Пасля жорсткага грукату бою, пасля пакутных стогнаў Мішкі, пасля тлумнага лёту на кані, на Віктара раптам дыхнула незвычайна цёплым спакоем і ўтульнасцю. І гэта бліскотная чыстата пафарбаванай падлогі, светлы квадрат дзвярэй спальні, за якімі знікла «кісачка», і светла-зялёныя шпалеры, і крэмавага колеру кляёнка на стале, і соннае ціканне круглага гадзінніка на сцяне—здавалася яму нейкім нерэальным, далёкім ад таго, чым ён жыў усе гэтыя дні. Спакойнае, здавалася Віктару, цякло тут жыццё, некранёнае нават і лёгкім подыхам тае бязлітаснай буры падзей, якая бушавала навакол гэтага доміка.

— Хто там прышоў?—пачуўся яму з-за дзвярэй спальні дрымотны голас Івана Васільевіча.

«Кісачка» яму адказала шэптам, якога Віктар не разабраў. Тады Іван Васільевіч зарыпеў ложкам, пазяхаючы гучна, пачаў шастаць вопраткай. Да Віктара ён вышаў у мяккіх суконных пантофлях, у шэрых на выпуск штанах, але ў ніжняй сарочцы. Убачыўшы ўзброенага хлопца, сумеўся і блізарука заміргаў павекамі.

— Спяшайцеся, Іван Васільевіч,—ступіў яму насустрач Віктар.— Там памірае чалавек. Яму вельмі цяжка.

Іван Васільевіч усё яшчэ разглядаў незвычайнага начнога гасця. Здавалася, ён стараўся нешта прыпомніць, але не мог.

— Спяшайцеся, доктар,—зноў паўтарыў Віктар.—Чалавек гэты сыходзіць крывёю...

— Сыходзіць крывёю? Што ён: ранены?

— Так.

— Дзе гэта? У якое сяло мне трэба ехаць?

— Я вас завязу. Вы ўбачыце... Толькі хутчэй!

Іван Васільевіч нарэшце прыпомніў.

— Э-э... ці не Жаркевічаў ты хлопец? Ці не ты браў у мяне даведку на таго... хворага сыпняком? Дзе ён цяпер паварачваецца?

Час, здавалася Віктару, ляцеў як маланка, а Іван Васільевіч не вельмі варушыўся. Ён распытваў у Віктара, адкуль у яго ўзялася зброя і што ён з ёю, сялянскі хлопец, робіць? Віктару не трэба было ехаць у такім выглядзе, да яго. Палякі, калі толькі даведаюцца, пачнуць цягаць ні ў чым невінаватага фельчара на допыты, могуць пасадзіць у турму. Хіба Віктар не ведае шматлікія загады ўлад здаць зброю? Хіба ён не ведае, што калі яе цяпер знойдуць у яго, яму не мінуць расстрэлу.

Віктар адчуў, як раптам угрэўся яго твар.

— Вы паедзеце, ці вас яшчэ раз трэба папрасіць?—голас Віктараў стаў глухі, твар пацямнеў.

Убачыўшы, што могуць атрымацца небяспечныя жарты, калі адмовіцца, Іван Васільевіч заспяшаўся. Ён прыадкрыў дзверы ў спальню і крыкнуў уладным голасам:

— Мар'я, пашукай мае цёплыя панчохі і рукавіцы! Шпарка, Мар'я!

Апранаўся ён хутка, як салдат. Ватняя бікеша з тонкага японскага сукна, чорны капялюш ужо былі на яго галаве, а саквояжык з лекарскімі прыладамі стаяў на крэсле, калі «кісачка» сказала ціхманым голасам, накіроўваючыся ў спальню:

— Іван Васільевіч, хадзіце сюды. Я вам нешта скажу.

Фельчар пайшоў за ёю і зачыніў шчыльна дзверы.

— Скажы, каб яны табе прывезлі амецяў,—пачуў насарожаны Віктар яе ўжо ўладны шэпт.—Мяшкі два, ці тры...

— Добра, добра, кісачка,—безуважна прамармытаў Іван Васільевіч.—Будзе табе белка, будзе і свісток...

— Ты не свішчы, а таргуйся. У іх нешта таемнае, дык яны табе добра заплацяць... Вой, што гэта?

«Гэта» пачуў і Віктар. Кароткія вінтовачныя стрэлы прагрымелі недзе непадалёку. Прагрукацелі па вуліцы коні. І потым усё патанула ў густой напружанай цішыні.

Дзверы спальні адчыніліся. Іван Васільевіч выскачыў у сталовую без капялюша. Падбароддзе фельчара дрыжэла.

— Я не паеду!—крыкнуў ён роспачлівым голасам.—Я не хачу мяшацца ў палітыку і класці пад тапор сваю галаву! Калі хочаце, прывязіце хворага да мяне...

— Ах, ты не паедзеш?!—забыўшыся на ўсе ўказанні Токарава размаўляць з гэтым інтэлігентам па далікатнаму, крыкнуў Віктар.— Зараз-жа надзявай свой капялюш!.. Ты не паедзеш!.. Людзі гібеюць у лесе, сыходзяць крывёю, а ты ў мяккай пасцелі вылянгаешся! Яны можа ў гэты час і пра тваю скуру думалі...

Ступіўшы ў спальню, ён схапіў капялюш і насадзіў яго на галаву ашаломленага Івана Васільевіча. Потым схапіў саквояжык.

Ужо на двары агледзеўся, што забыўся яшчэ на адно ўказанне Токарава: запрэгчы калёсы! Але шукаць выгоды для «інтэлігента» было цяпер позна. Ускочыўшы на каня і падняўшы з зямлі лёгкага Івана Васільевіча, ён рынуўся з двара...

...Ужо на многа пазней пасля гэтага выпадку, праходзячы паўз Віктара, Іван Васільевіч заўсёды насцярожана заглядаў на яго рукі... Хаця каб яны не схапілі яго і зноў не кінулі на каня перад сабою!

## XXXV

Віктар стаяў пад разгалістым таполем на станцыі і чакаў поезда з Мінска. Адзінокія прахожыя, як здані, прашмыгалі паўз яго і знікалі за рогам вуліцы. Маўкліва было на гэтым невялікім прычыгуначным пасёлку. Рэдка ў якім доме мігцелі слабыя агні. Недзе ў садзе, каля двухпавярховага драўлянага дома, пачуўся і зараз-жа ацїх п'яны голас:

На една слова я цёнгле чэкам,
Цо то за слово—ты добра веш.

І толькі пад навесам насупроць вакзала, у доўгім будынку пакгауза нешта час-ад-часу грукацела. Часамі ўскручвалася ў змроку польская лаянка і следам за гэтым упрашальны голас селяніна:

— Пане, дык-жа не пацягне конь! Што я вінаваты, пане!

— Маўчы, халера ценжка.

У змроку адбывалася спешная пагрузка на вазы ваеннага снаражэння. Цяжка рыпелі сані ад доўгіх скрынак з вінтоўкамі, глуха пырхалі коні. Вунь з пляцформы саскочыў жаўнер і накіраваўся цераз пуць у памяшканне каменданта. Ён згледзеў адзінокую цень Віктара, накіраваўся быў да яго, потым перадумаў, і рушыў далей.

Як толькі ён схаваўся ў дзвярах, Віктар зараз-жа перайшоў пад другое дрэва, якое стаяла бліжэй да вадакачкі.

Два тыдні прайшло з таго часу, калі ў Верасніцы пачалося паўстанне. Два тыдні ўжо лунае над рэўкомам, які размясціўся ў буйневічавай хаце, чырвоны сцяг. Да неспакойнай Верасніцы далучыліся мігулінцы, бучацінцы, французагрэбельцы. Прамы шлях палякам на Беразіну быў перарэзаны. Свянціцкі, атрымаўшы папаўненне, некалькі разоў спрабаваў перабрацца цераз Свіслач. Але спатканы ўпартым ружэйным і кулямётным агнём, заўсёды адступаў у маёнтак.

Віктар прышоў на станцыю спаткацца з Дзямідам, які сёння павінен прыехаць з Мінску вячэрнім поездам. Віктар павінен папярэдзіць Дзяміда, каб ён не ішоў праз Воўчы вугал, у якім чамусьці размясцілася група польскіх жаўнераў пад камандай капітана Марушэчка. Няведаючы гэтага, Дзямід лёгка мог трапіць у рукі карнікаў.

Дачакаўшыся, нарэшце, поезда з Мінска, Віктар падышоў да дзвярэй у буфет і пачаў прыглядацца пры слабым святле да пасажыраў.

Важна, расцягваючы крок і пазвоньваючы шпорамі, праходзілі паўз яго афіцэры ў чатырохкутніх пазнанскіх шапках, з белым арлом над казырком. Доўгія нікелеваныя палашы бразгалі па рэйках, цокалі па дробных змёрзлых грудках перона. Паслужлівыя дзяншчыкі неўтрапёна ірвалі ў бок цяжкія дзверы буфета і, зня-

меўшы на некаторы момант, спрытна знікалі ў іх следам за начальствам.

Таропкім дробненькім крокам прабягалі тоўстыя купчыкі ў чорных касцюмах. Няўважліва грукалі падкаванымі абцасамі падрадчыкі ў сваіх нязменных ватоўках з «чортавай скуры». Пстрыкаў ля вагонаў электрычны ліхтарык і чуўся нейчы голас: «матка боска, цо за галган. Свець ту, на рэйке». Нехта, спатыкнуўшыся ў поцемку, моцна вылаяўся, і дзве доўгія і худыя як таран паненкі грэбліва зморшчылі губы ля Віктара. Адна сказала: «Які жах!» Другая, з конскім тварам, шыкнула: «То ест быдло». Прайшла, ведучы пад ручку старую і адначасова паглядаючы млявым позіркам на шырокую бычыную шыю ўлана, маладзенькая дзяўчына ў канфедэратцы. Прашумеў шырокай зрэбнай расай высокі поп. Грукаючы гэблямі і адборнікамі ў мяшках, мінулі Віктара чатыры цесляры. Пачуўся булькатлівы свісток галоўнага кандуктара, яму абазваўся хрыпаты гудок паравоза і поезд рушыў.

Дзямід не прыехаў.

«Пачакаю да заўтра»—вырашыў Віктар. Вышаў праз дзверы агарожы на прывакзальны пляц і накіраваўся ў заезджы дом. Гаспадыня прапанавала яму выпіць шклянку чаю, але ён адмовіўся і лёг на канапе, накрыўшыся жакеткай. Але заснуць не мог. Думкі пра Дзяміда не давалі яму спакою. Ці не здарылася што з ім? Можа яго схапілі на вакзале ў Мінску? Можа дзе ў гэтую хвіліну катуюць яго, распытваючы пра ўдзельнікаў партызанскага атрада, пра хлопаў, якія паднялі паўстанне?..

Што гэта за чалавек сядзіць за агульным сталом? Віктар толькі цяпер яго заўважыў. Ён з'явіўся ў часе адсутнасці Віктара. Можа прыехаў поездам? На яго тоўстым і круглым, як бульбіна, носе чорныя акуляры. Шчокі, румяныя як у дзяўчыны, выпучаны наперад. Рот вузкі з пухлявымі тоўстымі губамі. Чалавек п'е чай і моцна сапе, сам не заўважаючы гэтага. «Каб ён паслухаў сябе з боку,—падумаў Віктар,—то напэўна засароміўся-б». На стале стаяў самавар і высокая шкляная цукарніца з драбамі колатага цукру. Сапун еў сала з булкай і запіваў яго чаем.

На двары нехта коратка свіснуў і хутка ў калідоры пачуўся грукат крокаў. Гаспадыня высунулася з свайго пакою, дапытліва пазіраючы на ўваходныя дзверы і прытрымліваючы левай рукой напоўадкрытыя дзверы ў спальню. Зморшчаны твар яе бытаваў у вялікім напружанні, сіняватыя губы скамянелі. Толькі пасма сівых валасоў ледзь прыкметна ўздрыгвала ля вушэй: пад імі пульсавала цёмная жылка.

Яшчэ раз свіснулі (яшчэ больш коратка) у калідоры. Адчыніліся зашклёныя і завешаныя фіранкай дзверы і ў пакой сагнутай спіною наперад увайшоў чалавек (шэрае з хлясцікам паліто, чорныя штаны пад ім, чорны капялюш).

Твар жанчыны балюча ўздрыгануўся, нібы ад нейкага пакутлівага ўспаміну, калі чалавек выцягнуўшы з дзвярэй невялікі жоўты чамадан і вялікі клунак, павярнуўся тварам да прысутных і выпрастаўся.

— Здрафствуйце!—сказаў ён, убачыўшы гаспадыню.—Фот і я.

Вочы ў жанчыны зрабіліся круглымі ад нейкага жаху. Рука выпусціла дзверы і яны з грукатам зачыніліся.

— Як здароў, мадам? Гдзе мой комнат?

Жанчына, нарэшце, перамагла сваю нерухомасць.

— Добры вечар вам, мос'е Пішэгру,—прамовіла яна дрыглівымі губамі.—Ідзіце ў гэты пакой.

— Хароша. Прабачце мос'е,—бліснуў ён на сапуна сваімі чорнымі глыбокімі вачамі, зачапіўшыся вялізным клункам за яго гладкую спіну.—Я нечайна.

Сапун, які не паспеў праглынуць чарговай порцыі булкі з адрэзаным кавалачкам сала, здзіўлена пазіраў на незнаёмага.

Новапрыезджы і гаспадыня зніклі ў пакоі. Пішэгру, як назвала яго гаспадыня, балбатаў нібы сарока, смешна перакручваючы словы. Так цягнулася хвілін пяць. Нарэшце, гаспадыня, вышла, уся засмучаная, у агульны пакой і шчыльна зачыніла дзверы. Пішэгру нешта напяваў, то бразгаючы крэслам, то шуршачы паперай.

— Цётачка, хто гэта?—запытаўся сапун у гаспадыні.—Чаго вы ўздыхаеце?

— Няшчасце маё! Гэта—француз. Ён заехаў да нас у 1907 годзе і ў нас у той дзень быў пагром. Забілі майго мужа. Ён заязджаў у 1913 годзе і ў той дзень нейкі п'яны жандар спіхнуў майго сына, майго любага Якава, з поезда. Якаў нябожчык. Цяпер гэты француз зноў прывёз бяду. Што мне рабіць? Як я магу не пусціць яго ў мой дом?

— Надзвычай цікава,—неяк у нос і працягла прамовіў чалавек у акулярах.

— Мадам, кофе!—гукнуў Пішэгру праз зачыненыя дзверы. І гаспадыня, як апантаная, рынулася на кухню.

Праз хвіліну Пішэгру скончыў парадкавацца ў сваім пакоі і вышаў. Ён быў ужо ў камізэльцы, з сінім, у зялёныя палоскі наўскасяк гальштуку. Яго чорныя, як смоль, валасы, паблісквалі ад лямпы.

— Ну, фот. Пазнаёмімся,—сказаў ён, падаючы руку чалавеку ў акулярах.

— Гамулька. Вельмі рад,—хуценька выцершы пад сталом аб штаны засаленую руку, прагугнявіў чалавек у акулярах.

Француз сеў. Ён быў гаваркі і вельмі цікаўны. Ужо праз некалькі хвілін Віктар, лежачы на канапе і пакутуючы ад бяссоння, даведаўся, хто яго суседзі, з іх размовы. Мос'е Пішэгру быў прадстаўніком фірмы «Іспана-Суіза» і прыехаў рабіць выбракоўку авіяцыйнага дрэва, закупленага ў пана Святціцкага і суседніх памешчыкаў. У Расіі ён бываў і да рэволюцыі ў якасці камівояжора. Ён усяляк расхвальваў французскія тавары і свой вялікі народ. Невядома, што гэта было,—камплімент ці шчырая пачцівасць,—але ён сказаў, што ў Расіі жыве таксама вялікі народ і што вайна Францыі з Расіяй у 1812 годзе—гэта прыкрая падзея.

Мос'е Гамулька быў з Мінска. Ён скончыў Варшаўскі універсітэт. Ён прыехаў праводзіць набор у армію. Ён член Беларускай Рады,—дадаў Гамулька,—азіраючыся.

Порсткія чорныя вочы мос'е Пішэгру здзіўлена зірнулі ў шэрыя бескаляровыя вочы Гамулькі.

— Я фас не разумею, мос'е Гамулька. Вы служыце ў генеральным штабе князя Пілсудскага? Чаму ў фас штацкі касцюм?

— Я працую і ў роднай газеце «Звон». Пішу нарысы, фельетоны, апавяданні.

— Вы і пісьменнік?

— Шчыры беларускі пісьменнік,—прагугнявіў мос'е Гамулька, і, мусіць, засароміўшыся высокакультурнага еўрапейца, адклаў у бок сала і пачаў піць чай з сухім хлебам.

Мос'е Пішэгру нічога не разумеў.

— І палякі дазваляйт вам армію?

— Нават дапамагаюць. Вядома, не самастойную. Гэта ініцыятыва самога князя Пілсудскага.

— Прабачце, мос'е Гамулька... Супроць каго ваявайт ваша армія?

І тут лопнула цярплівасць Гамулькі ад дзікай французскай неўцямлівасці. Ён завішчэў:

— Супроць большэвікоў. Палова беларускага краю яшчэ пад Советамі. Мы вызвалілі ад іх сталіцу нашай старонкі Мінск.

Мос'е Пішэгру блытаўся ўсё больш і больш.

— Пардон, мос'е Гамулька. У 1913 годзе я разумеў шыльды мінскіх крам. Цяпер яны напісаны на ваш роднай мове?

— Амаль што. Польская мова мне бліжэй, чым руская.

— Значыць, дзяржаўнай, мовай Беларусі абвешчана польская? У школах вучаць па-польску?

— Вучаць,—аблізваючы з губ рэшткі сала адказаў мос'е Гамулька.

Пішэгру дастаў партсігар, закурыў.

— Вот скажыце: народ як? Многа навербавалі ў армію?

— Народ яшчэ несвядомы,—уздыхнуў Гамулька.—Быў я ў адной валасці. Ніхто не хацеў ісці на сход, пакуль не даведаліся, што прыехаў чалавек і будзе гаварыць пра волю. Прышла тады ўся воласць. Заклікаў я людзей, каб ішлі запісвацца ў слаўнае войска. Тут і чалавек ваенны са мной быў...

Мос'е Пішэгру нецярпліва зварухнуўся. Зварухнуўся на цвёрдай канапе і ўкрыты сялянскай жакеткай хлапец.

— Колькі запісалася?

— Ні адзін. Стаяць, як вады ў рот набраўшы, як сцяна глухая. Сорамна мне стала перад капітанам. Хоць у зямлю лезь. А яны стаяць, пазіраюць на цябе, як на д'ябла. Аж страшна мне зрабілася. Вядома, быдла цёмнае, мужычко. Хіба гэта народ? Да смерці трэба бізуном засекчы яго, тады хіба паразумнее! Толькі тады ён не будзе слухацца гэтых падбухторшчыкаў—большэвікоў...

Мос'е Пішэгру здзіўлена разявіў рот. Прамармытаў па-французску:

— Першы раз сустракаю такога нягодніка! Прадаваць няшчасную бацькаўшчыну—гэта жах! жах!

Мос'е Гамулька ўстаў. У гэты момант адбылося нешта страшэннае. Тут мос'е Пішэгру заблытаўся ўжо нашчэнт.

Хлапец, які ў часе размовы нецярпліва варушыўся на канапе, раптам усхапіўся, нібы яго падняў выбух. Бліскаючы вачамі, поўнымі нянавісці, ён схапіў крэсла і кінуў ім з усёй сілы ў мос'е Гамульку. Крэсла, разбіўшы і патушыўшы лямпу, грукнулася аб напоўнены абвіслы жывот члена Беларускай Рады. Потым у непраніклай цемры пачуўся напалоханы жывёльны крык мос'е Гамулькі і цяжкія ўдары. Пішэгру ад жаху кінуўся ў свой пакой і замкнуў яго на ключ. Хутка крык мос'е Гамулькі заціх. У пакой, несучы перад сабою дрыглівымі рукамі лямпу, увайшла згорбленая гаспадыня. Мос'е Гамулька ляжаў выпрастаўшыся на падлозе. Хлапца не было.

— Я так і ведала,—прашаптала жанчына.—Пішэгру прывозіць у мой дом няшчасце. Бог мой, што мне рабіць? Што цяпер будзе?

У вялізным нерухомым жываце беларускага міністра нешта булькала і хліпала. І гэта яшчэ больш наганяла жаху на старую жанчыну.

## XXXVI

Адпаласаваўшы добра аднаго з міністраў Беларускай Рады, Віктар Жаркевіч абмацаў упацёмку жакетку на канапе і павольна рушыў з пакоя. Надвор'е за гэты час змянілася. Як толькі ён вышаў з калідора, у твар яму дыхнуў вільготны паўднёвы вецер, а на шыю сарвалася зверху некалькі калючых кропель дажджу. Добра ведаючы, што сёння яму не будзе тут спакойнага прытулку, хлапец накіраваўся сярэдзінаю вуліцы з пасёлка.

Час-ад-часу ён трапляў у гурбы мяккага снегу. Хутка зачмякалі анучы, але Віктар зусім не разбіраў дарогі. Унутры яго ўсё гарэла ад неўтаймоўнай крыўды і нянавісці. Яму хацелася вярнуцца ў заезджы дом і яшчэ раз адмясіць, хоць і нежывога ўжо, агіднага сапуна, які пацiскаў руку французскаму камiваяжору, як прадстаўнік беларускага народа. Хто яго калі выбіраў, хто бачыў яго у народзе, які цяпер стогне пад панскім ботам? Да якой меры трэба страціць чалавечае сумленне, каб, пазіраючы на шыбеніцы, на якіх гойдаюцца трупы сялян і рабочых, апяваць геройства «рыцараў захаду»!

Віктар чуў раней, што пасля заўладання Мінскам белапалякі звольнілі з работы восем тысяч чалавек. На іх месца пачалі прывозіць служачых з Варшавы і Пазнані. Кадравыя беларускія рабочыя, высокакваліфікаваныя слёсары і токары засталіся без хлеба. Яны не мелі за што купіць дзецям кварты малака. Голад запанаваў у пераможаным горадзе. Калі ў якой установе, ці на прадпрыемстве аказвалася вольная вакансія, на яе імкнулі тысячы чалавек. Але гаспадары бралі толькі тых, за каго паручаўся ксёндз. Тысячы чалавек разыйшліся з горада па вёсках: яны неслі ў мяшках зубілы, напілкі і паяльнікі. Яны хадзілі, як жабракі, пажоўклыя ад недаедку і сумных клопатаў пра шматлікую сям'ю, ад вёскі да вёскі: яны рамантавалі сячкарні, запайвалі дзіравыя вёдры, наймаліся да фальваркоўцаў і кулакоў у парабкі. Часта знаходзілі на дарогах трупы невядомых людзей. Разыходзячыся ў пошуках хлеба, бацькі

гублялі дзяцей, дзеці бацькоў, каб знайсці адзін другога праз багата год пазней, а то і зусім не ўбачыцца.

І ўсё гэта рабілася з беларускім народам на вачах гэтага мярзотніка, які назваў сябе Пішэгру прадстаўніком гэтага народа. Магчыма, гэта ён, праклятый салаед і сапун, пісаў у газетцы «Звон» хвалебныя оды пану Пілсудскаму ў часе яго прыезду ў Мінск. Ён, мусіць, гатовы быў у той час з асалодай цалаваць вяльможны панскі зад за нададзеную яму яго светласцю годнасць «беларускага міністра і заслужанага культурнага дзеяча».

Так думаючы пра ўсю гэтую справу і з агідай выціраючы выпэцканыя ў міністраву сліну рукі, Віктар тады яшчэ не ведаў, што ў час вялікіх народных пакут з'яўляюцца не толькі выдатныя героі, але і самыя паскудныя нягоднікі. Яны, як чэрві, варушыліся і корпаліся ў ранах маці-радзімы і яшчэ больш павялічвалі яе боль...

У гэты момант Віктару прагна захацелася прабіцца праз агнявую заслону, што расцягнулася на сотні кіламетраў уздоўж Беразіны, і стаць у рады такіх блізкіх і дарагіх яму людзей з полымнымі зоркамі на шапках. Ён першым рушыць у атаку, калі пачнецца вялікае наступленне. Ён першы, горды і шчаслівы ад барацьбы, усадзіць штых у пуза першага сустрэчнага пана...

— Стой! Хто ідзе?—як нажом разануў па Віктаравых вушах напалоханы воклiч і следам за гэтым вочы апякло ад яркага святла. Віктар толькі цяпер агледзеўся, што, задумаўшыся, ён ледзь не стыкнуўся носам у нос з белапалякам. Белапаляк пстрыкнуў электрычным ліхтарыкам. Афіцэр гэта быў, ці радавы салдат,— Віктар не мог згледзець супроць святла. Але хлапец добра ўбачыў: правая рука вайскоўца павольна пацягнулася да маўзера. Віктар вырашыў, што варта толькі прапусціць нейкі нязначны момант, і тады яму не мінаваць суровай кары. Напэўна ўжо шныраюць на вакзале і ў суседніх дамах жандары, адшукваючы «бальшэвіка», які зрабіў замах на міністра...

Віктар скочыў наперад і ўдарыў вайскоўца нагою ў грудзі. Згасла святло, пачуўся прарэзлівы крык. Недзе каля станцыі стрэлілі два разы і кулі злосна свіснулі над дрывяным складам. Абмацаўшы драўляны кабур, Віктар рвануў яго на ўсю сілу. Затрашчаў рамень. Хлапец рынуўся прэч з дарогі ў поле. Змочаныя анучы гулка чмякалі ў лапцях і выдавалі вайскоўцу, які хутка ачухаўся, Віктараву дарогу ў змроку. Ён гнаўся за хлапцом і на ўсё горла крычаў, каб дапамаглі яму злавіць «бальшэвіка». Але Віктар, атрымаўшы неспадзявана такую багатую зброю, ляцеў як на крыллях. Ён мог спыніцца і заспакоіць белапаляка драўляным кабурам, але гэта заняло-б цяпер шмат часу. Тым больш, што стрэлы і галасы дапамогі польскаму ваяку пачуліся ўжо на ўскраіне чыгуначнага пасёлка. Тады Віктар пачаў хітраваць. Ён адскочыў у бок і прытаіўся. Белапаляк, дзяручы горла прарэзлівым крыкам і не разбіраючы дарогі, праімчаўся паўз хлапца. Ён агледзеўся толькі кракаў праз дзвесце. Віктар кінуўся ў другі бок. Неўзабаве каля яго пралапатаў па снезе цэлы натоўп, пісажачы чарнату начы вузкімі снапамі стрэлаў і ўзрушанай лаянкай.

— Шукай ветру ў полі!—з вялікай палёгкай у грудзях усміх-

нуўся Віктар і павольна пабег у той бок, дзе, як ён думаў, павінен быць лес. Што далей адыходзіў ён ад небяспечнага месца, то сэрца яго ўсё больш поўнілася неўтрапёнай радасцю. Вось ён, юнак, якога матка звала дзіцяткам, здолеў абдурыць заядлага пана! Справіўся адабраць такую страшную ў руках таго зброю. А пан гэты, магчыма, забіў з гэтага маўзера не аднаго чалавека... І Віктар вельмі пашкадаваў ужо, што выпусціў белапаляка жывога. Надалей не трэба быць такім безуважным. Ворага свайго і прыгнятальніка трэба біць пры кожным зручным выпадку, інакш ён сам падбярэ час і задушыць цябе без літасці. Такія добрыя думкі прыходзяць часта ў галаву толькі тады, калі справа ўжо адбылася і страчанага ніяк не вернеш. Таму Віктару засталося цяпер толькі паглядзець у той бок, адкуль чуўся бясконцы лямант і лаянка вайскоўца, і падацца далей ад станцыі.

Хутка ён увайшоў у невялікі зараснік, які цягнуўся ўздоўж чыгункі. Па каляных галінах ён здагадаўся, што гэта алешнік: ён пачынаўся за дзве вярсты ад семафора. Неўзабаве наперадзе пачуўся глухі грукат поезда. Яшчэ праз некалькі хвілін ён праімчаўся, асвятляючы вокнамі прычыгуначныя кусты і слупы, міма Віктара. За шырокімі шыбамі час-ад-часу мільгалі постаці афіцэраў і паненак. Віктару надта хацелася грымнуць з маўзера ў бліскучае шкло...

Ісці ўздоўж чыгункі яму не было чаго. Нельга было далей заставацца і круціцца каля станцыі. Тут мала знаёмых яму людзей, у якіх ён мог мець прыстанішча, ды і жандары пачнуць цяпер пільна прыглядацца да кожнага хлапца. А за яго душою лічылася ўжо не мала грахоў: ён—актыўны ўдзельнік верасніцкага паўстання, ён забіў не аднаго белапаляка, ён збіў міністра ці члена беларускай рады, і цяпер адабраў гвалтам зброю ў неўважлівага польскага жаўнера. Нават за адзін такі ўчынак, незалежна ад прычын, якія яго выклікалі, паны вешаюць ці расстрэльваюць. Значыць, яго праступак перад польскай дзяржавай павялічыўся ўжо аж у чатыры разы. Чым трапіць цяпер у рукі капітана або пана Свянціцкага, было лепш з'есці сябе самому.

Таму Віктар, дайшоўшы да будкі, звярнуў са сцежкі на шлях і падаўся ў бок ад чыгункі. Ён вырашыў зайсці ў Папарнае, дзе жыла сястра яго маткі, пераначаваць там, каб заўтра ўвечары ўсё-ж перанячць Дзяміда... Калі ён толькі прыедзе...

І толькі цяпер Віктар заўважыў, што яго ногі змочаны аж па калены, што сячэ яму ў спіну рэдкі халодны дождж. Неўзабаве пачаўся густы лес. Чорныя высокія сцены з дрэваў ледзь прыкметна вырысоўваліся ў цемры абапал дарогі. Вецер ужо не дзьмуў у спіну. Ён ляцеў поверх лесу. Вялікая самота агарнула хлапца. Хоць-бы адна жывая душа, хоць-бы адзін сябра быў цяпер з ім! Ён уздрыгануўся—ніто ад гэтых сумных думак, ніто ад начнога холаду.

Над вялікім краем панавала ноч. Аціхлі ў лесе птушкі, ваверкі спакойна спяць у сваіх круглых і цёплых гнёздах на высокіх густых елках. У такое імжыстае неспакойнае надвор'е бадай ці вылазіць з сваёй нары неахайны барсук. Спяць вёскі, гарады. Над

вялікім краем панавала цемра. Не згледзець цяпер, не разабраць, дзе спрадвечныя бары, а дзе цягнуцца вузкія палоскі палявых прастораў. Колькі ён ішоў: гадзіну, дзве ці больш па гэтай лясной дарозе? Ён не заўважаў часу. Наперадзе ў яго вырастала нешта высокае і белае як неспадзеўны прывід. Ён здагадаўся, што гэта разбіты пяруном і збуцвелы па часе таўшчэразны дуб. Яго яшчэ не зламалі буры і навальніцы. Ад станцыі да гэтага дуба, якраз у цэнтры вялізнага лесу, было вёрст восем. Казалі, што праз гэты лес белапалякі баяліся ездзіць нават удзень, бо сяляне аднойчы абстралялі іх абоз, які вёз награбленае ў вёсках дабро.

Штосьці падобнае на чалавечую гамонку пачулася каля дуба.

Віктар стаў і прыслухаўся. Шумным нямоўчным валам каціўся поверх калматых дрэў вецер. Часамі ён страсаў з яловых лап цяжкія кроплі дажджу і яны ахалоджвалі гарачы твар хлапца. Часамі зрывалася леташняя цяжкая шышка і, гулка грукочучы аб ствалы і тоўстыя сукі, каменем біла ў зямлю. Вецер данёс ад станцыі і рассеяў высока над галавою хлапца далёкі гудок паравоза...

Ціха было каля дуба. Віктар паспакайнеў і засмяяўся сам са свайго страху. І тут падлавіў, што голас яго нейкі хрыпаты і чужы... Што ў грудзях яму нешта пячэ і коле... Але галоўная небяспека засталася далёка за яго спіною. Наперадзе быў цёплы начлег у радні.

## XXXVII

«Чым далей у лес, тым больш дроў»—кажа народная прыказка.

Мосье Пішэгру ў захапленні паглядаў на шэрыя, нібы высечаныя з граніта, ствалы векавых дубоў, на роўныя, як струна, меднаствольныя сосны. Прарываючыся праз густыя зараснікі арэшніку, абдзіраючы рукі калючымі ажэвінамі, ён усё далей і далей забіраўся ўглыб пушчы. Гамулька і Корбут ледзь паспявалі за неўтрапёным французам.

— Аргонскі лес—мальшык!—бясконца мармытаў ён, мяшаючы беларускія і рускія словы.—Аргонскі лес—бедны дом супроць гэты манумент! Дзе відаць такі граб? А дуб? Бог мой, гэта цэлы стандарт!.. О, пан Свянціцкі багач... Такі капітал!..

— Пану Свянціцкаму належыць у гэтай пушчы толькі дзве з палова ю тысячы дзесяцін,—растлумачыў Гамулька.—Астатняе—царскай сям'і. Усяго тутака адзінаццаць тысяч дзесяцін.

— Адзінаццаць тысяч?—усклікнуў мосье Пішэгру.

— Адзінаццаць,—прагугнявіў міністр, выціраючы клетчатай хусткай запацелае шкло акуляраў.—Мосье Пішэгру будзе з чаго выбраць патрэбны матэрыял.

— О, гэта не лёгкі справа! Ві разумей, што ёсць авіяцыйны стандарт? О-о!.. Такі тонкі, тонкі слой... без адзінага сучок!.. Стандарт з тысяч дрэў!.. О!

Ён спрактыкаваным вокам шпарка аглядаў аброслае дрэва, потым разы два стукаў палкай па ствалу, прыслухоўваючыся да аднаму яму вядомых гукаў. Корбут моўчкі праслізаў следам за Гамулькам. Ён не ведаў, як умяшацца ў размову гэтых важных паноў, якія так тонка і далікатна ўсміхаліся пры гэтым адзін аднаму, што Корбут,

каб яго забілі, не мог-бы так усміхнуцца! Каб не тая ўзнагарода, якую яму абяцаў Сьвянціцкі за паслугу, Корбут ніколі-б не адважыўся паехаць у пушчу. Ён, некалькі разоў, баязліва азірнуўшыся, хацеў нешта сказаць Гамульку, але той быў так заняты французам, што зусім не звяртаў увагі на знакі войта.

— Калі мосье хоча, ён можа купіць увесь гэты лес,—прапанаваў Гамулька французу.—Пан Сьвянціцкі ўпаўнаважыў мяне правесьці гэту справу.

— Увесь лес?—здзівіўся мосье Пішэгру.—Але нашай фірме патрэбен стандарт...

— Дык то фірма,—перапыніў яго Гамулька.—Калі мос'е ведае законы гандлю, ён можа меркаваць іншым парадкам. Здаволена будзе не толькі фірма, але і сам мос'е.

Француз яшчэ неўцямліва паглядзеў на беларускага міністра. Гамулька тады заспяшаўся.

— Гэты лес вы можаце купіць асабіста. Ён вам абойдзецца за поўцаны. Нядорага будзе каштаваць вырубка і вывазка. Сьвянціцкі наклаў на сялян вялікія штрафы і гэтыя сяляне пагоняцца за кожнай капейкай... А калі будзе падаўлена па той бок ракі паўстанне, Сьвянціцкі прымусіць гэтых хлопаў працаваць без капейкі.

Вочы ў мосье Пішэгру пакрыліся лятуценнай дымкай. Пан-міністр сапраўды прапанаваў яму выгодную камэрцыю. Навошта служыць гаспадарам, часта за няпэўныя працанты, калі можна самому зрабіцца гаспадаром!

— У Бергене, у Лондане вы атрымаеце поўную цану,—пад'ахвочваў Гамулька.—Калі ў мос'е не хопіць капіталаў, мы можам стварыць кампанію. Я кладу ў гэту справу трыццаць тысяч марак. Пан войт таксама не адмовіцца.

— Божа мой!—цяжка ўздыхнуў Корбут.—Што вы гаворыце. Ды ў мяне няма ні капейкі!.. Якія ў мяне капіталы!

— Але ў пана войта ўлада. Пан войт, калі захоча, можа нават задарам прыгнаць у гэты лес пільшчыкаў і фурманкі...

— Я згодзен,—нарэшце праспяваў француз.—Фірме я адпраўлю авіяцыйны матэрыял, усё астатняе—уласны прыбытак.

— Калі толькі фурманкі і людзі, дык няхай будзе і мая частка,—даў згоду і войт.—Ад гэтых лясоў цяперака адзін толькі неспакой... Непатрэбная вайна...

Торг быў праведзен. Акуляры Гамулькі ўрачыста паблісквалі. Мосье Пішэгру рушыў цяпер далей з такім імпэтам, што міністр і Корбут, як ні стараліся, усё-ж адсталі.

— Пане! Мус'е!—з трывогай у голасе крыкнуў Корбут.—Не ідзіце далей... Там ужо Ермачкова хата... Гняздо іхняе... Не дай, божачка, калі што здарыцца...

Але агент замежнай фірмы не звярнуў увагі на яго папярэджанне. Яму хацелася добра агледзець тое, што купляў. Так, захоплены новай і выгоднай справай, ён адзін апынуўся у гушчары. Ішоў да таго часу, пакуль не пачуў за сьпіной голас Зьмітрака Буйневіча:

— Эй, у капялюшыку. Рукі ўгару!

Думаючы, што гэта які-небудзь жарт, мосье Пішэгру павярнуўся з нязменна прыемнай усмешкай на губах. Але зауважыўшы наведзеную на яго вінтоўку і сурова-пагрозны бляск вачэй гарманіста, адразу пацямнеў і затросся: Нідзе не было Гамулькі, нідзе не было Корбута! Ён стаяў сам-на-сам з невядомым чалавекам у жоўтым кароткім кажушку. Мосье Пішэгру быў аглушаны, быў асьлеплены такою нечаканасцю.

— Кладзіся!—ужо люта крыкнуў Буйневіч і, асцерагаючыся, каб незнаёмы не выхапіў чаго з кішэні і не пачаў супраціўляцца, націснуў на спуск. Гулкае рэха стрэлу громам пакацілася па лесе. Гэты міжнародны жэст аказаўся зразумелым для французскага камівояжэра. Ён моўчкі пляснуўся аб снег.

Тады выстраліўшы ўгару для большага страху яшчэ раз Буйневіч ліхаманкава рынуўся да незнаёмага. Закруціўшы яму за спіну рукі, ён звязаў іх выцягнутым з-пад кажуха поясам. Потым, дастаўшы хустку скамандваў, але ўжо лагодным голасам:

— Падымі трошкі галаву. Вось так... Ну, цяпер паспрабуем стаць на ногі... Ну жжыва! Зброя ў цябе ёсць?

— Куа? [1])—прамармытаў асьлеплены хусткай мос'ю Пішэгру.

— Ты што нямы? ці прыкідваешся? Зброя ёсць?

— Куа?

— Кува, кува,—перадражніў Буйневіч француза і пачаў абмацваць яго кішэні.—Вось калі прыставім цябе да якога дрэва, тады не так закувакаеш! Ну, марш наперад!

У кішэнях мосье Пішэгру былі толькі насовая хустка, партманэ і каробка папярос. Усё гэта Буйневіч запхнуў у сваю кішэню.

Яшчэ вярсты за дзве да смалярні Буйневіча спаткалі партызаны. Устрывожаныя грукатам стрэлаў, яны выскачылі з хацінкі і кінуліся ў бок Бабровых хат. Згледзеўшы цэлага і непашкоджанага Буйневіча, яны паспакайнелі, зацікавіўшыся толькі адным: што за чалавек трапіў у Змітраковы рукі?

— Нічога не гаворыць па-людску,—растлумачыў Змітрок.— Кувакае, ды ўсё.

— Паніч нейкі,—уважліва агледзеўшы мосье Пішэгру, ад галавы да ног, прамовіў Мішка Страмок.—Штаны на выпуск, паліто, капялюшык. І вусікі па аршаўску падстрыжаны. Няўжо ён так і здаўся, без бою?

— І пальцам не варухнуў,—усміхнуўся Буйневіч.—Хіба не бачыш, як дрыжыць?

— Небарака... Можа і штаны давядзецца яму мяняць... Асцярожна, панічу, тут пянёк!

Усе партызаны высыпалі з хацінкі. У кажухах і світках, у кучомках і летніх салдацкіх шапках, яны моўчкі чакалі, пакуль падыйдзе Змітрок Буйневіч са сваёй здабычай. Віктар перакідваўся нязначнымі словамі з начальнікам штаба.

Палоннага ўвялі ў хацінку, развязалі хустку. Прамень яркага, але халоднага сонца, прабіўшыся праз невялічкае акенца, ударыў яму ў вочы. Ён хваравіта зморшчыўся і заплюшчыў іх.

---

[1]) як?

— Прозвішча, імя?—ужо грымеў Булынка.—Адкуль з'явіўся?

Француз маўчаў, не разумеючы, відаць, ніводнага слова. Адзін раз ён нават паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка атрымалася крывая і нагадвала хутчэй грымасу.

— А можа ён грэбвае гаварыць па нашаму?—умяшаўся ў допыт Мішка.—Эй, ты, пудзіла, як цябе завуць?

— Куа?—нарэшце абазваўся француз.

— Во-во!—падхапіў Буйневіч.—Ён, таварыш начштаба, усю дарогу так кувакае. Ён, мусіць, не тутэйшы. Ён не разумее.

— Смальні разок па вуху,—тады зразумее,—панура параіў нехта з натоўпу.

Раптам роблена суровы твар Дарафея Булынкі пасвятлеў. Навалiўшыся локцямі на маленькі скрыпучы столік, ён нешта залапатаў таямніча—няўлоўным голасам. Незнаёмы на момант аслупянеў, потым шпарка падаўся да Булынкі. Твар яго аж паласкаўся ад радаснай усмешкі. Незразумелая ўсім партызанам гаворка цягнулася больш хвіліны.

— Палонны гаворыць, што ён француз,—нарэшце паведаміў Булынка.—Зміцрок, давай сюды яго дакуманты.

Буйневіч паклаў на стол знойдзеныя ў кішэнях палоннага рэчы. Булынка адкрыў партмане і пачаў разглядаць паперы. Не прайшло хвіліны, як ён ускочыў і агледзеў француза з ног да галавы.

— Мосье Пішэгру? Як вы тут апынуліся?

Француз шпарка залапатаў. Потым схапіў руку Булынкі і пачаў трэсці яе так, нібы Дарафей быў яго вельмі блізкім сваяком, з якім ён спаткаўся пасля доўгай разлукі.

— Мосье Булынка!.. Друг!..—толькі і чулася ў зямлянцы.

Віктар раптам прыпомніў сваю пакутную ноч на чыгуначнай станцыі, агульны пакой у заезджым доме... Тоўстага пана, які піў гарбату. Злосна ссунуўшы калматыя бровы, ён глуха кінуў Булынку:

— А ну, запытайся ў яго... свайго... друга... чаго ён сюды забраўся?

— Ён купляе лес у пана Свянціцкага,—няёмка вызваляючы сваю руку з учэпістых лап француза, адказаў Булынка.—Гэта агент фірмы «Іспанія-Суіза».

— Ён прыехаў у пушчу адзін?

Булынка пераклаў запытанне Віктара на французскую мову.

— Кажа, што з ім былі Корбут і нейкі міністр... Як вы кажаце, яго прозвішча?—перапытаў ён у мосье Пішэгру.

— Мосье Гамулька,—не азіраючыся на Віктара, прамовіў француз.—Ён астаўся на месцы. Ён чакае мяне.

— Чакае?—хрыпла, ужо не адчуваючы як у неўтрапёнай ярасці наліваецца крывёю яго твар, крыкнуў Віктар.—Эй, хлопцы, за мною! А ты, Дарафей, трымай тут гэтага салаўя. Выпусціш—адкажаш сваёю галавою.

Партызаны рынуліся з хацінкі. Мосье Пішэгру зноў ледзь не самлеў ад страху. Усё тут было пагрозным: не толькі ўзброены натоўп, які запоўніў усю хацінку, але і пустата, якая засталася пасля таго, калі яны выскачылі за тым неўгамаваным хлапцом. Павольна, адчуваючы бязмерную слабасць у нагах, ён асеў на ка-

лодку. Дрыглівым, ужо без адзінай усмешкі на твары голасам мосье Пішэгру запытаўся ў Булынкі:

— Што вы са мною зробіце? Божа мой, як мне цяжка?

Яны засталіся ў зямлянцы толькі ўдваіх. Папраўляючы кабур нагана, Булынка адказаў:

— Гэта залежыць ад чалавека, які кінуўся лавіць вашых сяброў. Ён карыстаецца вялікай пашанай у партызан. Ён замяшчае начальніка атрада.

— Але вы не маеце права!—крыкнуў мосье Пішэгру ў роспачы.— Я французскі падданы. Я—мірны чалавек. Мне няма справы да вашай барацьбы. У мяне сям'я... Я вам даю клятву, што палкоўнік Свянціцкі ні слова не даб'ецца ад мяне пра тое, што я тут бачыў. Я нічога не хачу ведаць! Я прыехаў толькі купляць лес у пана Свянціцкага...

Булынка не адказваў. Ён нічога не мог абяцаць французу без ведама Віктара. А Токараў быў яшчэ ў Верасніцы. Булынка думаў толькі пра тое, якія неспадзяваныя часамі бываюць сустрэчы з людзьмі.

Так прайшла гадзіна, другая. Раптам дзверы зноў адчыніліся. У хацінку, разам з халодным патокам паветра, уваліўся Віктар. Твар яго быў стомлены, але вочы гарэлі ўсё тым-жа неспакойным агнём. Француз, згледзеўшы яго, усхапіўся з калод.

— Давай сюды пратакол допыту,—усё тым-жа настуджаным голасам, прагаварыў Віктар.—А яго сваякоў не злавілі... Уцяклі, сволачы!

Мосье Пішэгру, агледзеўшы хлапца аслабеў яшчэ больш. Нешта знаёмае заўважыў ён у яго крыху сутулай постаці, у рухах. Яго ссунутыя калматыя бровы не абяцалі французу нічога добрага.

— Што мы будзем з ім рабіць?—запытаўся Булынка, устаючы.— Мне здаецца, ён чалавек... не вельмі страшны для нас...

Віктар маўчаў, дачытваючы пратакол. Толькі праз хвіліну абазваўся, прыглушваючы кашаль:

— Няхай ідзе. Чорт з ім! Толькі скажы яму, каб не пападаўся больш у нашы рукі! Апынецца тут у другі раз—атрымае кулю ў лоб.

Булынка пераклаў словы Віктара французу. Але той, мусіць, палічыўшы адказ партызана за праяўленне слабасці, ні з таго ні з сяго пачаў спрэчку:

— Не з'яўляцца ў лесе? А хто тады пакрые страты фірмы? Дагавор з панам Свянціцкім падпісан, грошы на рахунак пана Свянціцкага пераведзены? Гэта-ж грабёж!

Правая рука Віктара раптам уздрыганулася і ў пагрознай імклівасці схапілася за каўнер. Француз, бялеючы тварам, адступіўся да сцяны і заплюшчыў вочы. Ён ужо вельмі каяўся за свае неабдуманыя словы. Зараз грымне стрэл...

Але хлопец не выстраліў. Задыхаючыся ад ярасці, ён крыкнуў коміваяжэру.

— Ну ты, слімак! Паспрабуй яшчэ хоць раз паказацца ў пушчы! Чуеш, мусье? Гэта лес наш! І мы яго не прадаем! Усё ў гэтай краіне наша. Скажы гэта сваім гаспадарам, пракляты лакей, пера-

дай гэта таму пану Свянціцкаму. За гэты лес, за зямлю, за ўсё, што нам дала совецкая ўлада, мы будзем біцца з панамі да апошняй кроплі крыві. Чуеш, мус'е? Калі хочаш трапіць у магілеўскую губерню—прыходзь. Для такога дзярма кулі не пашкадуем. Эй, хлопцы! Узяць яго!

Мосье Пішэгру зноў завязалі вочы. Спатыкаючыся на пенчукі і купіны, ён пайшоў тою дарогай, якою яго прыцягнулі сюды. Буйневіч з вінтоўкай і Мішка з бярданкай Забашавіча вывелі яго на ўзлессе. Калі паказалася поле, Мішка, азірнуўшыся, прапанаваў:

— Ведаеш што: давай мы тут яго прыгалубім! Неспакойнае будзе маё сэрца калі пусцім гэтага буржуя поўзаць па зямлі.

— Ну, ну шчанюк!—злосна прыкрыкнуў на яго Буйневіч.— Я табе прыгалублю!

— Тады хоць крокаў за пяцьдзесят смальнуць у яго зад шротам,—ледзь не плачучы, стаў упрошваць Мішка.—Няхай тады выпакутвае... Яны гэтым палякам пушкі даюць, стройпланы, каб нас біць, а мы што нітралітэт? А-а? Чуеш Змітрок?!

Буйневіч раптам павярнуўся да Мішкі і скамячыў здаравенны кулак:

— Пагавары мне!

Ї ўсёткі Мішка не сцярпеў, каб не стукнуць замежнага купца на развітанне каленам пад зад. Зрабіў ён гэта так спрытна, што Буйневіч нават не заўважыў.

Мосье Пішэгру, узышоўшы на заснежаную раллю, ступаў асцярожна, выцягнуўшы наперад рукі, як ходзяць сляпыя. Потым калі з лесу крыкнулі, каб ён зняў з вачэй павязку, спыніўся.

Агромністае нібы набраклае крывёю, хавалася за небасхіл сонца. Нанач браўся мароз... Ціха ўсё было навокал. Ніводная былінка не шавелілася на мяжы, ніводны гук не парушаў гэтай сурова ўрачыстай маўклівасці.

Так, прыслухоўваючыся, прывыкаючы да сонечнага святла, ён стаяў з хвіліну. А калі азірнуўся на лес, на месца, дзе засталіся Змітрок і Мішка, ужо нікога не было.

*Канец першай кнігі.*

1937—1939 гг.

*Праф. М. Дабрынін*

# НАРЫС ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ [1])

## ЛІТАРАТУРА ПАЛОВЫ XVI, XVII, XVIII СТАГОДДЗЯЎ

### Асноўныя лініі грамадска-палітычнага развіцця

Беларускі народ на працягу XVI, XVII і XVIII ст. ст. перажыў у сваім развіцці надзвычайна важны этап, які зрабіў уплыў на ўвесь ход яго далейшага гістарычнага існавання. Галоўным і істотным момантам гэтага этапа была барацьба за захаванне сваёй нацыянальнасці за сваю мову, веру, літаратуру, культуру. Каб зразумець характар і гістарычнае значэнне гэтай барацьбы для беларускага народа, неабходна зразумець адносіны Беларусі да Польска-Літоўскага панавання, з аднаго боку, і адносіны да Маскоўскай дзяржавы, з другога боку.

Што да Маскоўскай дзяржавы, дык да паловы XVI ст. там было завершана стварэнне рускай нацыянальнай дзяржавы і асноўным фактам XVI—XVII ст. ст. з'яўляецца стварэнне шматнацыянальнай дзяржавы. Па пытанню аб узнікненні рускай дзяржавы таварыш Сталін гаварыў:

«На ўсходзе Еўропы, наадварот, працэс утварэння нацыянальнасцей і ліквідацыі феадальнай раздробленасці не супалі па часу з працэсам утварэння цэнтралізаваных дзяржаў. Я маю на ўвазе Венгрыю, Аўстрыю, Расію. У гэтых краінах капіталістычнага развіцця яшчэ не было, яно, можа толькі зараджалася, між тым як інтарэсы абароны ад нашэсця турак, манголаў. і іншых народаў усхода патрабавалі неадкладнага утварэння цэнтралізаваных дзяржаў, здольных стрымаць націск нашэсця. І таму, што на ўсходзе Еўропы працэс паяўлення цэнтралізаваных дзяржаў ішоў хутчэй чым працэс складвання людзей у нацыі, то там стварыліся змешаныя дзяржавы, якія складаліся з некалькіх народнасцей, што яшчэ не скаліся ў нацыі, але ўжо былі аб'еднаны ў агульную дзяржаву». (*І. Сталін* «Марксізм і нац.-калан. пытанне». 1937 г., стар. 73).

Або ў другім месцы: «На ўсходзе Еўропы, наадварот, утварэнне цэнтралізаваных дзяржаў, паскоранае патрэбнасцямі самаабароны (нашэсце турак, манголаў і інш.), адбылося раней ліквідацыі

[1]) Канец. Пачатак гл. у № 7, 9.

феадалізма, значыць раней утварэння нацый. Дзякуючы гэтаму нацыі не развіліся тут і не маглі развіцца ў нацыянальныя дзяржавы, а ўтварылі некалькі змешаных, шматнацыянальных дзяржаў, якія звычайна складаліся з аднэй моцнай пануючай нацыі і некалькіх слабых, падначаленых. Такія: Аўстрыя, Венгрыя, Расія». (*І. Сталін*, там-жа, стар. 63).

Шматнацыянальная дзяржава ў Расіі пачала складвацца ў палове XVI ст. пры Іване IV. Вызваліўшыся ад татара-мангольскага ярма, рускія пры Іване IV заваявалі Казань, Астрахань, Сібір, паўночна-ўсходнюю частку Каўказа, рушылі на поўнач і ўсход, на поўдзень і захад. На захадзе Іван IV вёў вайну з прыбалтыйскімі немцамі, з Польшчай, Літвой, шведамі, ён хацеў прабіцца да берагоў Балтыйскага мора.

Барацьба ішла за Беларусь, якую Іван лічыў сваёю вотчынай, рускай зямлёй. Недарма на прапанову польскага караля аб вечнай згодзе ён адказаў: «За каралём наша вотчына адвечная: Кіеў, Валынская зямля, Полацк, Віцебск і шмат інш. гарады рускія, дык ці прыгожа з каралём мір заключаць?» І далей: «успомніце, што і самая Літва ёсць вотчына гасудароў маскоўскіх» (Цытырую па зборніку «Полацка-Віцебская старына», т. I, стар. 27, Віцебск, 1911 г. артыкул *А. Сапунова* «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі».)

Пры Грозным уладанні Расіі пашырыліся ў многа разоў. Царства яго стала адным з буйнейшых шматнацыянальных дзяржаў ва ўсім свеце. Гэту палітыку працягвалі прэемнікі Івана IV, пашыраючы граніцы Расіі і ўключаючы ў свае рубяжы новыя і новыя народы, у тым ліку украінцаў і беларусаў. У XVIII ст. гэтыя народы ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі.

Так абстаяла справа ў Маскоўскай дзяржаве, такі быў рух з усхода на поўдзень і захад, да Украіны і Беларусі.

Але быў і сустрэчны рух. Шматвяковая барацьба украінскага народа супроць польска-літоўскіх паноў закончылася ў XVII ст. тым, што Украіна ў 1654 годзе была прынята ў рускае падданства. Цяпер вайну з панскай Польшчай вяла Маскоўская дзяржава. Вайна скончылася і, хаця па Андрусаўскай згодзе ў 1667 г. пытанне аб Украіне не было вырашана канчаткова, усе землі па леваму берагу Дняпра і Кіеў былі далучаны да Расіі. Правабярэжная Украіна была далучана пры Екацерыне II, г. зн. ужо ў XVIII ст.

Складаней было з Беларуссю. Становішча беларускага народа пасля уніі 1386 года безупынна пагаршалася, бескантрольнае і неабмежаванае панаванне польска-літоўскіх паноў і шляхты, іх бязлітасная эксплаатацыя прыгонных сялян, пазбаўленых якіх-бы то ні было правоў—усё павялічвалася. Гэтае становішча стала зусім невыносным пасля люблінскай уніі 1569 года.

У той час, як шляхта карысталася неабмежаванымі правамі, сялянства было пазбаўлена самых элементарных чалавечых правоў. Сялян не лічылі за людзей, накладалі на іх самавольна падаці, прымушалі выконваць розныя павіннасці, судзілі і каралі іх аж да смяротнай кары.

Крыху лепшым было становішча гарадскіх жыхароў, якія атры-

малі самакіраванне па так званаму Магдэбургскаму праву, але і тут уціск нацыянальны быў вельмі моцным. Каб паланізаваць украінскі і беларускі народы спатрэбілася акрамя дзяржаўнай уніі, унія царкоўная. Яна была аформлена ў 1596 г. у Брэсце. Але яшчэ да Брэсцкай уніі ў 1569 годзе, г. зн. пасля люблінскай, у Беларусі з'яўляюцца іезуіты з мэтай барацьбы супроць праваслаўя і рэфармацыі. У 1570 годзе ў Вільні яны арганізавалі калегію, ператвораную ў 1579 годзе ў Акадэмію, рэктарам якой стаў Пётр Скарга, злейшы вораг праваслаўя і беларускага народа.

Такім чынам да прыгоннага і нацыянальнага ўціску далучыўся рэлігійны. Не дзіўна, што соцыяльная класавая барацьба прыняла рэлігійную форму. Так было і на захадзе, аб чым добра пісаў Ф. Энгельс у сваёй працы «Сялянская вайна ў Германіі».

Вышэйшыя колы насельніцтва аказаліся нястойкімі ў праваслаўі, бо беларускія паны і шляхта, хочучы ўраўняцца ў правах з польскімі панамі і шляхтай, перайшлі ў каталіцтва, здрадзілі свайму народу і сталі яго злейшымі ворагамі. Але просты народ, сяляне і гаражане пачалі зацятую барацьбу за сваю веру, супроць сваіх заклятых ворагаў—панства, іезуітаў, каталікаў.

Неабходна заўважыць, што панаванне каталікаў-іезуітаў ці уніятаў, вяло да заняпаду і застою навукі і асветы ў Беларусі.

Вядучы барацьбу за праваслаўе, народныя масы тым самым змагаліся за сваю нацыянальнасць, за сваю мову, за сваю культуру, за права самастойнага развіцця. Формы барацьбы і арганізацыя народных мас былі рознымі. З іх мы адзначым форму праваслаўных брацтваў і адкрытых народных паўстанняў.

Узнікненне брацтваў адносіцца да першай паловы XV ст., але асаблівае развіццё яны набываюць у другой палове XVI ст., калі ператвараюцца ў нацыянальна-рэлігійныя аб'яднанні. У задачу брацтваў уваходзіла матэрыяльнае падтрыманне пісьменнікаў, якія вялі барацьбу супроць каталіцызма, уніяцтва і паланізацыі. Брацтвы мелі самастойнасць у рэлігійных адносінах і адыгралі вялікую ролю ў справе маральнага і разумовага развіцця ў Беларусі і на Украіне. Яны вельмі цікавіліся кніжнасцю і ў іх былі вельмі адукаваныя людзі, якія аддавалі сябе справе барацьбы за праваслаўе.

Брацтвы былі ў Вільні, Магілеве, Полацку, Віцебску, Мінску, Слуцку і іншых гарадах. У склад брацтваў уваходзілі галоўным чынам гарадскія рамеснікі і купцы.

Брацтвы, як культурныя, нацыянальна-рэлігійныя аб'еднанні, уяўлялі сабою арганізацыйную форму барацьбы і адыгралі выключную і прагрэсіўную ролю ў захаванні народнасці, мовы, звычаяў, веры.

Другой формай барацьбы было бегства і адкрытае народнае паўстанне. Змучаныя паборамі, нацыянальным і рэлігійным уціскам, прыгонныя сяляне беглі на Днепр у Запарожскую Сеч і папаўнялі рады казацтва.

Лёгка зразумець, што калі ў 1595 годзе паднялося паўстанне казакаў пад кіраўніцтвам Налівайкі, спачуванне і падтрымка беларускіх сялян былі забяспечаны. Уступленне Налівайкі ў Беларусь

адразу павялічыла яго сілы, але яны былі малыя, каб перамагчы дзяржаўныя войскі і Налівайка загінуў у 1596 г. Але паўстанні ўспыхвалі то там, то тут, чакаючы зручнага выпадка, каб ператварыцца ва ўсеагульны народны рух. Так у 1606—10 было паўстанне ў Магілеве, у 1623 годзе ў Віцебску паўстаўшыя забілі злейшага ворага народа—полацкага архіепіскапа Іёсафата Кунцэвіча, праззванага «душахватам», у 1633 быў рух у Полацку, у 1648—49 гадах у адказ на заклік Багдана Хмельніцкага падняліся народныя масы Беларусі супроць сваіх прыгнятальнікаў. Кіраўнікамі казакаў і беларускіх сялян былі: Небаба, Хвеська, Гаркуша, Крыўшанка, Міхненка, Галота, Падабайла, Крачоўскі і інш. Пасля невялікага перапынку, барацьба разгарэлася ізноў. У 1654 годзе, калі Украіна была далучана да Масквы, становішча Беларусі было вельмі цяжкім. Цяпер за яе ішла барацьба паміж Масквой і Польшчай. Беларускія гарады здаваліся маскоўскаму войску, а палякі пісалі: «тутэйшыя гарады пагражаюць яўна абурэннем, а другія наперарыў здаюцца на імя царскае... Мужыкі моляць бога, каб прышла Масква» (Віцебская старына, т. IV, ч. II, стар. 356—357). Але не толькі гарады, а і вёскі чакалі рускіх і аб іх палякі пісалі: «Мужыкі да нас вельмі варожыя, усюды на царскае імя здаюцца і робяць больш шкоды, чым сама Масква, гэтае зло будзе і далей пашырацца: трэба сцерагчыся чаго-небудзь накшталт казацкай вайны». (*Салаўёў,* «Руск. гісторыя з стар. часу», кн. II, стар. 1665).

У 1655 уся Беларусь была вызвалена ад палякаў, далейшая барацьба была няўдалай і па Андрусаўскай згодзе ў 1667 г. яна зноў апынулася пад уладаю польскіх паноў і шляхты. Уціск працягваўся, ён яшчэ больш узмацніўся, бо польскія пануючыя колы імкнуліся паланізаваць насельніцтва Беларусі і знішчыць яе, як нацыянальнасць. Быў прыняты рад сеймавых пастаноў, накіраваных супроць праваслаўя, а ў 1718 годзе быў высунуты (у Гродне) праект поўнага выкаранення праваслаўя. Здзекі і гвалты над праваслаўнымі зрабіліся звычайнай з'явай і дайшлі нават да таго, што адыход ад каталіцтва ці уніі караўся смерцю.

Яскравай характарыстыкай становішча праваслаўных людзей з'яўляецца заява польскаму сейму ў 1623 годзе ад імя ўсіх рускіх Заходняй Расіі (Беларусі).

«У Беларусі, у Оршы і Магілеве, уладыка Полацкі (уніят) Іёсафат Кунцэвіч запячатаў цэрквы і ўжо пяць год трымае іх так. У Полацку і Віцебску мы не можам мець богаслужэння ні ў царкве, ні ў двары... Але, што горш за ўсё, што складае варварства і зверствы вышэй за ўсё, у тым-жа Беларускім Полацку, той-жа адступнік уладыка Полацкі (Кунцэвіч), каб дапячы тамашнім мяшчанам, загадаў адкапаць нядаўна пахаваныя ля царквы хрысціянскія целы памершых і кінуць іх на з'ядзенне сабакам, як якую падлу...» (Цытырую па кнізе «Полацка-Віцебская старына», т. I, Віц. 1911, стар. 23, артыкул *А. Сапунова).*

Польскае панаванне ў Беларусі ў XVIII ст. давяло краіну да значнага эканамічнага і культурнага заняпаду, гэта была калонія, дзе панавала самая дзікая, самая нястрымная эксплаатацыя, рабаванне і гвалт. Гарады, мястэчкі і вёскі пусцелі, гандаль заміраў,

рамесніцтва занападала, насельніцтва разаралася, бяднела, нішчала. Навука, кніжнасць, адукацыя ішлі да заняпаду.

Лёгка зразумець, што народныя паўстанні не спыняліся: так у 1700—1701 г. г. былі хваляванні ў Слонімскім павеце, у 1740—44—паўстанне ў Крычаўскім старостве, у 1750—60 былі паўстанні на Мазыршчыне і г. д.

Чаму-ж не ўвянчалася поспехам барацьба беларускіх і украінскіх сялян? Таварыш Сталін на гэта адказвае, што сялянская вайна, выступаючы ізаліравана, з'яўляецца выражэннем «стыхійнага абурэння прыгнечаных класаў, стыхійнага паўстання сялян супроць феадальнага ўціску... Асобныя сялянскія паўстанні нават у тым выпадку, калі яны не з'яўляюцца такімі разбойнымі і неарганізаванымі як у Сценькі Разіна, ні да чаго сур'ёзнага не могуць прывесці». (*І. Сталін.* «Гутарка з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам»).

Значыць, распыленасць і неарганізаванасць, адсутнасць кіраўніка, які ў сялянства паяўляецца толькі ў асобе рабочага класа і яго партыі, не далі магчымасці беларускім сялянам, не гледзячы на іх гераізм, перамагчы сваіх ворагаў.

Пачынаючы з Пятра І Расія займае пануючае становішча ў адносінах да Польшчы, а пры Екацерыне ІІ адбываецца тры падзелы Польшчы, пасля якіх Беларусь і Украіна далучаюцца да Расіі. Для беларускага і украінскага народаў, якія пакутвалі пад уладаю Польшчы, гэта было поўным вызваленнем і злучэннем з родным рускім народам, гэта было фактам прагрэсіўнага значэння, бо хаця прыгоннае права і заставалася, але знішчаліся нацыянальны і рэлігійны ўціск. Гэта павінны былі прызнаць і самі палякі. Так Немцэвіч у сваіх «Запісках» пісаў: «Я павінен з сумам прызнаць, што Беларусь вельмі выйграла ў матэрыяльных адносінах з часоў падзелу Польшчы» (Гл. «Пол. Віц. старына», т. І, Віцебск, 1911, стар. 30).

Увесь працэс гістарычнага развіцця краіны з паловы XVI да канца XVIII ст. ёсць працэс барацьбы за сваю нацыянальнасць, мову, звычаі, веру, культуру. Вялікую ролю ў гэтай барацьбе адыграла беларуская літаратура, якая набыла дзякуючы гэтаму вызваленчы характар.

## Характар літаратурнага развіцця ў пал. XVI, XVII і XVIII ст. ст.

Нямногім літаратурам выпадае такая роля ў гістарычным развіцці сваёй краіны і народа, якая выпала на долю беларускай літаратуры. Мы нікольк не памылімся, калі скажам, што літаратура побач з брацтвамі і народным рухам, з'яўлялася амаль важнейшай формай, важнейшым рэчышчам, па якому ішло развіццё нацыі, барацьба за яе самастойнасць і незалежнасць. Вызваленчая роля беларускай літаратуры ў XVI, XVIII і XVIII ст. ст. вельмі вялікая. Яна вяла барацьбу за мову і звычаі, за аб'еднанне і свабоду беларускага народа. Гэта асноўны яе тон, асноўны характар, у гэтым яе моц, яе роля, яе значэнне, яе народнасць.

Мы ўжо бачылі, што барацьба набыла рэлігійную форму, пад якой хаваліся цалкам рэальныя грамадскія інтарэсы—нізвяржэнне

прыгоннага, нацыянальнага і рэлігійнага ўціску. Мы ўстанавілі, што беларускія паны і шляхта адышлі ад праваслаўя і зрабіліся злейшымі ворагамі народа побач з польскімі панамі і шляхтай; значыць, барацьбу супроць апалячвання і акаталічвання вялі шырокія народныя масы, сялянства і гаражане з іх брацтвамі. Вышэйшае духавенства таксама здрадзіла праваслаўю, пераходзячы да уніі. Вось чаму ўсё, што рабілася ў літаратуры вуснай і пісьменнай, рабілася для народа самім народам, вось чаму беларуская літаратура ў сваіх асноўных помніках выступае як народная вызваленчая літаратура.

Яшчэ ў першую палову XVI ст. выступіў такі выдатны дзеяч, як Францішак Скарына (1490—1550). Яго працы мелі адну мэту «людем посполитым руского языка к доброму научению». Ён робіць на палях сваіх перакладаў зноскі «руским языком, что которое слово знаменует». Барацьба за беларускую народную мову, за народную асвету ў дзейнасці Скарыны выступае выразна.

Дзейнасць Ф. Скарыны прыпадае на першую палову XVI ст., якая адрозніваецца па гістарычных умовах развіцця (Люблінская унія 1569 г., Брэсцкая унія 1596 г., сеймавыя пастановы супроць праваслаўя і г. д.) ад другой паловы XVI ст., з якой мы пачынаем новы перыяд. Мы і ставім Ф. Скарыну, як звязваючае звяно абодвух перыядаў. Яго прадаўжальнікам з'яўляецца Васіль Цяпінскі (1540—1604), які пераклаў на беларускую мову евангелье.

Далей ідзе палемічная літаратура XVI—XVII ст., з якой можна назваць твор Хрыстафора Філалета (псеўдонім) «Апокризис, альбо отповедь на книжки о соборе Берестейском»—супроць брэсцкай уніі 1596 г., здраднікаў, епіскапаў, іезуітаў, уніятаў, затым твор Луцкага епіскопа «Перестерога», навучанні і пасланні такіх дзеячоў, як Карповіч, Мелецій Сматрыцкі (у першы перыяд) і г. д.

Апошняму належыць «Плач», напісаны ў 1610 г. («Фринос»), у якім аплакваецца пагібель праваслаўя, радзімы, лепшых беларускіх родаў, адышоўшых ад праваслаўя.

Можна назваць рад пратэстуючых пастаноў супроць уніі і праваслаўнага духавенства, адышоўшага ад праваслаўя. Такі пратэст Мінскага дваранства ў 1617 годзе, падпісаны Агінскімі, Ратамскімі, Тышкевічам, Валадкевічам, Заруцкім, Станкевічам і шмат іншымі. Такі-ж пратэст князёў, дваран і абываталяў каралеўства Польскага і вял. кн. Літоўскага «народу Росейского, религии старожитное грешное, под благословением патриарха константинопольского будучих». Пратэст падпісалі: Агінскі, Гурка, Укольскі, Ратамскі, Палецкі і шмат іншыя. (Гл. артыкул *А. Сапунова* «Полацка-Віцебская старына», т. I, Віцебск, 1911, стар. 23).

У такім-жа духу гучыць прамова Лаўрэнція Дрэвіжскага, якая заканчваецца намёкам на народнае паўстанне... «В противном случае (что да отвратит бог) если совершенное успокоение на сейме и уврачевание столь тяжких язв не последует, то принужденных себя увидим с пророком возопить: «суди ми, боже, и рассуди прю мою»... (Там-жа, стар. 24).

У свеце барацьбы за народнасць, культуру і мову, трэба зразумець дзейнасць такіх людзей, як кн. Астрожскія, Іван Фёдараў, С. Полацкі і шмат іншых.

Жыційная і апакрыфічная літаратура гэтага перыяду служыць паказальным прыкладам непарыўнасці літаратурнага развіцця і ў свеце тагочаснай барацьбы давала ўзоры і прыклады стойкасці ў барацьбе за сваю веру. Такім чынам яна набывала зусім іншы сэнс, улівалася ў агульнае рэчышча палемічнай літаратуры, набываючы грамадскі характар.

Што да твораў чараўніча-рыцарскіх, любоўных, тыпу воінскай аповесці, то іх значэнне ў тым, што яны паказваюць Беларусь з другога боку, яе сувязь з заходняй і ўсходняй культурай, успрыйманне гэтай культуры, яе перапрацоўку ў залежнасці ад сваіх патрэб.

Урэшце сатыра, драма і вершы ў XVI—XVIII ст. ст. лепш за ўсё завяршаюць гісторыка-літаратурны працэс, выяўляючы перад намі рознастайнасць, майстэрства, культурную вышыню беларускай літаратуры да XIX ст. Да якога матэрыяльнага зруйнавання і культурнага заняпаду не давялі гаспадарыўшыя ў Беларусі польска-літоўскія і апалячаныя паны і шляхта, яны не змаглі забіць народ, не змаглі знішчыць яго звычаі, мову, культуру, веру, карацей— знішчыць яго як нацыю, як народнасць. Не змаглі таму, што народ знішчыць нельга, яго можна заняволіць часова, але ён будзе змагацца за свабоду і незалежнасць. Народ знішчыць нельга, бо толькі народ,—па геніяльнаму сцверджанню правадыра народаў І. Сталіна,— бессмяротны.

Прыгнятальнікі зніклі, а беларускі народ творыць сваю соцыялістычную культуру, бо ён бессмяротны.

Пасля кароткага агляду грамадска-палітычнага развіцця і высвятлення агульнага характара літаратуры ў XVI—XVII—XVIII ст. ст. мы можам перайсці да агляду самой літаратуры, яе помнікаў. Пачнем, як было ўжо ўказана, з дзейнасці выдатнейшага беларускага патрыёта Фр. Скарыны. Паўтараю, што хранaлагічна яго неабходна аднесці ў папярэдні перыяд, бо яго дзейнасць заканчваецца ў палове XVI ст., але мы тут робім невялікае адступленне і ставім яго як тыповую і цікавую фігуру дзеля сувязі двух перыядаў.

## Доктар Францішак (Георгій) Лукіч Скарына (1490—1550)

Скарына нарадзіўся каля 1490 года ў Полацку, у сям'і рускіх мяшчан—купцоў. Вучыўся Скарына дома ў Полацку, затым ва універсітэце ў Кракаве, дзе ў 1506 г. атрымаў ступень бакалаўра на філасофскім факультэце. Не здаволіўшыся вучэннем у Кракаве, Скарына накіраваўся ў Італію, і тут атрымаў ступень доктара медычных навук, «в лекарских науках доктор...»

Усе свае веды Скарына прысвяціў народу. Па яго думцы, кнігі свяшчэннага пісання змяшчалі ў сабе ўсё, што неабходна адукаванаму чалавеку, таму Скарына і распачаў пераклад і выданне кніг свяшчэннага пісання. Месцам для сваёй работы Скарына абраў Прагу па многіх меркаваннях і, між іншым, таму, што там ужо была поўная друкаваная біблія на народнай чэшскай мове. Такую-ж задачу паставіў перад сабою і Скарына: «Біблія руска выложена доктором Франциском Скориною из славного града полоцька богу

ко чти и людем посполитым к доброму научению». Выдаючы кнігі на царкоўна-славянскай мове, Скарына робіць на палях тлумачэнні незразумелых слоў на простай, народнай мове, рэдагуючы ўвесь тэкст, перакладаючы нехапаючыя часткі біблії. «Также положил есми на боцех некоторые слова. Для людей простых, нерушаючы самое псалтыри ни в чем же... И иные слова, которые суть в псалтыри не разумный простым людем, найдуть е на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть». (Гл. *П. Владзіміраў* «Ф. Скарына», СПБ, 1888. Дадаткі: Прадмова да псалтыра, стар. 328).

Прарабіўшы падрыхтоўчую работу, Скарына ў 1517 годзе выдае Псалтыр, Мова, Прытчы і інш., у 1518 і 1519 г. працягваецца яго выдавецкая дзейнасць. Затым у 1525 годзе ён выдае Апостала і інш. кнігі ў Вільні. Пасля гэтага ўсякія звесткі аб ім знікаюць. (Гл. падрабязна ў *Владзімірава* «Ф. Скарына», СПБ, 1888, стар. 65—66).

Якую мэту паставіў перад сабою Скарына? Служыць па меры сваіх сіл свайму народу тымі ведамі, якія ён набыў у адукаваных краінах. У прадмовах ён падкрэслівае: «Кончается книга судеи... всехсотворителю богу в тройци единому... ко чти и всем небесным силам, святым и святицам божим ко славе и людем посполитым руского языка к доброму научению».

Скарына збіраецца даць у рукі рускім людзям такую кнігу, якая змяшчала-б у сабе ўсе веды, усю мудрасць указання да ратунку душы. Такая кніга ёсць,—гэта біблія, дзе ўсё проста і зразумела, «понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють но всякий человек простый и посполитый чтучи их или слухаючи можеть поразумети что есть потребно к душному спасению его...» «В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець, Бог вседержитель познаван бывает в сей книзе вси законы и права, ими же люди на земли справоватися имають пописаны суть. В сей книзе вси лекарства душевные и телесные зуполне знайдете... Ту научение седми наук вызволеных достаточное хощети ли умети граматику или по руски говорячи грамоту еже добре чести и мовити учить знайдеши в зуполной Библии псалтыру чти ее... Ащем же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех чти книги Судей, или книги Махавеев. Более и справедливее в них знайдеши нежели во александрии или во троии».

Каб дасягнуць сваёй мэты Скарына клапоціцца і аб мове і аб знадворным выглядзе кніжак. Не пераходзячы зусім на беларускую народную мову, ён усё-ж мае яе ў аснове сваёй мовы, даючы, як было сказана вышэй, тлумачэнні незразумелых слоў на палях.

Знадворны выгляд выданняў Скарыны таксама разлічаны на народ: шрыфт, фармат, літары-ініцыялы, застаўкі, гравюры; усе гэтыя ілюстрацыі «для того, абы братия моя Русь люди посполитые чтучи могли лепей разумети» (гл. *Владзіміраў*, стар. 77).

Гэтай-жа мэце служаць і прадмовы Скарыны да асобных кніжак і да груп іх. Ён лічыць неабходным указаць на змест кнігі і падкрэсліць яе значэнне ў маральных і рэлігійных адносінах. Такім чынам Скарына матывіруе сваё выданне асветнымі мэтамі.

«И видечи таковые пожитки в так малой книзе, ю францииск скоринин сын с Полоцька, в лекарских науках доктор повелел есми а псалтырю тиснути рускыми словами а словенскы языком напреж ко чти и к похвале бог в троици единому, и пречистой его матери Марии и всем небесным чинам и сты божьим, а потом к оужитку посполитого доброго, наболеи с тое причины иже мя млтивый бог с того языка на свет пустил...»

Так пісаў Скарына ў прадмове да Псалтыра. Усё сказанае прыводзіць нас да вывада, што Скарына быў вельмі адукаваным і перадавым чалавекам свайго часу, які шмат зрабіў для адукацыі свайго народа. Яго кнігі разыходзіліся не толькі ў Беларусі, але і па другіх краінах, маючы ўплыў і на далейшыя выданні, як устаноўленым тэкстам, так і знадворнай формай выдання. (Гл. *В. Уладзіміраў* «Ф. Скарына», стар. 201—218).

Выданне кніжак Скарыною ў перыяд барацьбы паміж праваслаўем і каталікамі мела вельмі вялікае значэнне для праваслаўя, не гледзячы на тое, што ў навуцы ёсць няпэўнасць адносна праваслаўнасці самога Скарыны. Аднак, гэта наўрад ці мае падставу, бо ўсім зместам, ходам сваёй дзейнасці Скарына даказвае сваё праваслаўе, хаця нідзе не гаворыць аб якіх-бы то ні было пабочных мэтах сваіх выданняў. (Гл. *П. Уладзіміраў* «Ф. Скарына», стар. 244 і інш.) Тут відаць жаданне прынесці карысць праваслаўным «своей братии—людям руского языка» (гл. *Уладзіміраў,* стар. 50).

## Васілій Нікалаевіч Цяпінскі (Олельяновіч) 1540—1604.

Земляком Ф. Скарыны з'яўляецца другі дзеяч XVI—XVII ст. ст. Васілій Нікалаевіч Цяпінскі. Нарадзіўся Цяпінскі ў маёнтку Цяпіна (20 клм. ад г. Лепеля) і хоць належаў да шляхетнага саслоўя і меў маёнткі, але быў небагаты. Звестак аб жыцці і дзейнасці Цяпінскага амаль не захавалася, так што толькі прыблізна можна ўстанавіць даты яго нараджэння і смерці. Цяпінскі пераклаў Евангелле на родную мову і напісаў да яго прадмову, якая і з'яўляецца галоўнейшай крыніцай нашых ведаў аб ім. Аб сабе ён кажа, што чалавек ён не вучоны, а бярэцца за гэтую справу таму, што ніхто з вучоных не хоча яе рабіць. Ён, як відаць, быў чалавек адукаваны і старанна клапаціўся аб адукацыі народа, аб славе радзімы, «абых был готов, если она (отчизна) доконца згинет, з нею згинуть, або если через вашь (паноў і духавенства, да каторых ён звяртаецца) ратунак будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть» (гл. «Кіеўская старына», 1889, студзень мес. Дадаткі: *П. Уладзіміраў* «Прадмова В. Цяпінскага да друкаванага Евангелля, выданага ў Заходняй Расіі, каля 1570 г.», стар. 5).

Спроба Цяпінскага цікава ў тых адносінах, што ён першы ўзяўся за пераклад новазаветных кніг, г. зн. Евангелля, але поспеху яго работа не мела. Справа ў тым, што, як тлумачаць некаторыя даследчыкі, Цяпінскі сам быў заражоны пратэстантызмам, а ў аснову свайго перакладу паклаў ерэтычны тэкст. Цікавай з'яўляецца «Предмова Василеи Тяпинским зацной монархии словенской, а злащи богобоиным ласка ипокои бога отца ина нашго иисуса христа». Тут

Цяпінскі «указвае на заняпад духавенства, на адсутнасць школ, навукі, пропаведзі, на адсутнасць у сучасным духавенстве і грамадзе ведаў у царкоўна-славянскай мове, нарэшце на горшае зло—пашырэнне польскай і іншых моў і пагарды як да царкоўна-славянскага, так і да рускага, свайму «прирожоному»... (гл. *П. Владзіміраў.* «Ф. Скарына», СПБ. 1888, стар. 30-31). Яна надрукавана П. Владзіміравам у «Кіеўскай старыне» за 1889 г. студзень месяц, дадаткі, стар. 1—9. («Прадмова Васілія Цяпінскага да друкаванага евангелля, выданага ў Заходняй Расіі, каля 1570 года», гл. таксама працу *П. Владзімірава* «Доктар Францішак Скарына, яго пераклады, друкаваныя выданні і мова». СПБ. 1888, стар. 203, 234, 235, 236, 237).

Да Скарыны і Цяпінскага прымыкаюць такія дзеячы, як Стэфан Зізаній, які надрукаваў у 1595 годзе «Казанье св. Кирилла об антихристе и знаках его с расширением науки против ересей разных», на беларускай і польскай мовах; затым Сільвестр Косаў, епіскап Мсціслаўскі, Аршанскі і Магілеўскі, які надрукаваў свой катэхізіс у Магілеве і шмат іншых.

Сярод культурных дзеячоў у Беларусі ў XVI ст. неабходна адзначыць старца Арцемія і яго вучня Ан. Курбскага. Арцемій быў спачатку паслядоўцам Ніла Сорскага (1433—1508), але потым зблізіўся з Максімам Грэкам (1480—1556). Барацьба яго з іосіфлянамі прымусіла бегчы на паўднёвы захад. Тут ён выступае як абаронца праваслаўя. Яго пасланне да Курбскага, дзе ён палемізіруе з каталікамі, пратэстантамі, жыдоўствуючымі, з'яўляецца помнікам літаратуры, які ўзнік у Беларусі. Арцемій карыстаўся вялікай папулярнасцю і ўплывам на навакольных, а ў асаблівасці на кн. Курбскага.

## Андрэй Курбскі (1528—1583)

Дзейнасць кн. Курбскага распадаецца на дзве часткі: да 1563 і пасля. Да 1563—ён паплечнік Івана IV, ваявода, камандуючы войскамі ў лівонскай вайне. Пасля ён удзельнічае ў паходах супроць Полацка ў 1564 і 1579 г. Астаючыся па-за межамі Расіі, Курбскі вядзе барацьбу за праваслаўе. Хаця творы Курбскага напісаны не на беларускай мове, але яны павінны быць згаданы, паскольку з'яўляюцца цудоўнымі помнікамі палемічнай літаратуры, помнікамі той барацьбы, у якой беларускі народ бараніў сваю незалежнасць. З яго твораў назавем пераклады «Нового Маргарита» Іоанна Златаўста і «Диалектики» Іоанна Дамаскіна. Першы быў зборам навучанняў на тэмы грамадскага характару і разам з «Диалектикой» служыў мэтам рэлігійнай барацьбы, абароне праваслаўя супроць каталіцтва. Цэнтрам гэтай барацьбы былі кн. Астрожскія.

## Князі Астрожскія

Князі Астрожскія паходзілі з Смаленскіх князёў, ад князя Расціслава. Род іх быў відным яшчэ ў старажытна-рускім перыядзе, і захаваўся да XVII ст. Будучы багатымі і моцнымі ў маёмасных адносінах, яны хутка зрабіліся цэнтрам праваслаўя ў Беларусі.

Астрожскі вёў непасрэдныя перагаворы з канстантынопальскім патрыярхам, маскоўскім урадам, маскоўскімі людзьмі. Астрожскія заснавалі школы ў Львове, Вільне, Брэсце, акадэмію ў Астрогу. Яны мелі друкарню, пачалі кнігадрукаванне, што з'яўлялася магутным сродкам барацьбы. Астрожскія шмат зрабілі для падтрымання старой літаратуры і літаратуры палемічнай.

Прыгожым помнікам гэтай дзейнасці Астрожскага з'яўляецца выданне ім у 80 гадах XVI ст. бібліі, якая і носіць назву Астрожскай. Значэнне гэтага помніка велізарна і пашыралася не толькі ў Беларусі, але і ў Велікаросіі, што сцвярджаецца хаця-б фактам перадрукавання Астрожскай бібліі ў Маскве ў 1663 г. і нават у 50-х гадах XVIII ст.

Работа над перакладам бібліі мае выключную цікавасць. Астрожскі сабраў старадаўнія тэксты (грэчаскія, лацінскія, славянскія), стварыў гурток вучоных, куды ўваходзілі рускія, паўднёвыя славяне, грэкі і, магчыма, іншыя асобы, крытычна зверыў тэкст, робячы гэта па ўсіх правілах сучаснай заходняй філалогіі і з асцярожнасцю выдаў біблію. Такім чынам ён даў добры тэкст свяшчэннага пісання, што ў момант рэлігійнай барацьбы мела выключнае значэнне.

Акрамя бібліі былі зроблены пераклады твораў Васілія Вялікага, Афанасія Александрыйскага, «Пчелы», апошняя ў асаблівасці стала да таго папулярнай, што ў XVII і XVIII ст. ст. яе апісваюць старообрадцы.

З дзейнасцю Астрожскіх звязана і дзейнасць яшчэ аднаго культурнага чалавека з Маскоўскай Русі, іменна Івана Фёдарава (памёр у 1583 г.).

Біяграфічныя звесткі аб Іване Фёдараве бедныя, але ёсць меркаванне, што ён—беларус. Ва ўсякім выпадку яго заслуга перад народамі СССР вялікая. Пацярпеўшы няўдачу ў Маскве, ён уцёк на Беларусь і тут, разам з Пятром Мсціслаўцам зноў узяўся за сваю справу. Аб сваім жыцці Іван Фёдараў расказвае так: «Сія же убо не туне начах поведать вам, но преземного ради озлобленія часто случающегося нам, не от самого государя, но от многих начальник, и священоначальник, и учитель, которые на нас, зависти ради, многіе ериси умышляли, хотячи благое в зло. превратити и божие дело в конець погубити; якож обычай есть злонравных, и ненаученых, и неискусных в разуме человек, ниже грамотическіе хитрости навыкше, ниже духовного разума исполнени бывше, но туне и всуе слово зло пронесоша. Такова бо есть зависть и ненависть, сама себе наветующи не разумеет како ходит, и о чем утверждается: сія убо нас от земля и отечества, и от рода нашего изгна, и в ины страны незнаемы пресели».

«Пресели» яны ў маёнтку Заблудава і ў 1568-69 годах аддрукавалі «Книгу, зовомую Евангелие учительное», а ў 1569—70 годзе Псалтыр з Часасловцам, над якім Фёдараў працаваў адзін, бо Мсціславец паехаў у Вільню. Пасля закрыцця па невядомых прычынах друкарні ў Заблудаве, Іван Фёдараў накіроўваецца ў Львоў, спадзяючыся арганізаваць там друкарню.

З вялікімі цяжкасцямі ён арганізоўвае друкарню і ў 1570—

74 г. друкуе Апостала, а разам з тым і іншыя кнігі. У 1580 г. ён па выкліку кн. Астрожскага друкуе ў Астрозе славутую Астрожскую біблію, на царкоўна-славянскай мове (а крыху раней—Псалтыр і Новы Завет). Гэта былі апошнія работы Івана Фёдарава. Выданнем Астрожскай бібліі, аб значэнні якой сказана вышэй, Іван Фёдараў зрабіў вялікую культурную справу, упісаў сваё імя не толькі ў гісторыю Маскоўскай дзяржавы XVI ст., але і ў гісторыю Беларусі.

Друкаванне кніжак было справай жыцця Івана Фёдарава і калі ў 1570 годзе яму прышлося вызначыць—быць друкаром ці займацца хлебаробствам, ён выбраў першае, хаця другое абяцала яму спакойнае, забяспечанае жыццё, а першае—працу, нястачы і пакуты.

«Неудобно ми бе ралом, ниже семен сеянием, время живота своего сокращати, но имам убо вместо рала художьство на ручных дел с суды, вместо же житных семен духовная семена по вселенней разсевати, и всем по чину раздавати духовную сію пищу.

Наипаче же убоячся истязанія владыки моего Христа, непрестанно вопіюща ко мне: лукавый рабе и лениве, почто не вда сребра моего торжником, и аз пришед взял бы и свое с лихвою? И когда убо на уединеній в себе прихождах, и множицею слезами моими постелю мою омочах вся сія размышляя в сердцы своем, дабы не с крыл в земли таланта от Бога дарованного ми, и тужащу ми духом сія глаголах: еда в веки отринет Господь, и непреложит благоволити паки, или до конца милость свою отсечет, но притчи смоковичного неплодствія, яко всуе землю упражняющу».

Выключная любоў да сваёй справы, адданасць ёй, далі магчымасць Івану Фёдараву, не гледзячы на ўсе перашкоды, зрабіць сваю выключна вялікую справу. Памёр ён у вялікай беднасці ў Львове, не маючы сродкаў нават на тое, каб выкупіць свае любімыя друкарскія прылады ў ліхвяра. Львоўскія грамадзяне выкупілі гэтыя друкарскія рэчы і кнігі Івана Фёдарава і заснавалі брацкую друкарню ў Львове.

Справа жыцця Івана Фёдарава належыць усім народам СССР, ёю увайшоў ён і ў гісторыю беларускай літаратуры і культуры.

Дзейнасць Скарыны, Цяпінскага, С. Зізанія, С. Косава, Арцемія, Курбскага, Астрожскіх, Ів. Фёдарава і шмат інш. насіла асаблівы характар і была ў аснове звязана з перакладам, хаця давала шырокую прастору для навуковай і асветніцкай ініцыятывы (прадмовы, паясненні, тлумачэнні, мова і г. д.). Яны сваімі перакладамі ўваскрашалі старую літаратурную традыцыю і пашыралі вядомую, але забытую літаратуру.

Цяпер мы пяройдзем да агляду царкоўна-рэлігійнай літаратуры па тых жанрах, якія ўжо досыць умацаваліся ў літаратуры і маюць вялікую традыцыю. Пачнем з найбольш палемічнага жанра, з навучанняў і пасланняў.

### Навучанні і пасланні

Сярод жанраў царкоўна-рэлігійнай літаратуры асабліва значэнне ў Беларусі набылі жанры навучанняў і пасланняў. Гэта тлумачыцца той акалічнасцю, што ў Беларусі, як ужо было ўказана

вышэй, царкоўна-рэлігійная барацьба з'яўлялася ў той-жа час барацьбой за нацыянальную самастойнасць і незалежнасць. Побач з перакладнымі помнікамі гэтага жанра, як напрыклад, Збор слоў і навучанняў Іоанна Златаўста і інш. айцоў царквы (XVI ст.), збор гутарак св. айцоў царквы (XVII ст.), навучанняў Ефрэма Сірына, мы маем многа твораў арыгінальных палемічнага характару, сярод якіх важнае месца займаюць навучанні і пасланні беларускіх дзеячоў.

Назавем сярод іх Леонція Карповіча, Мелеція Сматрыцкага, С. Кімбара, памянёных вышэй Ст. Зізанія, старца Арцемія, кн. Андрэя Курбскага і, урэшце, Сімеона Полацкага. Некаторыя з іх, як напрыклад С. Полацкі, Курбскі, Арцемій, з'яўляюцца дзеячамі, звязанымі ў той, або іншай меры і з Велікарусіяй і Беларуссю.

Спынімся коратка на гэтых літаратурных дзеячах.

Леонцій Карповіч (1581—1620) нарадзіўся ў сям'і свяшчэнніка ў Пінскім павеце. Вучыўся ў Астрожскай школе на Валыні, потым быў пісарам, друкаром і карэктарам у брацтве. У 10 годах XVII ст. ён іерадыякан Кіева-Пячэрскай Лаўры, а ў 1609 займае пасаду архімандрыта Свята-Духава манастыра ў Вільні. Памёр тут у 1620 годзе.

Леонцію Карповічу належыць рад слоў і навучанняў, выкліканых не толькі неабходнасцю маральнага навучання, але задачамі барацьбы супроць каталікаў і уніятаў. За сваю барацьбу Карповіч быў заключан у турму, над ім усяляк здзекваліся: «гды ему през целый два роки срогим а юкрутным темничным вязенем мордованому, на кождый день для правды бедне оумирати приходило», «Был насмеван для веры православной, лжеп, безчещен, шарпан от суду до суду з турмы до турмы, презцелый два роки як злочинца який поволокан».

З яго слоў адзначым: 1) «На преображение Господа бога и Спаса нашего Иисуса Христа», 2) «На успение пречистой и преблатословенной владычицы нашей богородицы и пресвятой девы Марии» і трэцюю работу «Леонтия, иеродиакона Печерского монастыря Киевского, сказание вкратце о ерисях тридесяти и четырех». Яму-ж належыць прадмова да кнігі «Вертоград душевный». У першым творы спачатку гаворка ідзе аб ператварэнні гасподнім, а потым аўтар пераходзіць да паказу ператварэння душы хрысціяніна. Гаворка ідзе аб траякім ператварэнні душы праз веру, надзею, любоў. Тлумачачы аб ператварэнні душы хрысціяніна Карповіч падкрэслівае адрозненне праваслаўя ад каталіцызма і уніяцтва. «Верит, а не испытует непостижимого. Верит, а не измеряет неизмеренного. Верит, иж превечный сын и превечный дух, оба суть от превечного и единосущного Отца; Сын превечным рождением, а Дух превечным исхождением. А яким способом, доведоватися и шперати в том не кажет. Верит иж тотже единородный Сын, от превечного Отца, предвеки рожденный без матери напоследок, родился подлеты, от святое богородицы и присно девицы Марии. А яким способом, не испытует. Ведает иж в особе хлеба правдивое его тело, а в особе вина правдивая его кровь, верным дается. А яким способом, небадается...»

З мастацкага пункту гледжання гэтае слова Л. Карповіча мае вялікую цікавасць. Гэта твор палемічнага характару, накіраваны супроць уніятаў, католікаў, пратэстантаў. «А я и тых слов слушне доложити могу—схизматицы отступили (г. зн. прыняўшыя унію), пастыри зволчилися (епіскапы абярнуліся ў ваўкоў), звезды прелестные от мысленного церкви твоее, неба спали, злость ся умножила, несправедливость гороу вылетела, дорога правды окрылася... лже хитрости и лжепророци многіе повстали»... Так характарызуе А. Карповіч адступнікаў ад праваслаўя. А гэта ўстаноўка абумоўлівае і форму гутаркі, адсюль пытанні, рытарычныя фігуры, усклікі, разгаворная гутарка, што надае асаблівую сілу і пераканаўчасць «Казанью» Л. Карповіча.

Другое «Казанье» Леонція Карповіча прысвечана, як гэта відаць з загалоўка, праслаўленню багародзіцы. Пачынаецца яно, як было прынята ў тагочасных кніжнікаў, падкрэсліваннем сваёй нікчэмнасці ў параўнанні з прадметам, аб якім ідзе гаворка «Ач колвек, вем то добре, иж не толко мой тупый розум, мелкій довтин, слабая сила и не оуместная вымова, подолати тому, жадною мерою, не может; али и вси наимудрейшій филофи, и наимовнейшие красомовцы и ветія если бысе о то (силам своим оуфаючи) покусити хотели, яко рыбы безгласны застати бы мусили; если бо вем неподобна человеку мнозство звезд зличити, высоту небесную вмерити и глубину морскую изследити: далеко неподобнейшая, мнозство похвал, высокость славы, и глубокость невычерпаемых даров пречистое и преблагословенное владычицы нашая богородицы присно девы Маріи словы зличити, мыслью огорнути, и разумом доститнути».

Пасля такой самахарактарыстыкі і адносін да багародзіцы, ідзе праслаўленне багародзіцы па меры сіл. Багародзіца называецца градам божым, пабудаваным самім богам і параўноўваецца з Сіонскай царквою і з каўчэгам завета.

Леонцій Карповіч быў чалавек вучоны для свайго часу, знаёмы з літаратурай Усхода і Захада, добра ўладаў дарам красамоўства, за што сучаснікі параўноўвалі яго з Златаўстам. Ён добра ведаў грэчаскую і лацінскую мовы і стаяў на ўзроўні сучасных ведаў. Адным словам «муж богодухновенный, в языку греческом знамените беглый, оборонца благочестия» (З. Капысценскі ў прывітанні Пятру Магілу).

Побач з Л. Карповічам паставім Меленція Сматрыцкага (Мелеті Смотриского). Ён напісаў слова на пахаванне Л. Карповіча «Казанье На честны погреб пречестного и превелебного мужа Господина и отца: Господина отца Леонтия Карповича. Архимандрита Виленско: През Мелетия Смотриского отправованое: в Вилни».

Аўтар у сваім казанні выражае сапраўдную тугу з поваду смерці такога выдатнага чалавека, якім быў Леонцій Карповіч. Ён называе яго бацькам і святым мужам «а сего теперешнего нашего жалю и плача причина й матерія преставленіе от нас пречесного мужа, оучителя нашего, Господина и отца», чалавекам чэснага і дабрачыннага жыцця, сваім дарагім настаўнікам.

Аб Мелеціі Сматрыцкім мы маем вельмі невялікія звесткі. Вядома, што ў першую палову сваёй дзейнасці ён энергічна палемізіраваў з каталікамі, уніятамі і абараняў правы праваслаўных у Беларусі, а ў другой палове сваёй дзейнасці ён ужо—уніят. (Гл. *М. Сперанскі* «Гісторыя старажытнай рускай літаратуры». Маскоўскі перыяд М. 1921 г. стар. 235—6).

Мелеціем Сматрыцкім у першы перыяд яго дзейнасці напісан твор пад назвай «Фринос» («Плач» 1610 г.). Мы ўжо ўпаміналі, што ён аплаквае пагібель у каталіцтве лепшых беларускіх родаў. Яны, па думцы аўтара, загінулі для радзімы, для народа.

«Дзе цяпер той каштоўны камень, які я насіла разам з другімі брыльянтамі на маёй галаве ў вянцы, як сонца сярод зорак,— дзе цяпер дом князёў Астрожскіх, які перавышаў усіх яркім блескам сваёй старажытнай (праваслаўнай) веры. Дзе і другія, таксама каштоўныя камні майго вянца, слаўныя роды рускіх князёў, мае сапфіры і алмазы: князі Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішневецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Рожынскія, Саламарэцкія, Галоўчыцкія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія і іншыя, без ліку. Дзе разам з імі і другія роды, даўніх, славутых, моцныя роды слаўнай па ўсяму свету сілаю і магутнасцю народа рускага: Хадкевічы, Глебавічы, Сапегі, Дарастайскія, Валовічы, Зеновічы; Пацы, Тышкевічы, Корсакі; Храбтовічы, Забароўскія, Мелешкі, Пацеі і іншыя. Вы, злыя людзі (сваёй здрадай) агалілі мяне ад гэтай дарагой маёй рызы і цяпер насміхаецеся над немачным маім целам, з каторага, аднак, вы ўсе вышлі. Пракляты будзеце вы ўсе, што насміхаюцца над маёй нагатою, радуюцца ёй. Настане час, што вы будзеце сароміцца сваіх дзеянняў...» (Цытырую па артыкулу *А. Сапунова* «Полацка-Віцебская старына», т. І, Віцебск, 1911, стар. 22).

Па моцы паэтычнага выражэння гэта—выдатны твор, па форме ён ёсць плач, прычытанне, вельмі распаўсюджаны ў народным асяроддзі. Нажаль мы не знайшлі прамых параляляў у Раманава, у яго пяці беларускіх зборніках (гл. *Е. Раманаў*. «Беларускі зборнік» т. І, вып. 1 і 2; «Песні, прыказкі, загадкі», Кіеў 1885 г.; Том 1, вып. 3; «Казкі» Віцебск 1887 г., вып. 4; «Казкі касмаганічныя і культурныя», Віцебск 1891 г., вып. 5; «Замовы, апакрыфы і духоўныя вершы». Віцебск 1891 г. Некаторай параллелю служаць духоўныя вершы,—плач аб канчыне света і страшным судзе, надрукаваныя ў 5 выпуску пад № 45, 46, 47, 48, 49, 51 і некаторыя іншыя. «Плачамся мы, узрыдаемся. На сваю смерць усе спомышляемся...» ці «Ой плачам, плачам узрыдаем. На безсмертный час спомышляем»).

Моц гэтага твора ў тым, што ён адлюстроўвае смутак з прычыны страт радзімай веры і моцных яе носьбітаў, страсць яго ў гнеўным папроку за здраду, у праклёне і ў прадраканні таго, што вечная ганьба падзе на галовы здраднікаў. Гэта не толькі плач, але і палемічны твор, у ім не толькі туга і скаргі, але і гнеў і нянавісць. Беларускія паны і шляхта, якія здрадзілі народу і перайшлі ў стан яго ворагаў, маглі чуць у гэтым творы праклёны ў сучасным і прадраканне вечнай ганьбы ў будучым. М. Сматрыцкім напісаны і

другія творы, з якіх неабходна адзначыць: «Верификации или оправдание невинности и опровержение мнений, унижающих русский народ». (1620 г.) «Грамматика» (Вильня, 1618 г.) і інш.

У заключэнне возьмем для характарыстыкі чыста царкоўнага навучання яшчэ адзін твор: «Поучение Киевского митрополита Сильвестра новопоставленному иерею».

Тут пакорны Сільвестр, архіепіскап мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсея Расіі, дае навучанне свяшчэнніку. «Должен убо еси показати добронравие святительского подобия, любовь, кротость, целомудрие, пощение, трезвение, удержение всех сластей, не буди кощунник, ни игрець, ни срамословник, ни буй, ни город, ни напрасен, ни бесстуден, ни пияница, ни складов ни пиров творяй, но инем возбраняй, ни резоимец, ни накладов ни емли; да не будети мятежник, ни туровник, ни поручаясь по ком; но бий верна согрешающе, ни неверна обидяща, а своиме рукаме никогоже не удари» і г. д.

Далей гаворыцца, якую насіць вопратку, як трымаць сябе на піру, як адносіцца да жабракоў, да дзяцей, як трымаць сябе пры выкананні сваіх абавязкаў свяшчэнніка, як даглядаць царкву, адносіцца да міранаў. У заключэнне гаворыцца, што калі ён гэта будзе выконваць, блажэнны будзе, аб чым пераканаецца на страшным судзе. (Гл. «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі», СПБ, 1848, т. III, стар. 116—18, № 31: 1562, 15/III).

Палемічная літаратура ў XVI-XVII ст. ст., навучанні і пасланні маюць агульны характар для украінскай і беларускай літаратуры, бо барацьба вялася супроць Польшчы, пад уладарствам якой яны былі. Такія дзеячы, як Хрыстафор Філалет, аўтар твора «Перестерога зело потребная православным христианам», Мелецій Сматрыцкі, Захарый Капысценскі («Полинодия», каля 1620), Стефан Зizаній, Іоанн Вішанскі і шмат іншых з'яўляюцца асобамі, дзейнасць якіх адносіцца да паўднёвай і заходняй Расіі, г. зн. да Украіны і Беларусі. (Гл. між іншым «Праэкт першага тома курса гісторыі Украінскай літаратуры». «Радянске литературознавство», Кіеў 1938 г. № 2-3, стар. 193).

Пераходзім да літаратуры агіяграфічнай.

### Агіяграфічная літаратура ў XVI—XVIII ст. ст.

У аснове жыційнай літаратуры на беларускай мове ляжаць старажытна-рускія помнікі. Сюды трэба аднесці Пралог 1512, Мінеі чэцьі XVI ст. Ёсць і цэлыя зборнікі жыцій, напр. зборнік жыцій XVI ст., «Віленскі зборнік» XVII ст. і інш. У Чэцье 1489 г. і ў іншых рукапісных зборніках ёсць жыціе Барыса і Глеба, якое з'яўляецца бясспрэчна спіскам з старажытна-рускага арыгінала. Надзвычай цікава праламленне гэтага сказання ў народным беларускім асяроддзі. Тут мы знаходзім некалькі варыянтаў з своеасаблівым паказам характара Барыса, Глеба і Святаполка, пры чым апошні імянуецца таксама Святы-Полкан (гл. *Е. Раманаў*. «Беларускі зборнік», вып. 5, Віцебск, 1891, стар. 337, 338, 339, 340).

Да жыційнай літаратуры трэба аднесці пераклад «Гісторыі аб Варлааме і Іоасафе» (вядомай у старарускай літаратуры), зроблены

ў 1637 годзе Магілеўскім архімандрытам Варлаамам Палоўкам («Гисторія альбо правдивое выписаніе святого Иоанна Дамаскіна о жытіи святых преподобных Варлаама Иоасафа и о неверии индиян...»)

Сутнасць гэтага жыція зводзіцца да апісання жыцця індзійскага царэвіча, які кінуў багацце і нікчэмнасць мірскую і пайшоў у пустыню. Індзійскі цар Авенір праследваў у сваім царстве хрысціян, але яму прадраклі, што яго ўласны сын будзе хрысціянінам. Жадаючы выратаваць сына ад шкоднага ўплыву хрысціян, Авенір пасяліў царэвіча ў палацы, забараніў доступ да яго пабочным асобам. Царэвіч быў акружан зямнымі радасцямі, не ведаючы ні гора, ні хваробы, ні пакут, не чуючы аб смерці. Але калі ён убачыў хворага старога, перад ім пачаў адчыняцца новы свет; праз хрысціяніна Варлаама ён знаёміцца з вучэннем Хрыста, сам робіцца хрысціянінам, адмаўляючыся ад усіх раскошаў жыцця.

Жыціе об Варлааме і Іоасафе мела на ўвазе даць узоры праведнага жыцця, згоднага з хрысціянскім вучэннем і адпаведнага яго ідэалу. Разам з тым гэта быў і палемічны твор, накіраваны супроць Скаргі, які «выдавши польским языком жития святых», напісаў, што «ў Дамаскіна ёсць указанне на выхаджэнне Св. Духа і ад сына» (гл. *Е. Карскі,* «Беларусы», т. III, стар. 47). Тут асноўная думка зводзіцца да перахода язычніка ў хрысціянства. Ф. І. Буслаеў пісаў: «Гэта навучальная гісторыя аб паступовым і поўным пераходзе юнай душы язычніка ў хрысціянства і аб перамозе гэтай рэлігіі ў панаваўшай у той час суровай форме аскетызму не толькі над язычаствам, але і над усімі спакусамі і прыгожасцямі свету гэтага,—гісторыя аб урачыстасці жыцця нябеснага і вечнага над часовым і тленным.»

Па сваіх жанравых асаблівасцях жыційная беларуская літаратура XVI—XVIII ст. амаль нічым не адрозніваецца ад літаратуры на абодвух папярэдніх этапах.

Цікава адзначыць беларускую перапрацоўку ў народным асяроддзі. Гэта «Алісахвій царэвіч» (Иоасаф), або верш «Пра старца Орлавана і Лісахвія».

У Раманава прыводзяцца тры варыянты (пад № 30, 31, 32, стар. 371, 372, 373, 374, 375, 376, 377). Высока паэтычна гучыць тут размова царэвіча Іоасафа з пустыней у тыповых для вуснай паэзіі паўторах:

Расплачатца младый юнуш
Алисахвий царевич,
Ён у пущи стоячи
На пустыльню гледзячи:
„Любимая мати пустыльня,
Привукрасная дива Марея!
Прими мянс молодого
К себе заблудшэго сына,
Як матярь свайго чада,
И на белыя руки!"
Отвящая мать пустыльня
И апраскрасная Марея:
„Младый, младый юнуш,
Алисахвий царевич!
Ти ня жаль табе будя
Своих крашиных хоромов?

Ти ня жаль табе будя
Свойго тветного платьтя?
Ти ня жаль табе будя
Свайго белага хлеба?
Ти ня жаль табе будя
Своих сладких напитков?
Ти ня жаль табе будя
Своих друзей, побратимов?
Ти ня жаль табе будя
Своих разных утехов?..

Царэвіч адказвае, што ён усё гэта пакідае, а пустыня кажа, што ў яе нічога няма.

Тольки ў мяне, у пустыльни,
Усё зялёна дуброва;
Тольки ў мяне, у пустыльни,
Усё шовкова трава;
Тольки ў мяне, у пустыльни,
Усё гнилая колода;
Тольки у мяне, у пустыльни,
Усё балотная вода;
Тольки ў мяне, у пустыльни,
Усё дикия звяры;
Тольки ў мяне, у пустыльни,
Усё мелкія птаси!..“

Іншыя варыянты таксама прыгожа малююць гэтую размову Іоасафа з пустыняй.

Ва ўмовах барацьбы за праваслаўе, калі яму здрадзілі дзеля матэрыяльных і прававых выгод, гэты верш і жыцие гучалі як заклік да стойкасці і барацьбы за сваю веру, нягледзячы ні на якія мястачы і нягоды.

## Літаратура апакрыфічная

З помнікаў апакрыфічнай літаратуры возьмем найбольш пашыраны і ў той-жа час блізкі да разгледжанай намі апакрыфічнай літаратуры апакрыф, ці сказанне «О двенадцати муках». Перад намі твор, які бясспрэчна з'яўляецца адбіткам ужо вядомага нам апакрыфа «Хождение богородицы по мукам». Тут таксама расказваецца аб тым, што багародзіца захацела паглядзець пакуты роду хрысціянскага і таксама ўбачыла пакуты, што і ў перакладным старарускім апакрыфе. Але ёсць тут і іншыя віны і пакуты: 1 мука—кто двор со двором и сусед с суседом и друг со другом случает—те на огненном древе мучатся. В третьей муке—судии неправедны и кровопивцы. В четвертой муке посреде огня по колена стоят, которые девицы со отроками блуд творили; и мужья с чужими женами, а жены с чужими мужьями,—и те стоят по пояс во огне; что отцы, которые учили своих детей матерно ругаться. В шестой муке—христиане, которые пошли во иную веру. В девятой муке—Приведе ее (богородицу) архангел и к змеем лютым—лицо человеческое, гласы львовые, крылья орловые, а сердце ссут... И рече архангел Михаил: о горе царям и царицам, князьям и княгиням, боярам и бояриням, что суд свой не по правде судили, слуг мучили, не кланялись в храме божием иконам, а кто говорит и смеется, а мир его слушает...

У дзесятай «муке» памінаюцца чарадзеі і разлучнікі: «кто от отца и матери детей разлучает или мужа с женою, и кто людей портили...» Аб дванаццатай «муке» кажа Міхаіл: «О горе татьем, разбойникам и душегубцам, ябедникам, клеветникам, скоморохам, или кто их дарит, или кто их страмные слова принимает...» (Гл. *Е. Раманаў*. «Беларускі зборнік», вып. V, стар. 261—264, па рукапісах XVIII ст. Магіл. і Віц. губ.).

Сюды неабходна аднесці апакрыф «Сон багародзіцы». Тут расказваецца, як багародзіца заснула ў Віфлееме і ўбачыла жудасны сон аб будучых пакутах яе сына. Калі да яе прышоў Хрыстос, і яна праснулася, дык расказала яму свой жудасны сон. Хрыстос ёй адказаў: «Мати моя, возлюбленная пресвятая богородица! Воистинну сон твой праведен есть про меня Иисуса Христа, сына божия, всегда, ныне Аминь».

Такім чынам багародзіца ведала загадзя пра пакуты свайго сына. Далей да апакрыфа ёсць прыпіска, у якой гаворыцца аб тых, хто будзе ўладаром гэтага рукапісу. Той, хто чытае, слухае, ці ўладае рукапісам апакрыфа будзе абаронены ад шмат якіх няшчасцяў. «Аще который человек в доме своем лист сей при себе держать буде, прочитает или станет слушать, то к тому дому не прикоснется ни огонь, ни жупел, ни тать, ни разбойники... Тому же человеку в водах будет тихое плавание... в торгах прибыток, в судах и приказах защищение... Аще который человек сей сон при смерти воспомянет или прочитает, тот человек, аще бы имел грехов, яко в море песку, в воде рыб, или яко на небе звезд... вся ему отпускаются и царствие небесное готовится... Аще которая жена беременна будет и сей лист при себе держать будет,—легко родит».

Е. Ф. Карскі заўважае, што хаця мова гэтага твора і не беларуская, але яму прыходзілася мець гэты твор і на беларускай мове. У рускай літаратуры вельмі блізкім з'яўляецца «Сон богородицы», надрукаваны ў Кушалева-Безбародка ў «Помніках старажытняй рускай літаратуры» (III. 125—128).

Е. Раманаў надрукаваў у V зборніку «Сон богородицы» па рукапісу XVIII ст. два варыянты; трэці па сучаснаму спіску з г. Суража, Віцебс. губ., чацверты па рукапісу 1827 года з в. Дуброўкі; пяты па рукапісу XVIII ст. з г. Суража Віц. губ., урэшце 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12—вусныя варыянты з розных месц.

„Ох, мацъ моя, матушка Марея.
Дзе ты сею ночку нучувала?“
— Нучувала сею ночку ў городочку,
У прувуславненьком же Русаліме.
Нямноженько я а ўвоснула.
Дзивлюсяынький жа мне сон соснився...
(*Е. Раманаў* „Бел. зборн.“ вып. V, стар. 247
„О сне богор.“ стар. 235—255).

З іншых твораў апакрыфічнай літаратуры неабходна ўпамянуць «О месяцах и числах» па рукапісу 1848 г., «Кому подобает молиться в бедах» па рукапісу XVIII ст., «Лист Иисуса Христа» па рукапісу XVIII ст., «Святое письмо» па рукапису 1827 г., «Свиток ерусалимского знамения» па рукапісах XIX ст., «О двенадцати пятницах»— па рукапісу XVIII ст. і па вусных перадачах; «Беседа трех святите-

лей—па рукапісу XVIII ст., «Слово о древе крестном», «Страдания и подвиги святого апостола евангелиста Матфея», «Страдания святого апостола Филиппа» і шмат іншых. Апакрыфічнай трэба лічыць і аповесць аб Сівіле прарочыцы.

Да апакрыфічнай літаратуры прымыкаюць і тыя творы, якія маюць чараўны, лячэбны, астранамічны, астралагічны і т. п. характар. Назавем тут «Загадки царя Давида» (варажба Давіда) «Тайна тайных, Аристотелевы врата», якая з'яўляецца па зместу лячэбнай кнігай у злучэнні з Домастроем, а па форме—кнігай, падзеленай на восем частак, якія ў сваю чаргу распадаюцца на некалькі «врат». Далей можна назваць «Шестокрыл»—кнігу, якая распадаецца на шэсць крылляў і па зместу мае астранамічны характар, паколькі яна гаворыць аб сонцы, месяцы, зацменнях і г. д. Як «Аристотелевы врата», так і «Шестокрыл» перакладзены ў Беларусі з яўрэйскай мовы.

Цяжэй адзначыць, з якой мовы перакладзена кніга «Лопаточник», якая вучыла, як варажыць па авеччай лапатцы. Тут рэкамендуецца ўзяць аўцу і, задумаўшы і трымаючы ў памяці задуманае, спячы на вуголлях плячо аўцы, адняць мяса і глядзець на лапатку, назіраючы па колеру ачышчанай косткі, па даўжыні, размяшчэнню мэтаў і г. д. Варажыць можна было аб жыцці, смерці, хваробах, ратных перамогах, аб прыгожых жонах, аб любімай, аб шлюбе, аб будучым жыцці і г. д.

Да кніжак разглядаемага зместа неабходна аднесці розныя астралагічныя артыкулы—«Логику» и «Луцидарий». Пераклады іх на беларускую мову зроблены ў XV—XVII ст. ст.

Як мы бачым, гэты від літаратуры даволі багаты. Ва ўмовах ганення на праваслаўныя цэрквы і веру, на кананічнае пісанне, апакрыфы адыгралі вялікую ролю, часта замяняючы кананічнае вучэнне, здавальняючы пачуцце рэлігійнае і пачуцце паэтычнае.

## Паломнічаская літаратура

У зборніку XVI ст. ёсць «Хождение Даниила игумена в святый град Іерусалим». «Хождение»—па тэксту з'яўляецца спіскам поўнай рэдакцыі са старарускіх хаджэнняў ігумена Даніла. У Беларусі яно магло быць вядома даволі рана. Існавала ў Беларусі і арыгінальная літаратура паломнічаскага характара, на што ўказвае ранняе развіццё хрысціянства, самастойнасць царквы, якая мела сувязь непасрэдна з канстантынопальскім патрыярхам і іншыя факты з гісторыі беларускай літаратуры.

## Летапісы

Як ужо было ўказана вышэй, да другой паловы XVI ст. адносіцца складанне поўнага звода заходне-рускіх летапісаў. Гэты звод адрозніваецца ад кароткага мовою, асобнымі апавяданнямі, якія ўзяты або з паданняў (аб Гедыміне, аб заснаванні Вільні) альбо з старажытных легендаў, альбо з рускіх летапісаў і т. п. Мы лічым неабходным упамянуць аб летапісах, не спыняючыся на іх падра-

бязна, бо тут яшчэ большая работа па дыферэнцыяцыі летапісаў і дакладнаму высвятленню беларускіх і літоўскіх. Першыя не маглі стаяць у баку ад агульнага гістарычнага развіцця і характара літаратуры.

На падставе шматлікіх літапісных спіскаў агульна-рускіх і беларускіх у XVII ст. з'яўляюцца кампілятыўныя зборнікі па гісторыі Украіны, Велікаросії, Беларусі. Такія: «Кройника» (з летописцов стародавных з святого Нестора Печерскаго и инших также з кроник полских (о Руси) отколь Русь почалася и о первых князех руских, и о поних далших наступаючих князех и о их делах! Собранна: року от створеня света ЗРУ а от Рэжства христова АХПА».

Тут-жа хронікі па гісторыі Польшчы і Літвы. Акрамя таго ў зборнік уключаны розныя жыція і ветхазаветныя гісторыі. (Феадосія Пячэрскага, Нікалая Чудатворца і інш.)

Як літаратурны помнік, летапіс і на дадзеным этапе з'яўляўся творам шматжанравым, але ў чыстых літаратурных адносінах ён ужо страціў тое значэнне, якое займаў раней, бо літаратура развілася, а разам з тым аформіліся і яе жанры ў самастойныя творы.

## Творы тыпу воінскай аповесці

У старой беларускай літаратуры сустракаем помнікі тыпу воінскай аповесці. Яны перакладнага характару хаця, відавочна, былі і арыгінальныя.

Перш за ўсё варта назваць тыя, якія сустракаем і на рускай мове. Гэта «Александрия», «Сказание о Трое», а затым «Задонщина».

Крыніцамі «Александрии» ў Беларусі паслужылі розныя спіскі, прычым для няпоўнай «Александрии» XV—XVI ст. ст. вельмі цяжка назваць такую крыніцу (*Е. Ф. Карскі*, «Беларусы» III, стар. 70, 71).

Рэдактар поўнай «Александрии» меў, мабыць, шмат спіскаў, якімі і карыстаўся па сваіх меркаваннях.

Змест поўнай «Александрии» такі-ж як і ў рускіх перакладах. Ён змяшчае ў сабе наступныя моманты:

1. Егіпецкі цар Анектонеб пры дапамозе валхавання даведваецца, што яго войскі будуць разбіты наступаючымі ворагамі—персамі. Ён уцякае з Егіпта ў Македонію.

2. Тут ён, карыстаючыся адсутнасцю македонскага цара Філіпа, спачатку знаёміцца, як умелы варажбіт, а потым уступае ў сувязь з царыцай Алімпіядай, з'яўляючыся да яе ў выглядзе бога Амона. Ад гэтай сувязі ў Алімпіяды нараджаецца сын Александр.

3. Далей апавядаецца аб выхаванні і першых подвігах Александра да смерці Філіпа і вацарэння Александра.

4. Апавяданне аб паходах Александра на Егіпет, Сірыю, Палестыну, Персію і яго подвігах. Тут гаворыцца аб барацьбе з персідскім царом Дарыем, аб пакаранні яго забойцаў, аб вялікадушных паводзінах Александра, аб жаніцьбе яго з дачкою Дарыя Раксанай.

5. Затым апавядаецца аб паходзе Александра ў Індыю і аб барацьбе яго з царом Порам. Тут Александр сустракае шмат цу-

доўнага: незвычайныя людзі—волаты і пігмеі, з сабачымі галовамі, з вачамі і ротам на грудзях; незвычайныя жывёлы, незлічоныя багацці, незвычайная навакольная сапраўднасць—гаворачыя дрэвы, медзяныя замкі і г. д. Гэта нагадвае нам апавяданне аб Індыі багатай.

6. Александр падарожнічае ў краіну брахманаў і да амазонак.

7. Зварот Александра ў Вавілон і яго смерць ад атруты.

Беларуская «Александрия» як і іншыя спіскі, увабрала ў сябе многа элементаў з розных вусных і пісьмовых апавяданняў, паданняў, казак. Дзякуючы ім вобраз Александра выступае ў новым, дадатковым асвятленні. Храбрасць, мужнасць, бясстрашнасць,—вось якасці, якімі характарызуецца Александр у старажытных аповесцях; пабожнасць, пакора падкрэсліваецца ў пазнейшых хрысціянскіх; рыцарства, вялікадушнасць, благародства, храбрасць, мужнасць—характарызуюць Александра ў беларускай аповесці.

Другім творам з'яўляецца «Сказание о Трое». Акад. Орлоў піша: «Урэшце напэўна, у другой палове XV ст. на Захадзе Расіі была перакладзена з лацінскае мовы гісторыя траянская італьянца Гвідона дэ Колумна 1287 г., якая трапіла пазней таксама ў рускі хранограф, замяніўшы там траянскую прытчу сваім скарачэннем...» Поўны пераклад гісторыі Гвідо, зроблены ў XV ст. на поўначы, ці паўднёва-захадзе Расіі сустракаецца рэдка. Старэйшы яго спісак зьмешчан у багата ілюстраваным хранаграфічным рукапісу XVI ст., належачым Дзяржаўнаму Гістарычнаму Музею ў Маскве.

Скарачэнне Траянскай гісторыі Гвідо выцясніла з рускага старога хранографа траянскую прытчу і сустракаецца вельмі часта ў пазнейшых яго выглядах мабыць не раней паловы XVII ст. (гл. Ак. *А. С. Орлоў*. Перакладныя аповесці феадальнай Русі і Маскоўскай дзяржавы XII—XVII ст. ст.» Л-М. 1934 г. стар. 34, 44, 45).

Да «Александрии» прымыкаюць беларускія аповесці чараўніча-рыцарскага і любоўнага характара. Назавем тут беларускія аповесці аб Трыстане, Бове і Аціле, вядомыя па Пазнанскаму рукапісу канца XVI ст. і аб Тундале.

Аповесці перакладзеныя, ці перасказаныя з сербскай мовы. Аповесць аб Аціле мае ў сваёй аснове гістарычны факт, ускладнёны мноствам усякіх выдуманых дзеянняў «История о Атыли короли угорском» расказвае спачатку аб гунах і уграх, атоесамляючы іх, потым аб першых бойках і аб выбранні каралём Аціллы. Далей даволі падрабязна ўзнаўляецца знешні і ўнутраны вобраз Аціллы, яго ўзбраенне, сцягі, шацёр, яго бойкі і заваёвы і заканчваецца апавяданнем аб смерці Аціллы.

## Чараўніча-рыцарскія і любоўныя аповесці

Аповесць аб Трыстане і Ізольдзе вядома і ў рускай літаратуры і на Захадзе. Гэта—легенда аб чуллівым каханні Трыстана і Ізольды. Рыцар кахае сваю прыгожую донну, заўсёды застаецца ёй верным і ў імя яе ўчыняе «чудные дела и доброе витезство и чудные речи».

Беларускі текст, як мяркуюць вучоныя, быў перакладзен з сербскай мовы, хаця сербскі арыгінал не адшукан і сам напэўна меў крыніцу з Італіі.

Шырока распаўсюджана была аповесць аб Бове. «История о княжати Кгвидоне». Што да гісторыі гэтай аповесці, то ак. Орлоў піша: «Славянскія аповесці аб Бове стаяць у бліжэйшай сувязі не з эпізодам Reale, а з франка-італьянскай народнай паэмай аб Bovo. Гэта паэма была перакладзена па-сербску, пэўна на Далмацінскім узбярэжжы, а сербскі пераклад адбіўся, з аднаго боку, у беларускай аповесці аб Бове, з другога—у аповесці рускай, якая дайшла да нас у двух выглядах, перайшоўшых потым у лубачную літаратуру. Беларускі пераклад недайшоўшага да нас сербскага Бовы захаваўся ў адным рукапісу канца XVI ст., які ўяўляе сабою зборнік выключна перакладных аповесцей.

У гэтым зборніку аповесць аб Бове звязана з аповесцю аб Трыстане і Ланцэлоце, прычым даследванне той і другой рыцарскай аповесці прыводзіць да заключэння аб тоесамасці іх паходжання (італьянскае) і перакладa (сербскі); апошняе ўжо вынікае з самага загалоўка, агульнага ў абодвух гэтых творах: «Починается повесть о витезях с книг сербских, а звлаща о славным рыцеры Трысчане и Анцалоте и о Бове и о иных многих витезех добрых.»

Беларуская аповесць аб Бове мае ў разглядваемым зборніку і асобны загаловак, надпісаны непасрэдна над яе тэкстам... Беларуская «История», вядомая ў адзіным спіску XVI ст., не мела ніякага ўплыву на тэксты аб Бове, папулярныя ў Расіі, якія цалкам самастойны, ці непасрэдна ад таго-ж сербскага перакладу, які пераліцаваны па беларуску ў памянёным рукапісу». (Ак. *А. С. Орлоў.* «Перакл. аповесці феад. Русі і маск. дзярж. XII—XVIII ст. ст.» Л. М. 1934 г., стар. 147—148).

Пачатак беларускай аповесці вельмі цікавы: «Яко письмо говорит: Добрый мужу, бог ти будь на помоч и вховай тя от смерти и от злое прыгоди! Хочу вам поведати добрую повесть о Кгвидоне Аніонском княжати и о его сыне, о великом и славном рыцэру Бове».

Асноўныя рысы аповесці рускай і беларускай падобны:

1. Гвідон жэніцца з Мілітрысай Бландоя. «Тот Кгвидон храбрый конник был, але одну реч зло вчынил иж в час жоны не понял, але коли вже стар был, тогды понял жону з великого племени, и она не мелани за один пенез.»

2. Мілітрыса, хочучы загубіць нялюбага мужа, праз слугу Рычарда запрашае Дадона, насустрач якому яна падманам высылае Гвідона і першы забівае другога.

3. Маленькі Бова бяжыць з дзядзькам Сімбалдой, але яго ловяць, вяртаюць назад і маці хоча атруціць яго. Бова бяжыць з цямніцы на бераг мора.

4. На беразе мора яго забіраюць маракі, адвозяць у Арменію і прадаюць каралю Арменілу. Тут ён служыць конюхам, але ў яго закахалася дачка караля Дружнена.

5. Да горада падступае кароль Маркобрун і патрабуе Дружнену. На спаборніцтве ў войсках Маркобруна Бова перамагае.

6. З-за мора з'яўляюцца сарацыны на чале з Луконерам, які патрабуе выдачы Дружнены. Адбываецца бойка. Арменіл і Маркобрун узяты ў палон. Тады выступае Бова, перамагае Луконера і вызваляе палонных. За гэта Арменіл мае намер аддаць Дружнену за Бову.

7. Падманам Бову адсылаюць да султана Задонія, бацькі Луканера, каб загубіць Бову. Бова ўнікае смерці, дзякуючы дачцы Задонія Малгырыі. Адсюль Бова ўцякае і пападае ў царства Маркобруна.

8. Адбываецца сустрэча Бовы з Дружненай, яны ўцякаюць, а ў пагоню за імі паслан Пулкан. Адбываецца бойка паміж Пулканам і Бовай, а затым па просьбе Дружнены яны міруцца.

9. Бова пакідае Пулкана сцерагчы жонку і двух нарадзіўшыхся дзяцей, а сам выпраўляецца на новыя подвігі. У гэты час напалі ільвы, адзін з якіх быў забіт Пулканам, а ў барацьбе з другім загінуў і сам.

Бова думаў, што Дружнена і дзеці загінулі і накіраваўся ў сваё царства.

10. Бова заваёўвае родны горад, карае маці і яе каханага Дадона і збіраецца ажаніцца з Малгырыяй. Але на шлюб Бовы прыбывае з сынамі Дружнена, Малгырыя выходзіць замуж за другога, а Бова застаецца з Дружненай і з сваімі дзецьмі.

Аповесць аб Бове як і папярэднія, належыць да разрада рыцарскіх, ці лепей кажучы, чараўніча-рыцарскіх аповесцей.

Характэрнай асаблівасцю іх з'яўляецца наяўнасць рыцарскіх, ваенных і ў той-жа час чараўнічых, цудоўных подвігаў. Аснову аповесці складае каханне, яно ў цэнтры, яно—асноўная рухаючая сіла. Трэба адзначыць, што хаця героі і робяць незвычайныя, чараўнічыя подвігі, але дзейнічаюць яны не ў выніку сілы, якая ідзе знадворку, а ў выніку ўнутраных сваіх пабуджэнняў. Каб паказаць сілу гэтага кахання аўтар ставіць шмат перашкод на шляху героя, але справа амаль заўсёды канчаецца добра.

Чытача вабяць тут у высокай ступені інтрыгуючы сюжэт, незвычайныя прыгоды і перашкоды, іх перамогі і ўрэшце дасягненне шчасця. Мара аб шчаслівым жыцці, здавальненне пачуцця, урачыстасць дабрадзейнасці і праўды заўсёды ўзнікаюць пасля чытання падобных раманаў.

Іншы характар мае кніга аб Тундале, якая надпісана так: «Починается книга о таоудале рыцери». Як мяркуюць даследчыкі, яна ўзнікла ў Ірландыі, абышла заходнія літаратуры і ў XV—XVI ст. ст. была перакладзена і ў Беларусі.

Аўтар адзначае спачатку час і месца дзеяння, затым характар рыцара і потым ужо апавядае аб тым, як пасля балявання з любімымі таварышамі рыцар знепрытомнеў і быў у такім становішчы ад серады да суботы. За гэты час душа Тундала вандравала і шмат чаго бачыла: грэшнікаў і іх жудасныя пакуты, розныя пачвары, змеі і г. д., але ў той-жа час—раскошны дом, дзе быў прастол, і на ім сядзеў кароль, бачыла святых пакутнікаў і іх славу.

## Сатыра, драма і вершаванне ў XVI—XVIII ст. ст.

Цікавай фігурай, звязваючай Украіну, Беларусь і Велікаросію з'яўляецца Сімеон Полацкі. Па паходжанню Сімеон Емельянавіч Петроўскі-Сітніопавіч—беларус. Нарадзіўся ў 1629 г., атрымаў добрую адукацыю, якую давяршыў у Кіеве. У 1656 г. Сімеон прыняў манашаства ў Полацку і зрабіўся настаўнікам у брацкім вучылішчы. Адсюль яго прозвішча—Полацкі. У 1656 годзе ў час наведвання царом Аляксеем Міхайлавічам Полацка, Сімеон паднёс яму прывітальныя «Метры» і такім чынам стаў вядомы цару. Пасля заняцця ў 1661 г. Полацка палякамі, Сімеон ў 1663 г. ці ў 64 годзе пакінуў горад і перабраўся ў Маскву, дзе хутка стаў вядомы цару і зрабіўся прыдворным паэтам. «Такім чынам, упершыню з'явіўся ў сценах царскага палаца прыдворны вершатворац і самая навіна гэтай цікавай і прыемнай з'явы не магла не выклікаць настрой у яго карысць...» (*Майкаў*. «Нарысы з гісторыі рускай літаратуры XVII—XVIII ст. ст.» С. П. Б. 1889 г.) С. Полацкі пісаў творы ў самых розных жанрах. У яго мы знойдзем сатыру (супроць манахаў, купцоў, непрыстойных дзяўчат), хвалебную оду (прывітанні цару), драматычныя творы («Камедыя аб блудным сыне», «Камедыя аб Навуходаносары цары»), шматлікія вершы («Вертоград шматкаляровы», «Рыфмалогіон») палемічныя («Жези правления»), навучанні і розныя словы («Абед душэўны», «Вячэра душэўная»), чыста багаслоўскія («Вянец веры каталічаскія») і інш.

Такім чынам—перад намі пісьменнік па паходжанню беларус, па характару адукаванасці выхаванец паўднёва-ўсходняй культуры, па мейсцу дзейнасці належыць Беларусі і Маскве. Як пісьменнік з асаблівым характарам Сімеон Полацкі склаўся яшчэ да прыезда ў Маскву і перанёс туды вопыт паўднёвай і заходняй Русі; яго трэба разглядаць, як прадстаўніка іншай адукаванасці, чым тая, якая ў гэты час панавала ў Маскве (гл. *А. Н. Пыпін*. Гісторыя рускай літаратуры», т. II. С. П. Б. 1911 г. стар. 235—348). «Як па знешняму лёсу заходня-рускі народ аддзяліўся ад усходняга рускага, так і заходня-руская адукацыя накіравалася іншым шляхам... Заходняя Русь да вядомай ступені страціла тое кніжнае паданне, якое больш захавалася ў Расіі маскоўскай, але з другога боку заходня-рускія пісьменнікі пачыналі працы, аб якіх і не думалі ў Маскве і да якіх маскоўскія кніжнікі былі проста няздольны. Такія былі працы па граматыцы славянскай мовы (Львоўская 1591 года, складзеная «спудеями» львоўскай школы і віленская Лаўрэнція Зізанія, і пазней граматыка Мелеція Смятрыцкага 1619 г., перадрукаваная потым у Маскве 1648 г.), слоўнікі (Лаўрэнція, Зізанія і пазней Паўмы Берынды), першы дослед катэхізіса (Л. Зізанія і другі, які насіў імя Пятра Магілы), творы гістарычныя, царкоўныя навучанні, урэшце абшырная літаратура палемічная, якая стаяла на ўзроўні той літаратуры, што была накіравана супроць праваслаўя з боку іезуітаў...» (*А. Н. Пыпін*. Там-жа, стар. 318). Брацтвы, шматлікія школы, вялікая колькасць друкарняў, багатая перакладная і арыгі-

нальная літаратура ў Беларусі і Украіне малююць нам гэтыя краіны не толькі не ўступаючымі, але нават пераўвышаючымі ў некаторых адносінах Маскоўскую Русь.

Тут зараджаецца драма, вершавая паэзія, сатырычныя творы і іншыя віды літаратуры і ўсё гэта свецкага характара. Тут на літаратуру і адукацыю глядзяць не як на сродак сапраўднага разумення веры, але і як на неабходнасць для звычаяў грамады, дзяржавы. Літаратура—сродак барацьбы за нацыю, мову, звычаі, культуру.

Прывядзем некаторыя ўзоры літаратурных помнікаў указанага тыпу. Прыгожым творам сатырычнага характара з'яўляецца «Речь Ивана Мелешка», твор, напісаны задоўга да выступлення С. Полацкага і які з'яўляецца як бы прататыпам для яго сатырычных доследаў.

## Іван Мелешка (1589)

Да ліку надзвычай цікавых беларускіх помнікаў XVI ст. адносіцца «Прамова Івана Мелешкі кашцеляна Смаленскага; сказаная на Варшаўскім сойме ў прысутнасці караля Сігізмунда III, супроць уплыву немцаў і палякаў на звычаі і прыёмы жыцця ў Русі і Літве, над якім апякунствавалі польскія каралі». (Гл. «Акты, якія адносіліся да гісторыі паўднёвай і заходняй Расіі, сабраныя і выданыя археографічнай камісіяй» т. II, 1599—1637, С. П. Б.—1865, § 158, стр. 188—190).

Хто быў аўтарам гэтага твора—сказаць цяжка; што ўяўляе сабою гэта прамова, як літаратурны твор і якія прычыны выклікалі яе да жыцця, лёгка адзначыць на падставе аналіза тэкста. Раней за ўсё трэба згадзіцца з І. Ф. Сумцовым, які даследваў гэты помнік у артыкуле «Прамова Івана Мелешкі, як літаратурны помнік». (Гл. часопіс «Кіеўская старына» 1894 г., т. XV, стар. 195—213), дзе ён, разгледзеўшы пытанне аб тым, ці з'яўляецца прамова гістарычным дакументам—прыйшоў да адмоўнага вываду.

«Прамова Мелешкі—падложны гістарычны дакумент, прысланы смаленскаму кашцеляну Івану Мелешку, прозвішча якога апраўдвала да некаторай ступені фрывольны сатырычны характар помніка.

Як гістарычны дакумант, прамова Мелешкі поўна недарэчнасцей, але гэтыя недарэчнасці трацяць усякае значэнне, калі на прамову глядзець, як на помнік літаратурны.

Мелешка не мог лаяць на Варшаўскім сойме Сігізмунда Аўгуста ў прысутнасці караля хаця і не сваяка першага; галоўнае—не мог быць дэпутатам ад двух далёкіх адзін ад другога гарадоў; затым ён не мог свабодна лаяць палякаў у сабранні, якое складалася ў пераважаючай большасці з ганарлівых, самалюбных польскіх вельможаў, не мог звяртацца да рускіх паноў, дзе такіх было нямнога, і да іх жонак, якіх на сойме зусім не было, не мог, урэшце, не парушаючы сваёй дэпутацкай годнасці, надзяваць камедыянцкую маску. Другая справа, калі помнік узнікнуў, як мы думаем, далёка ад караля і Варшавы, у Беларусі, мабыць, у Смаленскай ці Мазырскай об-

ласці, аб якіх упамінаецца ў прамове. Аўтар мог тады захаваць поўную свабоду і даць сваёй сатыры не сучасную яму грамаду якое яму было пажадана накіраванне і ён трапна абраў шлях народнага юмара з штучным самазневажаннем, з тэндэнцыйна-пераўвялічаным проціпастаўленнем старыны непрыемнай яму навізне». *(Н. Ф. Сумцоў*, там-жа; стар. 211).

Такім чынам перад намі не гістарычны дакумент, а чыста літаратурны твор. Не сапраўдная прамова на польскім сойме 1589 г. а пародыя на прамову, сатыра на грамадскія парадкі, якія панавалі ў Польшчы і Літве, якія пашыраліся на рускіх землях, у Беларусі і Украіне. Аўтар яе схаваў сваё імя за імем смаленскага кашцеляна Івана Мелешкі. Напісан гэты твор, мабыць, хутка пасля сойма 1589 года ў Беларусі.

Асноўнай ідэяй прамовы Мелешкі з'яўляецца ідэя барацьбы супроць польска-літоўскага і нямецкага засілля, якое пранікала ва ўсе поры жыцця, атручвала ўсё існаванне і натуральна выклікала ў беларусаў адпор і пратэст. Мы бачылі, якія формы набывала барацьба ў царкоўна-рэлігійнай літаратуры XVI—XVII ст. Прыгожым помнікам свецкай літаратуры ў гэтых адносінах з'яўляецца і прамова Мелешкі. Гэта палітычная і грамадская сатыра, палітычны памфлет, які мае паралелі і ў рускай і украінскай літаратурах. Асноўным вобразам прамовы з'яўляецца вобраз самога аўтара. Яго лёгка ўявіць сабе. Перад намі гарачы патрыёт, якому балюча за знявагу радзімы, яе звычаяў, яе веры...

Ён выступае, як дэпутат Смаленска і Мазыра, гарадоў далёка-адстаячых адзін ад другога, падкрэсліваючы тым самым тую аграмадную тэрыторыю, якая ім бярэцца і за якую ён гаворыць. Ён адукаваны і культурны чалавек, добра знаёмы з існуючымі дзяржаўнымі парадкамі і вельмі лоўка скарыстоўвае свае веды. Магчыма, што аўтар сапраўды быў на сойме і скарыстаў свае ўражанні і пастановы сойма, як матэрыял для літаратурнага твора. Ён прыкідваецца наіўным і нічога не разумеючым чалавекам, але гэта «самоуничижение паче гордости».

«Найяснейший милостивый король и на меня ласковые паны братья! Выехавши з дому, богу ся помолил, чтобы к вам здоров приехал да вашу милость здоровых оглядал и привитал. Пришло мене з вами радыты, а я на гетаких з'ездах николи не бывал и з королем его милостию николи не заседал, только за покойников князев наших, которые королевали, что воеводами бывали, сентенций гетаких не бывало, попросту правым сердцем говорили; политики не знали, а правдою в рот, яко солию в глаза, кидывали».

Наш аўтар так рэзка кідае ў вочы праўдаю, што яна рэжа як соль вочы пануючых слаёў. Ён нападае на ляхаў за іх хітрасць, разбэшчанасць, нагласць і нахабства. Мелешка асуджае польскага караля Сігізмунда Аўгуста, не лічачы яго за чалавека, «короля того нечего в люды лычить». Нападае на раскошу, на распусту, на самавольныя, нахабныя паводзіны намеснікаў палякаў і немцаў.

«А когда идет немец или жена его выступает, каблуками скрипит, шелестит и дорогими духами воняет. Когда же к тебе приедет па-

ничик, потчивай его щедро, да и жену свою возле него посади, а он сидит важно, как бес, махает шапкой, жене шепчет и «в ладонь скребет». Если-б такого чорта кулаком в морду да в зашей, да так, чтобы король не слыхал. Тогда своей противной морды не поднимал.» На старой мове гэта гучыць так: «А коли сам немчина иде, или женка его поступае, то через скурку скрыпить, шелестить и дорогим пижмом воняеть. Коли-ж до тебе паничык приеде, частуй же iего достатком ды и жонку свою подле iего посады, а он сыдыть как бес надувшися, махаеть шапкою или копелюшем и з жонкою нашептывает, да и в ладонь скребет! Да коли-ж бы я гетого чорта кулаком в морду, или по лицам, по хрыпте да кобы король iего милость не слыхал! Нехай бы морды такой поганой не подымат...»

Каб падкрэсліць наколькі было вялікае засілле палякаў, як далёка зайшла іх нахабнасць і здзекі над рускімі, аўтар кажа, што нават слуга з палякаў і той адчувае сябе панам над сваім гаспадаром. «И то, милостивые панове, не мала шкода, слуги ховаем ляхи: давай же iему сукню хвалендышовую, корми-ж iего тлусто; а з них службы не пытай,—и только убравшися на высоких подковах до девок дыбле и ходыть, а з велiкого кубка трубить: ты пане за стол, а слуга собе за стол; ты борщик, а слуга за пукатую штуку мяса; ты за фляшку, а он за другую, а коли слабо держишь, то он и ту з рук вырвет! Только пильнуеть: скоро з дому ты, то он мовчком прилыскается до жонки. И такого чортополоха з немцами выгнаты, што до нас влезли против праву нашему.»

Аўтар нападае на розныя павіннасці, якія неабходна было несці рускім, церпячы ўсялякія матэрыяльныя і маральныя крыўды. Нападае ён на распешчанасць у быту, на шкоду, якую прыносіць імкненне да раскошных страў, да вопраткі, бо апошняя вядзе да франтаўства і ўзмацняе распусту ў грамадзе. «Не к делу еще то, что наши дамы ходят в богатых платьях; ране на них не бросали больших денег, а (теперь) платье в подоле прихватывается и движется, а слуги молодчики, как соколы на ножки поглядывают, чтобы ущипнуть сладкого мяса. Я советовал бы нашим женам возвратиться к старым закрытым казакинам со снурками сзади, да носить широкие немецкие штаны; тогда они не скрывали бы так скоро свои любовные связи; а теперь хоть с дубиной стой на стороже и смотри во все глаза, такого чорта не устережешь».

На старой мове гэта гучыць так: «И то не доречы: в богатых сукнях нашые пане ходят, не знали перад тым португале или фортугале, а подолок рухастая, а около подолка чепляется; а дворянин в ножку, как сокол, загледает, штоб где щипнути солодкого мяса. Я тоже радил бы, нехай бы белоножки нашые в запинаные давные убералися казакинки, шнурованные назад насили роспорки, а к тому штобы з немецка зажывали плюндрыки, не так бы скоро любительну скрадывали бредню. А теперь хотя з рогатыною на варте стой, в живые очи такого беса не упильнуешь».

Ёсць і яшчэ рад момантаў, якія закрануты ў прамове Мелешкі. Такім чынам, ідэя барацьбы супроць польскага і нямецкага засілля добра раскрываецца малюнкамі і зарысоўкамі розных момантаў раскошы, франтаўства, распешчанасці, нахабнасці, самаўпраўнасці, раз-

бэшчаных паводзін палякаў і немцаў, распусты і г. д. Побач з гэтым выступае цвёрдасць і ўпэўненасць у тым, што ўсё гэта можна ўціхамірыць простым сродкам «в морду», «рогатыною», выгнаннем з сваёй краіны.

З боку мовы прамова Мелешкі вельмі цікава. Гэта яркая, маляўнічая, народная мова, якая багата выразамі народнай мудрасці, як напрыклад: «по просту правым сердцем говорили», ці «правдою в рот, як солью в глаза кидывали», «щипнуць солодкого мяса» (адносна жанчын), «на высоких подковах до девок дыбле», «з великого кубка трубить» (п'ет вино); «лях, как жеребец, ржет коло девок, как дрыгант коло кобыл», «медок и горилочку дзюбали», «хотя наша костка, однак собачьим мясом обросла» і шмат іншых. Апошні выраз асабліва рэзка быў накіраван супроць саветнікаў караля з сваіх-жа людзей, якія здрадзілі народу і сталі ў лагер яго ворагаў. Прамова Мелешкі яркая і жыццёвая, яна адбівае ў тыповых формах народныя адносіны, паняцці, уяўленні.

Такім чынам, перад намі палітычны памфлет, грамадская палітычная сатыра, узнікшая ў шырокіх слаях прыгнечанага беларускага насельніцтва, якое стагнала пад прыгнётам польска-літоўскіх, нямецкіх і сваіх паноў, што апалячыліся і акаталічыліся. Сатыра гэта выражае рэзкі пратэст і заклік да барацьбы супроць прыгнятальнікаў. Праўда, заклік завуаліраваны літаратурнай формай, але ён гучыць сам сабою ў паказе здзекаў і нахабнасці паноў і ў рэкамендацыі сродкаў расправы з імі.

Грамадскае і літаратурнае значэнне гэтага помніка ў свеце той барацьбы, якая праходзіла ў XVI, XVII ст. ст. у Беларусі, вельмі вялікае, тым больш, што гэты помнік без усякіх рэлігійных уплываў.

Час з'яўлення і развіцця драмы і тэатра ў Беларусі вызначыць вельмі цяжка. Аднак можна меркаваць, што і тэатр і драма развіліся тут раней, чым у Маскоўскай Русі. Развіццё школ у Беларусі, ды яшчэ накіраваных супроць іезуітаў, не магло не пацягнуць развіцця школьнага тэатра. Школьны тэатр меў наступныя мэты: 1. Педагагічныя—прадстаўленні для лепшага засваення выкладаемых прадметаў; 2. Забаўныя—прадстаўленні, каб мэтазгодней запоўніць вольны час вучняў; 3. Рэлігійна-прапагандысцкія—прадстаўленні, якія маюць на ўвазе рэлігійную прапаганду.

Калі ўзяць пад увагу гістарычныя ўмовы Беларусі, то стане зразумелай роля такога сродка, якім мог быць школьны тэатр і яго рэпертуар, яго драматычныя творы.

Тут перад намі вялікая задача па вывучэнню гісторыі тэатра і драмы ў старажытным перыядзе. У народзе існавалі свае формы драматычнага дзейства, вывучэнне якіх дапаможа ўразумець развіццё тэатра і драмы ў Беларусі. Е. Раманаў заявіў, што ён не сустрэў у Магілеўскай губэрні тэатра, але дзве вертепных драмы захаваліся. Гэта «Царь Максимильян» и «Ирод».

Трэба меркаваць, што і тэатр і драма былі падпарадкаваны асноўнаму характару літаратурнага развіцця ў гэты перыяд—барацьбе за народнасць.

Вельмі рана ўзнікае ў Беларусі і вершаваная паэзія. Вытокі яе трэба шукаць у вуснай народнай паэзіі: у ўпартай працы беларускіх

кніжнікаў над сваімі словамі, навучаннямі, пасланнямі, дзе, дзякуючы стылю прамовы, заўсёды адчуваецца рытмізацыя, а ў рыторыцы часам і рыфма; урэшце ў уплывах, якія ішлі з захада і ўсхода і былі ўспрыняты кніжнікамі, перапрацаваўшымі гэтыя традыцыі.

Элементы верша сустракаюцца яшчэ ў літаратуры Кіеўскай Русі, затым у XIII, XIV, XV, палове XVI ст. ст. мы ўбачым іх у словах і навучаннях. Так у кнігах Ф. Скарына ўжо часта ўжывае вершы:

Веруй в бога единаго
А не бери надармо имени его
Помни дни светые святити.
Отца и матку чтити
Не забивай ни едина
И не делаи греха блудна.
Не вкради что дружнего.
А не даваи сведецтва лжива.
Не пожедаи жены ближнего
Ни имени или речи его.

Так 10 запаведзей выкладзены ў вершах у кнізе «Исход» у Скарыны. Наогул вершы ў XVI—XVII ст. ст. былі вельмі пашыраны ў Беларусі. Іх можна сустрэць у прысвечаннях кніжак рэлігійнага і юрыдычнага характару. Вядома, тут не было амаль ніякай паэзіі, але спробы гэтыя цікавы, як выражэнне пэўнага імкнення грамады. Былі, відаць, і свае паэты з беларусоў. З літоўцаў можна назваць А. Рымшу, які ведаў беларускую мову, але беларускім пісьменнікам не з'яўляецца.

Гэтым мы заканчваем наш кароткі агляд старажытнай беларускай літаратуры ў XVI—XVIII ст. ст. Падвядзем некаторыя вынікі.

## Вынікі літаратурнага развіцця ў XVI—XVII—XVIII ст. ст.

Падводзячы вынікі нашаму кароткаму агляду літаратуры за XVI, XVII, XVIII ст. ст., можам падкрэсліць асноўныя моманты ў характары і развіцці. Па свайму аб'ёму беларуская літаратура гэтага перыяда вельмі абшырная. Яна ўключае не толькі ананімныя творы, але і рад аўтараў, вядомых не толькі ў Беларусі, але і на Украіне, у Расіі і на Захадзе.

Па ахопу пытанняў і па яе адносінах да жыцця яна нікольки не ўступае літаратурам іншых народаў. Яна бярэ такія пытанні, якія нават не ставіліся ў Маскве.

Па свайму характару яна насычана самымі актуальнымі пытаннямі сучаснасці, пытаннямі барацьбы за нацыянальнасць, за родную мову, звычаі, культуру. З боку формы яна распрацоўвае ўсе віды жанраў і формаў. Пэўны заняпад назіраецца ў XVIII ст., што з'яўляецца вынікам драпежніцкай нястрымнай эксплаатацыі і панавання польскіх паноў і шляхты.

Па свайму грамадскаму становішчу і значэнню беларуская літаратура XVI—XVIII ст. ст. мае выключны інтарэс. Яна з'яўляецца важнейшым сродкам народа ў яго барацьбе за самастойнасць і незалежнасць. Літаратура вяла барацьбу за родную беларускую мову, за звычаі, культуру.

Яе вызваленчая роля вельмі вялікая. Сіла яе супраціўлення была

прама прапарцыянальна дзікаму нястрымнаму напору каталізацыі і паланізацыі. Ва ўмовах рэнегатства і здрады вышэйшых слаёў і перахода іх у лагер злейшых ворагаў, ва ўмовах дзікага імкнення паланізаваць насельніцтва, беларускі народ высоўваў літаратуру, як верны сродак барацьбы, як сродак захавання сваёй мовы, веры, культуры, захавання сябе, як нацыі.

Адсюль народны характар літаратуры, яе вызваленчае значэнне, яе моц, яе роля, яе гістарычнае значэнне ў гісторыі беларускага народа.

### Заключэнне

У заключэнне падкрэслім яшчэ раз некаторыя асноўныя моманты гісторыі беларускай літаратуры.

1. Гісторыя беларускай літаратуры складае частку гісторыі беларускага народа і адбівае ў сваім развіцці галоўнейшыя этапы жыцця і барацьбы народа за сваю самастойнасць, цэласнасць, незалежнасць, за сваю культуру, звычаі, мову. Але гісторыя беларускага народа цесна звязана з гісторыяй народаў рускага і украінскага, адсюль цяснейшая сувязь гэтых літаратур. Яны ўзніклі на адной аснове культуры Кіеўскай дзяржавы, і працягвалі літаратурныя традыцыі ў сваім далейшым развіцці. Яны прайшлі доўгія годы паасобнага існавання і зліліся ў адзіную савецкую сям'ю народаў, у якіх літаратуры маюць адзіны соцыялістычны змест у нацыянальных формах. У развіцці, росце, росквіце літаратуры бачым урачыстасць ідэй соцыялізма і комунізма, якія ажыццяўляюцца пад кіраўніцтвам ВКП(б) і правадыра народаў таварыша Сталіна.

2. У перыяд Кіеўскай дзяржавы сучасная Беларусь не выдзялялася і была арганічнай часткай адзінай дзяржавы. Тут мы назіраем адзінства мовы, культуры, літаратуры. Невялікія племянныя адрозненні ў мове не граюць рашаючай ролі, таму ў XI, XII, XIII ст. ст. мы можам сцвярджаць наяўнасць адзінства славян, складаючых насельніцтва Кіеўскай дзяржавы і выдзеліўшых з сябе пазней велікаросаў, беларусоў і украінцаў.

3. У XIII—XIV ст. Беларусь і Украіна ў сілу гістарычных умоў набываюць іншы шлях развіцця, што сказваецца на ўсім характары культуры. Развіваецца беларуская мова, звычаі, літаратура. Яна развіваецца на падставе культуры Кіеўскай Русі, працягвае яе традыцыі ў новых гістарычных умовах. Цяжкія ўмовы жыцця беларускага народа надаюць асобы характар беларускай літаратуры, яна становіцца сродкам барацьбы за вызваленне свайго народа.

4. Тэндэнцыя развіцця і характар беларускай літаратуры ў наступным перыядзе пасля Люблінскай уніі 1569 і Брэсцкай уніі 1596 г. пашыраюцца і паглыбляюцца. Яна робіцца сродкам барацьбы за самастойнасць і незалежнасць, за нацыянальнае вызваленне, за веру, звычаі, мову. У свеце гэтай барацьбы ўсе жанры беларускай літаратуры набываюць асобы сэнс і асаблівую функцыю. Выразна азначаецца цяга да роднага рускага народа, які скінуў з сябе татара-мангольскае ярмо і стаў на шлях барацьбы за рускія землі. Разам з тым перапрацоўваецца літаратурная традыцыя, якая

